**УДК [947+957]**
**ББК 63.3(2)6**
**Г91**

**Грыцкевіч Валянцін**
Гісторыя і міфы – Мн., БелФранс, 2000 – 205 с.

ISBN 985-6425-13-1.

Аўтар спрабуе паказаць пэўную залежнасць зменаў гістарычнай навукі і адукацыі ад панавальнай ідэалогіі, акрэсліць спосабы навуковага гістарычнага мыслення, пазнаёміць з асноўнымі метадамі ацэнкі гістарычных фактаў на канкрэтных прыкладах, галоўным чынам з гісторыі Савецкага Саюза. Усё гэта мае на мэце дапамагчы жыццёвай арыентацыі чалавека.

Для студэнтаў, журналістаў, настаўнікаў, выкладчыкаў сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установаў.

**УДК [947+957]**
**ББК 63.3(2)6**

ISBN 985-6425-13-1.

## АД АЎТАРА

Гэтая кніга — лагічная частка адзінай даследніцкай працы. Яе першая частка («Здані адыходзяць паволі») падрыхтавана да выдання, трэцяя («Засмечаная гуманістыка») таксама чакае друкарскага варштату. Кніга, якую паважаны чытач бярэ ў рукі («Гісторыя і міфы»), гэта сярэдні злучальны звяз.

На пачатку гэтай кнігі ў раздзеле «Перасцярога» аўтар паставіў задачу глыбіннага асэнсавання прычынаў скажэнняў гісторыі Беларусі. Астатнія часткі («Гісторыя ў зменлівым свеце» і «Міфы і гісторыя») развіваюць пэўныя асветленыя ў папярэдняй кнізе канкрэтныя гістарычныя тэмы на тэарэтычна-метадычным роўні.

У прапанаванай чытачу кнізе аўтар паспрабаваў высветліць пэўную залежнасць зменаў у гістарычнай навуцы і адукацыі ад таталітарнай ідэалогіі (у першым раздзеле), акрэсліць спосабы навуковага гістарычнага мыслення (у другім раздзеле), а потым (у трэцім раздзеле) даць чытачу магчымасць развіваць уменне навуковай ерархізацыі, высвятлення сутнасці гістарычных фактаў, пазнаёміць яго з асноўнымі працэдурамі ацэнкі гістарычных фактаў на канкрэтных прыкладах, пераважна з гісторыі Беларусі, з прычынамі паходжання і бытавання гістарычных міфаў, легендаў, стэрэатыпаў.

Усё гэта мае мэтаю дапамагчы арыентацыі сучасніка, які паддаецца трываламу інфармацыйнаму і дэзінфармацыйнаму ціску з боку бліжэйшага асяроддзя і сродкаў масавай інфармацыі, засыпаецца рознага роду праўдамі, паўпраўдамі, а нярэдка звычайным фальшам. Каб свядома і з поспехам удзельнічаць у грамадскім жыцці, трэба не толькі валодаць грунтоўнымі і шырокімі ведамі, але і гнутка распараджацца гэтым інтэлектуальным інструментарам і адпаведнымі ўменнямі. Прыклады такіх уменняў даюцца ў трэцім раздзеле кнігі.

Калі аўтару ў пэўнай ступені ўдалося гэта выканаць, то можна лічыць, што ягоныя мэты дасягнутыя.

Яшчэ адно. Мала кнігу напісаць. Нашым часам рукапіс можа доўга ляжаць, калі ня будзе дапамогі. Разумею, што ніякія словы не перададуць майго пачуцця ўдзячнасці, якое б я хацеў выказаць свайму даўняму сябру, вядомаму змагару за адраджэнне беларушчыны Зьміцеру Санько. Без ягонай падтрымкі, без ягонага ўдзелу ў справе выдання кнігі, яна не ўбачыла б свету, а без ягонага рэдагавання не была б такой, якой атрымалася.

*С.-Пецярбург, люты-красавік 1995 г.*

Разуменне сэнсу жыцця, вызваленне ад догмаў і схемаў надта марудна прабівае сабе шлях у краінах былога сацыялізму. Усе рухі ідуць па інерцыі. Цяпер у рэспубліках былога Савецкага Саюза нічога радыкальна не мяняецца. Бальшыня зменаў мае фармальны характар. Наша грамадскасць яўна не падрыхтаваная яшчэ да свабоды, якую атрымала.

Сёння варта задумацца пра спадчыну таталітарызму, пра тое, што ён унёс у нашыя веды пра чалавека.

Варта ўспомніць напачатку словы сацыёлага Ганны Арэндт у яе «Каранях таталітарызму» (1951), што падзенне таталітарызму не пакідае «іншых слядоў, апрача знясіленых нацый, эканамічнага і грамадскага хаосу, палітычнай пусткі і духоўнай «табуля раза» (чыстай дошкі розуму)»[1].

Філосаф Лешак Калакоўскі ў заканчэнні трэцяга тома сваіх «Галоўных плыняў камунізму» пытаецца, што засталося пасля камунізму, абмяжоўваючы гэтае пытанне межамі гуманістыкі. І адказвае, што ў прынцыпе не засталося нічога. Такая выснова трох тамоў «Галоўных плыняў камунізму». Здаецца, што камунізм быў адной вялікай памылкаю, своеасаблівым фарсам, які разыгрывалі на могілках.

Гэтая памылка, гэты фарс на могілках уплываў на людскі розум. Гаворка пра ўплыў таталітарызму на людскі розум не запозненая. Яна якраз своечасовая. Яна абапіраецца на наш агульны досвед аб'ектаў масавага эксперыменту, што ставіўся на нас дзесяцігоддзямі.

Выйсце з камунізму не азначае аўтаматычнага ўваходу ў сапраўднае дэмакратычнае жыццё. Таталітарная эпоха не была тым, што можна спакойна зачыніць, уводзячы дэмакратычны лад. Адна справа — вызваленне з-пад ярма таталітарызму, зусім іншая — вяртанне да нармальнасці. Румынская паэт-дысідэнтка Ана Бланд'яна лічыць, што мы дзесяцігоддзямі былі замкнёныя ў сутарэннях вязення, брамы якога адчыніліся гвалтоўна і даволі дзіўна. Таму, можа, нам наканавана блукаць яшчэ пэўны час бруднымі і змрочнымі калідорамі ў пошуках якога-небудзь выйсця. Нас ніхто не прымушае — нават калі мы страшэнна стомленыя — кінуць пошукі і добраахвотна згадзіцца жыць у камерах. З другога боку, лёгка зваліцца ў роў ці нават у бездань, ідучы толькі наперад. Мы не выракаемся апошніх сямідзесяці гадоў, але накіроўваемся ў 2001 год.

[1] Цыт. па арт.: Chipraz F. Sprzeczności posttotalitarnego czasu // Znak. — 1993. — N 7 (458). — S. 134.

Сумнеўна, што ў гісторыі свету існаваў перыяд, які б заслугоўваў, каб яго перажыць.

Таталітарызм нібыта сканаў. Але ён увесь час падае знакі жыцця, як правадыр народаў з вядомага верша Еўтушэнкі «Нашчадкі Сталіна». Камунізм большы, чым проста лад. Гэта цмок, які нарэшце прабіла дзіда святога Георгія. Ён несмяротны. У гэтага цмока ўвесь час адрастае хвост.

# MEMENTO

## ПАПЯРЭДЖАННЕ ПЕРАД УТОПІЯЙ

Вопыт камунізму (і таталітарызму наагул) пралівае святло на сутнасць чалавека. Камунізм (і ўвогуле таталітарызм) выцягнуў на паверхню з сакрэтных, глыбока схаваных закуткоў чалавека ўсё тое, што ў асаблівых акалічнасцях можа зрабіць яго подлым і бязлітасным. Ён уносіць у нашыя веды пра чалавека сведчанне, што і такая духоўная сфера існуе, што ўсялякія маральныя тармазы руйнуюцца, калі затоеныя ў людской душы сілы ліха атрымліваюць права голасу ў «ідэалагічным» арэоле новых «правоў», што многія людзі сапсаваліся, што ў іх быў пэўны род зачаравання ліхам.

Камунізм — гэта феномен нігілізму, які прадракалі Ніцшэ і Дастаеўскі. У той момант, калі абурылася вера ў міласць Божую, з'явілася паганская вера ў фатум (кон), а надзея была ўкладзена ў фаталізм. Фатум у марксізме называўся «гістарычнай непазбежнасцю». Ён агідны, а але і магутны. Супраць яго бунтаваць немагчыма. Вера ў фатум нараджае фатум. Вера ў свабоду нараджае свабоду.

Ідэалогія спакусіла прывабнымі лозунгамі. Але яна страшная, калі яе спрабуюць рэалізаваць у жыцці канкрэтнага грамадства. Свет пераканаўся ў тым, што рэалізацыя ідэалагічнай утопіі патрабуе выкарыстання сродкаў, якія ў пэўны момант пачынаюць панаваць над формай самой ідэалогіі і становяцца важнейшымі за яе. Камунізм нясе перасцярогу перад утапічным мысленнем, перад усялякага роду ўтопіямі, нават калі яны шляхотныя. Трэба мець ідэю, але засцерагацца ідэалогіі. Бо ідэалогія заўсёды прагная, яна хоча ахапіць цэласнасць жыцця. Жыццё ж шматколернае, чым болей у ім рознага, тым яно багацейшае.

Знамянальна, што праўдзе пра «іншага» чалавека вучаць больш за ўсё катаклізмы. Аўтар «Рабінзона Круза» Дэфо апісаў дэградацыю грамадства ў часе лонданскай чумы 1665 года. Нам лепей вядома такая дэградацыя па «Баляванні пад час чумы» Пушкіна. Камю ў «Чуме» выкарыстаў пошасць як метафару людскога ўпадку, з якім змагаюцца дзве святасці: хрысціянская і свецкая. Камунізм ёсць плёнам і выразам грамадскай, палітычнай і духоўнай чумы.

Пісьменнік Бэртран Расэл, які спачуваў Савецкай Расеі, сутыкнуўшыся з рэчаіснасцю ў гэтай краіне, у сваёй кнізе «Практыка і тэорыя бальшавізму» (1920) прыйшоў да высновы, што «ліха

бальшавізму палягае ў тым, што ягоныя крыніцы карэняцца ў людскім няшчасці»[1].

## СПАДЧЫНА ТАТАЛІТАРЫЗМУ

Немагчыма на працягу сямі дзесяцігоддзяў беспакарана жыць пад уладаю сістэмы, якая ігнаруе правапарадак, бо ведае адну толькі сілу, і пагарджае законамі, якіх сама не ўстаноўлівала. А ўсталявала гэтая сістэма свой лад так, каб ён вызначаў жыццё грамадства і свядомасць асобы. Пячатка гэтага ляжыць на ўсім духоўным жыцці сучаснага грамадства былога Савецкага Саюза.

Што ж засталося ў розумах людзей, якія на працягу пакаленняў мусілі цярпець трывалы вытанчаны націск неабходнасці хавання сваіх думак? А гэты націск крыўднейшы за эканамічнае і палітычнае панаванне над людзьмі. Таму і цяпер засталася звычка да фальсіфікацыі рэчаіснасці.

Жыццё ў такой хлусні — гэта не вынік простай раздвоенасці і адсутнасці раўнавагі ў грамадскай прасторы паміж вартасцямі, якія прапагандуе грамадства, і сапраўдным жыццём людзей. Гэта непазбежны вынік сістэмы, якая хлусню і двудушнасць зрабіла прынцыпам свайго ўплыву на людзей. Калі «афіцыйная праўда» ці тая праўда, якую належала публічна вызнаваць, не ёсць тою праўдаю, якую чуюць дома, калі трэба вучыцца ў дзіцяці, што «праўда» не адна, калі падманы, прыпіскі і кампрамісы, якія падтрымлівала ўлада, робяцца нармальнай умовай для захавання становішча, жытла ці проста трывання, людзі не могуць выйсці цалкам непашкоджанымі з сістэмы, якая робіць з крывадушнасці ў такіх памерах прынцып кіравання.

Гэта быў час разбэшчвання, гэта значыць свядома праводжанага ў жыццё перакрыўлення асноўных людскіх каштоўнасцяў: тое, што было ліхам, называлася дабром, а той, хто меў уладу, лічыў, што мае права перасоўваць дзеля сваёй карысці мяжу між дабром і ліхам.

І гэта тым часам, калі ў грамадскім жыцці ніхто не можа прысвоіць сабе права валодання манаполіяй на праўду і дабро. Прызнанне гэтага права абавязвае кожнага да цярпімасці і прызнання іншай асобе (у рамках дэмакратычных спрэчак) права на адрознасць.

---

[1] Цыт. па: Herling-Grudziński G. Z «Dziennika pisanego nocą» // Znak. — 1993. — N 7 (458). — S. 144.

Найбольш непакоіць тая частка спадчыны таталітарнай ідэалогіі, якая зацерла мяжу між дабром і ліхам, як зацерла яе між маральнасцю і палітыкай. Яна хацела падпарадкаваць маральнасць палітыцы. А гэта адкрыла шлях да ўсялякіх надужыццяў улады.

Таталітарная сістэма займалася спецыфічным разбэшчваннем, якое так добра прышчапіла механізмы страху і пачуцця віны, што зрабіла з хлусні і падману банальны спосаб захавання, бесперапынна маскуючы або перакідваючы пачуццё віны на іншых.

Камунізм вучыў слушнай праўдзе, што нельга быць ні ў кім упэўненым, што неразгаданай застаецца як адвага чалавека, так і яго нікчэмнасць, што яны часам спадарожнічаюць, як неразлучная пара. Паслякамуністычны «левы» рух ганарыцца такой асобай, як Імрэ Надзь — камуністычны правадыр вугорскай рэвалюцыі восені 1956 г., якую ў СССР называлі «антыкамуністычным, контррэвалюцыйным мяцяжом». Надзя расстралялі, падманам выцягнуўшы са схову ў югаслаўскім пасольстве ў Будапешце, паабяцаўшы, што яго выпусцяць за мяжу, і, згодна з камуністычнай мараллю, не стрымаўшы слова гонару (бо слова гонару для «розуму і гонару эпохі» не існавала). Пры гэтым кіраўнік аперацыі генерал Сяроў трымаў пры расстрэле пад паху былога таварыша Надзя па ўрадзе, Кадара, для навукі; Кадар самлеў пры гэтым жудасным спектаклі. Той жа Сяроў завабіў пад слова гонару на перамовы ў 1945 г. вяршаліну польскай Арміі Краёвай і выслаў іх на суд у Маскву, дзе даверлівых палякаў пасадзілі на доўгія тэрміны ў турмы, частка іх ніколі не вярнулася дамоў.

Надзя перазахавалі з гонарам у 1989 г. Але хутка выявіліся страшныя дакументы з архіва КГБ. У 1930 г. Надзь падпісаў у Маскве дамову супрацоўнічаць з ОГПУ. Адзінаццаць гадоў ён быў «інфарматарам» і спрыяў «ліквідацыі» шматлікіх вугорскіх камуністаў-эмігрантаў і савецкіх грамадзян. Сучасныя вугорскія посткамуністы (Грош і таварышы) ведалі мінулае героя 1956 года, але маўчалі, баючыся «разбурэння нацыянальнага помніка ў сэрцах вугорцаў».

Камунізм пазбаўляў чалавека годнасці. Варта прачытаць апошні ліст Бухарына да Сталіна за 10 снежня 1937 г. напярэдадні працэсу над ім. Аўтар ліста як ачмурэлы прасіў і маліў «Кобу»-Сталіна, каб той праявіў літасць. Страшна чытаць такі тэкст — сведчанне гэтакага чалавечага прыніжэння. Ён гаворыць пра тое, што ленінскі «ўлюбёнец партыі», колішні прэтэндэнт на першае месца ў партыі, адыгрываў ролю мізэрнага шматка.

Спадчынай камунізму ёсць разрыў міжлюдскіх сувязяў, страшэнная грубасць у дачыненнях, нагрувашчанне пакладаў агрэсіі.

Польскі філосаф Барбара Скарга (дарэчы, яна паходзіць з той часткі Заходняй Беларусі, што межавала з Усходняй) пісала, што, хоць паляк ніколі не быў дасканальм homo soveticus[1], усё ж ён набыў пад час сацыялізму ягоныя пэўныя рысы. Гэтымі рысамі, мне здаецца, валодаюць у першую чаргу грамадзяне былога СССР. Вось яны:

— брак пачуцця адказнасці за самога сябе, прывычка да таго, што ўсё будзе ўладжана кімсьці там, наверсе, а можа, боязь дзейнічаць па сваёй ініцыятыве,

— нядобрасумленнасць, якая паўсюды ўкрадваецца, нават у інтэлектуальнае асяроддзе, адсутнасць ідэалу добрасумленнасці, які быў знішчаны, ненармальнасць этыкі працы, якая засведчана шматлікімі прыказкамі (накшталт «работа не батон, не засохнет»),

— ідэя дрэнна зразуметага эгалітарызму (ураўнялынасці), які атаесамляецца з сацыяльнай справядлівасцю, перакананне, што назову «праца» заслугоўвае толькі праца фізічная, што людзі працы толькі тыя, хто вырабляе матэрыяльныя рэчы. У выніку гэтага рабочы па-старому лічыцца соллю зямлі, бо ў гэтым грамадстве не разумеюць таго, што для гаспадаркі важнейшыя капітал, абарот, тэхнічная думка, сур'ёзная адміністрацыя, а перадусім навуковая думка,

— адсутнасць павагі да прыватнай уласнасці (хоць і не варта з яе рабіць ідала),

— схільнасць да парываў і няўменне будаваць, страта традыцый дзяржаўнасці, няўменне жыць дэмакратычна, брак разумення грамадзянскіх дабрачыннасцяў[2].

Дадам яшчэ меркаванне расейскага сацыёлага Аляксандра Абалонскага, які ў даследванні «Кансерватыўны сіндром у савецкай калектыўнай свядомасці», змешчаным у ангельскамоўным часопісе «East-East»[3] (Сафія), 1992, № 1, у элементы названага сіндрому залічвае найперш:

— антыперсаналізм, які выражаецца ў нецярпімасці і ў рэпрэсіўным антыіндывідуалізме, у вяртанні да статкавых інстынктаў. Гэты антыперсаналізм выяўляецца ў шэрасці людскога адзення і смутку на тварах, шэрасці аднолькавых вуліц і цэлых гарадоў, якія ў партыйныя святы запаўняліся аднолькавымі прапагандысцкімі «дэкарацыямі». На ўсё жыццё запомніцца плакат 70-х гадоў XX ст. на шматпавярховым фасадзе Лендзяржбуда ў

---

[1] Савецкі чалавек (лацінскае).

[2] Skarga B. Przestroga przed utopią // Znak. — 1993. — N 7 (458). — S. 121-122.

[3] Гл. рэцэнзію гэтага часопіса ў арт.: Woźniakowski H.; Świadomość posttotalitarna // Znak. — 1993. — N 7 (458). — S. 176.

пачатку Неўскага праспекта з азызлым тварам, вялікімі брывамі і вачыма[1], утаропленымі проста на будынак Зімовага палаца. Большага сутыкнення безгустоўнасці з густам Растрэлі нельга сабе ўявіць.

І гэты твар паглядаў на нас у кожным горадзе, і кожны грамадзянін ведаў цану баявым і працоўным подзвігам маршала, чый твар узіраўся ў нас.

Ідэалогія нясе аднолькавасць, уніфармізм, а там, дзе ўніфармізм, там родзіцца шэрасць. І не толькі шэрасць, але і тэрор.

Поўная ўніфікацыя небяспечная ў навуцы, у філасофіі, у грамадскім ладзе, у грамадскіх арганізацыях. Гэта не значыць, што трэба імкнуцца да атамізацыі, да расцярушання, пра якія сёння гавораць прыхільнікі філасофіі дэканструкцыяналізму. Павінна быць раўнавага. Нас звязваюць родная мова, нас звязвае наша дзяржава, традыцыя. Усялякія радыкалізмы небяспечныя: і тыя, што хацелі ўзбуйніць усё ў адно, і тыя, што хацелі б разбіць грамадства.

Ідэі камунізму мелі сваю прыцягальнасць. Некаторых магла вабіць Марксава тэорыя, але ці вабіла канкрэтнае савецкае жыццё? Бадай, не. Я ведаў маладога камсамольца з вытворчасці, які, патрапіўшы ў Парыж па пуцёўцы, назаўсёды ўзненавідзеў савецкі лад. Гэтая шэрасць, гэтае ачмурэнне, гэтая тупая дысцыпліна, наказы і забароны, калупанне ў асабістым жыцці кожнага — тое трэба, таго нельга, гэтае вернае паслухмянства з боязі перад вынікамі і прыгожыя словы на вуснах. А над усім гэтым пачуццё, што не варта быць сабою, кімсьці з уласнай індывідуальнасцю, але трэба патануць у гэтай грамадскай масе.

Калі д'ябал сядзіць у камунізме, то перш за ўсё ў гэтай шэрасці, якая не дазваляе мысліць не так, як іншыя, якая патрабуе поўнай падданасці, ажно да прызнання няздзейсненай віны за сваю.

Што яшчэ дадаць да гэтага? Кожная спроба вырвацца з масы, нават адзеннем, паводзінамі, лічылася сігналам небяспечнага супраціву. Ці ж не былі мы сведкамі палявання на вузкія, а потым на шырокія калашыны нагавіц у юнакоў ці пасля ўвогуле на жаночыя нагавіцы? А на джаз? На рок? І г.д.

Пры гэтым ладзе калектыў разглядаўся як святыня, толькі ягоная воля, толькі ягоныя інтарэсы былі важнымі. Адзінка, нават геніяльная, не мела такога значэння. Супраціў яе калектыву быў злачынствам. Незалежнасць адзінкі, яе права на ўласныя перакананні былі буржуазнымі катэгорыямі.

---

[1] Для тых, хто не памятае, або проста не ведае, пра каго ідзе гаворка, прыгадаю: пра ордэнамана Брэжнева.

Ці ж варта было дзівіцца апатыі савецкага чалавека? За гэтай апатыяй, за словамі «ўсё роўна» ці «ўсё адно» тоіцца ўплыў сістэмы.

Абыякавасць назіралася не толькі з боку аб'екта ўплыву сістэмы. І сістэма абыякава ставілася да людской адзінкі. Калі вязняў на этапах кармілі селядцамі і не давалі вады, то звычайна гэта не было запланаваным катаваннем. Проста ў тыя часы рыба была таннай. Існавала правіла: загадалі карміць — накармілі. Тое, што «зэк» потым пакутуе ад смагі, нікога не цікавіла. Не цікавіў ніколі адзін чалавек, а што там казаць пра вязня? Д'ябал сядзіць не ў гэтым катаванні, ён сядзіць у абыякавасці да чалавека.

А.Абалонскі залічвае ў элементы «кансерватыўнага сіндрому» посттаталітарызму стаўленне да памерлых, якое выражаюцца ў прафанаванай трактоўцы смерці, а я дадам: і ў стаўленні да магілак.

Дачыненні між асобаю і грамадствам праяўляюцца перадусім у разнастайным комплексе ніжэйшасці ў розных формах калектыўнага жыцця. Ягонымі аспектамі ёсць агрэсіўнае самапацвярджэнне, стасункі паміж адзінкай і ўладай. Дэспатычны, азіяцкі характар гэтых стасункаў ніколі не эвалюцыянаваў ва ўмовах Расейскай імперыі і яе пераемніка Савецкага Саюза ў бок эўрапейскага абсалютызму, дзе сіла стрымлівалася правам.

Наадварот, права паўсюдна абгароджана недаверам. Адсутнічае павага да права і да іншага чалавека. Паказальнае ў гэтым плане стаўленне да нутраных і вонкавых «чужых». Яго адлюстраванне — «народны імперыялізм» («мы вас освободили, а вы не хотите жить по-нашему»). Тут яскрава выражаны расейскі месіянізм, гэта значыцца вера ў выратавальную для ўсяго свету ролю Расеі.

А ўрэшце існуе арыентацыя на саміх сябе («мы ў свеце сама лепшыя і сама першыя»), што спрычыняецца да трывалага самападману.

## НАВУКА І ТАТАЛІТАРЫЗМ

Чаму мы навучыліся пад час мінулай эпохі? Калі б да таго мы ведалі аб'ектыўна напісаную дарэвалюцыйнымі расейскими і ранейшымі ды сучаснымі замежнымі навукоўцамі гісторыю, калі б мы ўважліва чыталі тэксты вялікай літаратурнай традыцыі ад Сафокла і Шэкспіра да Мак'явэлі і Дастаеўскага, вялікія біблейныя і псіхалагічныя творы, дык нічога новага ў гэты час не даведаліся б. Таталітарызм быў вялікай хлуснёю пра чалавека. Чалавек не воўкм другому чалавеку з пункту погляду дзяржаўнай улады. Ён, як ні прыкра гэта канстатаваць, ёсць ім заўсёды і паўсюды, калі толькі

пачынае лічыць, што нявартыя патрабаванні маральнасці і наказы сумлення, гэта значыць, тое адзінае што можа зрабіць з яго людскую істоту.

Быць «воўкам» не азначае толькі драпежнічаць без усялякага сораму, але азначае істоту, здольную да ўсялякіх злоўжыванняў і разбэшчвання, калі толькі яна паддаецца спакусе ўлады над іншым чалавекам.

Мы навучыліся адкрыццю таго, якія формы здзічэласці змаглі нарадзіцца ў Эўропе, у яе культуры, якая ганарылася тым, што ўкараніла людзям пачуццё вольнасці духу і маральных патрабаванняў. Пладамі гэтай культуры былі дзве найстрашнейшыя формы таталітарызму: нацызм і камунізм. Памятаючы памеры злачынстваў гітлераўскіх лагераў ці сістэмы, у якой ГУЛаг быў толькі адной з ячэек, можна глядзець на Рычарда III Шэкспіра ці Раскольнікава як на шэраговых бандытаў.

Змяняючы памеры, гэтая праблема змяніла істоту, тым больш што мы дазналіся гэта не з кніжак, а праз жыццё, цярпенне ці смерць тых, хто перанёс гэтую сістэму.

Чаму мы навучыліся? Таму, пра што не варта забывацца, маючы ў памяці традыцыю: чалавек — гэта істота, якая можа ўсё сказіць, бо дух, які сведчыць пра ягоную веліч, здольны таксама на ліха і разбэшчанне. Іншымі словамі, сіла і вялікасць чалавека паходзяць з яго выключнай уражлівасці, а найбольшай пагрозай для чалавека становіцца ўрэшце ён сам і вольнасць, якой ён слушна дамагаецца. Сама істота чалавека змяшчае ў сябе патрэбу вольнасці, якой нельга выкараніць.

Паводле эфекту бумеранга, менавіта сутнасць сталінска-брэжнеўскага рэжыму выклікала ў людзей непераможнае імкненне жыць па-новаму. Але свабода, як і розум, можа быць шалёнай і разбэшчанай.

Ад перыяду Асветніцтва мы жывем у Эўропе, лічачы, што крыніцаю і свабоды чалавека ёсць розум — сіла, што прыводзіць у рух гісторыю, які імкнецца да шчаслівейшай будучыні. Розум імкнуўся распазнаваць у гісторыі кожнага грамадства прагрэс. Жылі пакаленні, перакананыя ў гэтым, але яны не ўсведамлялі, што гэта ілюзія, і меркавалі, што пазбавіліся каранёў ліха, якія існуюць у людской істоце, як трывожная магчымасць.

На пачатку новай гісторыі Рабле пісаў, засцерагаючы, што «навука без сумлення — гэта толькі руіны душы». У імя надта ўпэўненага ў сабе розуму мы дапусцілі да разрыву паміж развіццём нашых ведаў і патрабаваннямі сумлення. Гэта небяспечна, бо пры

гэтым можа развівацца існая ў чалавеку супярэчнасць. Чалавек не анёл і не д'ябал. Але хочучы лічыць сябе анёлам, ён несвядома паводзіць сябе дэманічна, становячыся здольным чыніць ліха і знаходзіць у гэтым асалоду. Філасофская традыцыя пазбягала ў бальшыні выпадкаў пытання, якое рэальнае існаванне ліха ставіць людскому сумленню. Калі ж яна і ставіла такое пытанне, то ў сэнсе ліха, ахвяраю якога станавіўся чалавек, хаваючы тое, што ён можа адкрыць у самім сабе.

Між тым наша стагоддзе выявіла тое ліха, на якое чалавек здольны, становячыся адзіным гаспадаром свабоды жыцця людзей, такіх як ён. Гэта стагоддзе, якое распачалося гвалтам Першай сусветнай вайны і генацыдам армян, а потым несла з сабою вынішчэнні ў Дахаў, Асвенцыме, Катыні, гета, ГУЛагу і шмат дзе яшчэ: гісторыкі поўнасцю складуць гэты спіс. Кожны з нас мусіць разважаць пра тое, чым сапраўды з'яўляецца чалавечая істота. Бо спрэчнасць захоўваецца ў самім чалавекам. Гэта лепей вядома з часоў Фройда, які знаходзіўся ў нас пад забаронай. Ведалі б тое лепш, калі б чыталі і Фройда, і забароненага таксама святога Аўгустына, Паскаля ці Дастаеўскага. Яны распавядаюць на тэму трагізму людской істоты.

Людзі былі здольныя вызваліцца ад свайго лёсу. Пытанне, ці рабілі яны горшае ў жыцці — гвалт над іншай асобай — з пераканання ці з цынізму, другаснае. Важна, што мы распазнаем у іх падобных да нас людзей. Ці ж камендант з Асвенцыма не быў таксама прыкладным мужам і добрым бацькам для сваіх дзяцей? Так, у таталітарнай сістэме ёсць нешта дэманічнае. Але дэманізаванне і шуканне дэманізму ў ім і толькі ў ім — гэта супакаенне сумлення малым коштам і незаўважанне таго, што кожны чалавек здольны чыніць ліха, калі толькі адчувае сябе звольненым ад выканання маральных патрабаванняў. Сумленне (а такога слова не было ў лексіконе таталітарных краінаў) не дыктуе падрабязна паводзін у кожны момант жыцця, але засцерагае, што ёсць рэчы, якіх нельга рабіць беспакарана. А найперш, што чалавеку не ўсё дазволена.

Калі таталітарызм не быў толькі нечым па-за дужкамі развіцця эўрапейскай культуры, то таму, што ён паставіў перад чалавекам пільнае заданне распазнаваць рэчаісныя памеры ўласнай слабасці. Паскаль называў чалавека трыснягом, які мысліць. Ён слабы толькі таму, што ведае, што мусіць памерці і што ягоная ўлада ў вачах свету смешная. Ён такі смешны таму, што здольны вынішчыць сабе падобных, здольны навязваць іншым уласную волю ў імя ўласнай свабоды.

Адным словам, мы спазналі глыбіню і працягласць гэтай супярэчнасці, зародкі цемры, якія носім у сабе. Там, дзе дух можа дасягнуць найвышэйшага ўзлёту, ён можа таксама разбэсціцца і даць злачыннаму інстынкту трымання ўлады панесці сябе. Разуменне нядаўняга мінулага не можа абысціся без разважанняў над прыведзенымі вышэй тэкстамі, калі мы не захочам пісаць надта павярхоўную гісторыю.

Роздум над гэтымі тэкстамі (і над найноўшай гісторыяй, зразумела, не ў выглядзе марксісцкіх падручнікаў ці манаграфій, якія толькі цяпер на дасягальных нам мовах і існуюць) дазволіць урэшце адкрыць абодва аблічча чалавека і зразумець, што таталітарызм, які быў пошасцю нашых часоў, не збег абставін і не выпадак нашай гісторыі, а толькі рэалізацыя адной з магчымасцяў нашай цывілізацыі.

## УРОКІ ГІСТОРЫІ

Дык чаму нас можа навучыць сучасная гісторыя? Таму, што таталітарны лад можа быць адкрыццём адной з наймагутнейшых трывожных магчымасцяў чалавека і грамадства. Гэты лад адкрывае цёмнае, злачыннае, барбарскае аблічча таталітарызму. Ён нам адкрывае, да чаго чалавек здольны, кім ён можа стаць. Гэта нам паказваюць не кніжкі, а знішчаны ландшафт, гаспадарчая бяда, смерць незлічоных ахвяраў, спусташэнне ў целах і душах. Хто можа паручыцца, што ўсё гэта не адродзіцца ў якой-небудзь іншай форме, калі людзі не будуць уважлівымі і пільнымі?

Адчуваецца пэўная аналогія паміж сітуацыяй народаў Усходняй Эўропы і сітуацыяй нямецкага грамадства пасля Другой сусветнай вайны. Быў такі ж, а можа й больш панішчаны край, такая ж размытая, цяжкая для прыняцця віна, якая можа павесці да самараспаду. Але падабенства на гэтым канчаецца. У нас ніхто не забараніў камуністычныя партыі як злачынныя арганізацыі. Для нас ніхто не арганізуе нюрнбергскага працэсу над злачынцамі. Нам ніхто не падрыхтуе план Маршала (які, насуперак сцверджанням савецкіх гісторыкаў, дапамог Заходняй Эўропе стаць на ногі).

Мы мусім зрабіць гэта самі. І мусім мець надзею, што нашы пакуты не былі дарэмнымі, не застануцца забытымі і змогуць стаць укладам у мудрасць нашай будучыні.

# ТАТАЛІТАРНЫ ЧАЛАВЕК

## ЭТЫКА ЦІ ПАЛІТЫКА?

Час таталітарызму паволі становіцца ўспамінам. Ад гэтага таталітарызм не перастаў быць праблемай для асэнсавання. Перад намі стаіць абавязковае заданне зразумець тое, што мы лічым перажытым.

Цяпер у нас выпрацоўваюцца новыя навыкі душэўнага складу і спосабу мыслення. Камунізм, які знікае за імглою, служыць нам для таго, каб зваліць на яго заганы і паскудствы нашага грамадства. Але ж гэтыя заганы складваліся раней. Камунізм паспрыяў іх праяўленню падобна праяўніку, які ўплывае на фотапаперу і выяўляе на ёй пэўны вобраз.

Узяць, напрыклад, такі феномен, як падпарадкаванне этыкі палітыцы, што адкрывае для ўлады шлях да злоўжыванняў. Так, Асветніцтва XVIII стагоддзя ўпэўніла нас у тым, што людская вера ў дабро і ліха ў культурным і гістарычным плане рэлятыўнае. Аднак у гэтым змяшчаецца небяспека. Ці можам мы сцвярджаць, што розніца між вегетарыянцам і канібалам толькі справа густу? Робячы пэўны выбар, даволі часта ўсё ж даводзіцца браць пад увагу маральную цану. Распаўсюджваць цярпімасць нават на фанатызм азначае выступаць у абарону нецярпімасці[1].

Вучэнні эўрапейскіх кантынентальных філосафаў зыходзяць з супольнасці «Бог, гісторыя, права» (у адрозненне ад ангельскай філасофскай школы, у якой адпраўны пункт — чалавек, а ягоная палітызаванасць дабра не прыносіць, нягледзячы на сваю неабходнасць). Чалавек як асоба ў кантынентальнай філасофіі знікае. Прызнанне за гэтай супольнасцю з усімі патрабаваннямі вядучай ролі хавае ў сабе пагрозу таталітарызму.

Таталітарныя сістэмы прад'яўляюць чалавеку высокія, часам непасільныя этычныя патрабаванні. Мала хто можа справіцца з імі, вытрымаць выпрабаванне пеклам.

Нармальныя крытэры чалавечага супольнага жыцця – прыстойнасць, сумленнасць, шчырасць — разглядаліся пры таталітарызме толькі ў аспекце іх класавага ўжывання. Людзі страчвалі неабходныя для чалавека якасці: памяркоўнасць, дружбу, каханне, пачуццё людской узаемадапамогі.

---

[1] Колаковский Л. Обожествление политики // Новое время. — 1993. — № 23. — С. 57.

Камунізм быў нечым падобным да хваробы. Тое, што робіцца сёння, заканамерная рэакцыя на гэтую хваробу. Такое становішча можна параўнаць з жыццём індывіда, калі яно праходзіць у дрэнных умовах. У падобных рэфлексіях нянавісці разраджаецца агрэсіч, назапашаная за ўвесь змарнаваны час.

Філосаф Ханна Арэндт у сваіх «Каранях таталітарызму» (1951) пісала, што падзенне рэжыму не пакідае іншых слядоў, апрача знясіленых нацый, эканамічнага хаосу, палітычнай пусткі і духоўнай «табуля раза» (свядомасці чалавека, які не валодае з прычыны адсутнасці вонкавага пачуццёвага досведу якімі-небудзь ведамі, напрыклад толькі што народжанага).

## БЯСПРАЎЕ, ЖАБРАЦТВА, ЖОРСТКАСЦЬ

Таталітарызм прынёс незвычайны вопыт ліха. Ягоная істота застанецца незразумелай, калі мы абмяжуем гэты лад бяспраўем. З бяспраўем чалавецтва сутыкалася шмат разоў. Няшчасці, што вынікаюць з яго, добра вядомыя. Жыхарам пэўных вялізных тэрыторый урад «на працягу трох стагоддзяў усяляк не даваў думаць, жадаць і дзейнічаць. Дэспатычная, капрызная і самавольная ўлада, якая так доўга іх душыла, прывучыла іх, з аднаго боку, чакаць усяго ад урада, а не ад асабістай ініцыятывы, а з другога — пагарджаць законнымі шляхамі і трывала спрабаваць так ці іначай — хітрасцю ці сілай — адхіляцца ад выканання закону»[1].

Гэта, шаноўны чытач, не пра наша з вамі грамадства напісана, а пра Лацінскую Амэрыку пад панаваннем гішпанцаў. Але гэта, зразумела, і пра нас. Аднак таталітарызм перарастае падобнае бяспраўе.

Мы не зразумеем прыроды таталітарызму, калі будзем бачыць у ім выключна эканамічны крызіс і ягоныя вынікі. Умоваю заняволення грамадства з'яўляецца спіхванне яго на нізкі ровень існавання. Як лічыць пісьменнік Р.Капусціньскі, паніжэнне роўню жыцця — агульная яго дэградацыя, пагаршэнне яго якасці, памяншэнне выгодаў і памнажэнне небяспекі пры гэтым — рэчы зусім не выпадковыя. Гэта вынікі палітыкі тых, хто імкнецца ўмацаваць сваё панаванне. Ім вядома, што чалавек аслаблены, зморааны барацьбой з тысячай перашкодаў, чалавек, які жыве ў свеце жаданняў, што ніколі не выконваюцца, лягчэй паддаецца маніпуляванню, падпарадкуецца

---

[1] Дебидур А. Латинская Америка. 1815-1848 // История XIX века. Под ред. Лависса и Рамбо. — 2-е изд. — М.: ОГИЗ, 1938. — Т. 4. — С. 275.

без супраціву. Барацьба за існаванне — занятак, які адбірае шмат часу, занятак усепаглынальны і вычэрпвальны. Стварыце такія антыумовы людзям, і ўлада гарантаваная на дзесяцігоддзі!

Насаджалася ўбоства матэрыяльнае і духоўнае. Беднасць вымотвала і прыгнятала чалавека, рабіла яго пакорлівейшым, узнаўляла адчуванне непаўнавартасці. Чалавек з абмежаванымі патрэбнасцямі нават не здагадваецца пра існаванне належных яму па праве рэчаў, якіх можна патрабаваць і за якія трэба змагацца.

У гэтакім грамадстве татальнай галечы спадарожнічае татальная бяздзейнасць. Спосаб выжывання тут — зусім не барацьба з прыродаю, не актыўная вытворчая дзейнасць, не безупынная праца ў поце чала, а наадварот — мінімальнае выдаткаванне энергіі, сталае імкненне нічога не рабіць. Філасофія, якая апраўдвае такія паводзіны, — фаталізм. Чалавек адчувае сябе не ўладаром абставін, а іх рабом[1].

Менавіта цяжкасці жыцця пры таталітарызме і пасля яго — транспартныя праблемы, чэргі, ушчыльненыя кватэры, запаскуджаныя лесвічныя пляцоўкі — ахоўваюць жыхарства такіх краін ад таго, каб яны задумаліся пра сэнс жыцця, пра яго жудасць, пра тупік кахання, пра непазнавальнасць самага каханага і блізкага чалавека. Калі людзі задумаюцца — яны жахнуцца. Бо экзістэнцыяльны тупік, які на Захадзе мастацтва і філасофія паспелі даследваць і апісаць, у іх яшчэ наперадзе: яны прабіраюцца да яго. Але сапраўдная нармалізацыя жыцця можа абярнуцца і для такіх людзей маральнай катастрофай. Бяздзейнасць — адзіна годнае чалавека становішча толькі тады, калі гэтая бяздзейнасць суправаджаецца працаю духу. Тады чалавеку даводзіцца задумацца ўжо не пра тое, дзе і як знайсці і здабыць кавалак хлеба, але і пра галоўнае і неразвязанае: пра канцоўнасць існавання.

Да капрызаў гісторыі, як і да капрызаў прыроды, такі заняволены чалавек ставіцца аднолькава. Для яго ўсё адно — што змена ўлады, што разводдзе. Для яго гэта перамена натуральная. Ён робіць усё, каб прыстасавацца да іх, і таму тут спробы бунту даволі рэдкія. Бо крыніца бунтоўнай сілы — не няшчасці, якія суправаджаюць галечу (яна хутчэй прыгнятае, чым распаляе энергію пратэсту), а жывая і незалежная свядомасць, упэўненая ў сваёй слушнасці.

Таталітарызм абяцае ліквідаваць нястачу ў краінах, дзе ён яшчэ не захапіў улады. Але ўяўляць сабе, што нястача сама па сабе можа

[1] Капусцинский Р., Лапидариум // Иностранная литература. — 1993. — № 4. — С. 188-189.

быць скасаваная, гэта значыць не звяртаць увагі на гістарычную практыку. Нястача ж акрэсліваецца патрэбнасцямі. А людскія патрэбнасці могуць расці бясконца — успомніце бабулю з казкі пра залатую рыбку!

Таталітарызм вызваліў у людзях незвычайную лютасць. Яна ж у канчатковым выніку засноўваецца на таямнічай схільнасці чалавека да ліха. Гэта добра паказаў у сваёй жорсткай прозе Шаламаў. Толькі штосьці такое магло спрычыніцца да ўзнікнення канцэнтрацыйных лагераў і лагераў знішчэння, сістэмы грамадскага кантролю, установаў, што выпрацоўвалі хлусню, урэшце, невядомага датуль перманентнага забойства люду.

Таталітарызм патрапіў здабыць найгоршыя сілы, дзякуючы якім ён трымаўся, існаваў. Як піша пісьменнік В.П'ецух, тысяча гадоў хрысціянства пайшла прахам, як толькі чалавеку дазволілі рабаваць і забіваць[1].

Камуністычная, як і іншая, фашысцкая, таталітарная ментальнасць адпавядае натуры пэўных тыпаў людзей. Яна спрадвечная. Яе можна прасачыць ва ўсёй гісторыі. Гэта адзінаўладства, нянавісць да грамадства, дзяленне яго на антаганістычныя часткі, тэрор, дэмагогія, нігілізм. Атрымліваецца хаос у думках, які ў такіх умовах ствараецца і вядзе да прымітыўнага мыслення. Выхаваны гэтакім чынам фанатызм выклікае ў чалавеку больш энергіі, чым дабрыня і мяккасць. Таму фанатыкам лягчэй навязаць іншым сваю волю і дамагчыся ўлады.

У пэўных пластах нашага грамадства карэніцца такі тып субкультуры, па мерках якой ужыванне фізічнай сілы ў развязанні канфліктаў — геройства. Выхаваныя яшчэ з дзяцінства ў бацькоўскай сям'і, такія ўяўленні жывуць у чалавеку ўсё жыццё.

Таму не трэба здзіўляцца, што пераадоленне таталітарызму мусіць адбывацца наступным шляхам: здабываючы з чалавека лепшае, згодна таму, што казаў апостал Павел: «Перамагай ліха дабром» (Пасланне да Рымлянаў, 12, 21).

## ЗРУШЭННЕ МАРАЛЬНЫХ КАШТОЎНАСЦЯЎ

Паняцці дабра і ліха былі выкараненыя са свядомасці савецкага чалавека. Мая студэнтка Л.Палякова падала ў якасці кантрольнай працы «Нарыс з гісторыі міфаў народа СССР (Алегорыя ва «Уладары пярсцёнкаў» Дж. Толкіена і лёс гэтай кнігі ў савецкай таталітарнай

[1] Пьецух В. Открытие России // Литературная газета. — 27 января 1993 г. — С. 3.

дзяржаве)». Кніжка Толкіена — гэта байка. Яе падзеі адбываюцца ў фантастычныя часы. Там паказана адчуванне ліха, каралеўства ліха, у якое адным трэба падарожнічаць, каб знайсці пярсцёнак, а другім потым ісці туды ж, каб кінуць пярсцёнак у жарало вулкана.

Частка трылогіі пра ўладара пярсцёнкаў пісалася пад час вайны пад беспасярэднім уплывам барацьбы дэмакратыі супраць адной з формаў таталітарызму. Толкіен быў хрысціянінам і пісаў свае байкі, каб у межах цывілізацыі, якая страціла ўражлівасць да хрысціянства, перадаваць асноўны хрысціянскі светапогляд. Наша моладзь, да якой першая частка трылогіі трапіла ў 70-х гадах, а іншыя толькі ў 1990-1991 гг., ніколі не чытала Бібліі і атрымала праз папулярныя кніжкі Толкіена мадэль асноўнага адрознення дабра ад ліха, а таксама ўяўленне пра каралеўства ліха: адчуванне сканцэнтраванай аўры ў грамадстве, у якім няма свабоды. Грамадства ліха Толкіена бярэ прыклад з кожнага ладу без свабоды, заснаванага на ўзаемным страху.

Пазбыванне памянёных рысаў таталітарызму — справа даволі цяжкая. Да свабоды мы яшчэ не падрыхтаваныя. Нам хочацца пераскочыць цераз нялёгкую працу выхавання свабоды, цераз берамя развіцця саміх сябе. На працу жыцця адважыцца цяжка. Але толькі гэта і ёсць свабода.

Прага суверэннасці асобы шукае пацверджання ў мінулым. З кожным этапам так званай перабудовы і пасляперабудовачнага перыяду, з кожным крызісам паслякамуністычнай улады пашыраюцца межы пераменаў у грамадскім жыцці. Думка адстае ад гэтага. Прымхі апераджаюць аналіз і здаровы сэнс. Духоўны землятрус стаўся непрадбачаным шмат для каго. Акрамя гэтага, народ не прызвычаіўся да прапанаваных яму дэмакратычных вартасцяў, тым больш што прышчэпліваннем іх у Беларусі «паспяхова» займаліся кіраўнічыя пласты грамадства, якія паказалі, што здолелі фармальна абысціся без КПСС і без СССР.

Сённяшняе неўспрыманне значнай колькасцю жыхарства дэмакратыі тлумачыцца і тым фактам, што пры Хрушчове і Брэжневе не забівалі. Гэта для малодшых за маё пакаленне людзей засланяла папярэднія жахі Сталіна.

Бальшавікі праіснавалі за кошт бясплатнай працы і гандлю сыравінай даволі доўга. Савецкі Саюз вырваўся ў космас, па сутнасці распрануўшы да ніткі народ. Яму за гэта была ўдзячна дараваная адсутнасць водаправода і каналізацыі не толькі ў вёсках, а і ў меншых гарадах, незвычайная засмечанасць і дрэнны стан вуліц гарадоў, транспартных прыпынкаў, пад'ездаў і сходаў шматпавярховых дамоў,

з поспехам пераўтвораных у грамадскія туалеты. Бальшавікі пакінулі свайму народу магчымасць неабмежавана піць горкую да страты арыентацыі ў часе і прасторы. Гэтаму народу навязалі такія фантомныя з'явы, як сацыялістычнае спаборніцтва, стаханаўскі ці гаганаўскі рух, якія старанна апявалі як найвышэйшыя дасягненні чалавецтва ў сваіх дысертацыях гісторыкі КПСС і марксісцка-ленінскія філосафы. Дзіву даешся, калі падумаеш, да якой ступені грэбавалі народам ягоныя кіраўнікі, якія выйшлі з гэтага ж народа! Яму паспелі трывала прышчапіць рэальную дэвальвацыю працы, арыентацыю на сацыяльную абароненасць, звужэнне часавага гарызонту, зайздрослівы эгалітарызм, калектыўны эгаізм і арыентацыю на пасрэднасць.

Мы мелі (і зараз маем) такіх неінтэлігентных, неадукаваных правадыроў, што горшых можна было адшукаць, бадай, толькі ва Ўгандзе, Цэнтральна-Афрыканскай Рэспубліцы ці на Гаіці. Новы кіраўнічы клас паступова стаў арганічна аднародным, убогім знізу даверху з той пары, калі былі знішчаныя больш-менш здольныя і адукаваныя бальшавіцкія кадры.

Ніхто ніколі не пераканае мяне ў тым, што слесар чыгуначнага дэпо, тэхнік па будаўніцтве мастоў ці краўчыха з «Чырвонага Кастрычніка», якія б яны ні былі здольныя самародкі, не атрымаўшы нармальнай, а не партыйнай адукацыі, маглі кваліфікавана кіраваць палітыкай і эканомікай цэлай рэспублікі, а то і Саюза. А вось задушыць славянскую «Пражскую вясну» — якраз было пад сілу такім кадрам[1].

Культурны ровень падобных кіраўнікоў мы ўбачылі на свае вочы, калі пачалі назіраць фігуру Хрушчова на тэлеэкране і слухаць ягоныя бясконцыя прамовы па радыё. Тады знікла таямніца, якой прыкрываўся Сталін. А яшчэ Вялікі інквізітар у Дастаеўскага наказваў кіраваць, абапіраючыся на цуд, таямніцу і аўтарытэт.

Найвышэйшы розум сістэмы ніяк не дасягаў роўню, прыдатнага да вырашэння гістарычных задач. Гэта не выпадковасць, а заканамерны вынік развіцця.

Кіраўнічы пласт ні палітычна, ні інтэлектуальна не быў здольным вырвацца з таго кола, якое сам ён і абвёў вакол сябе. Ён быў засяроджаны на адной мэце і патрабаваў задавальнення сваіх нястрыманых, маніякальных патрэбнасцяў. Аднатэматычнасць, зашоранасць з гадамі прыводзілі прадстаўнікоў гэтага пласта да адрыву ад рэчаіснасці. Подобна наркаману, якому штодня

---

[1] Дарэчы, гэтым задушэннем кіраваў славянін Кірыла Мазураў.

патрабуецца пэўная доза наркотыку, камуністычныя палітыкі рэгулярна ўпырскваді сабе новыя порцыі свайго палітыканства. Тыя, хто быў здольны зразумець існы стан рэчаў, знішчаўся, абвяшчаўся ворагам менавіта за гэта.

Грамадства было даведзенае да нізкага роўню ведаў (якія кіраўнікі, такія й падначаленыя, і наадварот), да абмежаванасці бачання свету, каб лягчэй было кіраваць. Для людзей не існавала іншага свету, апроч таго, у якім яны нарадзіліся. Іх не выпускалі за межы краіны. У свядомасці такіх людзей лёгка насадзіць стэрэатыпы, спрошчанае бачанне свету без духоўных каштоўнасцяў.

Спачатку знішчалі тых, хто ствараў такія каштоўнасці. Потым тых, хто ведаў ім цану і ведаў, што менавіта знішчаныя раней людзі іх стваралі. Калі страчвалася здольнасць да ацэнак, тады ніхто ўжо не разумеў, што ён рабіў, гэта і завецца барбарствам.

## ДЭФАРМАЦЫЯ ПАМЯЦІ

Мэтаю сістэмы быў усеагульны кантроль за дзейнасцю і думкамі людзей. Парушыліся ўзаемадачыненні чалавека з часам. Чалавек пры гэтым траціў арыентацыю і разгубляўся.

Вобраз мінулага дэфармаваўся з гледзішча палітычных і ідэалагічных патрэбнасцяў. Тым болей што свядомасць фармуюць не толькі гісторыкі (якія дапамагалі містыфікаваць гісторыю), але і пісьменнікі і публіцысты, ідэолагі і палітыкі, агітатары і прапагандысты, якія карысталіся набыткам прэпараванай гістарычнай навукі ў духу сваіх уяўленняў.

Як пісаў гісторык А.Некрыч, партыйная ўстаноўка палягала ў тым, каб стварыць новую калектыўную памяць народа, дашчэнту выкінуць успаміны пра тое, што адбывалася ў рэчаіснасці, выкінуць з гісторыі ўсё, што не адпавядае ці проста зняпраўджвае гістарычныя прэтэнзіі камуністычнай партыі.

Гэтая ўстаноўка галосна нідзе не выказвалася. У мафіёзных структурах, а, згодна з назіраннем Густава Герлінг-Грудзіньскага, партыя адпавядала такой структуры, рашэнні апранаюцца ў імглістую форму, не фармулююцца выразна. Таму нікога з завадатараў схапіць за руку нельга. Падпарадкаваны сам адгадвае думкі свайго шэфа, ніколі не выказаныя напрасткі.

А вынік? Нацыя, якая страчвае памяць, страчвае сумленне. Злачынствы, учыненыя грамадству, застаюцца непакаранымі.

Ачыстка калектыўнай памяці праводзілася перш за ўсё шляхам фізічнага знішчэння жывых сведкаў гісторыі. Сістэматычны тэрор

знішчыў паслойна інтэлігенцыю — захавальніцу народнай памяці, улучаючы ўсіх прадстаўнікоў буржуазных партый. За імі пайшлі эсэры, потым марксісты-меншавікі і ўрэшце марксісты-бальшавікі.

Пасля гэтага пачаліся рэгулярныя чысткі сярод новага пакалення гуманітарыяў. І кожны раз народ пазбаўлялі ад часткі ягонай калектыўнай памяці, ад часткі ягонай гісторыі. Замест гэтага насаджалася памяць пра тое, чаго на самой справе не было, — штучная памяць[1].

Мінулае ці адмянялі, ці вярталі, і чалавека пакідала бачанне ў ім трывалай апоры. Улада спыняла час, бо рух часу таіў у сабе перамены. У чалавека кралі час і памяць. Было ўсё роўна, што гаварылася, што абяцалі яшчэ ўчора. Хлусня станавілася непакаральнаю. Адсутнасць памяці адкрывала перад хлуснёю шырокае поле дзейнасці.

Толькі з упадкам камунізму мы вярнуліся ў свет гісторыі. Гэта можа гучаць дзіўна, бо, уласна кажучы, марксізм быў аглядам гістарычнага свету, пабудаваным на разуменні чалавека, які ўпісваўся ў гістарычны працэс, і на дэтэрмінізме, які гэтым працэсам кіруе. Але калі камунізм стаў панавальным і адзіна слушным светапоглядам, ён увёў сапраўдную феадальную стабільнасць, затрымаў гісторыю.

Яшчэ павінна адбыцца апошняя, канчатковая барацьба між злодзеямі памяці і абкраданымі імі нацыямі, грамадствамі і асобамі.

---

[1] Некрич А.М. Отрешись от страха. — Л.: London: Overseas Publications Interchange Ltd, 1979. — С. 293-294.

# РЭПРЭСІІ Ў НАВУЦЫ

## ЯК РЭПРЭСАВАЛАСЯ НАВУКА

*У выпадках, калі выключаюцца*
*дыскусіі, пачынаюцца рэпрэсіі.*
А.Белінкоў

*Кому быть живым и хвалимым,*
*Кто должен быть мёртв и хулим,*
*Известно у нас подхалимам*
*Влиятельным только одним.*
*Не знал бы никто, может статься,*
*В почете ли Пушкин иль нет,*
*Без докторских их диссертаций,*
*На всё проливающих свет.*
Б.Пастернак

Масы беларусаў на працягу дзесяцігоддзяў выхоўваліся ідэалагічнай машынай «у святле вядучага значэння класавай барацьбы» і неадлучнасці лёсу свайго краю ад лёсу ўсходняга суседа. А што ж спецыялісты гісторыкі — ці ж яны не ведалі праўды пра мінулае, ці ж яны не маглі неяк паспрабаваць давесці яе да шырокіх колаў?

Уся справа ў тым, што між чытачамі і сапраўднымі ведамі пра мінулае знаходзіліся не гісторыкі Беларусі, а гісторыкі Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Яны выхоўваліся самі і метадычна выхоўвалі іншых у міфалагічным кірунку. Рабілася гэта дзесяцігоддзямі.

Каб такое адбылося, спатрэбілася беспрэцэдэнтная ў гісторыі чалавецтва праца — стварэнне феномена рэпрэсаванай навукі. Аб'ектам рэпрэсій пры таталітарным рэжыме сталася навуковая супольнасць у цэлым, ягоная ментальнасць, ягонае жыццё ва ўсіх праявах. Адны навуковыя дысцыпліны — генетыка, педалогія — забараняліся, другія дэфармаваліся, трэція — асабліва гісторыя і філасофія — скажаліся[1].

---

[1] Гл. пра гэта падрабязней у арт.: Ярошевскій М.Г. Сталинизм и судьбы советской науки // Репрессированная наука. — Л., 1991. — С. 9-33.

Навуковая супольнасць пад уздзеяннем ідэалагічнага дыктату перажыла глыбокую дэфармацыю. Бальшыня навукоўцаў падпарадкавалася партыйна-бюракратычнаму дыктату, захоўваючы, з аднаго боку, успрымальнасць да голасу навуковага сумлення, а з другога, вымушаная жыць з расшчэпленай свядомасцю, падвойнай мараллю.

Гістарыяграфія (гістарычная навука), якая заклікана сумленна адлюстроўваць падзеі мінулага, ператварылася ў кампанент рэпрэсаванай навукі. Атручаная ленінізмам-сталінізмам гістарыяграфія не магла адэкватна рэканструяваць мінулае. Між тым, як вядома, веды пра мінулае служаць абавязковаю ўмоваю разумення таго, адкуль мы ўзяліся і з чым належыць ісці ў будучыню.

Адміністрацыйна-карныя захады былі (ці не ўпершыню?) ужытыя да іншадумцаў, якія не рабілі ўчынкаў, накіраваных на гвалтоўнае звяржэнне тагачаснага ладу, у верасні 1922 года. Тады болей за сотню навукоўцаў-гуманітарыяў былі высланыя з Савецкай Расеі за мяжу.

Звычайна пры гэтым цытаваўся надрукаваны ў Поўным зборы твораў У.І.Леніна ліст Ф.Э.Дзяржынскаму за 10 траўня 1922 года, у якім Ленін прадстаўлены як чалавек, які прапануе абмеркаваць усе «захады падрыхтоўкі да іхнай высылкі». Вядома, высылка — гэта не турма, не лагер, не расстрэл. Але калі ўдумацца, то ці магчыма такое ў цывілізаваным свеце толькі за іншадумства, за тое, што навукоўцы выказвалі свае навуковыя, а не палітычныя разважанні аб новым савецкім ладзе, разглядалі яго з навуковых, а не палітычных бакоў?

Для нецывілізаванага ж свету высылка, як і рэпрэсіі і нават пагібель асобаў, якія самастойна мысляць, наканаваная, бо таталітарызм у прынцыпе выкараняе інтэлігенцыю, як сілу, здольную да крытычнага творчага мыслення («рознадумнасці») і да незалежнай творчай ролі.

Ленін не быў бы самым сабою, калі б абмежаваўся гэтакім стаўленнем да тых, каго высылалі. Бо ён як увасабленне радыкальнай часткі расейскіх марксістаў быў вытокам татальнай ідэалагічнай неталерантнасці. Ён зрабіў сваім улюбёным дзіцём ЧК і здолеў пераканаць партыю ў тым, што амаральнасць, калі яна ў інтарэсах справы, можа быць «маральнай». Ягоны вучань С. І. Гусеў на XIV з'ездзе партыі казаў:

«Ленин нас когда-то учил, что каждый член партии должен быть агентом ЧК, то есть смотреть и доносить... Можно быть прекрасными друзьями, но раз мы начинаем расходиться в политике, мы

вынуждены не только рвать нашу дружбу, но идти дальше — идти на доносительство»[1].

Перад разгонам Устаноўчага Сходу адна з кіраўнікоў левых эсэраў М.Спірыдонава прыгадала ў размове з Леніным пра мараль. Той, згодна з успамінамі левага эсэра, пазней пісьменніка С.Мсціслаўскага, «узняў бровы: «Маралі ў палітыцы няма, а ёсць толькі мэтазгоднасць»[2].

Вяртаючыся да высылкі навукоўцаў у 1922 годзе, варта адзначыць, што зараз рассакрэчаны іншы ліст Леніна, апроч папярэдняга, але ўжо не Дзяржынскаму, а Сталіну (за 17 ліпеня 1922 г.). Ліст з той жа нагоды, дзе «самы чалавечны чалавек» піша будучаму правадыру ўсіх часоў і народаў: «выслать за границу безжалостно», «всех их — вон из России», «арестовать несколько сот и БЕЗ ОБЪЯВЛЕНИЯ мотивов — выезжайте, господа!», «очистим Россию надолго»[3].

Ачысцілі... Але не толькі Расею, але і Беларусь. Мала вядомы той факт, што тым жа часам з нядаўна створанага Беларускага ўніверсітэта выслалі за мяжу прафесараў-гісторыкаў[4]. Тым больш што мяжа ад Менска была больш дасягальнай, чым ад Петраграда. А колькі навукоўцаў Беларусі яны маглі выхаваць! Прозвішчы іх высветліць пакуль што мне не ўдалося.

І было за што такіх прафесараў высылаць з краіны. Прывяду як прыклад лісты Піцірыма Аляксандравіча Сарокіна (1889-1968), «карысныя прызнанні» якога, дзякуючы цытаванню Леніным, болей вядомыя палітычна адукаванаму чалавеку[5]. Вучоны славуты сваёй працаю «Голод как фактор. Влияние голода на поведение людей, социальную организацию и общественную жизнь» (Пг., 1922), якая была напісана па слядах рэвалюцыі і выклікала раздражненне бальшавікоў[6], бо аўтар паказваў там механізмы дзеяння масаў пад уплывам рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. Пасля высылкі гэты сацыёлаг працаваў у Гарвардскім універсітэце. Прафесар Сарокін быў

---

[1] Цыт. па: Волкогонов Д. «С беспощадной решительностью...» В. И. Ленин // Известия. — 22 апреля 1992 г.

[2] Воспоминания о Владимире Ильиче Ленине. — М.: Политиздат, 1990. — Т. 5. — С. 166.

[3] Латышев А. «Морали и политике нет» // Комсомольская правда. — 12 февраля 1992 г.

[4] Московские новости. — 1990. N 20; Этингер Я. От Родины не отлучают // Известия. — 23 августа 1990 г.

[5] Лісты П.Сарокіна надрукаваныя ў газеце «Час пик» В. Г. Белавусам / 22 чэрвеня 1992 г., № 25. — С. 4.

[6] Яе ўрыўкі друкаваліся ў часопісе «Новое время» (1991. — № 14) пад назовам «Государство пустого желудка».

адным з лідэраў партыі сацыял-рэвалюцыянераў і галоўным публіцыстам яе газеты «Воля народа» (1917-1918).

Свайму аднадумцу, кнігавыдаўцу П.Віцязеву навуковец пісаў у адказ на пытанні пра «апраўданне ліха і гвалту» яшчэ 2 снежня 1913 года:

«Мне думается, что вопрос об оправдании чего бы то ни было — вопрос научно не разрешимый и не доказуемый. Наука вообще с оправданием или с обсуждением чего бы то ни было дела не имеет и не может иметь.

Весь грех старых моральных систем в том именно и заключался, что они хотели оправдать или осуждать что-нибудь вместо того, чтобы объективно изучать и устанавливать законы явлений. Отсюда — бесплодность этих попыток, отсюда же и их современный крах... Вам не удастся «оправдать» насилие или вернее — его с таким же успехом можно оправдывать, как и осуждать. Это область произвола».

12 снежня 1921 года Саўнарком РСФСР пастанавіў перадаць усе прыватныя выдавецтвы дзяржаве і ўвесці цэнзуру.

На пачатку 1922 года П.Віцязеў разаслаў сваім аўтарам анкету аб нацыяналізацыі прыватных выдавецтваў і перадачы ўсёй выдавецкай справы ў Дзяржаўнае выдавецтва. П.Сарокін паслаў яму адказ, які варты таго, каб яго цытаваць не ўрыўкамі, а з няэначнымі купюрамі цалкам, бо сведчыць аб паўніні аналізу і прадбачлівасці аднаго з тых, хто перашкаджаў індактрынізаваць бальшавіцкую ідэалогію ва ўсёй таталітарнай краіне, улучаючы Беларусь.

Вось што пісаў навуковец:

«Закрытие частных издательств... с моей точки зрения, будет иметь совершенно определенные следствия... Главные из этих последствий таковые: 1) еще большее падение издательского дела... 2) дальнейшее подавление научного творчества и распространение его результатов, ибо при ликвидации частных издательств не могут быть опубликованы и те работы, которые до сих пор издавались благодаря им; 3) рост «религиозной ортодоксии и догматизма» (хотя бы и коммунистического), ибо наука без свободы мысли, критики и свободы мнений существовать не может, а государственные монополизаторы... издавать работы, противоречащие их догме и почему-то им неугодные, не будут. В итоге, как в период «владельческопопечительской опеки печати» (средние века, период Генриха VIII в Англии, эпоха Галилея и Рабле в Италии и Франции, — у нас эпоха Грозного и Петра) все будет зависеть от «инквизиторов»

государства. Approbatio[1] папы заменится approbatio государственного чиновника. Он будет «живым носителем, наместником» научности и истинности. Его мнение — законом. Научная оценка заменится решением комиссара печати. Критика — доносом. Словом, мы получили полную копию давно уже, казалось, пройденной эпохи Магницкого в Росии, средневековьч в Европе. Как тогда все противоречащее католической церкви преследовалось, так и теперь все противоречащее учению «иже во святых отцов наших — вселенских учителей и святителей» К.Маркса и Ф.Энгельса и «иже во святых отцов наших правоверных коммунистов российских» или им почему-то не нужное, не может быть напечатано. «Катехизис Филарета» хотя бы в виде «Азбуки коммунизма»[2] займет место науки, вера и догма — место опыта и наблюдения: невежество — место просвещения и т. д. Впрочем, к чему будущее время, когда все это мы имеем уже в настоящем...

Обращаясь к данным опыта — мы теперь уже имеем основания для подтверждения этого прогноза. Усилилось ли издательское дело со времен социализма? Не издает ли весь аппарат «Государственного издательства меньше книг, чем издавало их ранее одно частное издательство, например Сытина? А какова научная ценность издаваемых книг? Научных книг почти не издается. И то, что издано, имеет случайный характер, говорящий не о научной высоте издаваемых книг, а о хороших отношениях автора с «апробаторами» истины и власть имущими. Большинство изданных до сих пор научных работ принадлежит «чиновникам от науки»...

«А судьи кто?» Если Кювье ошибся в оценке «Философии зоологии» Ламарка, то неужели заведующий «Государственным издательством» и его коллеги такие гении, что безошибочно сумеют решить: что научно, что ненаучно, что заслуживает общественного внимания, что нет, что должно. Мне несколько неловко за тех «смельчаков», которые берут на себя такую претензию. В двадцатом веке она выглядит довольно странно...»

У лісце П.Сарокіна адлюстравана асаблівасць дарэвалюцыйнай інтэлігенцыі — яе гуманітарная адукаванасць. Яна зусім не мела сваёй перадумовай адукацыю на гістарычным ці філалагічным

---

[1] Approbatio — (латинское) одобрение.

[2] «Катэхізіс» Філарэта — дапаможнік элементарнага навучання веры Хрыста, складзены маскоўскім мітрапалітам Філарэтам (1783-1867) у 1823 годзе і абавязковы для ўсіх праваслаўных. «Азбука камунізма» — дапаможнік, складзены М.Бухарыным. Папулярнае выданне накшталт катэхізіса ў хрысціян.

факульцеце ўніверсітэта. Быў бы рады, калі б хто з чытачоў без падказкі энцыклапедыі ведаў, хто такія Кюў'е і Лямарк, аўтар «Катэхізіса» Філарэт...

Зноў вернемся да сюжэта высылкі навукоўцаў з Савецкай краіны ў 1922 годзе. З ёю ўзнік надта небяспечны прэцэдэнт дзяржаўнай забароны на навуковае і філасофскае іншадумства. Галіна сацыяльных ведаў была вельмі хутка адасобленая ад ведаў «адцягненых і дастасоўных» і стала манапольным аб'ектам вывучэння ў асобнай арганізацыйнай структуры, якую назвалі «Сацыялістычнай» (з 1924 г. «Камуністычнай») акадэміяй. На яе ўскладалася распрацоўка грамадскіх навук «з сацыялістычнага пункту погляду». Ужо на пачатку 1919 года прадстаўнікі гэтай групы патрабавалі ад прафесуры Маскоўскага ўніверсітэта зліцця гэтых дзвюх устаноў. Прафесар Ю.В.Гацье[1] запісаў у сваім дзённіку 20 лютага (5 сакавіка) 1919 года: «таков смысл всей реформы: озлобленные неудачники, ничтожества, преисполненные самообольщения, желают распоряжаться судьбами Московского университета».

На рубяжы 20-30-х гадоў з «вялікім пераломам» пачалася вакханалія «гатавання» «контррэвалюцыянераў» з мэтаю рэалізацыі сталінскіх людажэрных палітычных планаў. Палітычныя суды таго часу — старанна падрыхтаваныя спектаклі.

Што гэтаму паспрыяла? У трагічных падзеях гісторыі сутыкаліся тэндэнцыі надта неаднародных сацыяльных групаў з розным роўнем адукацыі, маралі, свядомасці і з розным уяўленнем пра грамадзянскі абавязак. Ішоў бесперапынны працэс кружэння ўсё новых і новых пластоў грамадства. У ім нядаўнія пераможцы, якія святкавалі ў палітыцы, эканоміцы, культуры, навуцы, неўзабаве й самі станавіліся гнанымі, часта церпячы жорсткія рэпрэсіі. Усеагульная маральная дэфармацыя грамадскай свядомасці, абумоўленая грамадзянскай вайной, голадам, зруйнаваннем, наклала адбітак на шматлікія падзеі дзесяцігоддзяў, якія прыйшлі пазней, і на тых, хто ў іх удзельнічаў.

Дайшла чарга рэпрэсій і да навукоўцаў.

Пачалі з навукоўцаў-практыкаў. У гістарычнай навуцы імі былі краязнаўцы. Было разгромленае Беларускае краязнаўчае таварыства. Краязнаўцы на месцах утваралі асновы каранёвай культуры, чалавека, яго грамадзянскасці, маральнасці. Краязнаўцы перашкаджалі хлусіць, насаджваць міфы замест навуковых ведаў. Іхная праца была

---

[1] Аўтар працы «Замосковный край в XVII веке» (М., 1906), у якой асвятляў пытанні гвалтоўнага перасялення беларусаў пад час вайны 1654-1667 гг. на паўночны ўсход ад Масквы.

непазбежнай на фоне рэальных абставін пераходу ад 20-х да 30-х гадоў. Краязнаўцы даражылі маральнымі каштоўнасцямі. Яны спрабавалі захаваць правераныя часам асновы культуры, правінцыйныя сувязі, не даць магчымасці перапампаваць усё тое, што вызначалася, у сталіцу. Краязнаўства — гэта не толькі навука, але і інтэлектуальны, грамадскі рух. Краязнаўцы ўзгадоўвалі цікавасць да асобнага, непадобнага тады, калі насаджалася ўніфікацыя думкі і побыту. Вось чаму ім не было месца ў сталінскай мадэлі таталітарызму, і іх знішчылі[1].

У Сталіна была свая канцэпцыя кіравання ідэалогіяй. Яе сэнс вызначалі наступныя ўстаноўкі. Першай быў супраціў культуры ягонай краіны (зразумела — расейскай) культуры заходняй (якую абвясцілі буржуазнай наскрозь). Для чаго гэта рабілася? Каб ва ўмовах, што ўзніклі пасля супольнай з альянтамі перамогі над гітлерызмам, паставіць заслон на шляху духоўнага і культурнага збліжэння з народамі гэтых краін як надта небяспечнага для таталітарнага ладу мыслення.

Другой было далейшае самаўзвышэнне і самасцверджанне з дапамогаю пазанавуковых сродкаў уласнай асобы як найвышэйшага суддзі ва ўсіх пытаннях культуры, улучаючы навуку, дзеля таго каб запанавала аднолькавасць, аднастайнасць, абавязковае для ўсіх тлумачэнне з'яваў грамадства і прыроды, якое б знаходзілася пад кантролем партыйна-бюракратычнага апарату.

Пачаліся навуковыя паводле формы, але антынавуковыя паводле сутнасці дыскусіі. У Беларусі квінтэсэнцыя ўсіх гэтых дыскусій была змешчаная ў кнізе дырэктара Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР В.Шчарбакова «Класавая барацьба і гістарычная навука на Беларусі» (Менск, 1932).

У кнізе В.Шчарбакова можна знайсці суворую крытыку «перакручванняў» гісторыі з боку беларускіх нацыяналістаў, вялікадзяржаўных шавіністаў, бундаўскіх, сіяністцкіх, трацкісцкіх інтэрпрэтацый гісторыі. Можна сказаць, што гэтая кніга была юрыдычным абвінавачваннем асноўным кадрам гістарычнай навукі Беларусі. Сама цікавае, што яе змест амаль без зменаў характарыстык лёг у аснову аднаго з трох раздзелаў манаграфіі сучаснага гісторыка У.Міхнюка «Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии» (1919-1941 гг.) (Менск, 1985) з сімптаматычным назовам «Идейно-теоретическая борьба в исторической науке и становление ее марксистско-ленинской

---

[1] Гл. падрабязней пра гэта: Шмидт С.О. А Сталин краеведов не любил // Книжное обозрение. — 24 января 1992 г. — № 4. — С. 7.

методологии». А Шчарбакоў у кнізе характарызуецца як гісторык, які «ў гістарычнай навуцы займаў цвёрдыя партыйныя пазіцыі і актыўна змагаўся супраць апартунізму і перакручванняў марксізму-ленінізму»[1].

Той факт, што сам Шчарбакоў трапіў у косцедрабільны механізм той пякельнай машыны, часцінкай якой быў, і загінуў пад час рэпрэсій, нічога не мяняе.

Пасля Шчарбакова на полі ідэйнай барацьбы супраць «ворагаў» у гістарычнай навуцы Беларусі добра працавалі ягоныя ідэйныя пераемнікі К.Шабуня, Л.Абэцэдарскі, А.Залескі і іншыя.

У 8-м нумары часопіса «Большэвік Беларусі» за 1948 год былі надрукаваныя «Тэзісы аб асноўных пытаннях гісторыі БССР (частка першая)», складзеныя калектывам аўтараў на чале з К. Шабунем. Л. Абэцэдарскі, выкарыстаўшы «Тэзісы», развіў іх у тую сістэму, якая лепей за ўсё адлюстравалася ў ягонай брашуры «У святле неабвержных фактаў» (Менск, 1969). (Гэтая праца была перавыдадзеная па-расейску ў вядомым сваёй ідэалагічнай накіраванасцю і адначасова двухсэнсоўным назовам выданні ЦК КПБ «Дары данайцев» (Менск, 1987) як зброя для барацьбы супраць руху за незалежнасць і чалавечую годнасць.)

Потым надышлі часы, калі Л.Абэцэдарскі разам з В.Яфрэмавай, Я.Карнейчыкам, К.Шабунем даў адмоўную ацэнку «Нашай Ніве» ў № 5 «Коммуниста Белоруссии» за 1963 год, а пасля таго ён жа з іншымі паплечнікамі ў 1966 годзе выступіў супраць тэорыі беларускага характару Вялікага Княства Літоўскага. У 1974 годзе зноў жа супраць гэтай тэорыі выступалі І.Ігнаценка, З.Капыскі, а ў 1973 годзе быў забаронены сімпозіум па праблеме беларускага этнагенезу. Гэта знайшло сваё адлюстраванне ў дакладзе П.Машэрава на XIII пленуме ЦК КПБ «Аб далейшым павышэнні дзейснасці ідэйна-палітычнай работы ў святле рашэнняў XXIV з'езда КПСС». Першы сакратар ЦК КПБ наракаў на «адгалоскі пазакласавага аб'ектывізму» ў некаторых беларускіх гісторыкаў. Хапала яшчэ такіх выступаў, якія трымалі ў надзейных цуглях гуманітарныя веды Беларусі.

Ва ўсіх такіх дыскусіях і спрэчках культываваўся стыль «чорна-белага» мыслення. Адзін бок разглядаўся як «чорны», другі як «белы». Тых, каго далучалі да першага, трэба было ачарняць і выкрываць як ідэйных ворагаў. Тыя ж, хто выступаў у ролі выкрывальнікаў, былі апрыёрна правымі. Тым самым удзельнікі дыскусій пачаткова

---

[1] Михнюк В.Н. Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии (1919-1941 гг.). — Мінск, 1985. — С. 199.

ставіліся ў няроўнае становішча. Дачыненні між імі нагадвалі судзілішча, у якім адны гралі ролю абвінавачаных, другія — абвінаваўцаў. Становішча тых, хто трапіў у «чорны спіс», станавілася трагічным. Ім даводзілася або каяцца, або, захоўваючы свае перакананні, станавіцца ахвярамі дыскрымінацыі, адміністрацыйных рэпрэсій, што пазбаўляла кавалка хлеба.

Гэта толькі ў Італіі адзінаццаць прафесараў з тысячы двухсот пяцідзесяці знайшлі ў сабе мужнасць 8 кастрычніка 1931 года адмовіцца ад прысягі на вернасць фашысцкаму рэжыму. Ніхто з іх не быў арыштаваны, абмежаваліся толькі тым, што іх звольнілі з універсітэтаў[1]. Але яны маглі існаваць на даходы ад сваёй прыватнай маёмасці. Іхныя імёны зараз пералічваюцца ў школьных падручніках.

А што казаць пра савецкіх навукоўцаў, якія, як і іншыя месцічы ў савецкай бальшавіцкай імперыі, не мелі свайго ўласнага дома? Яны ж былі ў такім разе асуджаныя на галодную смерць. Ці ж не такое галоднае існаванне напаткала Міхаіла Зошчанку пасля ягонага асуджэння Ждановым?

Сучасніца падзей 1930-1980-х гадоў у гуманітарных навуках літаратуразнавец з Пецярбурга Лідзія Гінзбург пісала, што ў гэтых умовах «гуманитарная интеллигенция, занятая собою, самонадеянная и безрассудная, думала смутно: так себе, неотесанные парни... (пра тых, хто яе граміў у 1949 г. — В.Г.). А там шла между ними своя внутренняя жизнь — к ней никто не считал нужным присмотреться — исполненная злобы и вожделений. Интеллигенты думали сквозь туман: ну, при всей неотесанности, они не могут не понимать, что науку делают образованные люди. Эту аксиому пришлось как-нибудь признать.

Доверие к непризнанной аксиоме погубило многих. Своевременно не угадавших, что люди 49-го не были самотеком, но людьми системы, которая, включив гуманитарию в свой идеологический механизм, меньше всего нуждается в ее научной продукции.

(...). Люди фланировали над бездной, кишевшей придавленными самолюбиями. Пробил час — они вышли из бездны. Проработчики жили рядом, но все их увидели впервые — осатаневших, обезумевших от комплекса неполноценности, от зависти к профессорским красным мебелям и машинам, от ненависти к интеллектуализму, от мстительного восторга... увидели вырвавшихся, дорвавшихся, растоптавших»[2].

---

[1] Кин Ц.И. Мифы, реальность, литература. Итальянские заметки. — М., 1968. — С. 147.

[2] Гинзбург Л. Претворение опыта. — Рига: Авотс; Л.: Новая литература, 1991. — С. 138-139.

Міжволі напрошваецца параўнанне «навуковых» дыскусіяў сталінскіх часоў з «тэхнікай» арганізацыі працэсаў, на якіх тым, каго падазравалі ў палітычнай нелаяльнасці, інкрымінаваліся шкодніцтва, шпіянаж, тэрарыстычныя акты. Уся розніца ў тым, што «тэхніка» пераносілася з падвалаў НКВД у сферу дачыненняў між навукоўцамі.

## МАРАЛЬНЫЯ ВЫНІКІ РЭПРЭСІЙ

*Юрий Олеша стал бояться не лжи, а неприятностей.*

*Он пересматривал концепцию не потому, что она была ложной, но потому, что она становилась опасной.*

*Истина в эти годы как-то сразу перестала интересовать Юрия Олешу, если из-за нее могли быть неприятности. Такая истина была плохой, вредной и никому не нужной, с ней просто не стоило связываться.*

А.Белинков

Глыбокую душэўную траўму нанёс «розум, гонар и сумленне эпохі» савецкаму народу і ў тым ліку навукоўцам. У іх з'явіліся спецыфічныя, «савецкія» рысы, якія саветолаг А.Аўтарханаў пералічвае ў сваёй працы «Імперыя Крамля»:

— абсалютная апатыя да духоўных пошукаў,

— атрафія ўсялякага грамадзянскага пачуцця і грамадзянскай годнасці,

— панічная прыхільнасць да страху перад начальствам,

— рабская пакора самым дзікім актам самавольства рэжыму,

— геніяльная палітычная крывадушнасць і мэтанакіраваная хлусня як сродак самазахавання,

— абагаўленне ўласных катаў як вялікіх мудрацоў, асуджэнне іхных ахвяраў як вылюдкаў роду чалавечага.

Гэтыя рысы нарадзілі масавую псіхалогію маўклівых рабоў[1]. Рабоў у жыцці, у палітыцы, навуцы, у тым ліку і ў гістарычнай навуцы.

Фальшывае разуменне самабытнасці расейскай навукі, якое адлюстроўвала сталінскія ўстаноўкі, спрычынялася да надта небяспечнага адрыву яе ад сусветнай навукі.

Ідэі марксізму набывалі дагматызаваныя формы. Асноўная бяда яго, паводле меркавання польскага тэарэтыка гісторыі Е.Тапольскага, у тым, што Маркс быў інтэрпрэтаваны па-пазітывісцку, у рамках канцэпцыі стадый гістарычнага развіцця. Ягоныя паслядоўнікі ўзялі з канцэпцыі Маркса толькі тое, што датычыла ідэалогіі. Але канцэпцыя Маркса глыбейшая за ідэалогію. Яна была глабальнай, бо амаль уся

---

[1] Авторханов А. Империя Кремля // Дружба народов. — 1991. — № 5. С. 214. Гл. Таксама: Афанасьев Ю.Н. Феномен советской историографии // Советская историография. — М.: РГГУ, 1996. — С. 7-41.

гістарыяграфія XX стагоддзя дапаўняла або карэктавала яе. Без Маркса не было філасофіі гісторыі ані нямецкага гісторыёсафа Макса Вэбэра, ані славутых французскіх тэарэтыкаў гістарычных ведаў Марка Блока і Люсьена Фэўра[1].

Але навуковая гісторыя, як было даведзена вышэй, не можа быць працягам ідэалогіі. Пераўтварэнне марксісцкай навукі ў дзяржаўную канцэпцыю было для яе згубным. У шматлікіх сацыялістычных краінах гэта прывяло да страты агульнай мовы з сусветнай гістарыяграфіяй. Да гістарычных ды іншых гуманітарных ведаў цалкам можна аднесці тое, што сказаў А.Камю пра літаратуру: «У краінах з таталітарным рэжымам літаратура гіне не толькі з прычыны, што яна адрэзана ад іншых літаратур. Кожны мастак, ад якога хаваюць рэальнасць ва ўсёй паўніні, становіцца калекам»[2].

Дагматызацыя марксізму вяла да таго, што ягоныя дагматызаваныя формы былі няздольнымі прадуктыўна ўздзейнічаць на творчую актыўнасць навукоўцаў, бо паралізавалі яе пагрозай адступлення ад прадпісанняў і заклінанняў «папоў марксісцкага прыходу» — партыйных функцыянераў, якія вызначалі, што пісаць і як пісаць.

Л.Гинзбург наконт гэтага піша: «В XX веке наука о поведении любила орудовать механизмами... В данном случае работает простой социальный механизм, хотя иногда и дающий довольно сложные психологические последствия. От гуманитарных деятельностей хотели отнюдь не их существа, но совсем другого. И соответственно поручали их людям, приспособленным к другому и полностью неспособным, а потому полностью равнодушным к выполняемому. Это непреложный закон, ибо способные непременно внесли бы в дело нежелательную заинтересованность по существу. Талант — это самоотверженность и упрямство. Так бездарность стала фактом огромного, принципиального общественного значения.

Но тут начинается драма этих людей и, уж конечно, тех, кто попадется им на дороге. Самодовольство — чаще всего только оболочка. Усилия удержаться (чтобы не заменили случайно умеющими) — это непрерывное зло и обман, от больших преступлений до малых бессовестностей.

Но механизм применения неподходящих втягивает всех — обыкновенных людей, хороших людей, к какому-то делу способных. Он прежде всего умерщвляет в них волю к продуктивному труду, тем

[1] Цыт. па: И.В.Будцын, А.С.Макаров. Новые работы Ежи Топольского // Вопросы истории. — 1991. № 12. — С. 230-231.
[2] Камю А. Записные книжки // Иностранная литература. — 1992. — № 1. — С. 184.

самым и совесть. Как знать, может быть, бездарные молодые поэты могли бы стать настоящими рабочими, инженерами, летчиками, моряками»[1].

На працягу дзесяцігоддзяў адбывалася зрастанне афіцыйных гісторыкаў з апаратам партыйна-бюракратычнага кантролю і задушэння. Служба ў гэтым апараце адкрывала шлях да акадэмічных званняў і высокіх пасадаў з усімі прывілеямі, якія звычайна грамадства дае тым, хто ўзбагаціў навуку выдатнымі адкрыццямі. З апалагетаў бальшавізму складваліся аддзяленні грамадскіх навук акадэмій навук.

Так, сакратар ЦК КПБ Ц.Гарбуноў быў прызначаны акадэмікам і нават акадэмікам-сакратаром аддзялення грамадскіх навук Акадэміі навук БССР. Да пераходу ў Інстытут гісторыі АН БССР загадваў ідэалагічным аддзелам ЦК КПБ К.Шабуня, які быў абраны членам-карэспандэнтам акадэміі. Інстытут гісторыі камуністычнай партыі Беларусі ўвесь час быў па сутнасці аддзелам ці філіялам аддзела ЦК КПБ.

Сярод членаў Акадэміі навук СССР апынуліся спачатку начальнік Упраўлення агітацыі і прапаганды ЦК ВКП(б) Г.Аляксандраў, потым ягоныя намеснікі М.Іаўчук (які ў канцы 40-х гадоў быў другім сакратаром ЦК КПБ) і П.М.Федасееў. Іхнае членства ў акадэміі было нечаканасцю. Ні адзін, ні другі намеснік навуковымі працамі не праславіліся. Пасля персанальных непрыемнасцяў Г.Аляксандрава накіравалі ў ганаровую ссылку — прафесарам філасофіі Беларускага ўніверсітэта. Аднойчы, дзеля цікавасці, я хадзіў на адну з ягоных лекцый. Эрудыцыяй і красамоўствам, як я памятаю, лектар не вызначаўся.

Традыцыя фармавання корпуса акадэмікаў філосафаў і гісторыкаў з ліку партыйных функцыянераў была прадоўжаная і ў апошнія годы. Узнікла кагорта дзеячоў, якія, запоўніўшы мноства кафедраў і ўстановаў, стварылі службу ідэалагічнай паліцыі, закліканую выконваць прадпісанні кіраўнікоў камуністычнай партыі.

Псіхолаг М.Ярашэўскі адзначае, што ў навуковай псіхалогіі выпрацавалася панятце пра «мысленне комплексамі» як пра адну з прымітыўных формаў разумовай дзейнасці. Рэгрэсіяй да гэтай формы адзначаныя развагі ўдзельнікаў псеўданавуковых дыскусій сталінскага перыяду і наступных уяўна дэсталінізатарскага перыяду Хрушчова і рэсталінізатарскага перыяду Суслава.

У гэтай форме разумовай дзейнасці ў комплексе зліваюцца ў дыфузнае эмацыйна афарбаванае цэлае прыкметы, сувязь якіх пазбаўлена рацыянальна прадуманай асновы.

---

[1] Гинзбург Л. Претворение опыта. — Рига, 1991. — С. 144-145.

Такімі комплексамі былі прасякнутыя і пісьмовыя тэксты, і вусныя выступы гісторыкаў таталітарнай эпохі. Комплекс гэты складваўся з ланцужка: навуковая канцэпцыя — філасофская падкладка — ідэалагічны сэнс — простая палітычная накіраванасць. Адны комплексы ацэньваліся як шкодныя, іншыя неслі знак бязгрэшнасці і добранадзейнасці[1].

У кнізе В.Шчарбакова «Класавая барацьба і гістарычная навука на Беларусі» (Менск, 1932) і ў працах ідэйных паслядоўнікаў Шчарбакова — І. Лочмеля «Очерки истории борьбы белорусского народа против польских панов» (М., 1940), К.Шабуні «Тэзісы аб асноўных пытаннях гісторыі БССР» (Большэвік Беларусі. 1948. № 8. С.36-72), Л.Абэцэдарскага, Н.Каменскай, І. Ігнаценкі, У. Міхнюка ды іншых — знак шкоды навешваўся на «нацыяналістычную» гістарыяграфію, а «знак якасці» — на марксісцка-ленінскае вучэнне. Пры гэтым парадаксальна, што тыя, хто называў сябе гісторыкамі-марксістамі, катэгарычна адпрэчвалі шматлікія прынцыповыя працы К.Маркса, Ф.Энгельса, У.Леніна з упамінаннем гісторыі Беларусі і гісторыі нацыянальнага пытання, якія беспасярэдне датычылі гісторыі царскай Расеі і пакарэння ёю іншых народаў.

Цікава было б раней выдаць падборку гэтых працаў Маркса, Энгельса, Леніна ці вытрымак з іх пад назовам «Беларуская марксіяна-ленініяна» (накшталт «Бразільскай бахіяны» Э.Віла-Лобаса). Але сёння такая задумка здаецца ўжо неактуальнай.

Мысленне комплексамі спалучалася з вобразам ворага. Галоўным жа ворагам для гісторыкаў ды іншых байцоў (а дакладней, стралкоў) ідэалагічнага фронту ў Беларусі быў беларускі нацыяналізм.

Гісторыкаў Беларусі прызвычаілі да таго, што калі яны набралі пэўную колькасць фактаў і далі ім абагульненне («обобщение»), дык гэта і ёсць сапраўдная навука. Але ніхто з іх не звярнуў увагі на адсутнасць тэорыі і методыкі гістарыяграфічнага (у тым ліку крыніцазнаўчага) даследвання. А без яго немагчымы якасны рух наперад. Пакаленні гісторыкаў выхоўваліся без абавязковай для іх веды тэорыі і методыкі прафесійнай працы.

І гэта нягледзячы на тое, што заснавальнік вышэйшай гістарычнай адукацыі ў Беларусі У.Пічэта ў 20-х гадах, як значна пазней ягоны вучань М.Улашчык у 70-х гадах, распрацоўвалі пытанні апісальнага крыніцазнаўства і гістарыяграфіі! Праўду кажучы, А.Ігнаценка (1965) у Беларускім універсітэце працягнуў працу

[1] Ярошевский М.Г. Сталинизм и судьба советской науки // Репрессированная наука. — Л., 1991. — С. 30.

У.Пічэты, але ў ягоным дапаможніку па крыніцазнаўстве і гістарыяграфіі, на жаль, няма сучаснай класіфікацыі крыніц, а з гістарычных працаў адвольна адабраныя толькі асобныя працы на расейскай і беларускай мовах, што не дало магчымасці аўтару адлюстраваць хоць бы на прыкладах усё багацце і разнастайнасць гістарыяграфіі Беларусі.

Галоўнаю ўмоваю і адначасова асноўным механізмам рэпрэсаванай навукі і навукоўцаў было адзяржаўленне і падпарадкаванне навукі дыктату акадэмій, у нашым выпадку Акадэміі навук БССР. Галоўнай зброяй дзяржаўнага кантролю была ўсеабдымная ідэалагізацыя і палітызацыя навукі. Галоўнай задачай рэпрэсаванай навукі было прывядзенне навуковай супольнасці да адзінадумства. Пры гэтым выкарыстоўваліся: кантроль над тэматыкай навуковых даследванняў і планаванне навукова-даследчай работы, потым знішчэнне шляхоў распаўсюджвання «іншай думкі» — «вертыкальных», г. зн. змена праграмаў выкладання ў ВНУ і планаў падрыхтоўкі аспірантаў, «гарызантальных», г. зн. змена складу рэдкалегій часопісаў і выдавецтваў. І нарэшце, звальненне супрацоўнікаў і закрыццё (рэарганізацыя) навуковых установаў.

Выкарыстоўваўся фетышызаваны аўтарытэт «карыфея навукі» ў якасці аднаго з асноўных відаў зброі задушэння. Характэрным было змяненне зместу аргументаў, якія ўжывалі для «навуковай» крытыкі іншадумцаў. Спасылка на «скажэнне ідэяў заснавальніка», застаючыся па форме апеляцыяй да «класіка», па сутнасці пераўтваралася ў апеляцыю да «гарадавога» — данос аб палітычнай нядобранадзейнасці.

Адстойванне ідэяў «карыфея» набывала не навуковы, а палітычны характар. Пры гэтым не выконвалася правіла «Не капай іншаму яму, сам трапіш у яе». Навуковец, які пераступаў цераз нормы навуковай і агульначалавечай этыкі, не быў застрахаваны ад таго, што ў дачыненні да яго гэтыя нормы таксама не будуць захоўвацца.

Так склаўся таталітарны ленінскі, сталінскі і пасляcталінскі спосаб кіравання ўсімі грамадскімі працэсамі, які стаў праекцыяй стэрэатыпу, што вызначаў кожныя іншыя палітычныя рашэнні таталітарнай эпохі. Вынікам гэтага стала глабальная дэфармацыя маральных асноваў навуковай супольнасці.

Вернемся да трапных характарыстык Л.Гінзбург, якая магла назіраць гэтакае становішча ў Ленінградзе:

«Люди большого напора, направленные вовне (экстраверты), направленные на овладение и властвование, неотвратимо влеклись в стан побеждающих. Тщеславие, честолюбие, потребность в комфорте,

разные другие свойства определяли градации поведения. Решающим определителем была также бездарность, потому что бездарность порождала безоглядность. Только талантливые люди могли крутиться так, чтобы сквозь формулу у них просвечивала какая-то суть. Крутились вокруг нее, во всяком случае, все пытавшиеся осуществиться. Это было первичным условием, а градацию можно было выбрать. Очень важно. Градация определяла ценность осуществляемого и цену вознаграждения — от жирного пирога до пайка нищеты»[1].

Як лічыць гісторык навукі М.Крамянцоў, шырока распаўсюджаны міф аб правядзенні рэпрэсій выключна па ўказцы «зверху» павінны быць адкінуты[2]. Указанні і ўхваленні цэнтральным апаратам часта спадарожнічалі, а не папярэднічалі ініцыятыве «знізу».

Маштабныя рэпрэсіі, як і ўсе іншыя сацыяльна значныя захады, заўсёды абапіраюцца на інтарэсы пэўнай дастаткова шырокай групы асобаў, а часта і натхняюцца ёю. Пры гэтым кожны ўдзельнік рэпрэсіўных падзеяў, як правіла, дбае пра ўласную, часта вельмі карыслівую мэту (пасада, званне, прэмія і г.д.)[3].

Замест навуковых школаў узнікалі кланы. Рабілася гэта пры падтрымцы партыйнага апарату. Захоплівалася адміністрацыйная ўлада ў навуковых установах. Напрыклад, на пасадах дырэктараў інстытутаў гісторыі Акадэміі навук БССР і гісторыі КПБ мяняліся жонка намесніка старшыні Савета Міністраў БССР і былы гарадскі пракурор у 1948-1950 гадах (а потым сакратар гаркама партыі ў 1958-1960 гадах)[4].

«Рэспубліка навукоўцаў» ператваралася ў феадальна-бюракратычную структуру з няспыннымі звадкамі, інтрыгамі, барацьбою за лепшае месца ў навуковай герархіі, за званне члена-карэспандэнта ці акадэміка.

Калі б дыскутавалі па прынцыповых пытаннях, то гэта можна было б зразумець, але проста сварыліся, нібыта на камунальнай кухні

---

[1] Гинзбург Л. Претворение опыта. — Рига, 1991. — С. 190.

[2] Кременцов М.Л. От сельского хозяйства до ... медицины // Репрессированная наука. — Л., 1991. — С. 101.

[3] У атмасферы агульнага маральнага заняпаду руйнаваліся такія формы арганізацыі супольнай працы і ўзгадавання талентаў, як навуковыя школы. Прыклад: вучань У.Пічэты М.Улашчык змог працаваць пад навуковым кіраўніцтвам свайго былога выкладчыка па Беларускім універсітэце толькі тады, калі абодва пасля рэпрэсій сустрэліся ў фактычнай эміграцыі з Беларусі — у Маскве. У Менску ім не дадзена было супрацоўнічаць.

[4] Н.В.Каменская (1913-1986) і І.М.Ігнаценка (нар. 1919).

— з палітычнымі абвінавачваннямі, абавязковымі скаргамі ў ЦК КПБ і ў іншыя камітэты.

З'явілася процьма кандыдатаў і дактароў гістарычных навук, якія абаранілі дысертацыі па такіх, напрыклад, тэмах, як «Укрепление и развитие совхозов. Из опыта Компартии Белоруссии по руководству совхозным строительством», «Партийные организации села. Направления, формы и методы работы», «Движущая сила коммунистического строительства», «Социалистическое соревнование ИТР и служащих», «Демократические принципы и общественные начала в работе Советов. На материалах Белоруссии (1961-1984 гг.)», «Повышение роли первичных организаций партии. На материалах Компартии Белоруссии», «Действенность партийного контроля. Из опыта работы Компартии Белоруссии» і г.д.[1]

І вось за такія рытуальныя заклінанні, нібыта пры скоках вакол шаманскага вогнішча, даваліся навуковыя ступені. Першым жа, хто ў Беларусі асудзіў гэта, быў не гісторык. Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч разглядзеў кнігу У.Міхнюка і П.Петрыкава «Историческая наука Белорусской ССР: 80-е годы» і знайшоў там, што «крупные актуальные проблемы истории Советской Белоруссии и Компартии республики после XXVI съезда КПСС исследованы в 13 докторских диссертациях»[2].

Галоўную бяду гэтых дысертацый Н.Гілевіч убачыў у спекулятыўным падыходзе, «які ёсць не што іншае, як прафанацыя гістарычнай навукі...» Бо тэмы такіх дысертацый, якія, як правіла, выдаваліся ў выглядзе манаграфій, былі, паводле ягонага меркавання, «звычайнымі тэмамі звычайных рабочых дакладаў на пасяджанні гарсавета ці, можа, нават і Саўміна... Але — прычым жа тут навука гісторыя?.. Ну, гэта ўжо як хто разумее. «Отметим, — чытаеш далей (піша Н. Гілевіч, цытуючы згаданую вышэй кнігу «Историческая наука Белорусской ССР»), — что эти труды в полном соответствии с требованиями ВАК СССР являются самостоятельными исследованиями, в которых осуществлено теоретическое обобщение и решение крупных проблем исторической науки». Так што — ніякіх жартаў».

Горкую выснову зрабіў Н.Гілевіч з гэтага: «Такія пісаліся даследванні, такія рыхтаваліся кадры вучоных. На вачах усяго

[1] Цыт. па Михнюк В.Н., Петриков П.Т. Историческая наука Белорусской ССР. 80-е годы. — Минск, 1987. — С. 84 ды інш.

[2] Тамсама. С. 105.

грамадства, на ўзроўні здзеку не толькі з навукі, але і з усякага здаровага сэнсу, ішла прафанацыя навуковай дзейнасці»[1].

Сорамна за сябе, за іншых гісторыкаў, якія не страцілі прафесійнага сумлення, за тое, што мы не адважыліся сказаць гэтакае[2], сказаць, што кароль голы. Не сказалі дзеля боязі. І апраўданнем ня можа быць тое, што мы рабілі так, як казаў некаторым з нас старэйшы сябар Аляксей Анішчык, які паспытаў сталінскага лагера. Ён казаў, што не трэба чапаць таго, чаго не патрэбна, а трэба рабіць сваю нефантомную навуку, простую, будзённую, чорную, неўдзячную працу — падмурак для адраджэння гуманітарнай навукі і культуры, якую можа рабіць той, хто пазбегне размолу ў шасцярэньках таталітарнай рэпрэсіўнай машыны.

Дарэчы, і легенду пра Стахора Мітковіча як нібыта правадыра класавай барацьбы магілеўскіх месцічаў першым зняпраўдзіў не гісторык, а пісьменнік Максім Лужанін.

Акадэмік Ю.Рыжоў сказаў, што «на працягу дзесяцігоддзяў мы мелі (і ў значнай частцы маем сёння) безынтэлектульнае, паўпісьменнае кіраўніцтва з комплексам непаўнавартасці — і таму з пагардаю да інтэлекту. Інтэлект не запатрабуецца кіраўніцтвам, а ўслед і грамадствам»[3].

Тое, што замест дыскусіі, як неадлучнай ад вытворчасці ведаў формы творчых дачыненняў, навуковую супольнасць запаланілі псеўдадыскусіі — судзілішчы для расправы з іншадумцамі, спусташала кадравы патэнцыял навукі, тармазіла яе прагрэс, разбэшчвала маладыя розумы. Жудасную шкоду зрабілі не толькі тэорыі і методыцы гістарычнай навукі, але і педагагічнай практыцы. Таму гісторыя Беларусі была бязмежна засацыялагізаваная, падпарадкаваная шматслоўным апрыёрным схемам, пры якіх рэальныя факты знікалі за сфальшываным, але быццам раз назаўсёды пастаўленым фасадам. Гэтым былі зведзеныя на нішто тыя кнігі з гісторыі Беларусі, у якіх рабіліся спробы разгледзець мінулае рознабакова, бо іхных аўтараў абвінавачвалі ў «нацдэмаўшчыне» ці «нацыяналістычных ухілах».

---

[1] Гілевіч Н. Між былым і мінулым // Літаратура і мастацтва. — 6 кастрычніка 1989 г. — С. 12.

[2] Праўда, супраць асобных праяваў гэтай прафанацыі ўздымалі голас Мікола Ўлашчык, Мікола Алексютовіч, а таксама Анатоль Грыцкевіч, Мікола Ермаловіч, Генадзь Кісялёў, Адам Мальдзіс, Арсень Ліс і некаторыя іншыя.

[3] Цыт. па: Щеглова Е. Так о чем же нам рассказывала деревенская проза? Размышления о национальной и нравственной природе художественного явления // Нева. — 1991. — № 10. — С. 184.

Дэфармаванымі сталіся ўсе прынцыпы нармальнай дзейнасці навуковай супольнасці. Яна ж здольная паспяхова функцыянаваць толькі пры перадачы ад пакалення да пакалення непарушных каштоўнасцяў, якія ствараюць каранёвую сістэму навуковай творчасці. У склад гэтых каштоўнасцяў уваходзяць незалежнасць ад ідэалагічных стэрэатыпаў, пошук ісціны, «дыялагізм» як гутарка розумаў, якія не атручаныя бояззю ўлады (у супрацьлегласць «маналагізму» — дыктату аднаго «голасу» і ягоных падпявалаў).

Можна пагадзіцца з гісторыкам навукі Э. І. Калчынскім, які сцвярджае, што:

• недапушчальная манапалізацыя якой-небудзь адзінай філасофскай сістэмы,

• навука павінна быць свабодная ад адміністрацыйных метадаў кіравання,

• навука адзіная, яна не дзеліцца па класах, краінах ці нацыянальнасцях,

• усялякая спроба надаць дыскусіі палітычны характар сведчыць пра слабасць навуковай аргументацыі,

• актыўная прапаганда практычнай значнасці сваіх даследванняў, як правіла, зыходзіць ад тых, хто не мае тэарэтычных і фактычных доказаў сваіх пабудоваў,

• значнасць той ці іншай навуковай канцэпцыі даказваецца не ў нутраных дыскусіях, а ў шырокай апрабацыі яе на сусветным рынку навуковых ідэяў і канцэпцый[1].

А як жа зараз быць тым, хто вылучыўся ў гістарычнай навуцы Беларусі ў выніку трывалага яе рэпрэсавання, усплыў на паверхню афіцыйнага навуковага істэблішмэнту па заслугах не ў даследчай працы (маецца на ўвазе сапраўдная даследніцкая праца свабоднага мыслення) — як жа ім зараз даводзіцца?

Аб іх можна сказаць тымі словамі, якімі Аркадзь Белінкоў яшчэ ў 1969-1971 гадах сказаў пра Юрыя Алешу, што той «атрымаў апраменьванне хуткабежнымі канцэпцыямі, якія яшчэ за пяць хвілін да сваёй пагібелі лічыліся вечнымі, непарушнымі, напахіснымі, бясспрэчнымі.

Калі б ён ведаў, што на свеце ўсё так хутка змяняецца!

Я ўпэўнены, што калі б ён (і не адзін ён!) гэта ведаў, то ніколі б так не рабіў. Але ці ж людзі здольныя прадбачыць, каго заўтра будуць хваліць, каго ганіць»?[1]

---

[1] Колчинский Э.И. Несостоявшийся «союз» философии и биологии (20-30-е гг.) // Репрессированная наука. — Л., 1991. — С. 65.

Здаецца, што памянёных гісторыкаў можна толькі пашкадаваць за зроблены імі выбар між дабром і ліхам. І раней іхная навуковая творчасць мела попыт не ў шырокага чытача, а ў ідэалагічных супрацоўнікаў ЦК КПБ. Канкрэтныя чытачы, бадай, і не цікавілі аўтараў, якія стваралі дысертацыі і кнігі, поўныя маны. Ці не пра гэта пісала Л.Гінзбург: «В психологическом выражении — жизнь на два душевных дома, и переживается она не как дурное — лицемерие, обман, а как своего рода правила игры в двух разных играх. Когда-то, помню, это поразило меня при общении с молодыми писателями 30-х годов (мы были воспитаны иначе). Они же вовсе не чувствовали себя обманщиками. Они просто знали, что литература — это такая область, вступая в которую, нужно врать. Это было свойством, профессиональной принадлежностью данного рода деятельности. Позднее появилась теория, что в официальной сфере моральные нормы заранее сняты (такое условие), а для частной жизни они остаются. Теория эта должна была помочь жить и выжить.

Не помогла»[2].

Зусім не дзіўна, што гэтыя гісторыкі не зважалі на крытыку на іхны адрас са старонак «ЛіМа», «Полымя», «Советского славяноведения», кнігі «З гісторыяй на «Вы». (Яны трывала сядзяць на сваіх пасадах. І будуць трымацца, пакуль існуе стары апарат улады.) Бо калі б яны паспрабавалі нешта абгрунтавана адказаць (падкрэсліваю — абгрунтавана, зыходзячы з аналізу, а не падбору крыніц, не на загадзя зададзеных умовах), то адразу адкрылася б іхная прафесійная непадрыхтаванасць, некарэктныя спасылкі на тыя даследванні, што ляжаць у аснове іхных поглядаў, ці ў лепшым выпадку адзінкавых і штучна адабраных і старанна прэпараваных цытат з адзінкавых крыніцаў, інфармацыя якіх не адпавядае інфармацыі комплексаў іншых крыніцаў.

Можна прадбачыць і проста перакручванне фактаў (дарэчы, даволі традыцыйнае для камуністычнае прапаганды), прыпісванне апанентам таго, чаго яны не казалі, і іншыя элементы з набору сафістычных «аргументаў».

Дарэчы тут працытаваць словы статыстыка Ф.Гальтана, якія прыводзіць Піцірым Сарокін: «Наша раса застаецца сутнасна рабскай. Паводле сваёй прыроды мы схільныя слепа верыць у тое, што любім, а не ў тое, што найбольш ісціннае. Прыпадабняючыся дзікунам, якія ўжываюць зброю, калі місіянер разбівае іхныя фетышы, мы

---

[1] Белинков А. «Другие были еще хуже...» // Юность. — 1992. — № 2. — С. 79.
[2] Гинзбург Л. Претворение опыта. — Рига, 1991. — С. 193.

абураемся, калі іншыя даследуюць нашых ідалаў і беспакарана крытыкуюць іх. Шчаслівыя тыя, хто з дзяцінства прывучаецца да думкі, што навуковае даследванне можа быць абсалютна свабодным, не будучы непачцівым, што павага да ісціны ёсць бацькам свабодных доследаў, а фальсіфікацыя ісціны — найвялікшы смяротны грэх».

Да гэтага П.Сарокін дадаў: «Па шляху гэтай фальсіфікацыі мы далёка зайшлі за гэтыя гады (1917-1922 гг. — В.Г.). Канчатковая ліквідацыя прыватных выдавецтваў — толькі далейшы крок у тым жа кірунку»[1].

Як падлічыў гісторык І.Шаўчук, у 1991 годзе ў Беларусі ў галіне гісторыі працавала больш за 1200 асобаў. Сярод іх 80 дактароў і 600 кандыдатаў навук. Блізу 90% дысертацый (а ў 1961-1987 гг. іх абаранілі 662 чалавекі) прысвечаныя савецкаму перыяду гісторыі Беларусі. Болей за 58% іх — гістарычна-партыйнай тэматыкі. Да таго ж цікава, што ў 70-х гадах 37% дысертацый разглядалі пытанні 7-8-й пяцігодак, каля 40% — розныя аспекты 7-8-й пяцігодак развіцця народнай гаспадаркі. З агульнай колькасці гісторыкаў рэспублікі гісторыкі КПСС колькасна пераважалі[2].

Ніхто не збіраецца цкаваць гэтых гісторыкаў нібыта «вядзьмарак». Але дзеля справядлівасці варта адзначыць, што «вядзьмарка» — гэта прывід, фантом у галаве перасьледніка. Паляўнічы на «вядзьмарак» мучыў нявінных. А ці ж можна назваць фантомам ці прывідам камуністычную ідэалогію?[3]

Пазбаўленыя неабходнасці канкураваць са сваімі апанентамі па прыкмеце ведаў і кампетэнтнасці, па вастрыні розуму і хуткасці рэагавання, па ўменні наладжваць зваротную сувязь з чытачамі і слухачамі і адчуваць іхныя жаданні, гэтакія гісторыкі былі па-за натуральным адборам. Таму яны, бадай, не канкурэнтаздольныя параўнальна з тымі, хто ўвесь час дасканаліў свае веды.

Відаць, нікому з гэтых гісторыкаў не сорамна за свае пісанні. Пачуцці віны і індывідуальнай адказнасці за тое, што яны рабілі, не выказваюцца публічна. Гэта ў той час, калі існуе рэальная адказнасць кожнага чалавека і калі ніякай адказнасці, апроч персанальнай, у грамадстве не існуе.

---

[1] «Повоюйте в меру возможности с цензурой...» Питирим Сорокин и конец свободомыслия в России // Час пик. — № 25. — 22 июня 1992 г. — С. 4.
[2] Шаўчук І. Гісторыя ці паслугачка? // Літаратура і мастацтва. — 12 красавіка 1991 г. — С. 5.
[3] Любарский Кр. Прав... Маркс // Новое время. — 1991. — № 52. — С. 6-10.

Больш за тое, некаторыя з ліку тых, хто ў мінулыя часы вадзіў рэй, спрабуюць рабіць выгляд, што вінаватыя не яны, а іншыя, што яны, не пакаяўшыся, ужо «перабудаваліся».

Мяркую, што варта прыгадаць цікавы пасаж былога дэкана гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта прафесара Пятра Шупляка:

«Хацелася б сказаць, што наўрад ці патрэбна цалкам адкідваць педагагічны і навуковы вопыт прафесара Л.С.Абэцэдарскага, легкадумна распаўсюджваць, карыстаючыся палітычнымі абставінамі, абразлівы выраз «абэцэдаршчына». Для таго каб выказаць тую сутнасць, якую падразумяваюць аўтары гэтага выразу, можна было б знайсці і іншыя прозвішчы (цікава, якія? — В.Г.). Між тым Л. С. Абэцэдарскі многа зрабіў для развіцця гістарычнага факультэта. Менавіта, дзякуючы яго намаганням была створана асобная кафедра беларускай гісторыі.

Не варта цяпер, у спрыяльных для нас умовах адназначна негатыўна ацэньваць тых нашых калег, якія самааддана працавалі на гістарычнай ніве, але не маглі, былі не ў стане процістаяць жорсткаму партыйна-дзяржаўнаму дыктату. Большасць з іх, будучы гісторыкамі па прызванню і сумленню, калі і не выступалі адкрыта, супраць гэтага дыктату, то лічылі за лепшае жыць і працаваць паводле прынцыпу так званай эміграцыі. У аўдыторыях яны перадавалі студэнтам сваё разуменне прынцыпу гуманізму і гістарызму, тым самым стваралі ўмовы для размякчэння антыгуманнага па сваёй сутнасці ладу і яго ідэалогіі, заснаванай у значнай ступені на скажэнні і фальсіфікацыі гісторыі. Яны падрыхтавалі новае пакаленне гісторыкаў, якія абапіраюцца на атрыманую сістэматычную гістарычную адукацыю, на ўспрынятае ад многіх выкладчыкаў і навукоўцаў імкненне да гістарычнага пошуку, на сваё сумленне і свядомасць. Сёння гэтае пакаленне ўзяло на сябе цяжкую працу па стварэнню сапраўды нацыянальнай гістарычнай адукацыі і навукі»[1].

Сапраўды, у перамогі сотня бацькоў, толькі параза — сірата[2]. Цікава, якое разуменне ды якога гуманізму перадавалі выкладчыкі гісторыі савецкага перыяду, калі распавядалі пра падзеі грамадзянскай

---

[1] Шупляк П. Гісторыя была і застаецца настаўніцкай жыцця (да 60-годдзя гістарычнага факультэта) // Беларускі гістарычны часопіс. — 1994. — № 1. — С. 5-6.

[2] Гэтае выказванне Графа Г.Чыяна, міністра замежных справаў Італіі пры Мусаліні (Oxford dictionary of quotations ed. by A. Partingten. — 4 th ed. — Oxford, 1992). Быў растраляны за тое, што прагаласаваў на Вялікай фашысцкай нарадзе за адстаўку «дучэ», дарма што за ягонае памілаванне хадайнічалі цёшча — жонка Мусаліні і жонка — дачка Мусаліні.

вайны, пра Слуцкі збройны чын, пра Беларускую Народную Рэспубліку, пра рэпрэсіі бальшавізму ўвогуле, пра замежную палітыку Савецкага Саюза і шмат пра што яшчэ?

А як лёгка мець заслугі — заснуй для сябе кафедру і ты ўжо апраўданы...

На маю думку, патрэбная верыфікацыя, гэта значыць пацверджанне кампетэнтнымі камісіямі адпаведнасці навуковых ступеняў і званняў гісторыкаў (а таксама іншых навукоўцаў гуманітарных навук) з улікам раскрыцця тэмаў іхных дысертацый ды іншых навуковых працаў і адпаведнасці іх роўню навукі, а не камуністычнай прапаганды[1]. Камісію добра было б стварыць з тых навукоўцаў, якія не пакваліліся на танны хлеб няпраўды. Гэта іхныя працы не прымалі выдавецтвы ці прымалі з цяжкасцямі, а выдавалі з купюрамі. Яны чыталіся і чытаюцца дасюль, не страціўшы сваёй вартасці пры крутой змене палітычнага курсу.

Вядома, што былыя супрацоўнікі кафедраў гісторыі КПСС, марксісцка-ленінскай філасофіі і эстэтыкі: палітэканоміі і навуковага камунізму, асноваў навуковага атэізму — дысцыплін, што не маюць аналагаў у цывілізаваных краінах, — пільна шукалі і, што самае небяспечнае, знайшлі месцы ў сістэме выкладання гісторыі і філасофіі ў беларускіх ВНУ. Нават былы сакратар ЦК КП РСФСР з навуковай ступенню І.І.Антановіч «упрыгожвае» кафедру адное з ВНУ[2]. Такія спецыялісты ўжо прычынілі вялікую шкоду маральнаму і разумоваму развіццю студэнтаў, прывучаючы іх да беспрынцыповасці, двудушнасці, дагматычнага мыслення, а таксама выконваючы функцыі ідэалагічнай паліцыі. Калі даць ім магчымасць працягваць выкладаць у ВНУ ці займацца навуковай працай на дзяржаўных пасадах, дык на справе аднаўлення гістарычнай навукі Беларусі адразу можна ставіць крыж.

---

[1] Гэта ж прапанаваў нядаўна гісторык і археолаг А.Краўцэвіч. Максімовіч С. Гісторыкі баяцца люстрацыі // Навіны. — 17.02.1999. — № 18. — С. 2.

[2] Адслужыўшы сваё на пасадзе міністра замежных справаў.

Што набывае чалавек, дзякуючы веданню гісторыі?

Ён можа:

— лепей зразумець свет, у якім жыве,

— атрымаць веды і ўменні, якія могуць уплываць на выбар уласнага месца ў грамадстве,

— сфармаваць у сабе ўласную пазіцыю наконт правядзення вольнага часу,

— паляпшаць сваю прафесійную падрыхтоўку незалежна ад таго, пра якую прафесію ідзе гаворка.

Веданне гісторыі дапамагае сфармаваць аналітычныя здольнасці, засвоіць службовую мову, якую ўжываюць сёння, зразумець сутнасць функцыянавання сучасных установаў эканамічнага, грамадскага, палітычнага жыцця.

Вось чаму пытанні спосабаў навучання гісторыі заўсёды застаюцца актуальнымі для кожнага, хто выкладае гісторыю ў вышэйшай ці сярэдняй навучальнай установе.

Разглядзім некаторыя прычыны крызісу ў гістарычнай навуцы і яе выкладанні, характэрныя для гісторыі ў сучасным грамадстве ўсяго свету.

Калі ў XIX стагоддзі гісторыя панавала над іншымі навукамі, то цяпер яна шукае натхненння ў сацыялогіі ці эканоміцы, якія развіваюцца дынамічней за яе.

Навукова-тэхнічныя дасягненні, вопыт дзвюх сусветных войнаў і панавання ў шэрагу краін свету таталітарных рэжымаў выклікалі расчараванне шырокіх масаў у магчымай прагнастычнай вартасці гісторыі. Вынікі гістарычных даследванняў ужо не маюць даўнейшага значэння. Часткова гэта адбылося таму, што гісторыкі, забяспечаныя старымі ўзорамі даследванняў, супакоеныя чытацкім поспехам (дзеля вялікага попыту на апавядальную гісторыю), кінулі з часам звяртаць увагу на тое, што рабілася па-за межамі, на тых участках, якія апрацоўвалі сацыёлагі, эканамісты і г.д.

Што гэтаму спрыяла? Факт асабістай зацікаўленасці гістарычнымі даследваннямі з боку палітычных колаў, якія добра зразумелі дастасоўнасць гісторыі да справы прапаганды. Маніпуляванне гісторыяй з боку тых, хто кіруе, а таксама нацiск шырокіх колаў, якія чакалі ад гісторыкаў абгрунтавання вышэйшасці ўласнага народа над іншымі, значна знізілі прэстыж музы гісторыі Кліо і сталі нагодаю для шматлікіх з'едлівых выразаў пра яе.

Спад грамадскага прэстыжу гістарычных ведаў таксама можа быць звязаны ў пэўнай ступені з закасцянеласцю школьнай мадэлі гістарычнай адукацыі. Гэтая мадэль была сфармаваная ў XIX стагоддзі.

Сёння яна часам выглядае анахранічна. Свет змяніўся, а мы па-старому спрабуем навучыць гісторыі так, як рабілі нашыя прадзеды. Гісторыя, якой навучаюць паводле старых узораў, страчвае шмат чаго са сваёй даўняй прыцягальнасці. Школьная гістарычная адукацыя патрабуе сёння грунтоўнай рэформы. У першую чаргу варта перагледзець мэты, змест і метады гістарычнай адукацыі.

XIX стагоддзе пакінула нам у спадчыну перакананне, што галоўнае ў навучанні гісторыі — высвятленне паходжання сучаснасці (а гэта значыць — паказу вучням крыніц і вытокаў актуальных у дадзены момант палітычных, культурных ды іншых дачыненняў). Такая праграма здаецца нам даволі вузкай. Яна не выкарыстоўвае ўсіх патэнцыйных дыдактычных вартасцяў, якія датычаць гісторыі. Яна збядняе як мэты, так і сутнасць і метады гістарычнай адукацыі. XX стагоддзе не шмат чаго змяніла ў гэтай галіне. Па-ранейшаму дамінуе гэтая генетычная выходная канцэптуальная схема ці парадыгма.

Пачатковым пунктам ўсялякіх разважанняў на тэму мэтаў навучання гісторыі можа стаць запытанне: што гэта значыць — вучыць ці вучыцца гісторыі? Першароўнем школьнай гісторыі ёсць гісторыя навуковая, а не публіцыстычная ці штодзённая (звычайная) гісторыя. Гэта мае значныя вынікі для дыдактыкі прадмета вывучэння. Школьная гісторыя мусіць трымацца правіл гістарычнай навукі, зразумела, у тым абсягу, у якім гэта магчыма ў школе.

Укаранілася перакананне, што навучанне гісторыі складаецца галоўным чынам з пераказвання вучням ведаў пра мінулае, пра гістарычныя падзеі. Гісторыю атаесамляюць тут з гістарычнымі ведамі. Такі спосаб разумення гісторыі адмоўна ўплывае на навучанне прадмета, бо надае яму надта аднабаковы, амаль чыста фактаграфічны характар.

Мне б хацелася выказацца за шырэйшае разуменне гісторыі і гістарычнай адукацыі. У паняцце «гістарычная навука» змяшчае не толькі збор фактаграфічных сцверджанняў рознага роўню ці нават абагульненняў, але таксама, а можа і перадусім, акрэсленую даследніцкую працэдуру, якую ўжываюць гісторыкі, і ўласцівы ім спосаб разумення грамадскіх з'яваў. Пры навучанні гісторыі нам трэба не толькі забяспечыць вучняў навуковымі ведамі пра мінулае, але таксама, а можа больш за ўсё, вучыць навуковаму гістарычнаму мысленню і знаёміць з элементарнымі даследніцкімі працэдурамі, якія даюць магчымасць пошуку праўды пра чалавека і грамадскі працэс.

Прыняцце такога гледзішча грунтоўна змяніла б цяперашні погляд на змест і характар школьнага навучання гісторыі. Аднабаковая арыентацыя на «фактаграфію», на эрудыцыю

абмежавала інтэлектуальныя каштоўнасці гістарычнай адукацыі, прывяла да значнага яе спрашчэння. Патрабуючы рабіць большы націск на развіццё гістарычнага мыслення вучняў, на азнаямленне іх прынамсі з некаторымі даследніцкімі працэдурамі гісторыі, мы не адмаўляем цалам патрабаванні пераказваць веды аб значных гістарычных падзеях і з'явах. «Грунтоўныя» гістарычныя веды, аднак, не могуць вычэрпваць мэты школьнага навучання гісторыі, якія павінны таксама ўлічваць шырокую гаму ўменняў, неабходных чалавеку для жыцця ў «свеце з гісторыяй», гэта значыць з гістарычнай культурай.

Мэты навучання гісторыі можна падзяліць на дзве катэгорыі: пачатковыя, ці асноўныя, да нейкай меры аўтаномныя, і другасныя, інструментальныя. Гэтыя назовы досыць умоўныя, і не варта надаваць ім надта вялікую вартасць. Мэты асноўныя, аўтаномныя навучаць моладзь жыць у «свеце з гісторыяй». Справа ідзе не пра падрыхтоўку ў школе гісторыкаў, а пра прышчапленне моладзі «гістарычнага пачуцця», пра падвядзенне саліднага падмурку пад яе гістарычную культуру і рацыянальную гістарычную сведамасць. Малады чалавек мае зараз магчымасць знаёміцца са шматлікімі сродкамі гістарычнай інфармацыі, няраз сутыкаецца з рознага роду няпраўдай і паўпраўдай, знаёміцца з гістарычнымі міфамі і легендамі. Ён часта атрымлівае некарэктныя гістарычныя веды, якія паўсюль вакол яго. Не заўсёды моладзь патрапіць дастасаваць гістарычныя веды, якімі яна валодае, і здабытае раней уменне гістарычнага мыслення для аналізу сучасных палітычных ці гаспадарчых з'яваў. Школа мусіць навучыць гэтаму, інакш яна не здолее выканаць задання падрыхтоўкі моладзі да свядомага ўдзелу ў грамадска-палітычным жыцці. Так мы падышлі да другасных, інструментальных мэтаў гістарычнай адукацыі. Тут ад яе патрабуецца шмат чаго.

Урокі гісторыі павінны развіваць у моладзі дапытлівасць і крытычнасць, вучыць яе палітычнаму мысленню, узмацняць пачуццё патрыятызму, абуджаць прыхільнасць да такіх вартасцяў, як справядлівасць, дэмакратыя і г.д. Спіс другасных мэтаў невычарпальны. Гэта задачы, якія прымаюцца паўсюль. Мы далёкія ад таго, каб прынізіць іхнае значэнне, залічваючы да другасных мэтаў. Робіцца гэта пераважна дзеля таго, што іх крыніца знаходзіцца звонку «свету гісторыі», гэта значыць гістарычнай культуры.

Аднак тут істотнае значэнне мае іншае. Мэты другасныя, інструментальныя, рэалізаваныя многімі іншымі прадметамі школьнай адукацыі, працілеглыя мэтам асноўным, аўтаномным, рэалізаваным выключна ў працэсе навучання гісторыі.

Дыдактыкі гісторыі мусяць вылучаць гэтыя мэты навучання, якія маюць спецыфічны, непаўторны, асаблівы характар. Гісторыя ў школе мусіць служыць падрыхтоўцы моладзі да зменлівага жыцця, поўнага разнастайных ускладненняў. Мы мусім гарманізаваць нацыянальную парадыгму з іншымі патрабаваннямі сучаснага свету, такімі, як цывілізацыйнае развіццё, прагрэс у сферы арганізацыі калектыўнага жыцця, гаспадаркі, культуры і г.д. Зараз гаворка пра тое, каб моладзь мела шырока расплюшчаныя на свет вочы, разумела перамены, што адбываюцца ў ім, хацела і магла будаваць лепшую будучыню для сябе і свайго краю.

Грамадскую функцыю гісторыі можна было б акрэсліць наступным чынам. Гэты прадмет павінны:

— даваць інтэлектуальныя прылады, неабходныя для лепшага разумення грамадскага жыцця і пераменаў, якія ў ім адбываюцца (метадалагічная функцыя),

— уводзіць у свет вартасцяў, якія цэняцца ў калектыўным жыцці (аксіялагічная функцыя, ад слова «аксіялогія» — вучэнне аб вартасцях),

— рабіць магчымым карыстанне шматвяковай спадчынай культуры (культурная функцыя),

— забяспечваць асноўнымі «даследніцкімі» метадамі, якія робяць магчымым пошук праўды аб фактах грамадскага жыцця (даследніцкая функцыя),

— абуджаць цікавасць да свету, палягчаць яе задавальненне, даваць адпаведны інтэлектуальны занятак для тых, хто бачыць у гісторыі паратунак ад нудоты (забаўляльная функцыя).

# СПОСАБЫ НАВУКОВАГА ГІСТАРЫЧНАГА МЫСЛЕННЯ

Сярод задач навучання гісторыі ў школе найбольш важным мне ўяўляецца прышчапленне моладзі асноваў навуковага гістарычнага мыслення. Хочацца падкрэсліць важнасць у гэтым менавіта навуковага мыслення, бо ёсць і іншыя формы гісторыі, якія ўплываюць на вучняў па-за школаю. Гэткія формы кіруюцца ўласнымі правіламі, якія маюць мала агульнага з патрабаваннямі навуковага мыслення. Як прыклад можна прывесці гутаркавую, пабытавую, размоўную гісторыю, якая прасякнута міфамі і стэрэатыпамі.

І ў гэтым раздзеле, як і ў папярэднім, мною выкарыстаны пэўныя думкі польскага метадолага гісторыі Я.Матэрніцкага.

Паводле меркавання Е.Матэрніцкага, можна вылучыць шэсць асноўных спосабаў навуковага гістарычнага мыслення: дынамізм, глабалізм, номатэтызм, актывізм, генетызм і ўніверсалізм[1].

*Дынамічнае мысленне.* Чалавек, які мысліць дынамічна, усведамляе магчымасць зменаў і, дзейнічаючы, бярэ пад увагу сфармаваную сітуацыю. Чым лепшая гістарычная адукацыя, тым больш адэкватнае гістарычнае мысленне і тым больш дынамічнае дзеянне. Толькі грамадства, якое можа мысліць дынамічна, падрыхтавана да перспектыўнасці мыслення, бо яно можа ставіць перад сабою смелыя задачы і паслядоўна іх рэалізоўваць.

*Глабальнае мысленне.* Другая якасць гістарычнага мыслення — гэта ягоная інтэгральнасць, ці глабальнасць. Глабальнае мысленне ёсць адной з асноўных умоваў ацэнкі сітуацыі ў грамадскім жыцці і эфектыўнасці дзеяння.

Сярод усіх грамадскіх навук адна гісторыя (а не марксісцка-ленінская імітацыя філасофіі, як вучылі нас пакаленне за пакаленнем) мае сваім прадметам усе бакі жыцця грамадства. Толькі яна паводле характару свайго прадмета можа стварыць аб'яднальны пункт гледжання на разважанні пра мінулае. Гісторыя дае магчымасць кантакту з усімі формамі жыцця грамадства і мінулага: з дзеяннем палітычным, гаспадарчым, культурна-мастацкім ды іншым.

Гэта мае ўплыў на разуменне сучаснага сацыяльнага жыцця. Людзі, што мысляць гістарычна, а гэта значыць глабальна, бачаць повязі між рознымі бакамі сучаснага грамадскага жыцця, лепей

---

[1] Maternicki J. Szkolna edukacja historyczna // Maternicki J., Majorek Cz., Suchonski A. Dydaktyka historii. — Warszawa: PWN, 1994. — S. 133-137. Maternicki J. Wielokształtność Rozważania o kulturze historycznej i badaniach historiograficznych. Warszawa: PWN, 1990. — 384 s.

разумеюць ягоную абумоўленасць, патрэбы, а таксама магчымасць далейшага развіцця.

*Номатэтычнае мысленне.* Номатэтызм гістарычнага мыслення (ад грэцкага «номас» — закон) азначае разуменне гістарычнай зменлівасці і яе механізму, разуменне заканамернасцяў гістарычнага працэсу як правільнага. Гэтая якасць дае магчымасць зразумець складаныя механізмы развіцця гісторыі.

Дзякуючы сваёй канкрэтнасці, гісторыя ёсць найлепшымі ўводзінамі да разумення складаных механізмаў грамадскага жыцця. Важна зразумець гістарычную зменлівасць. Трэба ўлічваць, што жалезных законаў гісторыі няма. «Единственно верного учения» (як іранічна акрэсліў камуністычнае вучэнне А.Салжаніцын) не існуе, бо кожная філасофія гісторыі зыходзіць не ад гісторыкаў-прафесіяналаў, а навязваецца ім звонку, не адлюстроўваючы аб'ектыўных заканамернасцяў. Яны маюць пярэсты характар, але глабальных заканамернасцяў не існуюць увогуле.

Гісторыя можа навучыць лепей разумець розныя абумоўленасці сучаснасці, сярод якіх навука і шырокае распаўсюджанне культуры займаюць істотнае месца. Разуменне складанасці гістарычных працэсаў можа палегчыць трапную ацэнку сучасных магчымасцяў і патрэбаў будучыні. Моладзь беспасярэдне, але з дапамогаю гісторыі, зможа ўбачыць, колькі намаганняў асобаў і групаў, колькі гадоў няўдзячнай працы патрабавалася для стварэння новых каштоўнасцяў. Яна здолее ўбачыць, як шмат задумаў, у перспектыве часу прызнаных простымі, узнікала ў атмасферы варожасці і неразумення. Можа быць, разуменне гэтых працэсаў зробіць яе больш уражлівай да сучасных праблем культуры і вяртання паўнавартаснасці сэнсу працы. Дзякуючы пазнаванню мінулага сённяшні чалавек можа выпрацаваць у сябе «гістарычнае пачуццё», якое дазваляе разумець зачыненыя для іншых механізмы, што фармуюць грамадства.

*Актыўнае мысленне.* Выяўленне заканамернасцяў, гістарычных працэсаў не павінна засланяць чалавека, які стварае гісторыю ў сваім жыцці. Больш-менш поўная рэканструкцыя гістарычнага працэсу і ягонае высвятленне немагчымыя без звароту да сферы людской свядомасці. Мадэль гуманістычнага тлумачэння канцэнтруецца на рэканструкцыі мэтаў дзеянне асобаў і грамадскіх групаў.

Большы акцэнт на суб'ектыўны (свядомасны) бок гістарычнага працэсу, на актыўную ролю адзінкі ў гісторыі і гуманістычную інтэрпрэтацыю людскіх дзеянняў павінны схіляць да паўторнага прадумвання гісторыясафічных бакоў гістарычных ведаў, набытых у школе.

У школьным навучанні яшчэ гучыць рэха спрошчанай, вульгарызатарскай версіі марксізму. Згодна з ёю гістарычны працэс — гэта вынік дзеяння «аб'ектыўна дзейных законаў», ананімных сілаў, тэндэнцый ці абстрактна зразуметых гістарычных заканамернасцяў.

Фаталістычная гістарыясофія адмаўляла сэнс людской актыўнасці. Яна пазбаўляла чалавека ўплыву на ход гісторыі, асуджала яго на ролю выканаўцы аб'ектыўных гістарычных неабходнасцяў. Гэта вяло да таго, што са школьнай гісторыі знікалі жывыя канкрэтныя людзі. Вынікі гэтага былі розныя. Гэтак зразуметая гісторыя станавілася для вучняў сур'ёзным выпрабаваннем, страчваючы ўсю сваю магчымую прывабнасць. «Фаталізм» рабіў немагчымым разуменне гістарычнага працэсу, ягонай сапраўднай формы, паслабляў актыўнасць людзей, вымушаў іх займаць пасіўную пазіцыю. Ён адлучаў чалавека ад упэўненасці мэтазгоднасці ўдзелу ў якіх-небудзь грамадскіх дзеяннях і спрычыняўся да эфекту, які сацыёлагі ведаюць пад назовам «комплекс ліліпутаў», і да ўпэўненасці ў амаральным характары людскіх дзеянняў (калі хода падзеяў перадвызначаная па-за нашай воляй і свядомасцю, то мы не можам несці за яго адказнасці).

У выхаванні пасіўнай пазіцыі ў жыхароў Беларусі пэўнае значэнне мелі традыцыі, цесна звязаныя з двухвяковым знаходжаннем нашай краіны ў складзе Расейскай імперыі і яе спадкаемцы — Савецкага Саюза. Гэта традыцыя «дзяржаўнасці» (згодна з поглядамі пецярбургскага гісторыка Барыса Каланіцкага)[1]. У масавым уяўленні дзяржава ўсемагутная і ўсепранікальная. Калі дзяржава не такая, то ў гэтым ейная слабасць. Паколькі дзяржаўная царква паводле сваёй арганізацыі была толькі дэпартаментам пры ўладзе, то манарх быў фактычным галавою і царквы.

Другая традыцыя — гэта «партыйнае» стаўленне да дзяржавы. Калі ў пэўных традыцыях ідэальную дзяржаву бачаць нейтральнай, бесстароннай, то ў нас дамінаваў падыход «наш» — «чужы». Калі «чужыя» кантралююць дзяржаву, то яе трэба разваліваць, калі «нашы», то не чапаць рукамі.

Да традыцыі Расеі і СССР характэрнае імкненне персаніфікаваць палітычны курс. Культ імператара змяніўся культам рэвалюцыйных правадыроў. У савецкі перыяд з'явіўся культ рэвалюцыі, а яна разглядалася як найважнейшая мэта, як найвышэйшая каштоўнасць і эфектыўны сродак развязання ўсіх праблем. З'явілася рамантызацыя

[1] Колоницкий Б. Мы плохо политически образованы, зато мудры «мудростью битых» // Смена. — 26.11.1993. — № 268. — С. 3.

грамадзянскай вайны, якая спрыяла і спрыяе прыдушэнню слабой традыцыі палітычнага кампрамісу.

«Заваёвай сацыялізму» з'яўляецца пачуццё безабароннасці і страх перад хаосам, інстынкт самазахавання. Найбольш натуральным вынікам савецкага перыяду (які па сутнасці яшчэ не скончыўся) была страта навыкаў сацыяльнай пазадзяржаўнай самаарганізацыі, немагчымасць зразумець мэтазгоднасць разгрузкі дзяржавы ад пэўных яе функцый і яе рэарганізацыі.

Усё тое, да чаго былі прызвычаены нашыя продкі — уменнне сабрацца, выпрацаваць агульныя мэты, стварыць структуру самакіравання — для нас сёння ўяўляе непарадольную цяжкасць.

Школьная гісторыя нашых часоў не засвоіла актывістычнай гістарыясофіі. Гэта можа злучае яе з панавальнымі ўзорамі традыцыйнай гістарыяграфіі, якая канцэнтруе ўвагу на вонкавай сферы гістарычнага працэсу, на сферы здарэнняў.

Традыцыйная гісторыя ў сваім выкладанні не патрапіць паказаць, што гістарычны працэс ствараецца штодзённай, звычайнай дзейнасцю людзей. У апісанні гісторыі дамінуюць падзеі ў нейкім сэнсе выключныя. Сярэдні чалавек мог быць толькі пасіўным іх сведкам. Гэта пазбаўляе ўсю гісторыю сапраўдных яе стваральнікаў і замацоўвае ў звычайных людзей пасіўнае стаўленне. Гістарычнаму актывізму не застаецца месца дзеля звыклага пераканання, што гісторыя робіцца толькі дзесьці там, у вялікім свеце, але не ў нашай мясцовасці і не ў нашым асяроддзі.

Паколькі ў гістарычным выкладзе школьных падручнікаў не бачна канкрэтных людзей, а гістарычныя падзеі трактуюцца там як нешта гатовае, у адрыве ад людскіх дзеянняў (вытворнымі ад якіх яны з'яўляюцца), проста фактамі, даты якіх трэба запамінаць, то ў розумах спажыўцоў настае паступовае адчужэнне ад іх гісторыі. Са старонак гісторыі знікаюць жывыя людзі, гістарычныя падзеі пачынаюць існаваць самастойна, а гэта ўжо просты шлях да фетышызацыі гісторыі.

Гаворка ідзе пра такую перабудову гістарычнай адукацыі, каб вучань мог зірнуць на гістарычны працэс не толькі з вышыняў царскіх двароў, міністэрскіх кабінетаў ці назіральных пунктаў военачальнікаў, а з перспектывы шэраговых людзей, якія ствараюць гісторыю, сеючы збожжа, будуючы машыны, беручы ўдзел у выбарах, змагаючыся на пабаявішчы.

Калі гісторыя будзе арыентаванай на справы звычайных людзей, калі яна будзе паказваць гістарычны працэс як вынік дзеянняў людзей, як «вялікіх», так і «малых», тады яна будзе мець вялікую

дыдактычную каштоўнасць, зможа абудзіць аптымізм, вызваліць энергію і жаданне дзеяння. Толькі такая гісторыя можа ствараць актыўную пазіцыю людзей, заахвочваць да напружанай працы, да чыннага і свядомага ўдзелу ў публічным жыцці.

Сёння гэтая справа мае велізарнае значэнне для нашай краіны, якая ўсё больш аддаляецца ад развітых краін свету. Варта пераадолець настроі апатыі і прыгнечанасці, вызваліць энергію, якая дрэмле ў грамадстве. Гэта вымагае і перабудовы школьнай гістарычнай адукацыі, змены яе гістарыяграфічных прадпасылак. Трэба выкараняць з праграм і падручнікаў прыкметы фаталістычнай гістарыяграфіі і абаперці іх на актывістычную гістарыяграфію, якая вызваляе грамадскую актыўнасць і дынамізуе чалавечую дзейнасць.

*Генетычнае мысленне.* Адна з істотных прыкметаў гістарычнага мыслення — арыентацыя на раскрыццё вытокаў, на пошукі каранёў грамадскіх з'яваў, якія вывучаюцца і назіраюцца намі. Пазнавальныя і дыдактычныя якасці генетычнага мыслення паўсюль вядомыя. У XIX стагоддзі яны былі найбольш прыкметнымі рысамі гістарычнага мыслення ўвогуле. Французскі гісторык Ж.Мішле папярэджваў: «Хто будзе трымацца толькі сучаснага, таму не зразумець сучаснага»[1]. Справядліва лічылася, што гісторыя — гэта навука аб развіцці.

XX стагоддзе пахіснула наіўную веру ў магутнасць генетычнага мыслення. Сёння вядома, што раскрыццё паходжання з'явы не можа быць атаесамлена з поўным ягоным высвятленнем. Французскі гісторык першай паловы XX стагоддзя Марк Блок заўважыў, што «няведанне мінулага няўхільна прыводзіць да неразумення сучаснага. Але хутчэй за ўсё такія ж дарэмныя спробы зразумець мінулае, калі не ўяўляеш сучаснага»[2].

Гэта зусім не значыць, што сёння трэба адкінуць генетычны спосаб высвятлення гісторыі. Ёсць тэмы, якія патрабуюць асвятлення ў праграмах і падручніках, напрыклад здароўе чалавека і ягоная ахова, роля жанчын у грамадскім жыцці, месца дзіцяці і падлетка ў сям'і і грамадстве, паталагічныя грамадскія з'явы, мода, забавы, спорт, змена транспарту, сувязі, жытла, рэчаў непасрэднага побыту чалавека, адзення, абутку і г.д. Сучасны чалавек мае права ведаць не толькі тое, як дайшло да падзелу на Ўсход і Захад, Поўнач і Поўдзень сучаснага свету, чаму ёсць народы, якія жывуць лепш і горш, але таксама і тое, калі і як пачалося зруйнаванне прыроднага асяроддзя

[1] Мишле Ж. Народ. — М., 1965. — С. 10.

[2] Блок М. Апология истории или ремесло историка. — 2-е изд. — М.: Наука, 1986. — С. 27.

чалавека, як чалавецтва змагалася з пошасцямі, чаму распаўсюдзіліся алкагалізм і наркаманія, як разглядаўся спорт сто гадоў таму, што змянілася за гэты час у становішчы дзіцяці і жанчыны і г.д.

Генетычнае мысленне — гэта штосьці большае за пошукі каранёў. Гэта агульная пазнавальная арыентацыя. Яна зводзіцца да засяроджвання ўвагі на тым, што мае беспасярэднюю сувязь з сучаснасцю. Гэта погляд на мінулае праз прызму справаў, якімі чалавецтва актуальна жыве. Гісторыя мусіць адказваць на пытанні сучаснасці. Інакш яна страчвае сваю патрэбнасць для сучаснікаў.

Генетычнае мысленне схіляе да роздуму пра сучаснасць і яе праблемы. Гісторыя крыўды ў дачыненні да жанчын у даўнейшыя часы, іхная барацьба за раўнапраўнасць і павышэнне актыўнасці ў грамадскім і гаспадарчым жыцці, культуры, палітыцы павінна схіляць да роздуму пра тое, якім грамадскім коштам далася жанчынам эмансіпацыя, якія яна прынесла набыткі і страты. Гісторыя спорту павінна абуджаць сучаснага чалавека да роздуму пра выраджэнне гэтай з'явы ў сучасным свеце.

Генетычнае мысленне дазваляе зразумець «кошт прагрэсу», які звязаны з расплатай за поспех грамадства. Прыкладамі гэтага могуць быць устойлівае да гербіцыдаў пустазелле, устойлівыя да інсектыцыдаў пакаленні вусякоў, устойлівыя да антыбіётыкаў штамы мікраарганізмаў, адмоўныя вынікі лячэння антыбіётыкамі, парушэнне азонавай сферы, парушэнні цеплавога рэжыму, высыханне Аральскага мора як вынік тэхналагічных зменаў прыроды.

Трэба асцярожна ставіцца да фактараў пераўтварэння як свету, так і грамадства, бо парушыць крохкую раўнавагу грамадскіх сілаў, чалавека і прыроды надта лёгка. Сёння даводзіцца пераасэнсоўваць паняцце прагрэсу. Апошні здаецца толькі магчымасцю, а часта і немагчымасцю, і ўвогуле праблематычнаю справаю. Ці можна, прыкладам, лічыць прагрэсам развіццё беларускай гістарычнай навукі ад Пічэты да Абэцэдарскага, а тым больш да эпігонаў апошняга?

Варта задумацца, ці магчыма пераацэньваць паняцце прагрэсу і характарызаваць з'явы мінулага як «рэакцыйныя» ці «прагрэсіўныя»[1], а развіццё філасофіі як барацьбу матэрыялістычнага кірунку з ідэалістычным. Бадай, нельга абсалютызаваць паняцце барацьбы ў гісторыі, а тым больш лічыць яго вызначальным пры разглядзе гістарычных працэсаў і з'яваў.

---

[1] Гл. Пра гэта падрабязней: Шанин Т. Идея прогресса // Вопросы философии. — 1998. — № 8. — С. 33-37.

У моладзі трэба фармаваць навык генетычнага мыслення, гэта значыць позірку ў мінулае з гледзішча сучаснасці, і адначасова гістарычнага падыходу да сучаснасці, каб адно тлумачыла другое. Разуменне ўзаемных дачыненняў між мінулым і сучаснасцю — умова правільнай арыентацыі асобы ў грамадскім жыцці і падмурак яе гістарычнай культуры.

*Універсалістычнае мысленне.* Веданне гісторыі павінна даваць універсалістычнае бачанне свету. Чалавек, маючы справу з прадстаўнікамі сваёй супольнасці, мала цікавіцца астатнім светам і мае пра гэты свет даволі цьмянае ўяўленне. Адсутнасць паўнавартаснага ведання пра тое, што робіцца ў свеце, адмоўна адбіваецца на разуменні справаў сваёй супольнасці, прыводзіць да фальшывых ацэнак, робіць цяжкім і нават немагчымым выніковае дзеянне.

Толькі гісторыя з усіх школьных прадметаў можа даць універсалістычнае мысленне. У геаграфіі вучань атрымлівае толькі ўрыўкавыя веды гэтага.

У выкладанні гісторыі звесткі пра мінулае розных народаў даюцца звязанымі разам у сінхронным выглядзе. Гісторыя найбольш універсалісцкая навука. Яна засяроджвае ўвагу на агульнагістарычных з'явах (напрыклад, каланізацыі, гандлі, сусветных войнах, сістэмах палітычнага ладу, мастацтве, рэфармацыі і г.д.). Не варта разглядаць гісторыю адных народаў у адрыве ад гісторыі іншых.

Першым крокам да гэтай мэты можа быць насычэнне выкладання айчыннай гісторыі звесткамі з усеагульнае гісторыі. Мы не мусім адмаўляцца ад свайго «я», але і не павінны занадта яго падкрэсліваць. У ізаляцыі мы не пераадолеем нашага крызісу. Пераадолець яго можна толькі ўзмацняючы сувязі са светам.

Другі крок у кірунку ўніверсалізацыі — гэта большы націск на сувязі нашай гісторыі з гісторыяй як блізкіх, так і далейшых суседзяў. Пры гэтым даўно ўжо пара адмовіцца ад асвятлення гісторыі Беларусі як часткі Расеі, бо гэта адсякае нас ад усіх іншых этнасаў і дае гістарычную карціну ў крывым люстэрку.

Нельга абысціся без асвятлення гісторыі Польшчы, Летувы, Украіны, разам з якімі беларускі этнас развіваўся на працягу больш за паўтысячагоддзя, без асвятлення гісторыі Швецыі, Аўстрыі, Прусіі, Турцыі, Крыма, палітыка якіх мела значны ўплыў на палітыку Рэчы Паспалітай, у склад якой пэўны час уваходзіла Беларусь, і г.д. Не варта забывацца, што не ўсё тое, што ў гісторыі належала Беларусі, сапраўды было выключна нашым. У выкладанні гісторыі павінна адчувацца павага і ўвага да спадчыны ўсіх этнасаў і культур і, не ў

апошнюю чаргу, да тых этнасаў, што здаўна пасяляліся ў Беларусі — палякаў, татараў, габраяў, немцаў, расейцаў.

Мы павінны памятаць не толькі тыя крыўды, што нам прыносілі суседзі, напрыклад захопы Беларусі Іванам Жахлівым, Аляксеем Міхайлавічам, Кацярынай II, спустошанні, нанесеныя войскам Пятра I, задушэнне паўстанняў 1794, 1831, 1863 гадоў, палітыку абрусення беларусаў, скасаванне грэцка-каталіцкай вуніі, але і тое, што здаралася з нашае віны, у тым ліку паходы на Маскву ў Смутны час на пачатку XVII ст. і ў 1812 годзе, у якіх бралі актыўны ўдзел жыхары Беларусі.

Безумоўна, не варта аддзяляць усеагульную гісторыю ад айчыннай і рэгіянальнай, бо дзве апошнія — неадлучная частка першай.

Аб Гэтых прынцыпах павінны памятаць не толькі гісторыкі-навукоўцы, але і настаўнікі гісторыі. Параўнаўчы метад дазваляе больш аб'ектыўна ацэньваць нашу нацыянальную гісторыю і ахоўвае як ад апалагетыкі (якая ў дадзеным выпадку здаецца нам зусім натуральнай, для сённяшніх па сутнасці першых крокаў вызвалення беларускай гісторыі ад навязанага ёй на працягу стагоддзя статусу падначалення расейскай гісторыі), так і ад залішняга крытыцызму, які характарызуе часам беларускую гісторыю сёння.

Аналізуючы гаспадарчае становішча, палітычны лад, грамадскія дачыненні, навуку, асвету, мы павінны зважаць на тое, што рабілася ў суседніх краінах у гэтых галінах.

Хацелася б падзяліцца ўласным педагагічным вопытам у выкладанні гісторыі. У 1994-1996 гадах я чытаў распрацаваны мною курс параўнаўчай рэгіянальнай гісторыі этнасаў Эўропы ў новастворанай за кошт Фонду адраджэння фіна-вугорскіх народаў РФ Фіна-Вугорскай акадэміі ў Петразаводску. У ходзе чытання курса былі асветленыя наступныя пытанні:

1. Рассяленне этнасаў у Эўропе і іхнае развіццё ў перыяд да стварэння нацый (першабытны, рабаўладальніцкі і феадальны перыяды).

2. Паняцці этнасу, рэгіёна, нацыі.

3. Наяўнасць «палітычных нацый» у Эўропе да стварэння сучасных нацый.

4. Сувязі фармавання нацый з капіталістычнымі рэвалюцыямі і пераўтварэннямі. Асаблівасці фармавання нацый у Заходняй Эўропе, Цэнтральнай Эўропе і Ўсходняй Эўропе. Галоўныя фактары ўтварэння нацый, ягоныя вядучыя сілы, асіміляцыя і яе механізм. Асаблівасці фармавання нацый у памежных землях і сярод «выспавых» этнасаў.

5. Уплыў Асветніцтва, асвечанага абсалютызму і рамантызму на фармаванне нацый. Тры фазы фармавання нацый (моўна-этнічнай

сувязі, асэнсаванне агульнага гістарычнага паходжання, самаасэнсаванне і самаакрэсленне нацый), розная іх паслядоўнасць на Захадзе і ў Цэнтральна-Усходняй Эўропе. Праблемы ўзаемадачыненняў між панавальнымі, дамінавальнымі і залежнымі этнасамі. Ірацыянальнае і эмацыянальнае ў асэнсаванні прыналежнасці да нацыі.

6. Сутнасць нацыяналізму, асаблівасці нацыяналізму бальшыняў і меншыняў, сувязь між пачуццямі рэлігійнай і этнічнай прыналежнасці, роля інтэлігенцыі, школаў і адукацыі, мовазнаўства і гісторыі, арганізацыі нацыянальнага жыцця ў фармаванні нацый.

7. Арганізацыя нацыянальнага жыцця пасля Першай сусветнай вайны (з акцэнтам на становішча ва Ўсходняй Эўропе).

Вяртаючыся да пытання пра ўніверсалістычнасць гістарычнага мыслення, хочацца падкрэсліць, што гісторыя пашырае кругагляд моладзі, дазваляе ёй убачыць свет ва ўсёй ягонай геаграфічнай разлегласці, разнароднасці, вучыць заўважаць сувязі і ўзаемадачыненні між этнасамі і дзяржавамі, схіляе да параўнаўчага, рэалістычнага погляду на сваю краіну, яе праблемы і патрэбы, магчымасці і ўмовы для далейшага развіцця. Усё гэта мае важнае значэнне для падрыхтоўкі моладзі да актыўнага ўдзелу ў грамадскім жыцці і паспяховага развязання яе праблем.

Варта засяродзіцца, улічваючы названыя спосабы гістарычнага навуковага мыслення, на пытаннях месца гісторыі ў фармаванні чалавечых вартасцяў, такіх, як навука, праца, свабода, грамадская справядлівасць, незалежнасць і г.д.

# МЕСЦА ГІСТОРЫІ Ў ФАРМАВАННІ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ СВЕДАМАСЦІ

Каму невядома, што свая мова і свая гісторыя займаюць асноўнае месца ў фармаванні нацыянальнай сведамасці? Чалавек, які валодае роднай мовай і ведае гістарычныя карані свайго народа, мацней адчувае сваю залежнасць да яго. Гэтым фундаментам нацыянальнай сведамасці ён адрозніваецца ад тых, хто страціў і першую, і другую, пра якіх паэт, звяртаючыся да Радзімы, сказаў, што яны «забылі цябе, адракліся, прадалі і аддалі ў палон».

Такога чалавека цяжка адарваць ад ягонай чалавечай сутнасці, ад адстойвання сваёй годнасці, ад права вырашаць свой лёс.

Этнічнае (нацыянальнае) асэнсаванне — гэта неадлучная частка асобы. Адыход ад яго — гэта адыход ад адчування свайго асабістага месца ў жыцці грамадства, ад свайго «я» ў плыні прымусовага калектывізму, які навязваўся нам дзесяцігоддзямі.

Здаецца, можна гаварыць пра два генератары нацыянальнага ў вобразе жыцця. Першы — гэта сацыялізацыя: калі ўсё этнічнае прыходзіць з выхаваннем, перадаецца ад бацькоў з традыцыяй і натуральна ўпісваецца ў сістэму паводзін.

Другі — гэта нацыянальная самасведамасць, калі на пэўным этапе культурнага развіцця асобы, з назапашваннем жыццёвага досведу адбываецца асэнсаванне каштоўнасці нацыянальнай культуры і імкненне да яе захавання і адраджэння страчанага, ужо, як правіла, у сімвалічных формах.

Зараз мы з'яўляемся сведкамі ўздыму нацыянальнай самасведамасці ў Беларусі. Пры асэнсаванні каштоўнасцяў сваёй культуры беларусам даводзіцца абапірацца перадусім на родную мову і родную гісторыю.

Мову нашу, здаецца, лягчэй выратаваць ад заняпаду і знішчэння, нягледзячы на тое, што варожыя да беларушчыны сілы рэзка абмяжоўвалі сферу яе ўжывання, каб звесці яе на нішто. Мова перадаецца з вуснаў у вусны, ёй заўсёды застаецца месца, хай сабе нават у хатнім побыце. Нават той з беларусаў, хто раней саромеўся ўжываць яе на прадпрыемстве, ва ўстанове, на транспарце, у краме, на вуліцы, сёння ў спрыяльных умовах і асяроддзі могуць успомніць і ўзнавіць яе ўжыванне. Нават калі мова не зафіксаваная на паперы ці магнітнай стужцы, яна замацавана ў чалавечай памяці і можа «праявіцца» пры пэўных абставінах.

Хоць і са значнымі перашкодамі, але, дзякуй Богу, адраджэнне роднае мовы ў нашым краі ідзе, і ідзе яно лягчэй за адраджэнне

гістарычных ведаў. Гэтаму спрыяе і дзейнасць Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, і выданне беларускамоўнай перыядычнай прэсы. Як бы ні бэсцілі нашу мову, як бы ні выкаранялі яе са школаў, як бы ні спрыяла гэтаму фактычнае выгнанне яе з вышэйшых навучальных установаў Беларусі (што і прымушала шматлікіх бацькоў не даваць дзецям магчымасці вучыць яе, бо гэта памяншала магчымасць трапіць у ВНУ), канчаткова расправіцца з мовай яе ворагам не ўдалося. Хай сабе дзеля прадстаўнічасці, але Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка была патрэбная кіраўнікам камуністычнай партыі.

Бо поўнае фактычнае пераўтварэнне БССР у Паўночна-Заходні край Расеі (як называлі яе тэрыторыю за царскім часам), магло б пазбавіць вершаліну партыйнага кіраўнічага апарату аднаго голасу ў ААН. Тым больш што кіраўніцтва КПБ вяло дэнацыяналізатарскую палітыку «зліцця моў» — гэта значыць знішчэння беларускай мовы на карысць расейскай — даволі мэтанакіравана. Шыльда «БССР» над абруселым краем цалкам задавальняла і маскоўскія, і менскія ўлады.

Значна горш з гісторыяй. Перадача ведаў пра мінулае — працэс досыць спецыфічны. Як і іншыя навуковыя веды, гэтыя веды гісторыку даводзіцца атрымліваць у ходзе так званых крыніцазнаўчага і гістарыяграфічнага этапаў гістарычных даследванняў. Потым трэба выкласці гэтыя веды ў навуковым выглядзе. Каб даць магчымасць азнаёміцца з імі неспецыялістам, трэба падаць навуковыя веды ў дасягальнай, папулярнай форме.

Я коратка пералічыў толькі галоўныя этапы іх атрымання і перадачы. А методыка гістарычнага даследвання намнога складанейшая. Цэлыя пакаленні савецкіх гісторыкаў былі адвучаныя ад методыкі гэтага даследвання (паводле маіх дадзеных, такую дысцыпліну выкладаюць на адзінкавых гістарычных факультэтах ВНУ былога СССР).

Некваліфікаванае ўмяшанне звонку — з «дырэктыўных органаў» на розных этапах згаданага вышэй працэсу зводзіла на нішто ўсю папярэднюю працу даследнікаў мінулага, і вынікі гэткага ўмяшання найбольш уплываюць на малады розум. Гістарычныя веды, закладзеныя ў гэты розум, звычайна застаюцца там назаўсёды, калі чалавек не будзе потым папаўняць іх з аб'ектыўна складзеных гістарычных прац. А для такога папаўнення ведаў, якім займаюцца далёка не ўсе (бо не хапае і часу, і належнай падрыхтоўкі, і — галоўнае — звычаю папаўняць веды), патрэбныя такія працы, якіх у гістарычнай навуцы Беларусі надта не стае. А калі яны і ёсць, то, як правіла, мала дасягальныя для шырокага кола чытачоў.

Памянёнае ўмяшанне ў працэс давядзення атрыманых даследнікамі гістарычных ведаў да шырокага кола чытачоў і адбывалася пад час панавання чужога беларускаму этнасу рэжыму, спачатку Расейскай імперыі, а потым яе непасрэднага наступніка і спадкаемца — таталітарнага бальшавіцкага рэжыму. Праз іх беларусы мелі абкрадзенае мінулае, страцілі сваю самастойную дзяржаўнасць, сваю незалежную царкву і ў значнай ступені мову. Праўду пра мінулае яшчэ доўга давядзецца выкопваць у архівах і кнігасховах, выдзіраючы яе са «спецсховішчаў, бібліятэк і з засакрэчаных фондаў архіваў.

Перадача гістарычных ведаў у школах і вышэйшых навучальных установах Беларусі наўмысна ўскладнялася. Гэтыя веды даходзілі да навучэнцаў у перакручаным выглядзе. Валадары сітуацыі добра ведалі, што навучанне сапраўднай, а не штучнай, фантомнай, фальшывай гісторыі палягчае разуменне правільнага, простага, а не іхнага крывога шляху развіцця грамадства. Яны ведалі, што навучанне сапраўднай гісторыі дапамагае асобе асэнсоўваць сваё правільнае месца ў гэтым развіцці. Яно дае больш сціслае разуменне сучаснасці і перспектывы будучыні. А гэта без актыўнага ўдзелу асобы немагчыма, бо гісторыю нельга толькі спазнаваць (чаму толькі ў нас і навучаюць). Гісторыю належыць таксама прадумваць. Яе трэба разумець, імкнучыся знаходзіць прычыны і вынікі, узаемную сувязь гістарычных фактаў і з'яваў і залежнасць паміж імі. Веданне фактаў з «мыльнай» іх трактоўкай не можа вычарпаць усяе гістарычнае сведамасці, а гіпертрафія фактаграфічнае сведамасці дагматызуе апошнюю, бо яна пазбаўляе спажыўцоў фактаграфічных гістарычных ведаў магчымасці аналізу. Таму яе праўда — толькі прыкметная, відавочная, падзейная частка таго, што схавана ад чужых вачэй.

Рацыянальнага разумення гісторыі роднага этнасу (нацыі) у параўнанні з гісторыяй іншых этнасаў у нашым краі амаль няма. З часу задушэння паўстання 1863 года пачалася і працягваецца дасюль агрэсіўная русіфікацыя гісторыі Беларусі. І царскія, і таталітарысцкія камуністычныя ўлады падмянялі аб'ектыўнае рацыянальнае тлумачэнне гістарычных фактаў, з'яваў і падзеяў міфамі і легендамі (гэта значыць не тым, што павінна вывучацца гісторыкамі, а тым, што вывучаецца фальклярыстамі і культуролагамі). Адбывалася падмена прадмета вывучэння гістарычнай навукі і трансляцыі неспецыялістам вынікаў працы гісторыкаў.

Ва ўмовах нацыянальнага існуе даволі вялікі попыт на літаратуру, прысвечаную гісторыі прыгнечанага этнасу. Ён тым больш узрастае пад час вызвалення з-пад гэтага прыгнёту. Бо з гэтай літаратуры можна даведацца, кім ёсць этнас, чый ён нашчадак, ці

меў сваю дзяржаўнасць — без самастойнай, незалежнай дзяржаўнасці не можа быць гаворкі пра самастойнасць, незалежнасць этнасу. Беларусаў жа доўгі час, насуперак крыніцам, пераконвалі ў тым, быццам яны не мелі дзяржаўнасці да часоў абвешчання бальшавіцкім цэнтрам Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусі. Пры гэтым спецыяльна замоўчвалі і тое, як доўга не прызнаваў гэты цэнтр права беларусаў на самастойную дзяржаўнасць, і тое, што гэтая ССРБ (пазнейшая БССР) была фіктыўна незалежнай, а ў сапраўднасці заставалася калоніяй Расеі. Бо панавальныя этнасы з вялікім падазрэннем ставяцца да жадання прыгнечанага этнасу пашырыць і паглыбіць гістарычныя веды, аднавіць і ўзмацніць гістарычную памяць. Таму ў гістарычнай навуцы і адукацыі Беларусі доўгі час існавала зона замоўчвання, пра якую пойдзе гаворка ў наступным раздзеле.

## ПРАПАГАНДА ІМПЕРСКАЙ АТРУТЫ Ў КАЛОНІІ

*— У вуллях чаго ён шукаў?*
*— Беларусь шукаў (...).*
*— А як ён асмеліўся ў вас устройваць вобыск?*
*— Дык мяне сюды з Гальшоў перавялі, парафія ёсць такая пад Маладзечнам. Там я ад нудоты збіраў старыя песні, байкі, пляскі.*
*— Што ж у гэтым дрэннага?*
*— Праўду кажаш. — А вось улады ў Пецярбурзе сцвярджаюць, што няма беларускай народнасці і няма для чаго яе штучна ствараць.*

(З размовы Хелены Канвіцкай з ксяндзом Сямашкам)
Тадэвуш Канвіцкі. Богінь.

У гістарычнай навуцы і адукацыі Беларусі існавала агромністая, шырокая зона замоўчвання. Дазвалялася смела выкрываць захопніцкія акцыі суседняй Польшчы ў дачыненні з Беларусяй. Калі ж гаворка заходзіць пра Расею, то гэтага не дазвалялася. Бо ўсё расейскае — і царскае, і бальшавіцкае -лічылася шчасцем для беларускага народа, які заўсёды нібыта прагнуў жыць разам, у адной дзяржаве са сваім адзінакроўным братам. Жудасныя факты аб знішчэннях беларускага жыхарства і выгнанні тых, хто застаўся жывым, у палон у Расею, асабліва пад час акупацыі Беларусі войскамі Івана Жахлівага, Аляксея Міхайлавіча, аб захопе нашай краіны ў 1772-1795 гадах, у часе трох падзелаў Рэчы Паспалітай, аб перадачы дзесяткаў тысяч дзяржаўных сялян прыватным прыгоннікам пасля гэтага захопу, аб увядзенні тады ж рэкрутчыны, аб прымусовым скасаванні царызмам вуніяцтва, аб задушэнні некалькіх вызвольных паўстанняў супраць акупантаў, аб узмацненні прыгону пры царскай уладзе, аб забароне друкаваць беларускія кнігі традыцыйнай для XVIII-XIX стагоддзяў лацінкай, аб адмаўленні беларусам права лічыцца беларусамі — усё замоўчвалася. І гэтае замоўчванне нязменна суправаджалася аптымістычнымі фразамі пра тое, што ў выніку беларускі народ набыў нешта больш значнае— шчаслівую магчымасць змагацца супраць самаўладства разам з братнім расейскім народам. Гэта было нават адлюстравана ў першых радках гімна БССР:

Мы, беларусы, з братняю Руссю
Разам шукалі к шчасцю дарог...

Нібыта гэтую дарогу можна было шукаць толькі ў адной з некім запрэжцы.

Што ж да гісторыі найноўшай, бальшавіцкай, дык і яна ніякіх трагічных для Беларусі фактаў не засведчыла. Існавалі толькі сяброўская дапамога старэйшага брата, шчодрасць і дабрыня. Калі хто і перашкаджаў беларусам у XX стагоддзі быць паўнакроўна шчаслівымі, дык гэта ягоныя «зацятыя ворагі» — буржуазныя нацыяналісты. Усялякія спробы высветліць, як жа тое было ўзапраўды (і як так магло быць, што беларускі народ і ў мінулым, і ў гэтым стагоддзі працягваў спараджаць «здраднікаў» — Вацлава Іваноўскага, братоў Луцкевічаў, Вацлава Ластоўскага, Аляксандра Ўласава, Аркадзя Смоліча, Пётру Крэчэўскага, Адама Станкевіча, Алеся Гаруна, Усевалада Ігнатоўскага, Максіма Гарэцкага, Цішку Гартнага ды іншых), якія, абвяшчаючы сябе беларусамі і абараняючы беларушчыну, адначасова былі залічаныя ў яе ворагі), разглядаліся як нацыяналізм і абраза вялікага суседняга народа.

Трэба ўрэшце на поўны голас сказаць, што найбольшую, непапраўную шкоду Беларусі, беларускай аўтэнтычнасці, маральнаму, духоўнаму развіццю беларускай нацыі нанесла расейская імперскасць.

Тая імперыя, што ўмешвалася ў лёс Беларусі і марнавала яго на працягу стагоддзяў, заўсёды была класічнай кантынентальнай імперыяй[1]. Беларусь у ёй лічылася калоніяй з усімі трагічнымі для такога статусу вынікамі. Але больш трагічнымі былі вынікі яшчэ аднаго статусу, навязанага ёй імперыяй. Ніякай Беларусяй яна не лічылася, а толькі часткаю Расеі, якая — немаведама чаму — абвяшчала сваю адасобленасць, спрабавала адарвацца ад Расеі — мацерыка, пакуль гістарычная справядлівасць не вярнула яе назад да мацярынскага ўлоння. Адно слова — беларусаў лічылі часткаю адзінага расейскага народа з адзінай славянскай мовай і адзінай праваслаўнай верай.

За народамі тыповых калоній прызнавалася права на этнічную адметнасць ад імперскага народа. Так, чэхі, палякі, украінцы, італьянцы, славенцы, нягледзячы ні на якае анямечанне іхнай часткі, усё ж прызнаваліся чэхамі, палякамі, украінцамі, італьянцамі, славенцамі. Тое ж было і з вугра-фінскімі, мангольскімі, каўказскімі, балцкімі этнасамі Расейскай імперыі. Але за нетыповымі калоніямі — славянскімі Беларусяй і Ўкраінай такога права не пакідалі.

Невыпадкова ўкраінскі правазаступнік Лэўко Лук'янэнка падкрэсліваў, што расейская акупацыя Ўкраіны адрозная ад польскай і

---

[1] Пра гэта падрабязней гл.: Андрусів С. І не одного кореня калина // Дзвін. — 1991. — № 4. — С. 92-95.

нямецкай. Бо расейскія ўлады спрабавалі ўсыпіць нацыянальную пільнасць. Адмаўляючы ўкраінскую асобнасць, яны хацелі зрабіць украінцаў падобнымі да сябе. Імперыя, вядома, мела вялікія магчымасці для гэтага: высмоктванне сілаў народа на расейскую службу, забарону вольнага ўкраінскага слова, расправу з тымі, хто не жадаў забывацца на сябе[1].

Вядома, усё гэта датычыць і Беларусі: адно да аднаго.

Кожная імперыя, калі б яна ні існавала, ці за дзесяткі стагоддзяў да нашай эры, ці ў апошніх дзесяцігоддзях нашай, — пабудаваная паводле адной мадэлі. Гэтая мадэль робіць іх тым, чым яны ёсць — імперыямі. Галоўны яе механізм — гэта свядомая ці падсвядома закладзеная прага да захопу тае прасторы, што заселеная і засвоеная людзьмі.

А. М. Якаўлеў лічыць, што «гісторыя нацыяналізму, нацый, нацыянальнага — гэта гісторыя паступовага афармлення і пашырэння культурна-гістарычных супольнасцяў. Пашырэння фізічнага, якое адбываецца шляхам як памнажэння, так і ўлучэння ў іх драбнейшых утварэнняў — плямёнаў, родаў, народнасцяў. Пашырэнне тэрытарыяльнага, калі гэта дазвалялі абставіны»[2].

Тут адзін з бацькоў савецкай перабудовы памыляецца. Пашырэнне тэрыторыі характэрна не для ўсялякага этнасу (у выпадку Якаўлева — «нацыі»), а менавіта для таго, якім кіруе імперская ўлада.

Цэнтрам, найкаштоўнейшай, найзначнейшай часткаю айкумены імперыя лічыць сябе, тэрыторыю імперыі, сваю ідэалогію, свайго правадыра — сваё спараджэнне і адначасна бацьку, творцу, канкрэтна-людское і адначасова сімвалічнае ўвасабленне імперскага мыслення і ідэалогіі[3]. Так, асірыйская тытулатура «вялікі цар, магутны цар, цар заселенага свету, цар Асірыі, цар чатырох бакоў свету, прамудры пастыр, паслухмяны вялікім багам, захавальнік ісціны, той, хто любіць справядлівасць, той хто робіць дабро, і г.д.» амаль даслоўна перагукваецца з тытулатураю Сталіна — «правадыром сусветнага пралетарыяту», «найлепшы палкаводзец усіх часоў і народаў» і да т.п. Тое ж датычыць і напышлівых імперскіх воклічаў тыпу «СССР — оплот мира во всем мире» (гэта пры істэрычнай мілітарызацыі, наяўнасці найбольшага войска ў свеце, правакацыі ўзброеных

---

[1] Цыт. па: Стреляный А. Кино про Украину // Дружба народов. — 1992. — № 4. — С. 217.

[2] Яковлев А.Н. Горькая чаша. Большевизм и Реформация в России. — Ярославль: Верхне-Волжское книжное издательство, 1994. — С. 341.

[3] Пра гэта падрабязней гл.: Андрусів С. І не одного кореня каліна // Дзвін. — 1991. — № 4. — С. 93.

пераваротаў на ўсіх кантынентах, апроч толькі Антарктыды, танках у Празе і «інтэрнацыянальным абавязку» ў Афганістане, продажы зброі сусветным агрэсарам тыпу Садама Хусейна, падрыхтоўцы з камуністаў лацінаамерыканскіх і арабскіх краін тэрарыстаў у спецлагерах СССР). Гэтакі ж рытуальны характар мае лозунг «СССР — надзея ўсіх прагрэсіўных сіл свету» (пры падтрымцы рэакцыйных рэжымаў Фідэля Кастра, былога капітана Савецкай Арміі Кім Ір Сена, якія не толькі дэстабілізуюць, руйнуюць мір у свеце, а і руйнуюць краіны і народы, якім іх з дапамогаю СССР навязалі).

І гэта не толькі па вертыкалі, углыб гісторыі, а і па гарызанталі. Той жа Ірак, захапіўшы Кувейт (меншую па колькасці жыхароў, але багацейшую за Ірак краіну), заявіў: маўляў, гэта даўняя губерня Ірака[1] (хоць Ірак, як асобная краіна, існуе толькі з 1920 года, Кувейт жа — з сярэдзіны XVIII стагоддзя), а іракскія войскі ўведзены туды нібыта па просьбе ўяўных маладых кувейцкіх рэвалюцыянераў, якія, маўляў, самі скінулі стары і арганізавалі рэвалюцыйны ўрад.

СССР да гэтага стварыў некалькі падобных прэцэдэнтаў: увёў пад тым жа прэтэкстам войскі ў Афганістан, перад тым — у Прагу, раней за Прагу — у Будапешт, а яшчэ раней зрабіў тое ж у Балтыі і Фінляндыі.

Заклікі да пралетараў усяго свету аб'яднацца, каб раздзьмуць сусветны пажар — сусветную рэвалюцыю, дзяржаўны герб з сярпом і молатам на фоне зямнога шара — гэта ўсё тыповыя імперскія атрыбуты. Толькі ўсяго, што завуцца імперыі па-рознаму, адпаведна да моды на дзяржаўную тэрміналогію ў тым ці іншым геаграфічным рэгіёне ці гістарычным перыядзе, як і ў тым ці іншым культурна-гістарычным асяроддзі.

Зразумела, што адпаведна ідэалогіі, з дапамогаю і дзякуючы якой ствараецца імперыя, зацвярджаецца яе ўлада і моц, пашыраецца тэрыторыя. Унутры імперыі людзей не «апрацоўваюць», не рыхтуюць да таго, што яны ўвойдуць у межы імперыі, бо яны ўжо «гатуюцца» ў імперскім катле на больш моцным ці менш моцным агні таталітарызму.

Найзначнейшае, найшаноўнейшае месца ў імперыі займае Цэнтр. Цэнтр утрымлівае і здзяйсняе ўладу і над асіміляванымі ўскраінамі, і над тымі, якія захавалі сваю этнічную адметнасць. Робіць гэта ён не толькі вайсковаю сілаю, паліцыяй, апаратам нагляду

[1] Гэта толькі рэакцыйныя расейскія дзеячы, ці прадстаўнік беларускай улады С.Посахаў, якіх запрасіў да сябе Садам Хусейн, маглі, як папугаі, насуперак фактам, паўтараць гэтую прапагандысцкую хлусню.

за лаяльнасцю і вернападданасцю падпарадкаваных народаў, але і эканамічнай палітыкай, накіраванай на максімальную эксплуатацыю эканамічнага патэнцыялу калоній (бо гаспадарацъ у калоніях усе імперскія рэжымы аднолькава, як злодзеі на могілках). Падтрымлівае сваю ўладу цэнтр і дэмаграфічнаю палітыкай — перамешваннем этнасаў, дэпартыцыяй, а калі трэба, і поўным вынішчэннем іх. Праводзіць ён і адпаведную культурную палітыку — насаджэнне культуры і мовы сакральнага (асвячонага) этнасу. Значную ролю грае і рэлігійная палітыка цэнтра — укараненне новай веры з новым «святым пісьмом» (творамі заснавальнікаў марксізму-ленінізму), новым «богам» і «апосталамі» (іхныя партрэты вывешваюцца напярэдадні святаў, а ў календарах упрыгожваюць старонкі з паказаннем дзён нараджэння, у якія лёс «дараваў» народу гэтых «святых» людзей. У свядомасці падданых замацоўваюць адзіную веру, іх прыналежнасць менавіта да Расейскай праваслаўнай царквы», а не нацыянальнай, аўтакефальнай.

Што з'яўляецца такім Цэнтрам у нашай сітуацыі? Няцяжка здагадацца — сталіца. У нас — «сердце нашей Родины» Масква. У ёй яшчэ святейшае месца Красная плошча і Крэмль. А ля Крамля на плошчы найсвяцейшае — маўзалей. А ў ёй мумія правадыра. Яна адкрытая для агляду падданых. Тыя мусяць пераканацца ў вечнасці імперыі, асвячонай мошчамі таго, хто ўзначаліў новую форму імперыі.

Сакральнасць сталіцы падкрэслівалася не толькі трывалымі фразамі — заклінаннямі, што мусілі выклікаць рэлігійны экстаз і святое трапятанне, а і эканамічнымі захадамі. Выслоўе часоў Рымскай імперыі, што ўсе дарогі вядуць да Рыма, уласцівае ўсялякай імперыі і яе сталіцы. Нашай таксама. Усе дарогі вялі да Масквы — літаральна — усе чыгункавыя, водныя, эканамічна-гаспадарчыя.

Кажуць, што калі ў бок Масквы ў 1986 годзе рушыла радыяцыя, радыяцыйную хмару расстралялі і асадзілі на Гомельшчыну і Магілеўшчыну. Бо Масква — святыня, дзе Крэмль, забальзамаваны правадыр, верныя ленінцы ў Палітбюро. Масква — сталіца таго этнасу, які стаў сакральным, сабраў усіх сяброў пад сваю братнюю руку, усіх абагрэў, навучыў, ашчаслівіў. Сакральнасць яго яшчэ і ў тым, што ён даў свету Леніна, таму і мова яго святая, якую нават негр старога веку вывучыць толькі за тое, што ёю гаварыў Ленін.

Звычайна, згодна з імперскай логікай, фізічная і духоўная тэрыторыя «абранага» народа мае свой сакральны цэнтр найбольшых святых і не надта святых — правінцыю, свае ўскраіны. Наша імперыя была вялікай. Не кожны з падданых мог прыехаць на пакланенне

нябожчыку правадыру ў Маскву (бо хто будзе працаваць, калі ўсе стануць у чаргу да маўзалея?). Таму па ўсёй імперыі ў кожным горадзе, мястэчку ці нават у вялікім сяле, у кожнай установе, улучаючы казармы, дамы адпачынку і жывёлагадоўчыя фермы, былі арганізаваныя шматлікія сакральныя цэнтры. Іхным найсвяцейшым месцам былі помнікі, партрэты, бюсты, барэльефы правадыра. Пакланеннем правадыру — ускладаннем кветак пачыналіся «богаслужэнні» — афіцыйныя мітынгі, партыйныя сходы, закладаліся новыя сем'і — на свае вочы бачыў з вакна гатэля ў Дзвінску, як пар ці не з дваццаць тых, хто браў шлюб, ішлі гужам да помніка правадыру, каб ускласці да яго пьедэстала, нібыта на аўтар, кветкі.

Мы яшчэ не ўяўляем, якімі ўбогімі і смешнымі ў сваім ідалапаклонстве мы выглядалі для людзей з-за межаў нашай краіны.

Падобнае можна знайсці ў кожнай імперыі, бо ўсе яны маюць супольныя архетыпы. Але імперыя СССР пры ўсёй сваёй тыповасці ў значнай меры была ўнікальнай. Мабыць таму, што яна была апошняй імперыяй у свеце. Гэта суперімперыя, бо пад шыльдаю «Союз нерушимый республик свободных» паядналіся, зліўшыся і падмацоўваючы адна адну, дзве імперыі — расейская і камуністычная, увасобленыя ва ўладзе несмяротных сіямскіх блізнят: адміністрацыйна-бюракратычнай сістэмы і партыйнага апарату. Доўга шукалі адзін аднаго расейскі імперыялізм і камуністычны імперыялізм, практыка і тэорыя была найхітрэйшым і найхлуслівейшым выпладам імперскай свядомасці.

Прывід камунізму блукаў па Заходняй Эўропе, пакуль не знайшоў найбольш прыдатны для сябе грунт — Расею. І прарос, ажыў у СССР. Без таго ён так бы й застаўся неверагоднай утопіяй накшталт Горада Сонца Кампанэлы, прыгожаю выдумкай і ціха згас наўзбоч гісторыі. А мо і каламуціў бы час ад часу даверлівыя народы на перыферыі Азіі ці Лацінскай Амэрыкі. Камунізм, марксізм-ленінізм ці ягоны ўвасоблены ў жыццё практычны выхад — бальшавізм мог прыжыцца толькі на дрэве расейскага імперыялізму, выгадаванага на працягу некалькіх стагоддзяў імперскаю прыродай расейскага самаўладства. Гэтая ж прырода будавалася на кірунку да моцнасці і фармальнай цэласнасці, жадання падпарадкаваць іншыя народы сілаю, потым знішчыць рэшткі іхнае самастойнасці, а таксама на нецярпімасці да іншых народаў і іхных веравызнанняў, пакоры перад моцным і на поўным прымусовым рашчыненні адметнай людской адзінкі ў калектыве («мир», «община»), а ў выніку — на адсутнасці дэмакратычных асноваў на ўсіх роўнях грамадскага жыцця — ад дамастроеўскай сям'і да дзяржавы і царкоўнай герархіі. Расейская праваслаўная царква пры

самаўладным рэжыме пераўтварылася з органа духоўнага ўдасканалення народа ў орган апраўдання і асвячэння ўлады князя, потым цара, а пазней КПСС.

Расея (назоў з XVII ст.) як дзяржаўнае ўтварэнне пачыналася з другой паловы XII стагоддзя ў адной з калоній Кіеўскай і Крывічанскай Русі на фіна-вугорскіх землях тагачаснага паўночнага ўсходу, на якіх пасяляліся выхадцы з заходніх частак краю — полацкіх крывічанскіх і ноўгарадскіх. Гэта адбывалася дзякуючы спрыяльным умовам: напачатку — распаду нестабільнай Кіеўскай Русі, а потым — распаду Залатой Арды, а затым у выніку далучэння народаў Паваложжа, Сібіры, Каўказа, Закаўказзя, Сярэдняй Азіі і г.д. Гэта значыць, яна станавілася ўсё большай імперыяй кантынентальнага тыпу, што амаль поўнасцю была перададзена ў спадчыну абноўленай імперыі СССР.

Нездарма Ленін, згодна з падвойнаю камуністычнай мараллю (хутчэй амаральнасцю), дакляраваўшы права нацый на самаазначэнне паняволеных царскаю Расеяй народаў, і не збіраўся даваць ім магчымасць самаакрэсліцца, намагаўся зберагчы ў новай імперыі межы старой. З Прыбалтыкай, Фінляндыяй, Польшчай гэта яму не ўдалося. Але з Беларуссю, Украінай, Закаўказзем — удалося. Фатальны збег акалічнасцяў, страх Заходняй Эўропы перад бальшавізмам (дарэчы, цалкам апраўданы) спрычыніўся да таго, што Антанта дзеля свайго спакою кінула яму костку — ахвяравала Беларуссю і некаторымі іншымі краямі. І тыя трапілі ва ўчэпістыя абдымкі новага імперыялістычнага збудавання. А яно, працягваючы шматгадовую традыцыю свайго папярэдніка, помсціла Беларусі за тое, што тая спрабавала захавацца як Беларусь.

Дачыненні Расеі і Беларусі ў асноўным складваліся так, як яны заўсёды складваюцца між метраполіяй і калоніяй, праўда, з дадаткам намагання «праглынуць», прыўлашчыць сабе не толькі зямлю і людзей на ёй, але і іх гісторыю.

Болей за семдзесят гадоў расейска-бальшавіцкі імперскі монстр, раздзьмуты ад вялізных прастораў і шматлікіх народаў з рознымі верамі, культурамі, звычаямі, традыцыямі, цяжка йшоў праз XX стагоддзе, наводзячы на свет жах — крок уперад, два, пяць, дзесяць крокаў назад ажно да сярэднявечча ў дэспатызме, тыраніі, жорсткасці (хто не верыць, хай прачытае пра раскапаныя рэшткі ахвяраў НКВД). А мы спявалі: «Наш паровоз, вперед лети, в неведомую даль, другого нет у нас пути...» Жартаўнікі дадавалі да гэтага радок:

— И это очень жаль.

Каб хутчэй паравоз ляцеў да камуны, правадыры імперыі кідалі ў топку паравоза тысячы і мільёны людскіх ахвяраў. Куды ж заляцеў той паравоз? У багну безгаспадарчасці, эканамічнага і палітычнага крызісу, у зону экалагічнай бяды, духоўнага спусташэння.

У духоўным спусташэнні Беларусі вялікую ролю адыграла пазбаўленне беларускай нацыянальнай гісторыі самастойнасці, падпарадкаванне яе расейскацэнтрычнай мадэлі гісторыі.

У асвятленні беларускай гісторыі за апошнія сто трыццаць гадоў ад часоў задушэння апошняга паўстання супраць імперскага прыгнёту паназапашвалася шмат расейскацэнтрычных міфаў і легендаў. Памеры кнігі не дазваляюць спыніць увагу на ўсіх гэтых міфах. Частку іх я разабраў у сваім артыкуле 1982 года «Каб ведалі факты». З прычыны ўмяшання пэўнага аддзела ЦК КПБ ён пабачыў свет са спазненнем на пяць гадоў і быў надрукаваны ў газеце «Літаратура і мастацтва» толькі 14 жніўня 1987 года, а ў поўным выглядзе змешчаны ў зборніку «З гісторыяй на «Вы» (вып. 1) у 1991 годзе пад іншым назовам («Пад знакам дня ўчарашняга»).

Але, перад тым як ахарактарызаваць асноўныя міфы, што нават дасюль укараняюць у галовы беларусаў, трэба высветліць, што такое міф.

Гэтаму і прысвечаны наступны раздзел.

Міф і гісторыя... Звычайна спалучэнне гэтых паняццяў выклікае асацыяцыі з міфамі ў антычным свеце ці з міфамі пра псеўдаманархаў або, наадварот, пра старца Фёдара Кузьміча з расейскай гісторыі. Але, абмежаваўшы сувязь гісторыі з міфамі гэтымі прыкладамі, мы замыкаемся ў тое кола поглядаў на мінулае, якое нам паслужліва падсоўваюць традыцыйныя гістарычная навука і адукацыя.

Аднак апрача гэтых дзвюх сфераў гістарычных поглядаў існуюць яшчэ іншыя, напрыклад гістарычная сведамасць (або наяўныя ў чалавечай свядомасці гістарычныя веды, што прасякнутыя каштоўнаснымі элементамі, якія прадвызначаны актуальнай сітуацыяй і акрэсленым бачаннем будучыні), гістарычная ідэалогія (або гістарычна-палітычная дактрыны, гістарычны змест палітычнай ідэалогіі), гістарычная традыцыя (або частка гістарычнай спадчыны, акрэсленай сацыяльнай групы — этнасу, класа, лакальнай групы, сям'і ды інш. — ацэньвае ацэнцы і выражае прынятую дадзенай групай сістэму каштоўнасцяў), гістарычныя міфы, гістарычны менталітэт (сукупнасць спосабаў і зместу мыслення і ўспрынящця, характэрная для пэўнага калектыву ў пэўным часе, якая праяўляецца ў дзеяннях).

Усе памянёныя сферы, улучаючы гістарычную адукацыю і гістарычную навуку (вывучэннем апошняй абмяжоўвалі сябе савецкія гісторыкі), складаюць нешта больш агульнае — *гістарычную культуру.* Гістарычнай культурай можна было б назваць комплекс каштоўнасцяў, які замацаваўся ў пэўнай групе грамадства ў пэўны

перыяд, а таксама твораў, звязаных з пазнаннем і перажываннем мінулага з дапамогаю атрыманых гэтай групай ведаў пра мінулае.

Да розных складовых частак гістарычнай культуры мы абавязкова вернемся ў іншым месцы. Зараз жа хочацца прапанаваць чытачу размову пра гістарычныя міфы. Бо менавіта іхнае існаванне ў гістарычнай адукацыі майго пакалення адыграла фатальную ролю ў грамадскім мысленні сучаснага беларускага грамадства.

Я маю на ўвазе насаджэнне міфаў «западно-русизма»; міфаў пра існаванне беларусаў выключна ва ўлонні дабрадзейкі «матушки России», якая толькі і робіць, што ратуе іх ад «чужынцаў». У выніку настойлівага насаджэння такіх міфаў грамадзянства Беларусі было пераарыентаванае з традыцыйных «самастойніцкіх» поглядаў на мінулае — на імперскія, якія поўнасцю супадалі з дарэвалюцыйнымі русіфікатарскімі. Гэта не магло не спрычыніцца да рэзкага падзення даверу да гісторыкаў тыпу Абэцэдарскага. Бо такія спецыялісты зыходзілі з пераканання неабмежаванага маніпулявання гістарычнай сведамасцю грамадства, з падмены гістарычных ведаў вышэй памянёнай гістарычнай ідэалогіяй. Адсюль у гістарычнай навуцы з'явілася пагарда да фактаў: фальшаванне гістарычных крыніц, навязванне гістарыяграфіі (гістарычнай навуцы) прынцыпаў, выпрацаваных праз палітыку і гвалтоўнае ўмяшанне ў асновы гісторыі дзеля дасягнення неадкладнага палітычнага эфекту.

Мне даспадобы іншая пазіцыя — пазіцыя дыялогу, пазіцыя шчырай, адкрытай размовы з грамадствам, гэта значыць партнёрскія паводзіны. Яны закладаюць рэчавае стаўленне да пазанавуковых гістарычных уяленняў, якія немінуча функцыянуюць у грамадстве побач з навуковымі. Надзённыя, побытавыя веды гісторыі складаюцца як з праўдзівых, так і з памылковых элементаў. Некаторыя лічаць, што іх трэба «выкараняць». Я мяркую, што трэба разважліва спрабаваць рабіць іх больш навукова абгрунтаванымі. На мой погляд, іншага шляху да рацыяналізацыі гістарычнай сведамасці грамадства, а гэта значыць да разумення ісціны, апрача паступовага выцяснення з яе фальшывых элементаў і замяшчэння іх магчыма праўдзівымі ведамі, няма.

Ненармальныя ўмовы нацыянальнага жыцця пад час доўгай няволі ў значнай ступені вызначылі ўяўленні беларусаў аб сваёй гісторыі. З'явіліся стэрэатыпы не тых, хто будаваў, а тых, хто заваёўваў і разбураў Беларусь. Расчараванне спадчынай таталітарызму і сучаснасцю можа спрычыніцца да стварэння чарговых

гістарычных утопій, да «антыміфаў» ці новых міфаў, да чаго іншым разам з зусім добрымі намерамі заклікаюць у друку[1].

Гэтак заўсёды бывае ў перыяд крызісаў. Гісторыя, якая выракаецца балючай праўды, якая кажа толькі тое, што грамадства ў дадзены момант хоча пачуць, траціць магчымасць не толькі чаму-небудзь навучаць, але (раней ці пазней) шмат са свайго аўтарытэту.

Вось чаму я палічыў бы надзённым вярнуцца да вопыту такіх сумежных з гісторыяй гуманітарных навук, як сацыялогія, псіхалогія, этналогія, культуралогія, і паспрабаваць разабрацца ў стасунках міфа і гісторыі.

---

[1] Гл., напрыклад: Краўцэвіч А. Патрабуецца міф // Літаратура і мастацтва. — 1992. — 17 красавіка; Драянкоў А. Можа, варта павучыцца? // Тамсама. — 1994. — 13 траўня.

## РАЗУМЕННЕ МІФА

Праблема стасунку паміж міфамі і гісторыяй дасюль недастаткова высветленая. На праблему міфаў ужо даўно звярнулі ўвагу этнолагі, сацыёлагі, псіхолагі, культуролагі, тэолагі, гісторыкі літаратуры, гісторыкі мастацтва. Гісторыкі ж грамадства гэтую праблему абміналі, што асабліва датычыць літаратуры краін былога СССР. Бо, як той казаў, у доме шыбеніка аб вяроўцы не гавораць. Амаль усе гуманітарныя навукі там былі наскрозь прасякнутыя міфамі. Мне не ўдалося знайсці ў расейскім навуковым друку адпаведных працаў пра месца міфа менавіта ў гістарычнай думцы. Адна з галоўных прычын таго — у неадназначных стасунках тэрмінаў «міф» і «гісторыя». Азначэнне міфа, якое ўспрымалася б усімі — і навукоўцамі, і неспецыялістамі аднолькава, даць цяжка. Тэрмін «міф» мае некалькі значэнняў. Навукоўцы розных профіляў даюць міфу розныя дэфініцыі — ад этналагічнай у Тайлара праз псіхалагічную ў Юнга да тэасофскай у Лосева.

Для Мірча Эліядэ міф — гэта апавяданне пра падзею, што адбылася ў дагістарычныя часы чалавецтва, для Леві-Строса — гэта сістэма паміж сэнсавымі супрацьлегласцямі, якія змешчаныя ў розных плоскасцях. Сацыёлагі разглядаюць міф у аспекце першаснасці ў дачыненні да дадзенай устойлівасці сацыяльна-культурнай супольнасці (ці культурнай папуляцыі), бо ён стварае сацыяльнае быццё, а паводле тэолага Бультмана, міф — аб'ектывацыя панадсветавага. У гэтым выпадку культурная папуляцыя выступае як крэатура міфа, а той, у сваю чаргу, і ёсць прастора каштоўнасцяў і мэтаў, у якой чалавек жыве. Нутраная праца па пераадоленні разыходжанняў міфа і канкрэтных падзеяў, якія перажывае асоба, — гэта і ёсць змест духоўнага жыцця. Такім чынам, міф стварае, а не тлумачыць сацыяльную рэальнасць.

У вузкім значэнні этнолагаў міф — гэта апавяданне пра багоў і іхныя ўчынкі, пра пачаткі свету, пра паходжанне рэчаў, з'яваў, установаў. Пачатковая, асноўная якасць міфа — вера ягоных носьбітаў у суцэльную верагоднасць міфічнага апавядання.

Згодна з меркаваннем Бэскама, міф ёсць празаічнай аповесцю, што ўзнаўляецца грамадствам, якое лічыць яе праўдзівым паведамленнем пра падзеі сівой мінуўшчыны. Этнолагі зважаюць на тое, што міфічныя здарэнні, якія развіваюцца ў часе, складаюць структуру, стасоўную адначасова і да мінулага, і да сучаснага, і да будучага. У

выніку міф — гэта ўяўленне існай і нязменнай (спыненай) рэчаіснасці[1].

Апісваючы паходжанне элементаў свету, міф аднолькава тлумачыць іх структуру і надае ім сэнс. Паходжанне чагосьці з міфічных часоў складае найвышэйшы сэнс, які не патрабуе ніякіх дадатковых абгрунтаванняў. Міф непасрэдна мадэлюе і асвячае прынцыпы жыцця адзінкі і грамадства, падаючы прызнаныя дадзеным грамадствам узоры паводзін. Міфічны час — эпоха першых і з гэтай прычыны ўзорных рэчаў.

Другое, пашыранае, разуменне міфа прыводзіць да прызнання яго своеасаблівага спосабу бачання і адчування свету. Ён можа праяўляцца не толькі ў тыповай міфічнай аповесці, але таксама ў іншых формах, напрыклад у песнях. Такое тлумачэнне міфа датычыць, як правіла, першабытнага грамадства, яго своеасаблівага ладу мыслення, які звычайна называюць сімвалічным.

Такое мысленне канкрэтнае, з крайняй антрапамарфізацыяй свету. Пашыраным паняццем міфа карыстаюцца галоўным чынам даследнікі першабытных культур. Дзеля аналізу гістарычных міфаў, якія функцыянуюць у сучасных грамадствах, яно, хутчэй за ўсё, малапрыдатнае.

Большае значэнне мае ў гэтым разе абагульненае паняцце міфа. Яго аднолькава можна аднесці як да першабытнага, так і да сучаснага цывілізаванага грамадства.

---

[1] Tomicki F. Mit // Słownik etnologiczny: terminy ogólne. — Warszawa, 1987. — S. 245.

## ЧАМУ ЎЗНІКАЮЦЬ МІФЫ

Міфы паўстаюць з натуральнай патрэбы чалавека мець цэласную і асэнсаваную карціну свету, з патрэбы бачыць свет як працяглае існаванне, з патрэбы верыць у трываласць людскіх каштоўнасцяў.

Абагульненая канцэпцыя міфа звязвае гэтае паняцце з акрэсленым уяўленнем з'яваў мінулага, сучаснага або будучага. Найбольш пашыраным крытэрам, які адрознівае міф ад іншых уяўленняў ці поглядаў, ёсць ягоная аб'ектыўная памылковасць. З уяўленнем міфа звязана таксама моцная адзінкавая або калектыўная вера ў ягоную сапраўднасць, дзякуючы чаму ён функцыянуе як фактар, што вызначае пазіцыю і паводзіны дадзенай асобы ці калектыву і спосаб успрымання імі рэчаіснасці. У гэтым сэнсе тэрмінам «міф» можна абыймаць розныя формы калектыўнай і індывідуальнай містыфікацыі, такія, напрыклад, як палітычная ідэалогія, стэрэатыпы (нацыянальныя, расавыя, рэлігійныя), мода, прапаганда, рэклама, папулярызацыя кіназорак, спартсменаў, «міс» краінаў, кантынентаў, свету і г.д.[1]

Да асноўных якасцяў зразуметых такім чынам міфічных уяўленняў належаць эмацыйнасць, нарматыўнасць, апераванне сімвалічнымі клішэ, рытуалізаванымі паводзінамі.

Мірча Эліядэ разглядае міф як рытуалізаваны ўзор паводзінаў. Напрыклад, міф «пакутніцтва і барацьбы за лепшае жыццё», што існуе ў сучасным грамадстве, выводзіцца з традыцыі першаснага хрысціянства. Узоры барацьбітоў-рэвалюцыянераў, якія йдуць на смерць дзеля дабра народа, выходзяць з архетыпу святых і пакутнікаў.

Узор пакутніцтва і барацьбы амбівалентны, двухсэнсоўны. З аднаго боку, ён узаконьвае сістэму, уладу, а з другога боку, легітымізуе барацьбу супраць іх. Гэты ўзор вырастае з паняццяў, характэрных для тых грамадстваў, якія паходзяць з вёскі і прадстаўнікі якіх цярпелі пакуты, пакуль не прыстасаваліся да іншага асяроддзя і не ўладкаваліся ў ім, якія вялі барацьбу за сваё існаванне ў гэтым асяроддзі, бо страцілі ранейшыя суседскія сувязі і традыцыйныя ўзоры паводзін.

З ходам урбанізацыі і індустрыялізацыі гэты ўзор мусіць саступіць месца нечаму іншаму. Бо задоўжаная прапаганда яго можа быць самагубнай.

Другі прыклад калектыўнага міфа — гэта ідэалізацыя разбойніцтва і рабунку. Яна пашыралася таксама пасля пераезду вясковых

---

[1] M. Eliade. Aspets du Mythe. — Paris, 1963. — P. 18.

жыхароў у гарады, надаючы годнасць іхнай мабільнасці і ў пэўнай ступені прадпрымальнасці, актыўнасці. Зараз, са спусташэннем вёскі і стратаю традыцыі працы на зямлі, ідэалізацыя рабунку мусіць сустрэць супраціў этнолагаў і гісторыкаў.

Нам варта шукаць тыя ўяўленні, якія надаюць годнасць менавіта традыцыі грунтоўнай працы, — менавіта яна і выратуе люд.

Існуе функцыйная тэорыя міфа, якую прапанаваў этнолаг Б.Маліноўскі. Згодна з ёю, міф ёсць абавязковай часткай кожнай культуры і стала абнаўляецца. Кожная гістарычная перамена стварае сваю ўласную міфалогію, хоць яна толькі ўскосна звязана з гістарычнымі фактамі. Падобных поглядаў трымаецца Ганна Імбс, якая лічыць, што «міф адыгрывае ў культуры пазнавальную ролю, складае цэласную сістэму, якая фармулюе тэрміны, што ўпарадкоўваюць і высвятляюць свет (...). Міф — гэта асабісты знак, які адлюстроўвае лад культуры, ажыццяўляе ў ім адначасова падзел і ўніфікацыю парадку вартасцяў і рэчаў і сферы «святога» і дасягальнага ўсім. Тэндэнцыі выкасавання міфа з культуры ёсць выяўленнем імкнення да замены сферы «святога», бо яно з'яўляецца непазбыўнаю воссю культуры. Замена сферы «святога» бурыць культурны лад... Гэта адначасова і эрозія сілаў, якія ствараюць культуру» [1].

[1] Imbs H. Mit jako fakt kulturowy // Pamiętnik XIII Powszechnego Zjazdu historyków polskich. Poznań, 6-9 września 1984 r. — Wrocław. — (Cz. 1). — S. 248-249.

# МІФ І РЭАЛЬНАСЦЬ

Міф жывучы менавіта таму, што прапануе простыя адказы на складаныя пытанні. У людзей, для якіх гістарычнай навукі не існуе — а гэта датычыць не толькі першабытных грамадстваў — міф ёсць ісціна. Назваўшы нешта міфам, навуковец выяўляе крытычнае стаўленне да разгляданых вераняў або ўяўленняў. Гэтым ён аспрэчвае іхную аб'ектыўнасць і праўдзівасць. Міф — гэта тое, што даследнік лічыць выдумкай. А гэта не дапускае наяўнасці ў міфе сапраўдных падзеяў, якія даследнік мог бы пазней вылучыць.

Мае рацыю Поль Валеры, які сцвярджае, што «міф — гэта тое, што гіне пры найменшым удакладненні. Строгі погляд і катэгарычныя меркаванні, шматлікія і ўзгодненыя ўдары, якія наносіць сваімі пытаннямі жвавы розум, руйнуюць міф, прыводзячы да бясконцага збяднення свету неазначальных рэчаў і ідэяў» [1].

У кожную гістарычную эпоху абсяг міфічнага залежыць ад таго, што людзі прымаюць за «рэальнае». З развіццём навукі ён натуральна пашыраецца, бо навуковыя і філасофскія тэорыі акрэсліваюцца і мяняюць крытэры рэальнага.

Ужо грэцкія філосафы пасля Ксэнафонта называлі міфічнымі традыцыйныя апавяданні пра багоў, несумяшчальныя з запатрабаваннямі розуму. Але яны не крытыкавалі пабудовы свету, у якім адбываліся апісаныя ў міфах падзеі. З развіццём навукі і гэты свет быў далучаны да абсягу міфічнага.

У XIX і XX стагоддзях гісторыкі жорстка крытыкавалі міф. Лічылася, што ён адпавядаў дзяцінству людскога роду. Як дзеці ўваходзяць у свет казак сваімі фантазіямі, што выцясняюцца пасля сур'ёзнымі жыццёвымі ўяўленнямі, так і чалавецтва, якое яшчэ не асэнсавала сваёй магутнасці над сабою і над светам, дазваляла калыхаць сябе міфамі.

Згодна з меркаваннем П.Рыкёра, пасля «збяднення мовы», якое адбылося ў наш час, «міф узбагачае яе па-новаму», бо сёння мы адчуваем патрэбу пакінуць спусташальныя метады крытыкі і зноў «задаваць пытанні», бо міфы і сімвалы «прымушаюць задумацца»[2].

Як лічыць Ф.Рэфуле, усе міфы супрацьпастаўленыя гісторыі — апісанню мінулага. Як аповяд яны лічацца міфамі, калі падзеі, апісаныя імі, не адпавядаюць дадзеным гістарычнай крытыкі, гэта

---

[1] Цыт. па: Рефуле Ф. Миф и история // Символ. — 1986. — Июль. — Т. 15. — С. 44.

[2] Цыт. па: Марле Р. Миф и историческо-критический метод // Символ. — 1986. — Июль. — Т. 15. — С. 54.

значыць аналізу гістарычных крыніц. Але сярод гэтых міфаў навуковец заклікае адрозніваць міфы, з якімі сутыкаецца этнолаг і якія выяўляюць імкненне першабытнага чалавека пазбегнуць прыняцця гістарычнага рашэння, ад міфаў, якія адкрываюць для чалавека новыя магчымасці ягонага існавання і заахвочваюць яго да свабоднага выбару. І ўрэшце, калі вернікі прызнаюць біблейную гісторыю ў вышэйшай меры экзістэнцыяльнай, яны пакідаюць разглядаць яе як міф[1]. Інакш хрысціянская вера перастае быць сапраўднай.

У кожны гістарычны момант абсяг міфа лёгка вагаецца ў залежнасці ад індывіда, бо крытэр рэальнасці ва ўсіх розны. Сёння, напрыклад, можна назіраць, як рацыяналістычны падыход да свету выключае з яго ўсё звышнатуральнае, далучаючы да міфаў веранні хрысціян і юдэяў, тым часам як вернікі хоць і бачаць у іх звышнатуральнае, лічаць гэтае звышнатуральнае сапраўднай рэальнасцю.

Таму калі ўжываюць слова «міф», заўсёды маюць на ўвазе карэнную супрацьлегласць рэальнасці. Так гістарычная навука дае адзін з крытэраў рэальнасці. У той ступені, у якой традыцыйныя апавяданні, што датычаць падзеяў мінулага, не супадаюць з рэканструкцыяй мінулага, зробленай сучаснай гістарыяграфіяй, яны лічацца міфічнымі. У шырокім сэнсе мы называем міфам кожны від аповяду, які мы не можам узгадніць з дадзенымі гістарычнай крытыкі. Менавіта на падставе гэтай крытыкі сучасныя гісторыкі лічаць міфічнымі імёны першых цароў Крыта і Рыма. Гэтак жа і герой швайцарскай легенды, якая адлюстравала барацьбу супраць Габсбургаў у XIV стагоддзі, Вільгельм Тэль лічыцца міфічнай асобай. Сапраўды, сведчання, якое б паказвала на існаванне швайцарскага месціча з такім імем і прозвішчам, няма. Як няма і звестак пра існаванне габсбургскага У. Германа Геслера, якога, паводле падання, забіў Тэль, што паслужыла сігналам да народнага паўстання. Адначасова можна даказаць, што падобныя апавяданні існавалі ў шмат якіх краінах аж да Індыі.

У разгледжаных выпадках апавяданні лічацца міфічнымі, бо яны не адпавядаюць той паслядоўнасці падзеяў, якія вызначыла сучасная навука. Але гісторыя, што апісвае падзеі, не абмяжоўваецца грубым фіксаваннем шэрагу здарэнняў, якія адбываліся ў пэўным часе і ў пэўным месцы. Яна імкнецца высветліць іх значэнне і важнасць, зразумець іхны сэнс. Іншым разам выяўляецца, што значэнне, якое надаецца сучаснымі гісторыкамі гістарычным падзеям, не супадае са значэннем, якое прыпісвае ім традыцыя.

---

[1] Рефуле Ф. Миф и история // Символ. — 1986. — Июль. — Т. 15. — С. 51.

Напрыклад, ангельскія бароны ў XIII стагоддзі дамагліся ад каралёў пэўнага абмежавання правоў кароны. Аднак яны лічылі гэта не «навіной», а ўсяго толькі вяртаннем ад «добрых старых часоў» караля XI стагоддзя Эдуарда Спавядальніка, калі нібыта дзейнічалі «справядлівыя» законы. У існаванні Эдуарда Спавядальніка сучасныя гісторыкі не сумняваюцца, але яны не падзяляюць стаўлення баронаў да ягоных законаў як «добрых» і «справядлівых». Часы Эдуарда былі не залатым векам, а звычайнымі барбарскімі часамі, таму няма падставаў для той станоўчай ацэнкі, якую давалі ім бароны. Сучасныя гісторыкі з гэтай прычыны існаванне справядлівых законаў пры Эдуардзе Спавядальніку далучаюць да абсягу міфалогіі. У гэтым разе мы бачым, што міфічныя «справядлівыя» законы прыпісваюцца асобе, якая рэальна існавала.

Тое ж датычыць і ўзяцця штурмам Бастыліі ў 1789 годзе, адкуль нібыта былі вызваленыя «няшчасныя» вязні. Насамрэч у гэтай турме сядзелі звычайныя крымінальнікі — фальшываманетчык, кровазмяшальнік і да іх падобныя.

Пэўны час асобныя аўтары разважаюць пра міф «вызвалення Парыжа» ад гітлераўцаў. Зразумела, сам факт вызвалення сумневу не выклікае. Аспрэчваецца толькі інтэрпрэтацыя, якую надаюць яму тыя ці іншыя палітычныя партыі, значэнне, якое гэтыя партыі ў ім вышукваюць. Інакш кажучы, гісторыкі далучаюць да міфаў не толькі апавяданні, якія не могуць узгадняцца з гістарычнымі падзеямі, але таксама іх тлумачэнне, неадпавяднае гістарычнай рэальнасці. У якасці бліжэйшых да нас прыкладаў можна было б прывесці спрэчкі аб Варшаўскім паўстанні 1944 года[1], аб забойстве польскіх афіцэраў у Катыні[2], жыхароў Беларусі ў Курапатах[1].

---

[1] Варшаўскае паўстанне жніўня-верасня 1944 года супраць нямецкіх акупантаў, якія пры набліжэнні Чырвонай Арміі рыхтаваліся пакінуць Варшаву. Палітычная мэта паўстання — самастойнае вызваленне сталіцы краіны, каб падпольная законная ўлада паспела стварыць свае структуры, пакуль СССР не навязаў сваёй улады ўсёй краіне. Пад час гераічнага паўстання савецкія войскі спынілі дзеянні супраць гітлераўцаў, чакаючы, пакуль тыя не задушаць паўстанне. Пад час гэтай акцыі загінула блізу 200 тысяч палякаў, цалкам была знішчана Варшава. Гэта была палітычная параза палякаў. Але яна ўспрымала намеры савецкага кіраўніцтва далучыць Польшчу да СССР і задушыць неадначасовыя выступы масаў палякаў супраць камуністычнага кіраўніцтва (1956, 1968, 1970, 1976, 1980-1981 гг.). Для крытыкаў паўстанне было актам роспачы перад стратаю шанцаў на незалежнасць, для прыхільнікаў — актам найвышэйшага служэння Айчыне, доказам таго, што польская прага да вольнасці не знішчаная.

[2] Па вясне 1940 года НКВДысты замардавалі ў Катыні (пад Смаленскам) ды іншых месцах 15 тысяч інтэрнаваных пад час уваходу Чырвонай Арміі на тэрыторыю Польшчы афіцэраў Польскага войска і мабілізаваных у войска лекараў, навукоўцаў, юрыстаў. Інжынераў, святароў, настаўнікаў; мэта гэтага знішчэння — пазбаўленне

Калі мы хочам карыстацца крытычным метадам, мы павінны правільна ацэньваць ягоныя магчымасці. Бадай, не варта цалкам падпадаць пад ягоны ўплыў. Дзякуючы даследванням нашай эпохі мы асэнсоўваем і абавязковыя запатрабаванні розуму і абмежаванасць гістарычна-крытычнага метаду.

---

польскай нацыі эліты, каб у далейшым не было каму ачоліць супраціву камунізацыі Польшчы.Па вясне 1940 года НКВДысты замардавалі ў Катыні (пад Смаленскам) ды іншых месцах 15 тысяч інтэрнаваных пад час уваходу Чырвонай Арміі на тэрыторыю Польшчы афіцэраў Польскага войска і мабілізаваных у войска лекараў, навукоўцаў, юрыстаў. Інжынераў, святароў, настаўнікаў; мэта гэтага знішчэння — пазбаўленне польскай нацыі эліты, каб у далейшым не было каму ачоліць супраціву камунізацыі Польшчы.

[1] У 1937-1941 гадах у Курапатах (лесе пад Менскам) НКВДысты штодня забівалі людзей. Курапаты былі адкрытыя Зянонам Пазняком і ягонымі аднадумцамі. Савецкія падлікі давалі лічбу 102000 ахвяраў бесчалавечнага рэжыму, але даследнік падаў для ўсяе зоны расстрэлаў лічбу 250000-300000 ахвяраў. Вакол Менска было яшчэ пяць такіх страшных мясцінаў, не кажучы ўжо пра абласныя, і раённыя цэнтры. Прыхільнікі таталітарызму ў розныя часы беспаспяхова спрабавалі давесці, нібыта там гітлераўцы растрэльвалі габрэяў, або НКВДысты — асобаў, што супрацоўнічалі з гітлераўцамі. Але нават Генеральная пракуратура Рэспублікі Беларусь пацвердзіла першапачатковую версію гэтай справы. Гл. Кондратьев В.К. Куропаты: прокуратура еще раз подтверждает // Свабода. — 21 чэрвеня 1996 г. — № 45. — С. 3.
Аб Курапатах гл.: Пазьняк З. Курапаты — дарога сьмерці // Зянон Пазьняк. Сапраўднае аблічча. — Менск: ТВЦ Наліфакт, 1992. — С. 8-20; Курапаты. — Менск; Нью Ёрк: БІНІМ, 1993. — 90 с.; Курапаты: Артыкулы, навуковая справаздача, фотаздымкі / (Пазьняк З. ды інш.). 2-е выд. — Мн.: Тэхналогія, 1994. — 180 с.

## ФУНКЦЫЯ МІФА

Функцыя міфа палягае ў тым, што ён улучае чалавека ў адзінства Сусвету. Гэта намаганне людскога ўяўлення, якое інтэгруе ўсю сукупнасць людскога досведу, чаго не могуць зрабіць ні навука, ні тэхніка. Паводле Л.Жыяра, роля міфа ў тым, каб увесці чалавека ў рэальнасць, якая перасягае яго ва ўсіх дачыненнях і да якой трэба прыстасавацца, каб выжыць. Папярэджваючы тугу і смерць, міф прыходзіць на дапамогу да чалавека. Кожным разам ён актуалізуецца праз абрад. Д.Хэмпэл таксама адзначае, што міф аднолькава абапіраецца як на гісторыю, так і на сучаснасць, у якой жыве чалавек і ў якой ён імкнецца жыць у бяспецы.

Не дзіва, што міфы звязаныя з дадзенай гістарычнай сітуацыяй, бо іхная роля ў тым, каб абгрунтаваць яе. Яны мяняюцца адначасова з ёю і нават паміраюць, калі выявіцца, што яны не выконваюць сваіх функцый. Леві-Строс звяртае ўвагу на зменлівасць тэматычных міфаў. Тое ж, па меркаванні Ф.Рэфуле, датычыць і апакаліптычных міфаў. Яны нараджаюцца ў асабліва трагічныя перыяды гісторыі і гінуць, калі ход падзеяў іх больш не апраўдвае. Так было на руінах эсхаталагічных і апакаліптычных спадзяванняў, якія скончыліся пагібеллю Ерусаліма ў I-II стагоддзях нашай эры. Гэта нарадзіла новае вучэнне гнастыцызму. Крах гэтай апакаліптыкі і выклікаў да жыцця новыя формы рэлігійнага «самавыяўлення», у якое перайшлі старажытныя вераванні.

Будучы звязаным з дадзенай гістарычнай сітуацыяй, мяняючыся адначасова з ёю, міф прымітыўных народаў паводле сваёй прыроды ў той жа час негістарычны. Гэта аднолькава датычыць як міфаў апакаліптычных, так і міфаў касмаганічных і этналагічных — пра паходжанне свету і пэўнага этнасу. Апошнія два міфы апавядаюць пра тое, як пачала існаваць нейкая рэальнасць, ці то Сусвет, ці то яе частка: выспа, пэўная ўстанова або практыка, стэрэатып паводзін, рамяство. Яны імкнуцца надаць рэальнасці, у якой жывуць, сутнасны характар. Міф робіць яе суўдзельнай панадчасоваму, вечнаму.

Разам з тым міф не ведае гістарычных падзеяў і не патрабуе іх. Тое, што ён абвяшчае, не з'яўляецца чымсьці, што адбывалася тут, але адлюстроўвае касмічны лёс чалавека, лёс нязменны.

У міфе адлюстроўваецца не толькі касмічны лёс чалавека, але і структура грамадства, у якім ён жыве, бо звязвае яе з прыродай. Ва ўсялякім разе гэта датычыць атэмных міфаў.

Мэты пераводу рэальнасці ў міфе палягаюць у пераносе падзеяў у абсяг пазачасавага. Міфы пра паходжанне ці стварэнне імкнуліся

«ўмацаваць» чалавека, зрабіць яго гаспадаром свайго лёсу, зводзячы на нішто падзейнасць жыцця. Яны давалі чалавеку магчымасць распараджацца магутнымі сіламі, ад якіх ён залежаў.

Паводле П.Рыкёра, «гісторыя міфа — гэта барацьба з падзеяй, яна ўяўляе сабою намаганне грамадства, накіраванае на ўхіленне ўзбуральнага ўплыву гістарычных фактараў, яна імкнецца адмяніць гісторыю, паслабіць падзейнасць жыцця, пад яе ўздзеяннем гісторыя і яе пазачасавая мадэль узаемна адлюстроўваюць адна другую, ствараючы з гісторыі дакладны вобраз продкаў, дыяхранія пэўным чынам спалучаецца з сінхраніяй так, каб паміж імі не ўзнікалі новыя супярэчнасці»[1].

Міф, такім парадкам, раскрываецца як спантаннае імкненне чалавека адысці ад патрабаванняў, якія яму выстаўляе падзейнасць жыцця, ад неабходнасці выбару. Ён намагаецца знішчыць сваё існаванне ў гісторыі.

Апакаліптычныя міфы, як відаць, не маюць дачынення да мінулага. Аднак зроблены аналіз міфа можна дастасаваць і да іх. Калі верыць М.Буберу, «кожны раз, калі чалавек з жахам адступаецца ад пагрозы непасільнай працы і імкнецца пазбегнуць таямнічых патрабаванняў, што накладае на яго гісторыя, перад ім амаль у апакаліптычным уяўленні паўстае працэс, які немагчыма спыніць»[2].

На самой справе апакаліптычныя міфы ўяўляюць сабою спосаб нейтралізацыі гістарычнага жыцця, ухілення ад рашэння, якога патрабуе сучаснасць. У апакаліптыцы канец гісторыі не належыць гісторыі як такой, будучыня ўяўляецца незалежнай ад сучаснасці, ад вольнага выбару чалавека.

Такім чынам, адлюстроўваючы гістарычную сітуацыю, міф тым жа часам не толькі супрацьстаіць гісторыі сваёй пазачасавасцю і ў гэтым сэнсе агістарычнасцю, але яшчэ імкнецца дапамагчы чалавеку знішчыць сваё сапраўднае быццё. Іначай кажучы, міф супрацьстаіць не толькі гісторыі, якую пішуць, але, магчыма, і гісторыі, якая адбываецца.

Аднак, як адзначае Эліядэ, міф уяўляе сабою адну з велізарных рухальных сілаў гісторыі. Міфы заахвочваюць чалавека да стварэння, яны бесперапынна адкрываюць новыя перспектывы для яго вынаходлівага розуму. Заспакойваючы яго, робячы гаспадаром свайго лёсу, запэўніваючы яго, што тое, што ён збіраецца зрабіць, ужо рабілася, міф дапамагае чалавеку адкінуць сумнеў у выніку свайго

---

[1] Цыт. па: Рефуле Ф. Миф и история // Символ. — 1986. — Июль. — (Т.) 15. — С. 49-50.
[2] Цыт. па: Рефуле Ф. Миф и история // Символ. — 1986. — (Т.) 15. — С. 49.

пачынання. Як сведчыць гісторыя габрайскага народа, апакаліптычныя міфы натхнялі людзей на смелыя крокі і здзяйсненні.

Ці можна сказаць, што ўсе аповяды, якія гісторыкі акрэсліваюць як міфы дзеля іх неадпаведнасці дадзеным гістарычнай крытыкі, няўзгодненыя з гісторыяй з тым, што адбываецца? П.Рыкёр лічыць такое абагульненне няслушным. Разам з татэмістычнымі міфамі варта прызнаць існаванне «гістарычных» міфаў, сэнс якіх не вычэрпваецца адпаведнымі сацыяльнымі інстытуцыямі, але можа быць свядома і свабодна зразуметы ў межах таго ж семантычнага поля.

Да гэтай катэгорыі міфаў належыць міф пра Вільгельма Тэля (гл. с. 105). Мэта міфа ўжо не ў тым, каб нейтралізаваць падзейнасць, але каб раскрыць чалавеку магчымасці яго існавання, якое інакш бы ён не спазнаў. Да гэтай катэгорыі, па меркаванні П.Рыкёра, павінны быць далучаныя біблейныя міфы. Сапраўды, хоць Р.Бультман, Г. фон Рад, П.Рыкёр разглядаюць Святую гісторыю як міфічную, яны тым не менш сцвярджаюць, што біблейная думка па сваёй глыбіннай сутнасці антыміфічная. Ёсць падстава лічыць, як запэўнівае Р.Бультман, што біблейная гістарыяграфія пранізвае сучаснасць усведамленнем адказнасці перад тварам праклёнаў і блаславенняў, якое дайшло ў спадчыну з мінулага, і перад будучыняю, якая прынясе выратаванне або смерць. Гэта казань, якая звернута да народаў, якая гаворыць кожнаму пра яго адказнасць. Старазапаветныя ўяўленні, у высокай ступені экзістэнцыяльныя, не маюць нічога агульнага з міфалагічнымі канцэпцыямі. Святая гісторыя — гэта не гісторыя-апісанне, гэта ў найвышэйшай меры гісторыя, якая адбываецца.

## ГІСТАРЫЧНЫ МІФ

Наша ўвага прыцягнута да разумення гістарычнага міфа, пад якім можна разглядаць уяўленне, што ў сваёй апісальнай форме датычыць пэўнай гістарычнай з'явы, гэта значыць падзеі, пацверджанай гісторыкамі з дапамогай крыніц.

Тэрмін жа «гісторыя» змяшчае ў сабе два сэнсы: гісторыя як навука, што вывучае мінулае, і гісторыя як тое, што адбываецца з людскім грамадствам у часе і прасторы. У першым сэнсе мы лічым гісторыяй аповяд пра людское мінулае, які адрозніваецца параўнальнай верагоднасцю, які храналагічна ўпарадкаваны, нутрана арганізаваны, змешчаны ў гістарычным кантэксце, мае беспасярэднюю ці ўскоснае дачыненне да гістарычнай рэчаіснасці.

Калі такі аповяд пра мінулае не адпавядае гэтым запатрабаванням або хоць аднаму з іх, значыць, яго можна назваць «парагісторыяй», тым, што знаходзіцца каля гісторыі. Прыкладамі парагісторыі могуць служыць утопія, большая частка мастацкай літаратуры на гістарычную тэму або міф.

Гістарычны міф, як і ўсялякі міф, — з'ява натуральная. Яна задавальняе незадаволеныя гістарыяграфіяй духоўныя патрэбы чалавека. Пад гістарычным міфам Е.Матэрніцкі разумее міфічнае ўяўленне, якое ў сваім вонкавым, апісальным пласце адносіцца да пэўных гістарычных з'яваў, а гэта значыць, да пацверджаных гісторыкамі на падставе гістарычных крыніц падзеяў, фактаў, асобаў, інстытуцыяў[1]. Аб'ектам міфатворчых аперацый могуць быць як даўнія, слаба пацверджаныя крыніцамі часы, так і падзеі ды з'явы нядаўняга мінулага, якія адбываліся на вачах нашага пакалення, а гэта значыць, прынамсі, збольшага вядомыя.

Нас цікавіць механізм узнікнення менавіта гістарычнага міфа, а не іншага. Ён высветлены недастаткова, але прыклады такіх механізмаў прыводзяцца на канкрэтным матэрыяле ніжэй. Паводле меркавання некаторых аўтараў, вялікі ўдзел у стварэнні і распаўсюджванні гістарычных міфаў бяруць самі гісторыкі. Спецыялісты часта не асэнсоўваюць крытычна вопыт і перакананні свайго грамадзянскага асяроддзя, светапогляду, ідэалагічнай плыні, навуковай школы. Карыстаючыся пэўнай сістэмай каштоўнасцяў, яны ўносяць яе ў працэс спазнання і такім чынам пацвярджаюць сваю суб'ектыўную ролю ў гэтым працэсе.

---

[1] Maternicki J. Teoretyczne i metadologiczne podstawy dydaktyki historii // J. Maternicki, Cr. Majorek, A. Suchonski. Dydaktyka historii. — Warszawa: PWN, 1994. — S. 96.

Згодна з Эліядэ, самую гістарыяграфію можна лічыць працягам міфічнай думкі, паколькі яна выконвае функцыю, падобную да той, што і міф у традыцыйных грамадствах[1]. Гэта ўласціва не толькі даўнім храністам і летапісцам, але, як лічыць даследнік, і шматлікім найноўшым гісторыкам.

Гістарычнасць міфа ў пэўнай ступені ўмоўная. Яна датычыць толькі ягонай вонкавай абалонкі, а не сутнасці, што мае безгістарычны характар. Меркаванне, згодна з якім гістарычны міф ёсць гістарычным фальшам, выклікае сур'ёзныя сумневы. Не кожнае памылковае ўяўленне пра гістарычны факт ёсць міф. Вытокі «фальшу» гістарычнага міфа вынікаюць з няведання або памылковага прачытання гістарычных крыніц.

З другога боку, гістарычны міф часта звяртаецца да фактаў сапраўдных, пацверджаных гістарычнымі крыніцамі, але ўціскае іх у межы вызначаных архетыпных схемаў.

Традыцыя ў суб'ектыўным сэнсе — гэта асноўнае ўяўленне пра мінулае, якое ўплывае на механізм людскіх дзеянняў і перажыванняў, а таксама вызначае погляды на сучасную рэчаіснасць. Таму незалежна ад таго, ці тая традыцыя сапраўдная ў аб'ектыўным сэнсе (гэта значыць у дачыненні да фактаў, якіх тыя ўяўленні датычаць), ці цалкам выдуманая, у суб'ектыўным сэнсе яна мае містычны характар. Традыцыя ёсць міфам, улічваючы механізм яе ўздзеяння і рэакцыі, якія яна выклікае ў чалавеку[2].

Гістарычны міф, як правіла, аб'ектыўна фальшывы, але суб'ектыўна ён заўсёды праўдзівы. Міф — гэта тое, у што шчыра і свята вераць, што прымаецца без доказу, як абсалютная праўда. Міфічнае стаўленне да мінулага характарызуе эмацыйнасць і спрашчэнне складаных гістарычных з'яваў.

Гістарычныя факты выконваюць на глебе міфічнага мыслення ролю сімвалаў, якім аддаюць перавагу ў дадзеным грамадстве, ці, наадварот, сімвалізуюць сілы ліха, якія заслугоўваюць выключна асуджэння. Міф з'яўляецца словам, якое акрэслівае ягоныя намеры больш за ягоную «літару».

Гістарычны міф з'яўляецца перадачай пэўных вартасцяў, пажаданняў і падзеяў, апавядаючы не столькі пра тое, што было, колькі пра тое, як павінна быць. Такім чынам, ён апранае ў

---

[1] Eliade M. Aspets du mythe. — Paris, 1963. — P. 32.

[2] Niznik J. Mit jako kategoria metodologiczna // Kultura a społeczeństwo. — 1978. — T. 22. — N 3. — S. 168.

гістарычную вопратку «надчасавыя» ўзоры паводзін, прынятыя і асвечаныя іхнымі носьбітамі.

Як ужо адзначалася, адна з важных якасцяў міфічных уяўленняў — іхная нарматыўнасць. Міфы навязваюць пэўныя ўзоры паводзін і складаюць істотную частку матывацыйных структур людскіх дзеянняў, усё роўна, ідзе гаворка пра паводзіны адзінак ці пра паводзіны асобных грамадскіх групаў.

Міфічная свядомасць можа суіснаваць з навуковым светапоглядам. Гэта датычыць гістарычнага мыслення, якое мае нібыта два пласты — навуковы і міфічны. Другі з іх можна знайсці не толькі ў гістарычнай свядомасці шырокіх колаў грамадства, але і ў людзей са спецыяльнай адукацыяй, у гісторыкаў і іхных працах. Аб пэўных абсягах мінулага мы можам мысліць навуковым спосабам, у выпадку іншых падпарадкоўваемся міфам. Гэты працэс стыхійны. Ён з цяжкасцю паддаецца кантролю.

## ГІСТАРЫЧНЫ МІФ ЯК ЧАСТКА ГІСТАРЫЧНАЙ КУЛЬТУРЫ

Гістарычны міф складае істотную частку гістарычнай культуры. Кожная нацыя і кожная гістарыяграфія маюць свае міфы. Гэта факт, і адпрэчыць яго нельга. Свой асобны погляд на Суворава, Касцюшку, Пілсудскага маюць расейцы, беларусы, палякі, летувісы.

Гістарычны міф у грамадскім жыцці можа выконваць шмат станоўчых функцый. Ён можа быць (і гэта бывае найчасцей) разбуральным элементам.

Вышэй згадвалася пра задзіночвальную (аб'яднальную) функцыю міфаў. Важная таксама іх дыдактычная, адукацыйная роля. Яна разлічвае між іншага на прапаганду грамадска каштоўных вартасцяў, напрыклад патрыятычных і грамадзянскіх поглядаў. Гэтаму цяжка запярэчыць.

Але ў канчатковым выніку міфы прыносяць больш шкоды, чым карысці, бо скажаюць вобраз мінулага, робяць немагчымым правільнае разуменне гістарычнага працэсу і механізмаў грамадскага жыцця, неаднойчы спрычыняюцца да значных памылак у сферы практычных дзеянняў.

Возьмем, напрыклад, «ягелонскі» міф. Ён абцяжарваў разуменне адмоўных вынікаў вуніяў паміж Польскім Каралеўствам і Вялікім Княствам Літоўскім, якія (вуніі) вялі пачатак ад вялікага князя, а потым караля Ягайлы. Напачатку (пад час вызваленчых войнаў 1794 і 1812 гадоў, паўстанняў 1830-1831 і 1863 гадоў) гэты міф іграў інтэграцыйную ролю, гуртуючы актыўныя колы грамадстваў розных этнасаў былой Рэчы Паспалітай супраць іншаземнай агрэсіі і дэспатыі. Аднак калі польскія ўлады пачалі рэанімаваць яго на пачатку XX стагоддзя, яны не ўлічылі нацыянальнага абуджэння ўсходніх суседніх з Польшчай этнасаў. Гэты міф адцягваў увагу палякаў ад іхных заходніх земляў, што знаходзіліся пад нямецкім панаваннем. Ён прыводзіў да ідэалізацыі ўзаемнага суіснавання Літвы з Каронаю і падтрымліваў у асяроддзі польскага грамадства ілюзіі магчымай Рэчы Паспалітай у яе даўніх тэрытарыяльных межах, зразумела, пад польскім кіраўніцтвам. Адмоўныя вынікі гэтага выявіліся ў 1918-1920 гадах. Тады адбывалася барацьба за межы паміж адноўленымі Польшчай, Летувой, Украінай, Беларусяй. Зразумела, гэта было выкарыстана ў сваіх мэтах спадкаемкай Расейскай імперыі — Савецкай Расеяй.

У польскім грамадстве не здолелі зразумець, што летувісы, украінцы, беларусы не жадаюць больш звязу з Польшчай. А без іхнае

згоды нельга было марыць пра ўзнаўленне вуніі. Паддаючыся міфам, польскія грамадскія дзеячы не здолелі рэальна ацаніць актуальную палітычную сітуацыю на ўсходзе і асудзілі Польшчу на паразу ў 1939 годзе.

Утапічнасць гісторыі, яе гераізацыя служаць петрыфікацыі (скамяненню) міфаў, створаных у грамадстве або самастойна, або дзякуючы мастацтву і літаратуры як выраз аўтэнтычных грамадскіх патрэбаў.

Калі мы вышэй разглядалі міф, згодна з Эліядэ, як рытуалізаваны ўзор паводзін, мы не краналіся наступнага: на этапе ўтварэння міфа існуе супярэчнасць паміж ягоным зместам і праўдаю, а на этапе петрыфікацыі — супярэчнасць паміж даўнімі ўзорамі і новымі грамадскімі патрэбамі.

## ПАЛІТЫЧНЫЯ МІФЫ

Традыцыя і гістарычныя веды маюць асаблівае значэнне ў фармаванні палітычных міфаў, якія цесна звязаныя з гістарычнымі міфамі. Е.Мялецінскі ў «Паэтыцы міфа» пісаў, што палітычныя міфы не ёсць «відавочнай хлуснёю ці пацверджаннем праўды... Міф з інструмента першаснага вобразнага мыслення... інтэлектуальна ператвараецца ў інструмент палітычнай дэмагогіі, якая надае ідэалогіі натуральны выгляд».

Паводле культуралісцкіх поглядаў, палітычны міф — складаная псіхічная структура, што ўзнікае ў выніку калектыўнай несвядомасці, агульнай для ўсіх людзей. Згодна з такімі поглядамі, усё змяшчаецца ў свядомасці і, калі ўсё тое, што несвядома, але выражаецца праз гэтую свядомасць, мы ўключаем у свядомасць, то знікае праблема таго, што пераходзіць межы свядомасці. Таму Е.Тапольскі падкрэслівае, што міфы паўстаюць увесь час, бо адной з якасцяў чалавечага мыслення ёсць міфалагізацыя, спыненне ведаў, змена іх кваліфікацыі ў пэўны момант, на дадзеным этапе. З таго часу, калі пазнанне пашыраецца, даследніцкія метады мяняюцца, развіваюцца, веды, якія калісьці былі навуковымі, нязменнымі, пераўтвараюцца ў міф. Першасныя людскія веды таксама адлюстроўваюць свет ненавуковым спосабам, хоць, можа, і слушным. Калі праверка пакажа, што веды сапраўдныя, тады іх можна разглядаць не як міф, а як толькі ўспамін пра міф, які пацвердзіўся[1].

---

[1] Цыт. па: Sliwa M. Odmitologizowac świadomość historyczną Polaków // Po co uczyć historii? — Warszawa, 1988. — S. 257.

З'яўленне палітычных міфаў суправаджаецца псіхічнымі працэсамі: скажэннем памяці, забываннем, фантазіяй. Кожнае людскае дзеянне абапіраецца на якую-небудзь матывацыю, часта ірацыянальную, якая грунтуецца на ведах, атрыманых падсвядома. Пацвярджаннем гэтага могуць служыць назіранні за масавымі паводзінамі грамадскіх рухаў і псіхалогіяй натоўпу. Так тлумачыць з'яву міфалагізацыі і дагматызацыі навуковых ведаў псіхолаг Л.Фэстынджэр. Ён заўважыў, што ў момант нарастання супярэчнасцяў між поглядамі і пазіцыяй людзей, з аднаго боку, і грамадскай рэчаіснасцю, з другога, або ў сітуацыі, калі гэтую рэчаіснасць немагчыма дастасаваць да людскога ўспрымання, калі нельга змяніць погляды, не парушаючы іхных ідэалагічных падставаў, тады прыходзіць у рух неўспрымальная псіхалагічная сістэма. Яна палягае ў тым, што чалавек не ўспрымае нявыгаднай і некарыснай інфармацыі. Неўспрымальны механізм людской псіхікі прыводзіць да таго, што засвоеныя калісьці навуковыя веды застаюцца эмацыйна «нейтралізаванымі» і «вышараванымі» з свядомасці. Чалавечая асоба становіцца абыякавай да ўсялякіх вонкавых стымулаў і аргументаў. Дагматызацыі навуковых ведаў спрыяе яшчэ міфалагізавальны стыль мыслення і дзеяння, а таксама наяўныя стэрэатыпы.

Сацыяльная псіхалогія даставіла ўжо шмат довадаў залежнасці між працэсам забывання і людскім стаўленнем. Хутчэй забываецца тое, што не згодна з гэтым стаўленнем, чым тое, што супадае з імі. Яна спрабуе таксама знайсці адказ на пытанні, якія датычаць залежнасці між якасцямі чалавечай асобы і схільнасцю да стэрэатыпнага і міфалагізацыйнага стылю мыслення і дзейнасці.

Да тыповых палітычных міфаў належаць тыя, якія ўводзіла камуністычная партыя і яе цяперашнія паслядоўнікі ў розумы грамадзян нашай краіны і замежжа. А.Ролік пералічвае некаторыя з іх. Гэта міфы:

— аб уяўнай агульнанароднай уласнасці (хоць іхным фактычна неабмежаваным гаспадаром была партыйная вершаліна),

— аб адсутнасці класа эксплуатататараў у сацыялістычным грамадстве (хоць у дэмакратычных краінах з рынкавай эканомікай, ці «капіталістычнай сістэмай», ад выробленага прадукту на заробак працоўным ішло 30-60 працэнтаў, а ў СССР усяго 5-15 працэнтаў і яшчэ блізу пяці працэнтаў ад выробленага прадукту вярталася дзяржаве на так званае «бясплатнае» медычнае абслугоўванне і адукацыю),

— аб правільнасці марксісцка-ленінскай тэорыі (хоць «у імя сусветнай сацыялістычнай рэвалюцыі» былі знішчаныя дзесяткі

мільёнаў людзей, а народы тых краінаў, дзе карысталіся гэтай тэорыяй, прыйшлі да агульнага заняпаду, да адсталасці ў эканоміцы, да вынішчэння навакольнага асяроддзя),

— аб тым, нібыта эканамічны крызіс на тэрыторыі былога Савецкага Саюза ёсць вынікам распаду адзінай эканамічнай прасторы і былых эканамічных сувязяў (хоць у савецкай прэсе 60-70-х гадоў увесь час пісалі пра заўсёдны зрыў паставак прадпрыемствамі розных частак краіны),

— аб тым, што пры камуністах у СССР быў устойлівы дабрабыт, а тагачасны рубель быў стабільны (хоць адносны дабрабыт 60-х гадоў быў вынікам ранейшага рабавання вёскі, прымусовай працы мільёнаў грамадзян, вынікам драпежніцкага выкарыстання прыродных рэсурсаў; з пачатку ж 70-х гадоў лёгка дасягальныя радовішчы карысных выкапняў былі вычарпаныя, стала цяжка набыць тавары, выраслі чэргі, грашовая маса не забяспечвалася таварамі, масавае спойванне насельніцтва нізкаякасным вінам — «чарнілам» — дасягнула небывалага роўню),

— аб высокай прадукцыйнасці калгасаў і саўгасаў (што зняпраўдзіў у сваім інтэрв'ю старшыня «Рассвета» двойчы Герой Сацыялістычнай Працы В.Старавойтаў, тым больш што ў Беларусі на душу насельніцтва ворнай зямлі прыпадае больш, чым у заходнеэўрапейскіх краінах, але чвэрць неабходнага збожжа ў рэспубліку імпартуецца)[1].

У 1978 годзе Віктар Някрасаў разгледзеў міфы, звязаныя з камуністычнай партыяй. Адзін з гэтых міфаў — пра сілу партыі. Яна сапраўды была моцнай, але таму, што ў яе быў КГБ, таму, што яна вырашала ўсё за ўсіх. Узапраўды ж яна была слабой — ад боязі свайго народа, каб той не даведаўся пра тое, чаго яму нельга было ведаць, ад боязі дысідэнтаў, але больш за ўсё ад таго, што кіраўнікі партыі баяліся адзін аднаго.

Міф аб праўдзівасці партыі зняпраўджваўся яе беспрынцыповасцю. У СССР, напрыклад, то ганілі Гітлера, то сябравалі з ім. Газеты, радыё, тэлебачанне, мастацкая літаратура, сходы, мітынгі, школа — усё было прасякнутае хлуснёю і падманам.

Міф пра дысцыплінаванасць партыі грунтаваўся на боязі яе членаў страціць свае месца. Міф пра любоў народа да партыі выкрываецца агульнай нянавісцю народа да яе, недаверам рабочых і

---

[1] Ролік А. Наменклатурная міфалогія // Наша слова. — 1993. - 8 снежня. - № 49. - С. 2.

сялян да кожнага інтэлігента, бо ў ім (часцей за ўсё слушна) падазравалі партыйца[1].

Палітычныя міфы могуць мабілізоўваць мільёны людзей на барацьбу за дасягненне правільных мэтаў, напрыклад вольнасці, сацыяльнай справядлівасці. Але часцей яны каламуцяць яснасць поглядаў, настаўляюць палітычныя думкі на заганны шлях.

Варта адзначыць найбольш значныя рысы міфічнага мыслення, а менавіта перавагу ў ім дагматызацыі гістарычных ведаў, высноўванне з яго практычных рэкамендацый, пазбаўленне гісторыі руху. Чалавек, які мысліць міфалагічна, не бачыць дынамікі гістарычнага працэсу, глядзіць на сучаснасць праз прызму нерухомых гістарычных уяўленняў.

## СТЭРЭАТЫПЫ

Прыкладам міфічнага мыслення служаць стэрэатыпы. Упершыню гэты тэрмін у сацыялогію ўвёў амэрыканскі публіцыст Ўолтэр Ліпман (1922). Стэрэатыпам завуцца схематычныя, стандартызаваныя вобразы сацыяльных з'яваў ці аб'ектаў, спрошчаныя ўяўленні аб пэўных постацях, грамадскіх, этнічных, рэлігійных групах, інстытуцыях, краінах. Як правіла, яны эмацыйна афарбаваныя і маюць вялікую ўстойлівасць. Стэрэатыпы — гэта звычайна перадузятыя ўяўленні, фальшывыя вобразы, «хадзячыя меркаванні», звязаныя з групавымі (класавымі, расавымі, этнічнымі, рэлігійнымі і г.д.) прымхамі. Яны ёсць вынікам дагматызацыі гістарычнага міфа.

Этнічныя, расавыя, рэлігійныя ды іншыя групавыя стэрэатыпы не варта ацэньваць з гледзішча сучасных настрояў, нельга іх разглядаць выключна праз прызму этнасу, расы, рэлігіі, якіх яны датычаць. Нельга сёння патрабаваць ад нашых продкаў бязжарсных ацэнак. Яны ў свой час актыўна не ўспрымалі ерэтыкоў ці «вядзьмарак» (як мы — «агентаў замежнага імперыялізму», «ворагаў народа», прадстаўнікоў «варожых класаў», «рэакцыйных нацый»).

Як быць з памяццю аб крыўдах, што існуюць паміж сацыяльнымі групамі — этнасамі, класамі, расамі або вернікамі? Аб групавой нянавісці трэба напамінаць. Вонкава гэта можа здацца задачай накшталт квадратуры кола, але выйсце з гэтага ёсць: трэба сумленна прызнаць існаванне праблемы і выклікаць дыскусіі.

[1] Некрасов В. Голый бог // Час пик. — 1993. — 1 декабря. — № 47. — С. 4.

Гэта значыць, выйсце можа быць толькі адным — шчырым папярэджаннем. Прыкладам такога шчырага папярэджання можа служыць разгляд «змоўніцкай тэорыі гісторыі».

Упершыню паняцце аб «змоўніцкай тэорыі гісторыі» выклаў сацыёлаг К.Р.Попер у сваёй працы «Адкрытае грамадства і ягоныя ворагі». Палітолаг Дэніэл Пайпс называе гэтую тэорыю таксама «канспірацыянізмам», «паранаідальным стылем» або «ментальнасцю нябачнай рукі»[1]. Ён характарызуе яе як боязь змовы, якой сапраўды няма, бо змова належыць да дзеяння, а «змоўніцкая тэорыя» — да пачуццяў.

## ЗМОЎНІЦКАЯ ТЭОРЫЯ ГІСТОРЫІ

Прыхільнікі гэтай тэорыі вырашальнае значэнне ў гісторыі, у гістарычным развіцці аддаюць змовам і адмаўляюць усе іншыя рухальныя фактары гісторыі[2].

Папраўдзе, змовы існавалі ўсюды і заўсёды. Успомнім змову Юлія Цэзара, змову асасінаў пад час крыжовых паходаў і мангольскай навалы, тугаў-душыльнікаў у Індыі, камору ў Неапалі, мафію, дзекабрыстаў. Але ўсе гэтыя змовы былі звязаныя з пэўнай мясцовасцю і абмежаваныя часам.

Апрача сапраўдных змоваў існавалі і існуюць змовы ўяўныя. Надта доўгае жыццё прыпісвалі зноў-такі абмежаваным у прасторы і часе рыцарам-тампліерам, сябрам таемных таварыстваў розэнкрэйцэраў, ілюмінатаў, масонаў. У сучаснай гісторыі змова з імкненнем пакарыць свет па чарзе прыпісвалася: езуітам, масонам, «сіёнскім мудрацам», а сённяшнія прыхільнікі памянёнай тэорыі лічаць, што ўсімі імі (і нават іезуітамі!) нібыта кіравалі габраі. Для прыхільніка змоўніцкай тэорыі гісторыі ідэальным супрацоўнікам быў бы езуіт з семіцкімі рысамі твару, які насіў бы фартух масона.

З'вілася нават мастацкая літаратура з раскрыццём гэтакіх змоваў — «Іосіф Бальзамо» і «Праз дваццаць гадоў» Дзюма-бацькі, «Вечны жыд» Сю, трылогія «Цемра егіпецкая», «Тамара Бендавід» і «Перамога Ваала» Крастоўскага, «Судны дзень» Віктара Іванова, «У імя айца і сына» Івана Шаўцова, «Усё наперадзе» Васіля Бялова. Змоўніцкая

---

[1] Pipes D. Potęga spisku. Wpływ paranoicznego myślenia na dzieje ludzkości. — Warszawa: BEJ Service, 1988. — S. 41.

[2] Гэтай тэорыі прысвечана кн.: Pipes, Daniel. How the Paranoid Style Flourishes and Where it Comes From. — [S. L.]: The Free Press, 1997 [ёсць пераклад на польскую мову: Pipes D. Potega spisku. Wpływ paranoicznego myślenia na dzieje ludzkości. — Warszawa: BEJ Service, 1998. — 264 S.].

тэорыя дачакалася і свайго «Дон Кіхота» — пародый на такія творы — «Сутарэнняў Ватыкана» Андрэ Жыда, «Маятніка Фуко» Умбэрта Эка.

Згаданыя аповесці і раманы прысвечаныя толькі ўяўным змовам. Тыя, хто мае ўладу, звычайна прыпісваюць такія змовы сваім сапраўдным або ўяўным ідэйным ворагам, каб расправіцца з імі або зваліць на іх віну за свае няўдачы. Такім чынам Гітлер прыдумаў змову свайго магчымага суперніка і прэтэндэнта на ўладу Рёма, каб расправіцца з ім і яго прыхільнікамі ўнутры нацысцкай партыі. Пазней такой жа выдумкай была трацкісцка-зіноўеўска-бухарынская змова «ворагаў народа», якая выклікала ў СССР хвалю рэпрэсій супраць нявінных людзей.

Вось такія ўяўныя змовы і маглі легчы ў аснову «змоўніцкай тэорыі» гісторыі. Прынясце падобнай тэорыі робіць зусім непатрэбнай карпатлівую прафесійную гістарычную крытыку з высвятленнем складаных з'яваў або абумоўленасці гістарычнага працэсу. Просты адказ на складаныя пытанні — залежнасць усяго ад змоваў — дазваляе прыхільнікам «змоўніцкай тэорыі» тлумачыць увесь ход гісторыі.

Месца рацыянальных даследванняў у гэтай тэорыі займае прымітыўнае мысленне, своеасаблівы від магіі. Згодна з гэтай тэорыяй, не грамадскія і палітычныя рухі, не звычаі, не духоўныя сувязі, не складанае развіццё розных палітычных і эканамічных фактараў фармуюць людскую гісторыю. Прынясце «змоўніцкага» бачання гісторыі вызваляе людзей ад разумовых намаганняў. Уяўны вораг выступае ў ролі ахвярнага казла.

Людзі не любяць прызнавацца ва ўласных памылках, жадаюць прыпісаць гэтыя памылкі іншым. Замест разумення таго, што ў гісторыі шмат выпадкаў бывае вынікам супадзення ці збегу акалічнасцяў (а іншым разам і проста агульнага глупства, калі, напрыклад, абіраюць на значную пасаду прайдзісвета або цынічнага дэмагога), больш спакуслівa ўявіць сабе, што намі кіруюць таямнічыя сілы, якія дзейнічаюць з карыслівым намерам. У такіх умовах чалавеку не трэба самому спрабаваць нешта зрабіць, каб уплываць на ходу падзеяў. Гэта тыпова фаталістычная тэорыя, якая нараджае ў чалавека пасіўнае стаўленне да рэчаіснасці.

Змоўніцкая тэорыя гісторыі складае значную частку грамадскай свядомасці. У краінах з дыктатарскім стылем кіравання яна дазваляе аб'ядноўваць прыхільнікаў безупыннай барацьбы супраць уяўных супраціўнікаў рэжыму і ажыццяўляць у дачыненні да іх тэрор.

Для пацверджання сусветных змоваў пачынаючы з XVII стагоддзя пэўныя палітычныя сілы выкарыстоўваюць супраць сваіх ворагаў творы. Уніклівы крытычны разгляд гісторыкамі гэтых твораў

паказвае, што гэта фальшыўкі. Першай з такіх фальшывак была апублікаваная з ініцыятывы пратэстантаў кніга «Прыватныя рады Таварыства Ісуса». У ёй на падставе скажэння сапраўдных інструкцый езуітам прыпісваліся ўсемагутнасць і імкненне захапіць уладу над светам.

На прыкладзе «Прыватных радаў Таварыства Ісуса» пры канцы XVIII стагоддзя езуіт А.Баруэль склаў працу, у якой абвінавацію таямнічыя таварыствы розэнкрэйцэраў, ілюмінатаў і масонаў у тым, што яны справакавалі Французскую рэвалюцыю з мэтаю сусветнага панавання.

Уяўная ўсемагутнасць езуітаў не перашкодзіла папу рымскаму Кліменту XIV распусціць яшчэ да гэтае рэвалюцыі ў 1773 годзе іхны ордэн, а ўяўная ўсемагутнасць масонаў і супольнікаў іншых сакрэтных таварыстваў не перашкодзіла прыходу ў Францыі да ўлады спачатку дырэкторыі, а потым Напалеона I. Сувораў і Кутузаў, якія належалі да масонства, грамілі войскі французаў, якія нібыта ажыццяўлялі планы сусветнага масонства.

З сярэдзіны XIX стагоддзя ў эўрапейскіх краінах абвастрылася канкурэнтная барацьба між фінансістамі і капіталістамі, у ліку якіх былі асобы карэннага і габрайскага паходжання. У рэвалюцыйным руху супраць адных і другіх пачалі браць удзел прадстаўнікі бяднейшай мяншыні жыхарства эўрапейскіх краінаў. Гэта выклікала з'яўленне новай версіі змоўніцкай тэорыі гісторыі: абвінавачванне габраяў у сусветнай змове з мэтаю захапіць уладу ў свеце.

Не пазней за 1899 год у Парыжы група супрацоўнікаў царскай ахранкі на чале з П.Рачкоўскім склала «Пратаколы сіёнскіх мудрацоў». У гэтым творы роля змоўшчыкаў супраць свету прыпісвалася габраям. Пачынаючы з 1920-х гадоў «Пратаколы» вывучаліся ангельскім журналістам Ф.Грэйвзам, расейскімі гісторыкамі Ю.Дэлеўскім, П.Мілюковым, багасловам А.Карташовым, журналістам В.Бурцавым, а ў 1980-х гадах дырэктарам Інстытута гісторыі Польскай Акадэміі навук Я.Тазбірам[1]. Гэты твор уяўляе сабою не толькі фальсіфікат, але і плагіят. Да гэткай жа высновы прыйшоў суд над фашыстамі-распаўсюджвальнікамі і выдаўцамі «Пратаколаў» у Бэрне ў 1935 годзе. 26 лістапада 1993 года Чаромушкінскі суд Масквы прыйшоў да

[1] Делевский Ю. Протоколы сионских мудрецов (История одного подлога) — Берлин: Эпоха, 1923. — 157 с.; Бурцев В. Л. «Протоколы сионских мудрецов»: доказанный подлог. — Париж, 1938 (2-е изд.); Кон Н. Благословение на геноцид. Миф о всемирном заговоре евреев и «Протоколах сионских мудрецов». — М.: Прогресс, 1990. — 248 с.; Tazbir J. Protokoły mędrców Syjonu. Autentyk czy falsyfikat. — Warszawa, 1992. — 264 s.; Ivanov M. Utajene protokoly, aneb genialni podvod. — Praha, MVCR, 1994. — 224 s.

выніку, што публікацыя «Пратаколаў сіёнскіх мудрацоў» ёсць праява антысемітызму[1].

«Пратаколы» складзеныя на аснове памфлета французскага журналіста М.Жалі «Дыялог у пекле між Мак'явэлі і Мантэск'ё» (1864 г.). Памфлет быў накіраваны супроць французскага імператара Напалеона III, выведзенага ў «Дыялогу ў пекле» ў вобразе італьянскага палітолага Мак'явэлі, што ў памфлеце вызнаваў беспрынцыповыя падставы дзеля захопу ўлады над светам.

Аўтары «Пратаколаў» перапісалі з 2560 радкоў «Дыялога ў пекле» 1040 радкоў. Яны сляпа паўтарылі нават памылкі друку памфлета.

Задумы «Мак'явэлі» — Напалеона III прывесці свет да распаду, прапагандаваць марксізм, дарвінізм ды іншыя «разбуральныя» тэорыі, распаўсюджваць парнаграфію, ператвараць друк у сродак разбурэння фальсіфікатары прыпісвалі ў «Пратаколах» габраям, якіх Жалі нават не ўзгадваў у «Дыялогу ў пекле».

У «Пратаколах» выкарысталі, акрамя таго, вядомы царскай ахранцы «Катэхізіс рэвалюцыянера» С.Нячаева — арганізатара таемнага расейскага таварыства, які карыстаўся метадамі правакацыі і тэрору і паслужыў прататыпам аднаго з герояў «Д'яблаў» Дастаеўскага, тое-сёе ўзялі з антысеміцкіх кніг французскіх публіцыстаў Шабаці і Друмона, а таксама з рамана (г. зн. з белетрыстыкі!) пісьменніка Гёдшэ.

Былы прафесар Пецярбургскай духоўнай акадэміі і міністр веравызнанняў Часовага ўрада А.Карташоў характарызаваў «Пратаколы» так: «Перад намі факт злаўлення на гарачым учынку буйных палітычных і культурных махляроў, якія лічылі і лічаць магчымым хлуснёю, паклёпам і чужою крывёю «ратаваць Расею». Барані нас, Божа, наперад ад такіх ратавальнікаў!»[2]

Я.Тазбір мяркуе, што «ўсіх тых, хто лічыць «Пратаколы» сапраўдным творам, аб'ядноўвае ў вачах гісторыка не толькі ліхая воля, але і страшэнная прафесійная нядобрасумленнасць, якая бачна ў тым спосабе, пры дапамозе якога былі сфабрыкаваныя «Пратаколы». Аўтары гэтай фальшыўкі проста шэраговыя махляры, на якіх творцы «Прыватных радаў» з таго свету павінны глядзець з пагардай. Іерархія царквы яшчэ паўстагоддзя таму ахарактарызавала іх як фальшыўку. Сёння ніхто з сур'ёзных людзей не выступае ў абарону сапраўднасці

---

[1] Иностранец. — 1993. — № 25 (цит. по: Новое время. — 1994. — № 1. — С. 53).

[2] Карташов А.В. Предисловие // Делевский. «Протоколы сионских мудрецов». — Берлин, 1923. — С. 5-9.

ўяўных «сіёнскх мудрацоў». Гэтага проста нельга рабіць, не ставячы пад сумнеў сваю навуковую рэпутацыю[1].

Нягледзячы на падазрэнні з самага пачатку ў іх неаўтэнтычнасці, «Пратаколы» друкаваліся на пачатку рэвалюцыі 1905 года ў Расеі, потым ва ўсім свеце, а зараз зноў у месцы першадруку. Пад час рэвалюцый і грамадзянскай вайны іх выкарыстоўвалі для дыскрэдытацыі грамадскіх сілаў, што выступалі супраць самаўладдзя, і для арганізацыі шматлікіх габрайскіх пагромаў. Нацысты ў Нямеччыне з падачы той іх часткі, якая паходзіла з Расеі, адразу выкарысталі «Пратаколы» для абгрунтавання сваіх прэтэнзій на ўладу. Пасажы з «Пратаколаў» фігуравалі ў «Міфе XX стагоддзя» выхадца з Расеі Розэнбэрга і ў «Маёй барацьбе» Гітлера. Нацысцкая прапаганда распаўсюджвала «Пратаколы» вялікімі накладамі, каб абвінаваціць габраяў ва ўсіх бедах грамадства і знайсці прэтэкст для іх фізічнага вынішчэння.

Гітлераўцы самі ставілі перад сабою тыя ідэі, якія ў фальсіфікаце прыпісваліся «сіёнскім мудрацам», а менавіта захоп свету, самі карысталіся тымі ж метадамі палітычнай правакацыі. Фашысцкая партыя не магла цярпець нават уяўнай канкурэнцыі падобнай арганізацыі. Нацысты стваралі сваю партыю па тых рэкамендацыях, якія прыпісвалі ўяўным «мудрацам» складальнікі гэтай фальшыўкі.

У адрозненне ад ранейшых падробак «Пратаколы» ўскосна пацягнулі за сабою «Халакост», масавае знішчэнне некалькіх мільёнаў нявінных ахвяраў — габраяў Эўропы. Спажыўцамі гэтай падробкі сталі людзі, няўстойлівыя да канцэнтраванай атакі дэмагогіі, палітычнай хлусні, якая звяртаецца да эмоцый, комплексаў, рэлігійных і этнічных прымхаў.

Аніводзін з чытачоў «Пратаколаў» не задумваўся над тым, як жа гэта «сіёнскія мудрацы» пры іхнай уяўнай усемагутнасці не здолелі папярэдзіць вынішчэнне свайго этнасу пад час Другой сусветнай вайны. Гэтак і рэалізацыя «Прыватных радаў» не прынесла езуітам перамогі над пратэстантамі і не прадухіліла ў свой час ліквідацыі ордэна.

Масавая, у тым ліку антысеміцкая, прапаганда дзейнічала на слабыя галовы людзей, падобна гарэлцы. Гэтым і тлумачыўся ў значнай меры поспех «Пратаколаў» сярод тых, хто гатовы абвінаваціць у сваіх бедах каго заўгодна, абы толькі не разбіраццa ў сапраўдных прычынах кожнага бязладдзя.

[1] Tazbir J. Protokoły mędrców Syjonu. — Warszawa, 1992. — S. 145.

## ГІСТАРЫЧНЫЯ ЛЕГЕНДЫ

Прадуктам міфічнага мыслення, які даволі часта сустракаецца, ёсць гістарычныя легенды. Гэта або ідэалізаваныя, або зацемненыя, насычаныя варожым стаўленнем вобразы пэўных гістарычных установаў, з'яваў, персанажаў[1].

Пэўныя легенды і міфы гісторыі Беларусі падрабязна разгледжаны мною ў шэрагу публікацый[2].

Таму, мяркую, не варта пералічваць іх і адсылаю цікаўных да гэтых працаў. Спашлюся толькі на тыя легенды, на якія звярнулі ўвагу нашыя даследнікі.

Так, Ю.Туронак адзначае, што ў беларускай нацыянальна сведамай літаратуры ўсталяваўся міф пра адмоўнае стаўленне нямецкіх акупацыйных уладаў у 1918 годзе да беларускай дзяржаўнасці. Падставай было тое, што 25 лютага 1918 года кайзераўскія жаўнеры скінулі беларускі нацыянальны сцяг з будынка Народнага сакратарыята ў Менску і сканфіскавалі касу гэтае ўстановы. Дадзены інцыдэнт, паводле меркавання Ю.Туронка, засланіў сабою станоўчыя ўчынкі начальніка X нямецкай арміі Э. фон Фалькенгайна, які перадаў мясцоваму апарату ўлады ўсе краёвыя дзяржаўныя ўстановы і дазволіў пашырыць беларускую адукацыю. Другім прыкладам легенды Ю.Туронак лічыць міф пра будаўніцтва Беларускай дзяржавы пад гітлераўскай акупацыяй у 1941-1944 гадах, спыненае прыходам Чырвонай Арміі[3].

---

[1] Życiorysy historyczne literackie i legendarne. — Warszawa, 1980. — Seria I, 282 s.; Warszawa, 1989. — Seria 2. — 372 s.; Warszawa, 1992. — Seria 3. — 284 s.; Mity i stereotypy w dziejach Polski. / Pod red. J. Tazbira. — Warszawa, 1991. — 328 s.

[2] Грыцкевіч В.П. Якой быць беларускай гістарычнай навуцы? // Полымя. — 1992. — № 5. — С. 202-228; Два погляды на адну канстытуцыю. — Тамсама. — 1993. — № 9. — С. 178-192; Міфы застаюцца міфамі // Літаратура і мастацтва. — 1991. — 20 верасня; Гістарычны міф ці разуменне гісторыі? // Тамсама. — 1992. — 4 верасня; Гульні з гісторыяй // Чырвоная змена. — 1993. — 29 студзеня; Славяне па ранжыру, або калі мы пазбавімся халопскага мыслення // Добры вечар. — 1993. — 10 лістапада; Гісторыя, самасвядомасць, этнас // Маладосць. — 1994. — № 3. — С. 172-181; № 4. — С. 241-249; Міф пра унію // Віцебскі сшытак. — 1996. — № 2. — С. 3-8; Міфы і гісторыя // Спадчына. — 1996. — № 2. — С. 56-88; Як месіяністычны міф насаджаўся на Беларусі // Тамсама. — 1996. — № 3. — С. 124-136.

[3] Turonek J. Białoruś pod okupacją niemiecką. — Warszawa-Wrocław: WERS, 1989. — S. 23-26, 144-145.

# ГІСТАРЫЧНАЯ АДУКАЦЫЯ І МІФЫ

Вялікі ўдзел у распаўсюджванні міфаў, легендаў, стэрэатыпаў, як адзначалася вышэй, бярэ гістарычная адукацыя. Нярэдка іх падтрымлівае думка пра іхны выхаваўчы плён. Не ўпэўнены, што такім чынам можна дасягнуць дыдактычных мэтаў. Хутчэй мае рацыю наш зямляк, польскі пісьменнік Ю.Крашэўскі, які ў творы «Літва. Старажытная гісторыя, законы, мова, вера, звычаі» пісаў паўтара стагоддзя таму: «Гісторыя настолькі значная, наколькі праўдзівая; становячыся служанкаю якой-небудзь думкі і пакорлівай яе нявольніцай, яна страчвае сваё настаўніцкае і філасофскае значэнне»[1].

У школьнай адукацыі цяжка пераконваць моладзь у няслушнасці міфаў, стэрэатыпаў, легендаў. Міфалагічны спосаб мыслення не толькі характарызуе штодзённую гістарычную свядомасць, але і жыве ў літаратуры, мастацтве, сродках інфармацыі, у навукова-папулярных і навуковых працах. Вакол нас — свет, поўны міфаў, і ў гэтым палягаюць вонкавыя цяжкасці праблемы.

Але існуюць і нутраныя цяжкасці працы па рацыянальным доказе няслушнасці міфаў. І звязаныя яны з непазбежным спрашчэннем выкладу, невялікай колькасцю гадзін, што адводзяцца на выкладанне курса, абмежаванымі магчымасцямі ўспрымання вучняў. Гэтае спрашчэнне — крыніца шмат якіх міфічных арыентацый. Нішто гэтак не спрыяе міфам, як няведанне. Адсюль вынікае відавочная выснова: спрашчэнне школьных ведаў не можа ісці занадта далёка. Спрошчаныя веды вельмі лёгка могуць ператварыцца ў крыніцу міфаў, стэрэатыпаў і легендаў. Так у мінулым адбывалася неаднойчы.

Другая выснова наступная: школьную гісторыю нельга арыентаваць аднабакова толькі на выхаваўчыя мэты. Яна павінна быць прыстасаванай да фармавальных і пазнавальных мэтаў. Рацыянальнае тлумачэнне сутнасці міфаў патрабуе павышэння навуковага роўню прадмета і большай увагі да высокай гістарычнай культуры. Трэба фармаваць у моладзі навуковае стаўленне да мінулага, абуджаць крытычнасць да надзённых гістарычных ведаў.

Зняпраўдзіць гістарычныя міфы няпроста таму, што шматлікія спасылкі на факты, пацверджаныя навукай, ствараюць выгляд гістарычнай праўды.

Гістарычны факт шматзнакавы. Ён мае і літаральны пласт, які выяўляецца ў апісанні канкрэтнай падзеі, інстытуцыі ці персанажа, і

---

[1] Kraszewski J.I. Litwa. Starożytne dzieje, ustawy, język, wiara obyczaje. — Warszawa, 1850. — T. II. — S. VII.

метафарычны пласт, стасаваны да шырэйшага дыяпазону з'яваў, які перадае прынятыя носьбітамі міфаў сінтэтычныя меркаванні і каштоўнасці.

Прыкладам можа служыць легенда пра словы палітрука Клачкова ля раз'езда Дубасекава пры абароне Масквы ў 1941 годзе. Гэтыя словы былі сказаны абаронцам пазіцый. Але ўсе 28 абаронцаў, згодна з афіцыйнай версіяй, загінулі. Гэта значыць, перадаць словы Клачкова журналісту Крывіцкаму, які апісаў подзвіг, ніхто з іх не меў магчымасці.

Гістарычны міф пагрозлівы не толькі ў сваім літаральным, але і ва ўласна метафарычным пласце. Узнікненне гістарычнага міфа звязваецца са спрашчэннем і абагульненнем фрагмента гісторыі (гэта можа быць працэс, з'ява, гістарычны факт). Такая працэдура выклікае, з аднаго боку, пэўнае назапашванне ацэнкі толькі ў адным пункце (бачанне дадзенага гістарычнага перыяду праз прызму гэтага фрагмента), а з другога — стварэнне пэўнага ўмоўнага сігнала, які ва ўспрыманні чытачом быў бы роўным успрыманню акрэсленага знака[1].

Міфалагічнае мысленне носіць выбіральны, скарочаны і аднамерны характар. Яно неаднаразова засяроджвае ўвагу на дробных эпізодах, якім надае значэнне сімвалаў. Гэткае мысленне адсоўвае ў цень астатнія факты або ўцісквае іх у прынятыя схемы, паслугоўваецца простаю шкалой ацэнак. Перавага аддаецца чорна-белым схемам («добры-дрэнны», «герой-здраднік» і г.д.).

Асобнай праблемай з'яўляецца карыстанне сімваламі. Здавён яны адыгрывалі вялікую ролю ў гістарычнай адукацыі, як у школе, так і па-за ёю. Дыдактычная гісторыя надае пэўным фактам, часам «значным», часам «другарадным», немалое сімвалічнае значэнне. Іх апісваюць не толькі падрабязна, але і вельмі сімвалічна. Дастаткова ўспомніць бранявік Леніна, шынель Дзяржынскага, люльку Сталіна і г.д.

## НАСЫЧАНАЕ СІМВАЛАМІ ВЫКЛАДАННЕ НАЙНОЎШАЙ ГІСТОРЫІ

Аперыванне сімваламі прыносіць пэўную карысць выхаваўчага характару. Але адначасова яно стварае значныя перашкоды на шляху да разумення гістарычнага працэсу. У дыдактычна пададзеным вопісе гісторыі часта бывае парушанай структура гістарычнай

---

[1] Jaskólski M. Historia i mit historyczny w doktrynie politycznej // Historyka. — T. 14. — S. 61.

рэчаіснасці, дэфармуюцца прапорцыі і стасункі. Гэта датычыць пачатковай адукацыі, у якой пераважаюць выхаваўчыя мэты. Яна моцна насычаная міфічнымі элементамі. Прывучаны да сімвалаў дзіцячы розум пазней цяжка вызваліць ад іх. Гэта тлумачыць параўнаўча слабыя вынікі сярэдняй школы ў сферы рацыяналізацыі гістарычнай сведамасці.

Такое становішча схіляе да пытання: ці мэтазгодна падаваць факты-сімвалы ў пачатковай школе? Можа, страты ад гэтага значна большыя, чым магчымы плён? Падаецца вартым у вывучэнні гісторыі абмяжоўваць міфічна-сімвалічныя элементы, надаючы школьнаму навучанню гісторыі больш навуковы характар.

Зразумела, гэта пацягне за сабою адмаўленне ад асвечаных традыцыяй фактаў-сімвалаў або адсуне іх на менш бачнае месца ў гістарычным выкладанні. Выказваемся за наданне школьнаму гістарычнаму выкладанню больш сутнаснага характару з сапраўдным узважваннем у ім рацыянальных і эмацыйных элементаў.

Карыснаю зброяй у пераадоленні гістарычнай міфалогіі можа быць крытычны аналіз выбраных міфаў, стэрэатыпаў, легендаў. Зразумела, болей магчымасцяў для гэтага ў сярэдняй школе. Але і ў пачатковай можна ўводзіць пэўныя элементы падобнага аналізу.

Напрыклад, «чорным» стэрэатыпам немцаў і Нямеччыны, што ўкараніліся ў нас з часоў Другой сусветнай вайны, можна было б супрацьставіць станоўчыя моманты збліжэння беларусаў і немцаў пад час знаходжання апошніх у Беларусі як меншыні на працягу стагоддзяў, паказу таго, колькі словаў пазычана нашай мовай з нямецкай (вандраваць, ратаваць, крама, гандаль, дах, фарба, кушнер, слесар, гарбар, лёс, крышталь, брук, пляшка, куфаль, помпа ды інш.), таго, як лекары нямецкага паходжання лячылі мясцовае насельніцтва, настаўнікі з немцаў навучалі дзяцей, а майстры працавалі ў рамястве і прамысловасці і г.д.

У сярэдняй школе можна было б аналізаваць «чорныя» і «белыя» легенды пра такіх асобаў, як К.Каліноўскі, В.Ластоўскі, браты Луцкевічы, Булак-Балаховіч, Чарвякоў, «наш Пётр Міронавіч» Машэраў, В.Казлоў, Грамыка, маршал Якубоўскі і г.д. Гэтакі аналіз дазволіў бы моладзі зразумець складаны і адначасова дынамічны характар гістарычных ведаў і яе ўсялякія пазанавуковыя і навуковыя абумоўленасці. Гэта дапамагло б прышчапіць ёй крытыцызм у стаўленні да гістарычных пастулатаў, што знаходзяцца ва ўжытку, імкненне да выпрацоўкі ўласнага погляду на некаторыя гістарычныя і сучасныя з'явы і падзеі.

Патрэбна таксама змяніць спосаб падачы гістарычных персанажаў, як, дарэчы, гэта паспрабавалі зрабіць нацыянальна сведамыя беларускія даследнікі мінулага А.Бяляцкі і В.Ермалёнак у дачыненні да асобы С.Булак-Балаховіча[1].

Дасюль яшчэ гістарычныя персанажы маюць надта спрошчаны выгляд, яны схематычныя, аднамерныя. Варта паказаць асобаў, што дзейнічалі ў мінулым, як людзей жывых, якія мелі пэўныя вартасці, але таксама і недахопы, якія паддаваліся пэўным слабасцям, рабілі памылкі, недарэчныя ўчынкі і г.д.

Магчыма, варта ўзбагаціць школьную шкалу ацэнак. Яна мусіць быць больш адкрытай, чым цяпер. Пры гэтым аддаваць перавагу не столькі першасным ацэнкам («прагрэсіўны-рэакцыйны»), колькі параўнаўчым («у параўнанні з...», «гэта было выйсце больш...»).

## СПРОБЫ ПЕРААДОЛЕННЯ МІФАЎ

Пераадольваць міфы цяжка і складана. Больш за тое, гэта вельмі няўдзячная справа. С.Гжыбоўскі прыводзіць наступны прыклад. Ён даведаўся ад аднаго гісторыка, што той, вывучаючы біяграфію Яна Кілінскага, паплечніка Касцюшкі ў збройным чыне 1794 года, а потым удзельніка змовы братоў Цяцерскіх у Вільні супраць расейскіх акупантаў (1797)[2], знайшоў у архіве справаздачу прадпрыемства, якое той трымаў. У прадпрыемстве былі занятыя толькі жанчыны маладога ўзросту. Гісторык зразумеў, што гэта быў «вясёлы дом», які трымаў герой паўстання, і ўстрымаўся ад апісання гэтага факта біяграфіі Кілінскага. Нават калі гэта анекдот, то ён варты таго, каб мець яго на ўвазе. На нашу думку, і пра такое трэба пісаць, не баючыся дэміфалагізацыі герояў.

Дэміфалагізацыя Жанны д'Арк[3], Рычарда III Ангельскага[4], Рышэлье[1], Пятра I, Леніна, Троцкага, Сталіна вельмі складаная, а

---

[1] Бяляцкі А. Бандыт ці нацыянальны герой // Грунвальд (Талін). — 1990. — № 2; В. Ермалёнак. Генерал Булак-Балаховіч — хто ён? // Браслаўскія чытанні. — Браслаў, 1991.

[2] Пра яго гл.: Грицкевич В. От Нёмана к берегам Тихого океана. — Минск, 1986. — С. 87. Sidorski D. Nie znam takiego monarchy. Jan Kilinski. — (Katowice): Śląsk, 1982. — S. 173-174.

[3] Жанна д'Арк (1412-1431), народная гераіня Францыі. Стала на чале вызваленчай вайны французаў супраць ангельцаў пад час Стогадовай вайны 1337-1453 гг. Спаленая на вогнішчы ворагамі як герэтычка. Шэраг яе дзеянняў быў некрытычна інтэрпрэтаваны праз літаратараў (Ф.Шылер) і гісторыкаў.

[4] Рычард III Ёрк (1452-1485), кароль Англіі з 1483 г. Захапіў пасад, адхіліўшы ад улады свайго малога пляменніка Эдуарда V, які разам з малодшым братам неўзабаве пасля

іншым разам практычна немагчымая (як у прыкладах Марыі Ст'юарт[2] або дона Карласа Габсбурга[3], якіх занадта ідэалізавалі).

Пераадоленне міфаў вымагае пераказу грамадству як мага больш поўных ведаў пра мінулае. Мы мусім бачыць гістарычную рэчаіснасць такой, якой яна была, а не такой, якой «павінна» быць. Нельга засяроджваць увагу толькі на адным — станоўчым або адмоўным — баку гістарычных з'яваў. Трэба асвятляць іх усебакова, спосабам, што адпавядае патрабаванням прафесійнай навукі, а не прыстасаванню да сучасных палітычных мэтаў той ці іншай палітычнай партыі ці грамадскага руху.

Існуюць гіпотэзы пра тое, што схільнасць паддавацца гатовым узорам грамадскіх паводзін адваротна прапарцыйная роўню ведаў і грамадскага досведу чалавека. Аднак жа міфы і стэрэатыпы грамадства перадае чалавеку стыхійна або ў выглядзе гатовай свядомай перадачы, якая натхняецца адпаведнымі цэнтрамі, напрыклад цэнтрамі ідэйна-выхаваўчага ўздзеяння, што звязваюць пэўныя падзеі з трываласцю гэтых міфаў і стэрэатыпаў.

На падставе даследванняў фармавання грамадскімі рухамі таталітарнага і аўтарытарнага характару асобнага чалавека (якія пачалі ў свой час Г.Олпарт і Т.Адорна) можна сцвярджаць, што існуюць людзі, асабліва здольныя да пераймання і пераказу міфаў. Звязана гэта з існаваннем у іх пачуцця пагрозы, адчужэння, адасаблення, патрэбы бяспекі і аўтарытэту. Людзі з такім характарам «аўтарытарнай», замкнёнай асобы больш падрыхтаваныя да прыняцця гатовых узораў мыслення, паводзін, захавання, чым асобы з адкрытай, дэмакратычнай

---

таго памёр. Ворагі Рычарда III, якія яго перамаглі, абвінавачвалі ў смерці пляменнікаў іхнага дзядзьку. Гэтая традыцыя была замацаваная гісторыкамі (Т.Мор) і пісьменнікамі (У.Шэкспір), але не пацверджаная верагоднымі доказамі.

[1] Арман Рышэльё (1585-1642), кардынал, фактычны валадар Францыі (з 1624 г.), спрыяў умацаванню абсалютызму і пашырэнню палітычнага ўплыву Францыі. Праводзіў адміністрацыйныя, фінансавыя, вайсковыя, культурныя рэформы. Афіцыйная французская гістарыяграфія апраўдала ягоныя рэпрэсіі супраць гугенотаў, задушэнне феадальных бунтаў, народных паўстанняў, уцягванне краіны ў трыццацігадовую вайну 1618-1648 гг., што каштавала Францыі значных стратаў.

[2] Марыя Ст'юарт (1542-1587), шатляндская каралева (1542-1567), уцякла ад паўстання ў краіне ў Англію, дзе была зняволеная сваёй сваячкаю каралеваю Лізаветаю I і брала актыўны ўдзел у змовах супраць Лізаветы I, бо прэтэндавала на пасад Англіі, была за тое пакаранай смерцю. З лёгкай рукі Ф.Шылера і С.Цвэйга ідэалізаваная як нявінная ахвяра Лізаветы I.

[3] Дон Карлас Габсбург (1545-1568), нашчадак гішпанскага пасаду, сын Філіпа II, з якім знаходзіўся ў варожых дачыненнях. Памёр у зняволенні. Вобраз дона Карласа як нібыта прыхільніка рэформаў, ідэалізаваны ў прысвечаных яму п'есе Ф.Шылера і оперы Дж. Вэрдзі.

пазіцыяй. Яны праяўляюць большую схільнасць да абвостраных супрацьстаўленняў і схематычнага стылю мыслення, а таксама да нецярпімага стаўлення да іншых вартасцяў і іх прыхільнікаў.

Аднак недахоп шырокіх эмпірычных даследванняў перашкаджае акрэсліць псіхічныя якасці асобы і грамадскай групы, якія спрыяюць працэсу міфалагізацыі гістарычнай сведамасці. Зрэшты, іх парознаму тлумачаць асобныя школы і псіхалагічна-сацыялагічныя тэорыі. У самых гістарычных і паліталагічных даследваннях сведамасці адзінкі і грамадскай групы слаба ўлічваецца праблема ірацыянальных матывацыяў палітычных паводзін і захавання.

З'яве міфалагізацыі гістарычнай сведамасці напэўна спрыяюць адзінкі і грамадскія групы, слаба інфармаваныя пра становішча мінулай і сучаснай рэчаіснасці і з недастатковым грамадскім досведам. Гэта цесна звязана з псіхічнымі працэсамі забывання, фантазій, дэфармацыі памяці. Міфалагізацыі спрыяюць пэўныя асабістыя якасці чалавека, якія праяўляюцца ў схематычным стаўленні да грамадскай рэчаіснасці, варожасці ў дачыненні да іншых вартасцяў і перакананняў, у моцна ідэйна матываваных пазіцыях і захаванні і г.д.

Таму вызваленне гістарычнай і палітычнай сведамасці жыхароў Беларусі — надта цяжкая задача, развязанне якой залежыць не толькі ад гісторыкаў і папулярызатараў гістарычных ведаў, але, не ў апошнюю чаргу, ад самога грамадства.

Менавіта грамадству патрабуецца перабудова псіхікі і змена найбольш закасцянелых формаў мыслення і дзеяння. Найперш трэба звярнуць увагу на тое, што ў розумы беларусаў на працягу дзесяцігоддзяў мэтанакіравана ўкараняліся русіфікатарскія міфы гісторыі. Не менш намаганняў зроблена з мэтай падпарадкавання камуністычнай дактрыне і яе трывалым міфам. У далейшай дэміфалагізацыі гісторыі ўсё гэта варта ўлічваць.

У нашыя часы стаўленне да міфа мяняецца. Гэтаму спрыялі працы М.Эліядэ. Ён пісаў: «Трэба разумець, што XIX стагоддзе не магло ўспрынясць сімвал-міф і вобраз як факты духоўнага жыцця, якія можна хаваць, скажаць, змяняць, але якія немагчыма знішчыць». Міфы выраджаюцца, сімвалы становяцца свецкімі, але яны ніколі не сыходзяць на нішто нават у такім рацыяналістычным часе, якім было мінулае стагоддзе. Сімвалы і міфы ўваходзяць карэннем у глыбокую старажытнасць. Яны складаюць частку людскога існавання. Няма такой сферы жыцця, дзе б яны не сустракаліся.

Пераканаць у няслушнасці міфаў, стэрэатыпаў, легендаў можна толькі таго, хто падрыхтаваны быць перакананым. Калі ён не гатовы,

калі нешта ў ім супраціўляецца, то з ім нічога не зробіш. Ён заўсёды знойдзе прынцып, каб апраўдаць свае жарсці.

Калі настойліва паказваць усю агіднасць, усю брыдоту, да якіх вядзе, напрыклад, фашызм — карычневы, чырвоны, чорны (тыпу клерыкальнага фундаменталізму), пэўная частка тых, хто вагаецца, адыдзе ад яго. Але немагчыма пераадолець псіхалагічны закон: вобраз ворага, які прапануюць чалавеку прыхільнікі фашызму, зняншае страх безасабовага, туманнага ліха, пачуцця бездані, у якую ўсё ляціць. Я згодны з Рыгорам Памяранцам, які піша, што да той пары, пакуль чалавек адчувае боязь пераменаў, боязь невядомага, боязь бяздоння, пакуль чалавек не знайшоў апірышча ў самім сябе, — масавая істэрыка, давер да міфаў, стэрэатыпаў, легендаў непазбежны[1].

І ўсё ж чалавек не можа існаваць нідзе больш, як толькі ў свеце, у якім існуе гісторыя. Ён па натуры гістарычная істота. Мы ўсе «асуджаныя» на гісторыю. Таму павінны дбаць пра тое, каб свет нашых гістарычных уяўленняў быў складзены з як мага найлепшага матэрыялу, а не з міфаў сумнеўнага характару.

[1] Померанц Г. Можно ли убедить? // Искусство кино. — 1994. — № 10. — С. 88.

# СТАРАЯ, СТАРАЯ КАЗКА

*Прошедши порядочное расстояние, увидели точно границу, состоявшую из деревянного столбика и узенького рва.*
*«Вот граница! — сказал Ноздрев, — все, что ни видишь по эту сторону, все это мое, и даже по ту сторону, весь этот лес, который вон синеет, все, что за лесом, все это мое».*

Н.Гоголь. Мертвые души. Т. I. Гл. IV.

*Что такое белорусы? Это русские. Кто это придумал, когда? Белые русские, красные русские, синие русские. Это все сделано искусственно. Искусственно, понимаете? Никто не хочет изучать другой язык — нормальный, хороший — русский язык. Весь мир изучает! Тут вдруг выдумали вводить пятьдесят языков. Это все от сумасбродства. Это национальный психоз.*

*Из выступления В.В.Жириновского в С.-Петербурге 8 июля 1991 г.*

Можна нагадаць асноўныя сюжэты, што вандруюць на працягу жыцця некалькіх пакаленняў з адных русіфікатарскіх — дасягальных усім — падручнікаў гісторыі «Северо-Западного края» Расеі мінулага стагоддзя ў гэтакія ж русіфікатарскія падручнікі гісторыі БССР. Толькі ў тых кніжках канца XIX стагоддзя былі аўтары М.Каяловіч, П.Бранцаў, П.Бацюшкаў, А.Турчыновіч, К.Харламповіч, П.Жуковіч, а ў пазнейшых — рэдактары і аўтары Л.Абэцэдарскі, Э.Загарульскі з аднымі і тымі жа суаўтарамі. Нешматлікія ж, хай сабе і не заўсёды роўныя па якасці падручнікі, напісаныя з беларускага гледзішча агульныя курсы нацыянальнай гісторыі В.Ластоўскага, У.Ігнатоўскага, Я.Найдзюка, Я.Станкевіча, і некаторых іншых аўтараў заставаліся недасягальнымі для чытачоў.

Паспрабуйма прасачыць, як у Беларусі варожымі ёй сіламі навязваліся міфы і легенды, каб утрымаць і царскі, і бальшавіцкі парадак. Звернем увагу на тое, што шматлікія міфы нараджаліся ў гістарычных даследваннях і даведніках, абымаючы ўсю гісторыю Беларусі, пачынаючы ад першабытных часоў.

Адзін з такіх міфаў датычыць асвятлення славяна-балцкіх узаемадачыненняў на сучаснай тэрыторыі Беларусі пад час яе засялення аднымі з продкаў сучасных беларусаў — славянамі. Калі

азнаёміцца з доследамі беларускіх і расейскіх археолагаў, антраполагаў, мовазнаўцаў апошніх дзесяцігоддзяў, можна будзе зразумець, што на сучаснай беларускай зямлі яшчэ да таго, як склаўся беларускі этнас, жылі балцкія плямёны, блізкія па мове да сучасных летувісаў і латышоў. Потым зямля гэтая была паступова заселеная славянскімі продкамі беларусаў, якія змяшаліся з тубыльцамі.

У падручніках, складзеных па старых рэцэптах, удзел балцкага субстрату (гэта значыць этнасу, што жыў папярэдне) у стварэнні беларускага народа адмаўляецца. Нібыта славяне прыйшлі на пустэчу між Дняпром, Дзвіною і Нёманам. Гэта значыць, што яны і толькі яны павінны быць яе валадарамі па праве першазасялення.

Вы памыліцеся, калі падумаеце, што гэта сцвярджаецца на карысць беларускай ідэі. Не, гэта робіцца на карысць ідэі імперскай, расейскацэнтрычнай. Згодна з ёю беларусы — гэта тыя ж расейцы, хай сабе «маленькія», але ўсё ж «нашы». А балты — нібыта «чужыя».

Абаронцам такой ідэі трэба расцягнуць абшар расейскага ўладарання як мага шырэй, ды яшчэ даказаць ягоную правамоцнасць.

Такая ж імперская думка праводзіцца праз сцверджанне, нібыта існаваў адзіны старажытны ўсходнеславянскі этнас, адзіная мова і адзіная дзяржава ад Балтыйскага да Чорнага мора — Кіеўская Русь. Аднак жа дзяржава гэтая была недаўгавечная, існавала яна з перапынкамі семдзесят гадоў (у 980-1015 і 1019-1054 гг.). А да таго і пасля таго на ўсёй гэтай тэрыторыі існавалі самастойныя ўдзельныя княствы і ў тым ліку Полацкае — аснова Беларусі.

Што да адзінай мовы, дык яшчэ прафесар Чарнавіцкага, а потым Украінскага Вольнага інстытута ў Празе, акадэмік Усеўкраінскай Акадэміі навук Сцяпан Смаль-Стоцкі (1859-1939) даволі доказна зняпраўджваў правамоцнасць ідэі праўсходнеславянскай мовы. Ён даводзіў, што тры ўсходнеславянскія мовы — расейская, украінская і беларуская — узніклі непасрэдна з праваславянскай, а не з праўсходнеславянскай мовы ўсяе Кіеўскай Русі.

Менскі прафесар В.Мартынаў лічыць, што старая вядомая канцэпцыя агульнай старажытнарускай мовы як калыскі трох моваў не вытрымлівае ніякай крытыкі. Гэтая канцэпцыя была больш палітычная, чым навуковая, усім нам добра вядома, чаму яна была папулярная. Паводле меркавання навукоўца, так званая старажытнаруская мова — гэта не прамова трох усходнеславянскіх моваў, а проста стараславянская літаратурная мова ва ўсходнеславянскім варыянце. Няма беспасярэдніх крыніцаў, з якіх можна было б даведацца пра ўсходнеславянскія дыялекты прыкладна IX-X стагоддзяў.

Калі зазірнуць у старажытнейшыя часы, мы сутыкаемся з праблемай славянскай прарадзімы ў басейне Віслы і Одры. Адтуль пачалася міграцыя славян на ўсход (раней) і поўдзень (пазней). Першая міграцыя праходзіла ўздоўж Прыпяці да Дняпра, далей на поўнач і на поўдзень. Тая частка славянаў, якая пайшла на поўдзень, сталася носьбітам украінскага дыялекту, на поўнач — беларускага. Расейскай тэрыторыі яшчэ не было ўвогуле. Але ўсе памянёныя землі не былі пустэчаю. Там жылі розныя этнасы. Напрыклад, тэрыторыя сённяшняй Беларусі была заселена ўсходнімі балтамі. На тэрыторыі Украіны жылі іранамоўныя скіфы. Таму беларуская і украінская мовы бліжэйшыя паміж сабой, бо яны нібы выйшлі з адной плыні, хоць субстраты былі розныя. Што да расейскай мовы, то В.Мартынаў лічыць, што перасяленне прарасейцаў адбылося пазней, прычым на той час мелася на ўвазе не мова, а таксама дыялект. Яны прайшлі праз тую ж тэрыторыю, але далей на поўнач ад Ноўгарада да Ладагі.

Такім чынам, былі не тры, а два арэалы: беларуска-ўкраінскі і расейскі. Дыялект, на якім пабудавана сучасная беларуская мова, узнік вельмі рана, не ў XIV стагоддзі, як сцвярджалася ў савецкія часы, а на пачатку нашай эры. Што да пісьмовай старабеларускай мовы, то яна не была пабудаваная на дыялектнай аснове, а беспасярэдне звязана з кніжнымі ўплывамі. Новая ж беларуская літаратурная мова грунтуецца на найбольш старажытным народным дыялекце[1].

Яшчэ ў 1960-х гадах ленінградскі гісторык В.Б.Вілінбахаў выказаў гіпотэзу, згодна з якой розныя плямёны Старажытнай Русі мелі мала агульнага, бо іх, як пісаў М.Багдановіч, «душылі абшары лясоў» і шляхі між тэрыторыямі рассялення розных плямёнаў былі дрэнныя. У гэтых плямёнаў было мала геапалітычных сувязяў гэтаксама, напрыклад, як сёння ў жыхароў Новай Гвінеі. На гэтай вялізнай выспе жыве прыблізна семсот асобных этнасаў. Мовы, якімі гавораць гэтыя народы, размяркоўваюцца між некалькімі няроднаснымі між сабою надсем'ямі — трансновагвінейскай, сепік-раму, тарычэлі, заходнепапуаскай ды іншымі.

Калі ж не было адзінай старажытнарускай мовы, дык што тады было адзіным на раўнінах Усходняй Эўропы ад Балтыі да Прычарнамор'я? Вялікакняская ўлада? Але ж яна існавала ўсяго некалькі дзесяткаў гадоў. Этнас? Аднак там жылі розныя плямёны, пералічаныя ў асноўнай крыніцы таго часу — «Аповесці пра мінулыя часы». Хрысціянскае веравызнанне? Яно ўводзілася ў розных частках

---

[1] Мартынаў В.У. Канцэпцыя трохмоўнае калыскі не вытрымлівае крытыкі // Наша слова. — 1994. — 2 сакавіка. — № 9.

Усходняй Славяншчыны і прыйшло з Візантыі. Сёння ў асобных артыкулах можна прачытаць нават, што там уводзілася грэцка-праваслаўная рэлігія, якая паступова выцясняла паганства. Але ўводзілася яна з 980 года, гэта значыць да расколу Сусветнае хрысціянскае царквы на грэцка-праваслаўную і рымска-каталіцкую. Раскол адбыўся ў 1054 годзе. У часы хрышчэння Русі хрысціянская царква была адзінай, Сусветнай і абыймала пяць патрыярхій: Александрыйскую, Антыяхійскую, Канстантынопальскую, Ерусалімскую і першапрастольную Рымскую. Яшчэ да расколу ў Тураве жыў лацінскі епіскап калабжэгскі Райнбэрн, які прыехаў туды з польскай князёўнай, што выйшла за старэйшага сына князя Ўладзіміра Хрысціцеля Святаполка.

Яшчэ наконт сцверджання таго, што насельніцтва тагачаснай Русі было аднальітным этнасам, з якога вылучыліся тры — расейскі, украінскі і беларускі. Дастасуем параўнальны метад вывучэння гісторыі. Кіеўскае княства Ўладзіміра і ягонага сына Яраслава — не адзіная дзяржава Сярэднявечча такога тыпу. У Эўропе былі і іншыя эфемерныя вялікія дзяржавы, якія аб'ядноўвалі і блізкія па мове і не падобныя адзін да аднаго этнасы. Напрыклад, раней за Кіеўскае княства ў VIII-IX стагоддзях стварылася імперыя Карла Вялікага. Пры ягоных сынах яна распалася на Францыю, Германію і між імі дзяржаву Лотара. Часткі дзяржавы Лотара трапілі да памянёных краін, а таксама далі пачатак сучасным Нідэрляндам, Бэльгіі, Люксэмбургу, Швайцарыі, Аўстрыі.

Але супольнікі сучаснага Эўрапейскага звязу не ставяцца адзін да аднаго як старэйшыя і малодшыя браты. Мала таго, у іншых дзяржавах, як у той жа Францыі, не адна мова распадалася на тры, наадварот, дзве мовы злучаліся ў адну. А вось Кіеўскую Русь, якая была часовым кангламератам разнаплямёнавых і рознамоўных земляў, трактуюць як калыску старэйшага і малодшых, мацнейшага і слабейшых, вялікага і меншых этнасаў, мадэрнізуючы мінулае, праецыруючы яго на пазнейшае Вялікае княства Маскоўскае, Расейскае царства, Расейскую імперыю і Савецкі Саюз.

Яшчэ адзін міф — заваёва літоўскімі князямі беларускіх земляў. Дарэчы, дзіўным здаецца, калі асобныя гісторыкі прапануюць азначаць гэтае гаспадарства як «Літоўска-Рускае»[1]. Што гэта, як не імперскае жаданне выдаліць слова «Беларускае» з назову дзяржавы, абапіраючыся на літару, а не на сутнасць з'явы, мадэрнізуючы сэнс

---

[1] Крытыку такога погляду дае А. Грыцкевіч у артыкуле «Акцэнты, нарэшце, расстаўлены» (Культура. — 1992. — № 24 (32). — С. 5).

слова «рускі», якое ў тагачасным кантэксце азначала менавіта «беларускі»?

Што з таго, што ў назове «Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае» не было слова «Беларускае»? Калі ствралася гэтая дзяржава, яго ўвогуле не было ва ўжытку. Як не было і слова «Расейскае» ў найменні «Вялікае Княства Маскоўскае». Зыходзячы з такой пазіцыі, трэба было б называць некаторыя дзяржавы толькі так, як яны называліся іхнымі жыхарамі і валадарамі ў свой час. Напрыклад, найменне «Візантыйская імперыя» ніколі ў гэтым гаспадарстве не ўжывалася, бо яно пры сваім існаванні звалася Ўсходне-Рымскай ці проста Рымскай імперыяй. Назоў «Кітайская імперыя» ў гэтай краіне таксама не ўжываўся, бо яна звалася «Паднябеснай імперыяй». Туркі называюць сваю былую дзяржаву не Асманскай, як яна звалася даўней, а Турэцкай. Дык што перашкаджае называць Вялікае Княства Літоўскае згодна з ягонай сутнасцю?

Паводле летапісных звестак, задзіночанне беларускіх і літоўскіх земляў праходзіла па згодзе між валадарамі гэтых тэрыторый. Але расейскім гісторыкам карысна было сцвярджаць, нібыта «чужыя» валадары захапілі гвалтам «нашы», як яны пісалі, «рускія» землі. А гэта для таго, каб пазней пацвердзіць беспадстаўныя прэтэнзіі сапраўды чужых беларускаму народу вялікіх князёў маскоўскіх і іхных імперскіх нашчадкаў на вызваленне «малодшых братоў» — вызваленне ад сваёй жа дзяржаўнасці.

З гэткаю ж мэтай былі створаныя міфы пра «шкодны» ўплыў заходнеэўрапейскай культуры часоў Рэнесансу і гуманізму, каталіцызму, Рэфармацыі на культуру Беларусі, пра ўяўную забарону беларускай мовы пастановай Сойму 1696 года, хоць у гэтым дакуменце пасля звычайна цытаваных словаў: «Цяпер усе пастановы павінны складацца на польскай мове» далей гаворыцца: «Усе папярэднія акты, запісы, пастановы і паказанні захоўваюць сваю моц»[1]. Ані ў гэтай пастанове, ані ў іншых няма ніводнага слова пра забарону беларускай мовы.

Часта абвінавачваюць беларускую шляхту — тагачасную духоўную эліту — у здрадзе свайму народу ў часы Рэчы Паспалітай. Так, здабываючы адукацыю, беларускія магнаты і шляхта, частка месцічаў часам адыходзілі ад роднай мовы, але, па-першае, далёка не заўсёды, а па-другое, ніколі не забываліся пра сваё мясцовае, беларускае паходжанне, чаму ў крыніцах хапае доказу.

---

[1] Volumina legum. — Ed. 2. — Petersburg, 1870. — T. 5. — S. 418.

Ці ж не з шэрагаў шляхты выйшлі першыя апісальнікі побыту Беларусі ў мастацкай літаратуры на польскай (Ян Баршчэўскі, Ян Ходзька, Ігнат Ходзька, Генрык Ржавускі) і на расейскай (Фадзей Булгарын) мовах, першыя беларускія літаратары новай эпохі — Вінцук Дунін-Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч, Альгерд Абуховіч, Янка Лучына, Карусь Каганец, Янка Купала ды іншыя? Раней была такая мода сярод нашай шляхты — вонкава апалячвацца. Але далёка не заўсёды гэта было стратай ідэнтычнасці з асяроддзем. Калі мець на ўвазе мову, то ў даўнія часы яна не была паказальнікам этнічнай самасведамасці. Шмат хто з першых беларускіх асветнікаў ахвяраваўся ўласным дабрабытам дзеля народа. Ці ж гэта не было кампенсацыяй за пэўную пасіўнасць шляхты ў папярэднія дзесяцігоддзі?

І ўвогуле, мяркую, трэба лічыцца з тым, што казаў А.Камю: «Усялякае грамадства трымаецца на арыстакратыі, бо сутнасць арыстакратызму — патрабавальнасць да самога сябе, а без такой патрабавальнасці кожнае грамадства гіне»[1].

Я пагадзіўся з кіраўніком Украінскага даследчага інстытута ў Гарвардскім універсітэце Грыгор'ем Грабовічам (з якім сустракаўся на пачатку вясны 1991 года), калі той сцвярджаў, што для паўнацэннага дзяржаўнага існавання недастаткова мець свае грошы і пасольствы — патрэбная яшчэ інтэлектуальная традыцыя, пэўныя стандарты інтэлектуальнага жыцця. Ён меў на ўвазе культурную эліту[2]. Нельга было не згадзіцца, што паўнавартасць нацыі звязана са з'яўленнем у ёй духоўнай эліты.

Працягваю размову пра байкі і легенды ў гісторыі Беларусі. Што казаць пра маральнае апраўданне ў савецкіх гістарычных працах спусташальных паходаў на Беларусь у часы Івана Жахлівага, Аляксея Міхайлавіча, Пятра Аляксеевіча, Ганны Іванаўны, Кацярыны ІІ? Гэтыя паходы паўтараліся з д'ябальскай рэгулярнасцю са стагоддзя ў стагоддзе.

У стандартных расейскацэнтрычных падручніках ды іншых кніжках беларускі чытач знойдзе апраўданне гэтым войнам: нібыта памянёныя цары вызвалялі бедных беларусаў ад акаталічвання і апалячвання, ад нацыянальнага і рэлігійнага ўціску. Тое, што беларусы трацілі ў выніку і маёмасць, і родных, і жыццё, што тых, каму пашэнціла застацца ў жывых, зганялі як быдла ў палон і

---

[1] Камю А. Записные книжки // Иностранная литература. — 1992. — № 2. — С. 185.
[2] Гл. таксама: Грабовіч Г. Парадоксы відродження // Народна газета. — 1990. — № 1. — С. 3; Грабовіч Г. Парадоксы возрождення // Атмода. — 1990, 23 апреля. — № 16. — С. 14.

адпраўлялі як нявольнікаў у Расею, а там прадавалі ў рабства на Ўсход, што іхная нацыя прыгняталася, а храмы паліліся захопнікамі, тых гісторыкаў зусім не хвалявала.

Як, ведаючы ўсё гэта, можна сцвярджаць, што беларусы ўвесь час імкнуліся з-пад рукі свайго легітымнага манарха — гаспадара Вялікага Княства Літоўскага трапіць у падданства маскоўскага князя (потым расейскага цара ці імператара)? Што, яны ўсе былі ў душы здраднікамі сваёй дзяржавы?

Афіцыйныя гісторыкі нават сцвярджалі, нібыта царызм не хацеў дзяліць Рэч Паспалітую, але яго прымусіў рабіць гэта прускі кароль Фрыдрых II. А як жа было ўзапраўды?

Сучасны даследнік гісторыі дыпламатыі Г.Кесельмэер знайшоў у Архіве замежнай палітыкі Расеі канверт з рэзалюцыяй Кацярыны II: «Секретный план, преподнесенный от графа Чернышева на С.К.К.П., окроме меня никому не распечатывать».

Гісторык усё ж парушыў загад Кацярыны II праз два стагоддзі, распячатаў канверт. У канверце быў план падзелу Рэчы Паспалітай, складзены віцэ-прэзыдэнтам Ваеннай калегіі Захарам Чарнышовым. План быў старанна засакрэчаны. Абрэвіятура «С.К.К.П.» расшыфроўваецца так: «На выпадак смерці караля польскага» («На случай кончины короля польского»), гэта значыць Аўгуста III Саксонскага (1733-1763). На канверце была яшчэ адзнака: «Сей пакет в Высочайшем присутствии распечатан и вложенный план читан был на конференции, держанной у двора 6 октября 1763 года». Якраз напярэдадні памёр Аўгуст III. З гэтага вынікае, што ніхто не падштурхоўваў і не прымушаў расейскую ўладу да падзелу Рэчы Паспалітай[1]. Трэба вярнуцца на паўгода з лішкам раней.

Неўзабаве пасля ўступлення на трон Кацярына II у рэскрыпце расейскаму намесніку ў Варшаве Кайзерлінгу (8 лютага 1763 года ў сувязі з чуткамі пра смяротную хваробу Аўгуста III) ставіла задачу абрання новага караля, які цалкам залежаў бы ад яе. Імператрыца загадала патрабаваць ад кандыдата на каралеўскі пасад за яе падтрымку перадачы часткі тэрыторыі Рэчы Паспалітай, выдачы «многих тысяч» уцекачоў з Расеі, гарантый рэлігійнай свабоды праваслаўным «абывацелям».

Менавіта 6 кастрычніка 1763 года на нарадзе ў Кацярыны II былі зацверджаныя гэтыя патрабаванні і прыняты праект, дзе вызначаліся вобласці, што павінны былі адысці да Расеі. Новая мяжа супадала з

---

[1] Кессельмайер Г. Резолюция императрицы // Книжное обозрение. — 1992. — 10 января. — № 2. — С. 6.

той, якая была ўсталяваная праз дзесяць гадоў між Расеяй і Рэчай Паспалітай.

Гэта значыць, што яшчэ ў 1763 годзе расейская імператрыца першай паставіла пытанне пра анексію часткі тэрыторыі Рэчы Паспалітай[1], і спасылацца тут на прускага караля аніяк не выпадае.

[1] Грыцкевіч А.П. Рэлігійнае пытанне і знешняя палітыка царызму перад падзеламі Рэчы Паспалітай // Весці Акадэміі навук БССР. Серыя грамадскіх навук. — 1973. — № 6. — С. 65.

# МІФ ПРА ВУНІЮ

Сярод міфаў, якія надта спадабаліся расейскацэнтрычным гісторыкам пры фальсіфікацыі гісторыі Беларусі, адно з цэнтральных месцаў займае міф вакол узнікнення і ролі грэцка-каталіцкай царкоўнай вуніі ў 1596-1839 гадах[1].

Царкоўная вунія ўзнікла ў нас адначасова з Украінаю (на частцы яе тэрыторыі, што трапіла пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай у склад Аўстрыі і Вугоршчыны, яна захавалася дзякуючы спрыяльным умовам, пакуль Сталін не скасаваў яе там у 1946-1949 гадах). Афіцыйна яна адноўленая пасля дэмакратычных пераменаў на Ўкраіне некалькі гадоў таму.

Прыхільнікі міфалагізацыі гэтага сюжэта зыходзілі з пэўных метадалагічных пазіцый. Яны бралі які-небудзь адзін, загадзя падрыхтаваны тэзіс. Увесь фактычны матэрыял кампанавалі так, каб хоць прынамсі вонкава давесці ягоную праўдзівасць. Высновы такіх даследванняў не вынікалі з усебаковага аналізу фактычнага матэрыялу. Яны даводзіліся толькі як наперад зададзеныя.

У савецкіх антывуніяцкіх працах перастраўліваліся даўнія тэзісы і палажэнні, што нарадзіліся ў XIX стагоддзі ў нетрах расейскіх клерыкальных гістарычных колаў, якія зыходзілі з слыннай увараўскай трыяды «самаўладства, праваслаўе, народнасць». Не здзіўляе, што і савецкія гісторыкі разглядалі беларускую грэцка-каталіцкую царкву толькі з пазіцый традыцыйных апанентаў.

У выніку такога аднабаковага падыходу зацвердзіліся і працягваюць існаваць стэрэатыпы, якія не вытрымліваюць сур'ёзнай крытыкі. Вось яны.

Першы: сцвярджаецца, нібыта Берасцейская царкоўная вунія 1596 года, ад якой вяла радавод беларуская і ўкраінская грэцка-каталіцкая царква, — гэта «зброя каталіцкай контррэфармацыі», «ліхадзейства езуітаў», «польская інтрыга».

Другі: беларускія і ўкраінскія праваслаўныя, што пайшлі на хаўрус з Рымам, «здрадзілі свайму народу», бо кіраваліся толькі ўласнымі «шкурніцкімі» інтарэсамі, а ў душы песцілі надзею «ўсеабдымнага акаталічвання і лацінізацыі», а таксама «апалячвання» беларускага і ўкраінскага народаў.

---

[1] Пры напісанні артыкула выкарыстаны дадзеныя артыкулаў украінскага даследніка І.Паслаўскага «Між Сходом і Заходом» (Дзвін. — 1990. — № 10. — С. 100-107) і «Писав мандриванець, якого звуть Вишенским» (Дзвін. — 1991. — № 1. — С. 152-160).

Можа, паспрабуем разабрацца, што тут да чаго, і высветліць, наколькі гэтыя палажэнні адпавядаюць гістарычнай праўдзе.

Гісторыя, як вядома, развіваецца паводле аб'ектыўных заканамернасцяў. Чыесьці інтрыгі, падступнасць і ўсё да таго падобнае адыгрываюць у працэсе гістарычнага развіцця звычайна другасную ролю. Іначай кажучы, «польская інтрыга», «ліхадззейства езуітаў», «шкурніцкія інтарэсы», «здрада народу», якія выдаюцца за асноўныя сілы, што рухалі да Берасцейскай вуніі, могуць разглядацца толькі як суб'ектыўныя фактары, што маглі б спрыяць або перашкаджаць аб'ектыўнаму працэсу стварэння новай царквы.

Сама ідэя вуніі, або абноўленага аб'яднання хрысціянскіх цэркваў — візантыйска-праваслаўнай і рымска-каталіцкай, узнікла там, дзе адбыўся і царкоўны раскол, у Візантыі. І ордэн езуітаў тут не пры чым. Канстантынопальскі патрыярх Міхаіл Керуларый адмовіўся прызнаваць зверхнасць рымскага першасвятара ва ўсім хрысціянскім свеце, і тады, у 1054 годзе, ён і рымскі легат (пасол) кардынал Гумберт аддалі адзін другога анафеме (царкоўнаму праклёну). Падзелу дзвюх галоўных у Эўропе і Міжземнамор'і цэркваў спрыялі адрозненні між Заходняй і Ўсходняй цэрквамі, акрэсленыя з VII стагоддзя, у дагматыцы, арганізацыі, абрадах.

Але галоўным быў цэзарапапізм — царкоўнае вучэнне, згодна з якім вяршэнства ў дзяржаве і грамадстве аддавалася свецкай уладзе — імператару, а царкоўная ўлада мусіць падпарадкавацца свецкай. Цэзарапапізм развіваўся ў Візантыі з IX стагоддзя. Пазнавальныя карані гэтага вучэння трэба шукаць у дэспатычным спосабе мыслення, якое глыбока прасякнула дух і грамадска-палітычнае жыццё Канстантынопаля разам з тэрыторыямі, якія Ўсходне-Рымская імперыя захапіла на Ўсходзе.

Зусім супрацьлеглае спавядала і спавядае Заходняя царква. У яе вучэнні царкоўная ўлада пераважае над свецкаю і абсалютна незалежная ад свецкіх валадароў. Вядомы расейскі філосаф другой паловы XIX стагоддзя У.Салаўёў тлумачыў гэта так:

«Не царкоўная свабода, а цэзарапапізм прыйшоў да нас з Візантыі, дзе гэты антыхрысціянскі прадукт бясшкодна развіваўся з IX стагоддзя... Да схізмы (г.зн. царкоўнага падзелу. — В.Г.) кожнага разу, як грэцкія імператары захоплівалі духоўную ўладу і пагражалі свабодзе царквы, прадстаўнікі апошняй... звярталіся да міжнароднага цэнтра хрысціянства[1], выкарыстоўвалі пасярэдніцтва першасвятара[2], і калі

---

[1] Ім тады быў Рым.

[2] Папы рымскага.

самі гінулі ахвяраю грубай сілы, то іхная справа, справа праўды, справядлівасці і свабоды, ніколі не заставалася без непахіснай падтрымкі Рыма... Грэцкая царква ў тыя часы была і адчувалася пэўнаю часткаю Сусветнае царквы... Гэтыя дачыненні выратавальнай залежнасці ад нашчадка першаверных апосталаў, дачыненні цалкам духоўныя, законныя і поўныя годнасці, былі заменены падпарадкаваннем жыццейскім, нелегальным і паніжальным — уладзе простых недухоўных і нават няверных»[1].

Царкоўны раскол 1054 года адбыўся ў значнай ступені з віны кіраўніцтва візантыйскай царквы. І з ініцыятывы кіраўніцтва той жа царквы дайшло да некалькіх спробаў новага аб'яднання цэркваў Усходу і Захаду: у Ліёне ў 1274 годзе (з ініцыятывы візантыйскага імператара Міхаіла VIII Палеалога), у Канстанцы на саборы 1415-1418 гадоў і ў Фларэнцыі ў 1439 годзе (з ініцыятывы візантыйскага імператара Іаана VIII Палеалога і канстантынопальскага патрыярха Іосіфа ІІ).

Вуніі ў Ліёне і Фларэнцыі былі дакончаныя (у Канстанцы не падпісаная) на кароткі тэрмін. Яны не пусцілі глыбокіх каранёў і не былі праведзеныя ў жыццё ні ў Візантыі, ні ў Беларусі і Ўкраіне. Украінскі гісторык Д.Дарашэнка лічыў асноўнаю прычынаю няўдачы тое, што гэтыя вуніі ўзнікалі «не з агульна адчутага рэлігійнага пачуцця», а «як прадукт пэўных палітычных камбінацыяў»[2].

Ідэя царкоўнае вуніі паўстала і знаходзіла свае праявы задоўга да 1540 года, калі ўзнік ордэн езуітаў. Так што, прыпісваючы езуітам тое, што было рэалізавана на Берасцейскім саборы 1596 года, мы робім значную памылку, якая не вытрымлівае крытыкі.

Нацыянальнае адраджэнне беларускага народа ў вялікадзяржаўных друку і гістарыяграфіі заўсёды трактавалася як чыясьці варожая інтрыга, часцей за ўсё польская. Так, чарнасоценная газета «Белорусская жизнь» (з 169-га нумара — «Северо-Западная жизнь»), якую ад 1911 года ў Вільні выдавала рэакцыйнае «Белорусское общество» на чале з Л.Саланевічам, пісала, нібыта «Наша Ніва» супрацьпастаўляе «расейскай культуры культуру польскую», а яе рэдактар — «обласканный поляками, находящийся от них в зависимости г(-н) Власов, служит в данное время лишь удобною ширмою для сокрытия полонизаторских целей газеты и кружка, к ней примыкающего»[3]. У другім месцы аўтар гэтай газеты пытаўся: «Многим ли известно, что

---

[1] Соловьев В. Россия и Вселенныя Церковь. — Краков, 1904. — С. 77-78.
[2] Дорошенко Д. Православная церква в минулому і сучасному житті украіньского народу. — Берлін, 1940. — С. 31.
[3] Гай. Громадзяне и их преемники // Белорусская жизнь. — 1911. — № 44. — 9 марта.

эта «Наша нива» готова всемерно содействовать распространению в крае католицизма и только потому, что за католицизмом идет польщизна. Многие ли читатели этой «Нашей нивы» обращают внимание, что в ее иллюстрациях они ни разу не встречали древних русских памятников, древних русских святынь»?[1]

Абсурднасць гэтакіх сцверджанняў занадта відавочная.

А ў 1596 годзе «польская інтрыга» была не прычынаю, а вынікам. Сапраўды, кароль і вялікі князь (ім быў тады Жыгімонт III), магнаты, рымска-каталіцкае духавенства лічылі вунію першым крокам да лацінізавання і апалячання. Таму напачатку вунійныя захады ўкраінскіх і беларускіх уладыкаў знайшлі іхную падтрымку. Але гэтым марам «польскіх інтрыгаў» не давялося здзейсніцца, што давяла далейшая гісторыя вуніяцкай царквы ў Беларусі і Ўкраіне.

Так званыя «ліхадзейства езуітаў» і «польская інтрыга» — не рухальныя сілы Берасцейскай вуніі, а суб'ектыўныя фактары, якія на розных этапах маглі або спрыяць, або перашкаджаць аб'ектыўнаму працэсу задзіночання грэцка-праваслаўнай і рымска-каталіцкай цэркваў.

Для правільнага разумення аб'ектыўных заканамернасцяў узнікнення кожнай гістарычнай з'явы трэба ўлічваць увесь комплекс умоваў сацыяльна-палітычнага і грамадскага-культурнага характару, які спрычыніўся да яе з'яўлення і зацвярджэння. Найбольш характэрнаю рысаю таго часу было культурна-палітычнае і духоўнае абуджэнне беларусаў. Але якое? Сярэднявечнае ці рэнесансна-рэфармацыйнае?

Давайце паглядзім, якія падзеі адбываліся ў гэты час у Беларусі:

1520-я гады — Францішак Скарына арганізаваў друкарню ў Вільні.

1529 г. — Сойм прыняў Першы Статут Вялікага Княства Літоўскага.

1557 г. — Жыгімонт II Аўгуст выдаў «Уставу на валокі», згодна з якой была ажыццёўленая зямельная рэформа.

1561 г. — Магілеў атрымаў права на самакіраванне.

1563 г. — Дароўная грамата Жыгімонта II Аўгуста ўраўноўвала правы праваслаўных і каталіцкіх феадалаў.

1565 г. — Утварэнне павятовых соймікаў.

1566 г. — Прыняцце Соймам Другога Статута Вялікага Княства Літоўскага.

1569 г. — Люблінская вунія. Задзіночанне Польскага Каралеўства і Вялікага Княства Літоўскага ў Рэч Паспалітую Абодвух Народаў.

1572 г. — Выданне Сымонам Будным Бібліі.

---

[1] Вильна, 20 ноября // Северо-Западная жизнь. — 1911. — № 259 (91). — 20 ноября.

1574 г. — Выданне Сымонам Будным Новага Запавету.

Блізу 1580 г. — Выданне Васілём Цяпінскім Евангелля.

1581 г. — Утварэнне найвышэйшага судовага апеляцыйнага органа дзяржавы — Галоўнага Літоўскага трыбунала.

1588 г. — Прынящце Соймам Трэцяга Статута Вялікага Княства Літоўскага.

1591 г. — Заснаванне брацтва і брацкай школы ў Берасці.

1592 г. — Заснаванне брацтва, брацкіх школы і шпіталя ў Менску.

1596 г. — Берасцейская царкоўная вунія.

1597 г. — Атрыманне Віцебскам права на самакіраванне.

1597 г. — Заснаванне брацтва і брацкай школы ў Магілеве.

Усё пералічанае здаецца нам праявамі актыўнага працэсу фармавання самасведамасці беларускага этнасу, асэнсавання сваёй нацыянальнай ідэнтычнасці, сваіх нацыянальных інтарэсаў. Беларуская культура тады была культураю рэнесансна-рэфармацыйнага тыпу.

Узнікненне пры канцы XVI стагоддзя беларускай нацыянальнай царквы адбывалася цалкам ў агульнаэўрапейскім культурна-гістарычным кантэксце таго часу і ёсць заканамерным, аб'ектыўным вынікам усяго папярэдняга развіцця Беларусі — неадлучнай, інтэгральнай часткі эўрапейскай супольнасці. Максім Багдановіч пісаў пра гэта так:

«Трохі падтрымлівала беларускую культуру вуніяцкае духавенства, бо вунія была распаўсюджаная амаль выключна сярод простага народу і з'яўлялася ў краі як быццам нацыянальнай беларускай рэлігіяй. З канца XVIII стагоддзя вуніяцкім духавенствам на беларускай мове казаліся казані, выдаваліся рэлігійныя песняспевы і г.д. Апошняю праяваю гэтай дзейнасці быў выдадзены ў 1837 годзе беларускі катэхізіс, праз два гады адбылося ўз'яднанне вуніятаў, катэхізіс спалены, казані на беларускай мове забароненыя»[1].

Што канкрэтна паўплывала на намер беларускага і ўкраінскага епіскапату пайсці на вунію? Здаецца, што найперш крызіс у беларускім і ўкраінскім грамадстве. Ідэя задзіночання ўсяго хрысціянства мела сваіх прыхільнікаў сярод праваслаўнага магнацтва — у прыватнасці ў асобе Канстанціна Астрожскага, які, аднак, у манархісцка-клерыкальнай расейскай гістарыяграфіі вядомы як абаронца праваслаўя. Ён шукаў шляхі да задзіночання праваслаўнай царквы з каталіцкай, каб адзіным фронтам выступіць супраць

[1] Багдановіч М. Белорусское возрождение // М. Багдановіч. Збор твораў. — Мінск, 1968. — Т. 2. — С. 219-220.

рэфармацыйнага руху, які ахапіў усю Эўропу, улучаючы і Беларусі з Украінаю. У чэрвені 1593 года ён пісаў аднаму епіскапу:

«Маючы намер... адправіцца ў тыя краіны, недалёка ад якіх жыве папа рымскі, прапаную паруціцца пра злучэнне цэркваў». Далей ён скардзіўся на тое, што «людзі нашай рэлігіі ўпалі маральна, што пануе ў іх лянота і нядбайнасць» і што яны «разбягаюцца па розных сектах»[1].

Дарэчы, шчырым «змагаром за праваслаўе» князь стаў пасля таго, як ягоныя ўмовы задзіночання цэркваў не былі цалкам прынятыя вярхамі рымска-каталіцкае царквы.

Для асвечаных і рэлігійных людзей задзіночанне царквы было зразумелай справай. Свядомыя адзінкі з ліку беларускага і ўкраінскага асяроддзя балюча адчувалі заняпад праваслаўнай царквы, анархію брацтваў (дарэчы, у савецкай гістарычнай навуцы брацтвы звыкла разглядаюць толькі са станоўчага боку, згодна са старой праваслаўнай клерыкальнай традыцыяй), нястачу асветы, рост недаверу да ўсходніх патрыярхаў, чые патрыярхіі трапілі пад уладу іншаверных туркаў-асманаў.

Усходняя канстантынопальская царква, якой тады падпарадкавалася праваслаўная царква Вялікага Княства Літоўскага, паступова страчвала свой колішні маральны аўтарытэт. Яе каноны і догмы ўсё болей касцянелі, а багаслоўская навука перастала развівацца ў адрозненне ад заходняга каталіцкага веравучэння, якое ў Сярэднявеччы прайшло прагрэсіўны шлях развіцця, узняўшыся на ровень знакамітых хрысціянскіх багаслоўскіх школ (аўгусцінізм, тамізм). Калі ў сістэме каталіцкае царквы паспяхова функцыянавалі ўніверсітэты і акадэміі, у Грэцыі багаслоўе засталося на роўні тэорыі і практыкі першых айцоў і настаўнікаў царквы. Менавіта гэта меў на ўвазе епіскап уладзімірскі Іпат Пацей, калі пісаў К.Астрожскаму:

«Царква грэцкая... чым далей, тым горш даходзіць да боства і да вялікай няўмеласці і грубіянства прыходзіць: дзе між старшымі і дазорцамі царквы нічога іншага, адно п'янства, прагнасць, святакупства, няпраўда, нянавісць, паклёпы, упартасць, пыхлівасць, надзьмутасць і іншае ліха пануе, так вельмі, што там ані работаю горкаю залішыць і смірыцца не хочуць. Аб навуцы ў Пісьме Святым і ў іншых свецкіх пісьмах да аздобы і практыкавання людскога, дзе раней самы цвет быў, таго ўжо ані пытайся: настаўнікаў, прапаведнікаў добрых

---

[1] Цыт. па: Драгун Ю. Пра уніяцтва і дзяржаўную палітыку // Літаратура і мастацтва. — 1990. — 5 студзеня. — С. 14.

між іх і са свечкаю не знойдзеш, і, наадварот, казані за ерась папскую сабе лічаць, пакрываючы сваю няўмеласць і грубіянства»[1].

Усходнія патрыярхі ўсё больш умешваліся ў справы беларускай і ўкраінскай царквы. Іякім, патрыярх антыёхійскі, у 1596 годзе зацвердзіў статут Львоўскага брацтва. Ён дазволіў брацтву кантраляваць царкоўную дзейнасць. Канстантынопальскі патрыярх Ерамія II пацвердзіў гэта. Патрыярхі прымалі такія рашэнні, якія разбуралі ўсе традыцыйныя апостальскія асновы царквы і яўна супярэчылі праваслаўнаму царкоўнаму правапарадку.

Барацьба Львоўскага царкоўнага праваслаўнага брацтва з праваслаўным епіскапам Гедэонам Балабанам пацвердзіла паслабленне царквы[2]. А гэта спрыяла палітыцы і Турэччыны, з якой прыязджалі патрыярхі, падначаленыя султану як свайму сюзерэну, і Маскоўшчыны, якая вяла барацьбу супраць Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы (у складзе якой тады ўжо знаходзілася Ўкраіна).

Усходнія патрыярхі прыслужнічалі маскоўскім царам. Адзін з іх — Іясаф II абвясціў Івана Жахлівага ў 1563 годзе — у год крывавай расправы з жыхарамі Полацка і паняволення адзінаццаці тысяч палачанаў — пераемнікам візантыйскіх манархаў ва Ўсходняй Эўропе, а Ерамія II у 1589 годзе згадзіўся на самастойнасць Маскоўскай патрыярхіі.

Іпат Пацей у адным з сваіх лістоў пісаў, што ў Маскве «тым цяпер выхваляюцца, што ў іх уласны патрыярх канстантынопальскі мае быць». Справа йшла аб пераносе ўсяго канстантынопальскага патрыярхату ў Маскву адпаведна з ідэяй «Масква — трэці Рым».

Гэтую ідэю вылучыў у сваіх пасланнях 20-х гадоў XVI стагоддзя да пскоўскага дзяка Місюра Мунехіна і вялікага князя Васіля III старац Ялізарава Трохсвяціцельскага манастыра на беразе рэчкі Толвы ля Пскова Філафей. Гэтая асоба, прыбядняючыся, пісала пра сябе: «Я человек сельский, учился буквам, а еллинских борзостей не текох, а риторских астрономий не читал, ни с мудрыми философами в беседе не бывал...» Ён сцвярджаў, што першы Рым паў ад ерасяў, другі Рым — Канстантынопаль — праз сувязь з лацінянамі-каталікамі таксама загінуў, а цэнтр усяго хрысціянскага жыцця выратаваўся ад няверы ў Маскве. Расейскі цар правіць Царквою Хрыстоваю. Масква стала прытулкам святасці. І гэтым зараз вызначаецца яе роля: «Усе

[1] Памятники полемической литературы в Западной Руси. — СПб., 1903. — Кн. 3. — С. 121-123.

[2] Ісаевіч Я.Д. Братства та іх роль у розвитку украінськоі культури XVI-XVIII ст. — Киів, 1966. — С. 72-82.

царствы праваслаўныя хрысціянскай веры сышліся ў тваё адзінае царства». Ідэю Філафея прасякаў цэзарапапізм, падпарадкаванне духоўнай улады ўладзе свецкай.

Пры пагрозе страты самастойнасці праваслаўных частак Рэчы Паспалітай у Берасці было вырашана павярнуцца да Захаду, абнавіць кананічнае адзінства з цэнтрам Сусветнае царквы ў Рыме. Гэта сведчыць, што кіраўнікі нашай праваслаўнай царквы хацелі быць паслядоўнымі выразнікамі ўкраінскіх і беларускіх інтарэсаў, якім пагражалі з аднаго боку Польшча, а з другога Масква.

Гэтыя епіскапы хацелі пазбавіцца патранату і караля і вяльможаў ды падпарадкавацца Апостальскаму пасаду ў Рыме наўпрост, абмінаючы польскую каталіцкую царкву. Гэта мела важныя гістарычныя вынікі.

Колькі словаў наконт абвінавачвання епіскапаў-»рэнегатаў» у здрадзе. Каму ж яны здрадзілі, творачы Берасцейскую вунію? Свайму народу, перайшоўшы ў іншую веру? Не. Епіскапы як былі хрысціянамі, так імі і засталіся. Яны не падаліся ў іншую царкву, а, наадварот, стварылі новую царкву ў адрозненне ад папярэдніх — Сусветную паводле сутнасці і нацыянальную паводле формы, са спецыфічнай асаблівасцю — дагматычна-абрадавым сінкрэтызмам.

Яны інтэгравалі царкву ва ўлонне Сусветнай Апостальскай царквы. Гэтым епіскапы ўзапраўды, а не толькі пры малітве споўнілі дзевяты сімвал веры: «Веру ў Адзіную, Святую, Саборную і Апостальскую царкву».

Ці, можа, здрадзілі народу тым, што прынялі вучэнне пра чысцец? А можа, яны здрадзілі праваслаўю? І тут, калі прааналізаваць, высвятляецца, што ніякай здрады ў сапраўднасці не было.

Усе трыццаць тры артыкулы дамовы пра вунію, якую падпісалі ў снежні 1595 года ў Рыме епіскапы Іпат Пацей і Кірыла Цярлецкі з папам Кліментам VIII, сведчаць, што яны прагнулі зберагчы «ўсю красу і веліч усходняга абраду». Была захаваная ўся літургія, пра што гаворыць наступны артыкул дамовы:

«Богашанаванні і ўсе малітвы, раннія, вячэрнія і начныя, каб нам засталіся нязменныя па звычаі і абычаі, прынятым ва Ўсходняй царкве, а самыя пры Літургіі — Васіля Залатавуснага і Епіфанія, якая бывае ў часы Вялікага Посту з папярэдне асвечанымі дарамі, а таксама ўсе іншыя абрады і цырымоніі нашае Царквы, што імі дасюль карысталіся, падобна як і ў Рыме пад паслушэнствам

найвышэйшага Архірэя: тое зберагаецца, каб тое ўсё мы выконвалі ў НАШАЙ МОВЕ»[1] (падкрэслена мною. — В.Г.).

Для казанняў прадугледжвалася народная гутарковая мова. Быў захаваны стары юльянскі каляндар (гэтак званы стары стыль). Святарам не навязвалася забарона ўваходзіць у шлюб. Царкоўная архітэктура магла развівацца ў традыцыйных формах.

Беларуская і ўкраінская царква, прыняўшы вонкавую залежнасць ад Апостальскага пасаду, зберагла нутраную свабоду. Яе гіерархі хацелі захаваць за Царквою тое, чым яна была пры першахрышчэнні нашых земляў — арганічнасць у Сусветнай царкве. Яны прынялі частку догматаў Заходняй царквы — пра зверхнасць папы ва ўсім хрысціянскім свеце, пра чысцец, а крыху пазней пра сыходжанне Святога Духа і ад Бога-Сына.

Гэта быў не бяздумны пераход на лацінства, а спроба сінтэзу ўсходняга абраду з заходняй дагматыкай. Гэты сінтэз культурных здабыткаў Захаду і Ўсходу, здзейснены ў Беларусі і Ўкраіне пры канцы XVI стагоддзя, у значнай ступені выконваў даўнюю мару эўрапейцаў аднавіць колішняе духоўнае адзінства грэцка-рымскага антычнага свету, але на новай, хрысціянскай, аснове.

А што патрыярх канстантынопальскі? Фармальна ў дачыненні да яго ёсць элемент «здрады». На саборы быў абвешчаны разрыў з канстантынопальскай патрыярхіяй. Паводле формы было так. А па сутнасці? Ці не Ерамія II, які кіраваў Усходняю царквою ў гады перад Берасцейскай вуніяй, першым здрадзіў сваім духоўным чадам у асобе беларускіх і ўкраінскіх епіскапаў і іх пастве? Ён жа за «шчодрую міласціну» (цэбры золата і вязкі сабалёў) уласнаручна высвяціў незалежнага Маскоўскага патрыярха, надаўшы яму тытул «патрыярха Маскоўскага І ЎСЯЕ РУСІ» (вылучана мною. — В.Г.). А менавіта апошняе прывяло ў адчай украінскіх і беларускіх епіскапаў, бо дасюль гэтакі тытул маглі ўжываць толькі кіеўскія мітрапаліты.

Ерамія II пасварыў украінскія і беларускія брацтвы з уладыкамі, бо даў некаторым з іх так званыя стаўрапігіяльныя (незалежныя ад духоўных пастыраў) правы. Выходзіць, што разрыў беларускіх і ўкраінскіх уладыкаў з дэмаралізаваным ва ўмовах турэцкага панавання цараградскім патрыярхам — гэта здрада. А разрыў з Канстантынопалем, які здзейсніла Масква ў 1589 годзе (калі там з'явілася асобная патрыярхія), — гэта праява найвялікшай дзяржаўнай мудрасці?

---

[1] Цыт. па кн.: Стахів М. Христова Церква в Україні (988-1596). — Стэнфард, 1985. — С. 385.

Для тых часоў характэрныя праявы культурна-нацыянальнага абуджэння: фармаванне самабытных нацыянальных культур, нацыянальных дзяржаваў, нацыянальных цэркваў. У Чэхіі гэта была гусіцкая царква, у Англіі — англіканская, у Нямеччыне — лютаранская, у Швайцарыі — цвінгліянская, у Францыі — кальвінісцкая, у Шатляндыі — прэсвітэрыянская, у Расеі з 1589 года — самастойнае патрыяршаства.

Цікава, чаму гэта чэхам, шатляндцам, ангельцам — швайцарцам, французам, немцам, расейцам можна было ствараць самастойныя нацыянальныя рэлігійныя арганізацыі, а беларусам і ўкраінцам нельга?

Пры гэтым Маскоўская царква не здабыла нутраной свабоды, а болей стала залежнай ад цароў,ператварылася з часам у дзяржаўную царкву, якой ад часоў Пятра І кіраваў обер-пракурор Сінода — свецкая асоба, залежная ад імператара.

Перайшоўшы ў вуніяцтва, праваслаўныя гіерархі атрымлівалі роўныя правы з каталіцкім клірам, шляхта і месцічы грэцкага абраду таксама мелі роўныя правы з каталіцкімі.

Грэцка-каталіцкія (вуніяцкія) цэрквы будавалі сваю арганізацыю па прыкладах, што браліся з Рыма. Шмат вуніяцкіх святароў атрымлівалі асвету ў рымскіх калегіях, вяртаючыся дадому, яны прыносілі сюды лепшыя арганізацыйныя формы. Вуніяцкія епіскапы рабілі перыядычныя візітацыі (аб'езды) сваіх парафій (прыходаў), дбалі пра падвышэнне культуры духавенства, закладвалі школы і шпіталі, правялі рэформу манастыроў. Сабор 1720 года ў Замосці ўвёў у жыццё беларускага і ўкраінскага грэцка-каталіцкага духавенства аднастайную арганізацыю. Асаблівае значэнне набыў з таго часу рэфармаваны ордэн айцоў базылянаў, які галоўную ўвагу аддаваў пашырэнню школаў і выданню рэлігійных кніжак. На капітуле (радзе пры біскупе) грэцка-каталіцкіх герархаў у Дубне (1783 г.) быў створаны адзін чын святых базылянаў, які арганізацыйна падзяляўся на правінцыі Літоўскую, Беларускую, Каронную і Галіцкую. Цэнтрам выдавецкай дзейнасці ў Беларусі быў Супрасль.

Вунія давала беларускаму (як і ўкраінскаму) грамадству гарантыю ад апалячвання. Грэцка-каталіцкая царква знаходзілася пад апекаю не Польскае царквы, а Рыма. Рымская курыя (царкоўны ўрад) у сваіх афіцыйных заявах забяспечвала вуніятам поўную непарушнасць іхных абрадаў і звычаяў, зазначаючы, што яе пажаданнем «ёсць, каб усе былі каталікамі, але не ўсе лаціннікамі». Праўда, у жыцці гэта не заўсёды выконвалася, абшарнікі-каталікі прыцяснялі вуніяцкіх святароў, аддаючы перавагу каталіцкім. Тым не менш пад аховаю

вуніяцкай царквы беларускае жыццё магло хоць часткова захаваць свае даўнія формы.

З амбонаў вуніяцкіх цэркваў (як і ў пратэстанцкіх храмах) гучала беларускае слова ў тыя часы, калі ў рымска-каталіцкіх касцёлах гучала пераважна лацінская і польская, а ў праваслаўных цэрквах — царкоўнаславянская.

Царкоўная вунія была працягам шляху, які пачаўся даўней прадстаўнікамі культуры Беларусі «залатога» XVI стагоддзя, што жадалі аб'яднаць традыцыі візантыйскай і рымскай цэркваў, развіваць натуральную культурную еднасць Беларусі як з Усходняй, так і з Заходняй Эўропай. Гэты працэс адбываўся ў агульным рэчышчы, у якім развівалася беларуская культура.

І калі ў XIX стагоддзі сярод беларускіх адраджэнцаў не было вуніяцкіх святароў (як гэта было ва Ўкраіне, у заходняй частцы якой менавіта яны былі ініцыятарамі нацыянальнага адраджэння)[1], то не па віне гэтых святароў. Бо бальшыню іх прымусілі перайсці ў праваслаўную веру, якая была панавальнай канфесіяй тагачаснай Расеі. Тым больш што наша адраджэнне спазнілася параўнальна з суседнімі ўкраінскім і летувіскім (савецкія беларускія гісторыкі баяцца такіх параўнанняў, як агню!). А ў летувіскім нацыянальным адраджэнні наперадзе йшлі нацыянальныя каталіцкія святары — біскуп Мацей Валанчус, пралат Ёнас Майроніс, ксёндз Антанас Баранаўскас, кіраўнік барацьбы супраць царызму ў 1863 годзе ксёндз Антанас Мацкявічус.

І ў нашым спозненым адраджэнні рымска-каталіцкія святары (вуніяцкіх, грэцка-каталіцкіх, да таго часу ўжо не засталося) таксама адыгралі значную ролю. Дастаткова назваць такія імёны, як Кастусь Стаповіч (Казімір Сваяк), Аляксандр Астрамовіч (Андрэй Зязюля), Адам Станкевіч, Вінцэсь Гадлеўскі, Язэп Германовіч (Вінцук Адважны) і іншыя.

Але тым часам як у Летуве памяць Ё.Майроніса адзначана багатым надмагіллем ля мура кафедральнага сабора ў Коўні, якое захавалася нават у савецкі час, памяць нашых ксяндзоў-адраджэнцаў «мінула з ветрам»... Але гэта ўжо іншы сюжэт, які вымагае спецыяльнага разгляду.

---

[1] Крип’якевіч І. Історія України. — 1-е вид. — Львів, 1990. — С. 283; О. Субтельний. Україна. Історія. — Київ: Либідь, 1991. — С. 216-217.

# МІФ ПРА КЛАСАВУЮ БАРАЦЬБУ

Адной з вяршыняў у гістарычнай міфалогіі апошніх дзесяцігоддзяў быў разгляд усяго выключна праз прызму класавага падыходу і асабліва класавай барацьбы. Гэта рабілася, каб маральна апраўдаць кастрычніцкі пераварот, калектывізацыю, бязлітаснае знішчэнне народа і гнаенне яго ў ГУЛагу, пераслед «ворагаў народа».

Уся гісторыя Беларусі ў люстэрку савецкіх гістарычных даследванняў — гэта гісторыя класавай барацьбы. Кожны выступ у мінулым супраць дзяржаўнага ладу ці нават кожнае крымінальнае парушэнне закону залічваліся ў праявы класавай барацьбы, а сялянскія паўстанні, рухі месцічаў (колькі іх там адбылося?) супраць феадалаў, супраць феадальнага ладу занялі асноўнае месца ў высвятленні гісторыі феадалізму. Хай іх там было і няшмат. Да іх дадаваліся казацкія паходы праз Беларусь — ці з Украіны, ці з іншых краёў, калі тыя вярталіся і па дарозе рабавалі і гвалцілі (гэта былі тыповыя набегі іншаземцаў на наш край). Што пры гэтым пакутвалі простыя людзі, гісторыкаў мала цікавіла.

Вось прыклады з Баркулабаўскага летапісу:

«Лета Божого нароженя 1595, месяца ноября 30 дня в понедело(к) за тыдень пред Святым Николою. Севериян Наливайко; при нём было козаков 2000, дел (гармат. — В.Г.) 14, гаковниц. Место славное Могилев, место побожное, домы, крамы, острог выжгли, домов всех яко 500, а крамов з великими скарбами 400. Мещан, бояр, людей учтивых так мужей, яко и жон, детей побили, порубали, попоганили, скарбов теж незличоных побрали з крамов и з домов»[1].

І гэтаму ліхадзею быў прысвечаны раман М.Садковіча «Аповесць аб ясным Стахоры»!

Прыгадаю яшчэ той жа летапіс:

«Того ж року 603. В месте Могилеве Иван Куцка здал з себе гетманство козацкое для того, иж у войску великое своволенство: што хто хочет, то брои... Перед того ж выеждчого от его кролевское милости приносил один мещанин на руках свою девчину у шести летех змордованую, зкгвалчоную, ледвей живую, чого было горко, плачливе — страшно глядети. Натое вси люди плакали, Богу сотворителю молилися, абы таких своеволников вечне выгладити рачил...

[1] Полное собрание русских летописей / Сост. И ред. Н. Н. Улащик. — М.: Наука., 1975. — Т. 32. — С. 182.

Тые козаки приставства у Полоцку, у Витебску, на Орши, у во Мстиславлю, у Крычове, у Могилеве, у Головчине, у Чечерску, у Гомли, у Любечу, у Речицы, у Быхове, у Рогачове и по всих местах...

А коли козаки запорозкие назад на Низ отселя выеждчали, тепер же великую силную шкоду по сёлах, по местах чинили: жонки, девки и хлопята з собою много брали. Также коней много з собою побрали. Один козак будет мети коней 8, 10, 12, а хлопят трое, четверо, жонки албо девки две албо три»[1].

Пра набегі крымскіх татараў падручнікі і манаграфіі па гісторыі БССР пісалі, а пра набегі казакаў — ніколі, бо гэта псавала б тую ролю, якую адводзілі савецкія беларускія гісторыкі гэтым казакам у класавай барацьбе.

Іншы прыклад прывяду з «Летапісу Панцырнага і Аверкі»:

«Году 1602. Казаки з Дубінам правадыром Віцебск высеклі за здрадай абываццеляў віцебскіх. (...). Году 1604. Дубіну казака, правадыра, і 12 прывядзёна закутых да караля, а потым на Валатоўках Заручанскіх трох на калы пасаджана жыўцом»[2].

А вось як гэты эпізод апісваецца ў «Истории Белорусской ССР», выдання 1954 года (Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР):

«Так, в 1601 г. крестьяне присоединились к отряду под предводительством Дубины и с оружием в руках выступали против своих угнетателей в районе Витебска и Полоцка. Этим отрядом в 1602 г. был взят Витебск. Вскоре панам и шляхте удалось подавить выступление народных масс. Дубина и его ближайшие сподвижники были взяты в плен и посажены на кол»[3].

Каментар, як мне здаецца, залішні.

З крычаўскага руху 1740-1744 гадоў пад кіраўніцтвам адных збіральнікаў падаткаў супраць другіх збіральнікаў падаткаў зрабілі ледзь не беларускую пугачоўшчыну.

З зусім легальнага пратэсту жыхароў Магілева на пачатку XVII стагоддзя супраць парушэння іхных правоў зрабілі паўстанне тыпу Салянога ці Меднага бунтаў у Маскоўшчыне. Адзін з удзельнікаў пратэсту Стахор Мітковіч упамінаецца ў пачатковых дакументах па гэтых падзеях, а ў канчатковых — перадусім у прыгаворы аб пакаранні ўдзельнікаў пратэсту — нават не прыгадваецца (гэта значыцца, не быў значнай персонай ці адышоў ад акцыі пратэсту). А з яго зрабілі правадыром паўстання. Словам, герояў рабілі як хацелі.

---

[1] Тамсама. — С. 189.

[2] Полное собрание русских летописей. — Т. 32. — С. 194.

[3] История БССР. — Т. 1. — М.: Изд-во АН БССР, 1954. — С. 133.

З Дзяніса Мурашкі, які ў сярэдзіне XVIII стагоддзя пачынаў сваю дзейнасць з таго, што як атаман аддзела рабаваў навакольныя маёнткі шляхты, а скончыў палкоўнікам вялікакняскага войска, зрабілі беларускага Мюнцара ці Разіна. Бо ведалі пра яго па адной крыніцы, дзённіку Цэдроўскага, але «не дайшлі» да чытання мемуараў Яна Хрызастома Пасэка, які, напрыклад, пісаў пра сваю збройную сутычку з палкоўнікам Мурашкам, калі той паводле сваёй старой звычкі спрабаваў абрабаваць чарговы шляхоцкі маёнтак[1].

Нездарма адзін віленскі рэцэнзент смяяўся пры канцы 30-х гадоў з «так званага акадэміка АН БССР» В.Шчарбакова (як ён назваў гэтага аўтара), бо той у сваёй кнізе «Сялянскі рух і казацтва на Беларусі ў эпоху феадалізму» (Менск, 1935) кожны рабунак на вялікім шляху, што прыгадваўся ў судовых актах XVI-XVIII стагоддзяў залічваў у праяву антыфеадальнай класавай барацьбы.

Зразумела, што найвышэйшаю праяваю класавай барацьбы і найвышэйшым яе дасягненнем лічыліся кастрычніцкія падзеі 1917 года ў Петраградзе (самі бальшавікі да канца 20-х гадоў называлі гэтыя падзеі не рэвалюцыяй, і, зразумела, не «Вялікай» рэвалюцыяй, а ўсяго толькі пераваротам.

Такім жа актам гвалту — расстрэлам мірнай дэманстрацыі ў падтрымку Ўстаноўчага Сходу 5 студзеня 1918 года і разгонам матросамі самога Сходу бальшавікі і апалагеты іхных дзеянняў нават ганарыліся. Але старшыня Сходу Віктар Чарноў тады ж напісаў на адрас Леніна, што ў таго дзве брудныя справы на сумленні: расстрэл дэмакратыі 5 студзеня і разгон Устаноўчага Сходу.

А яшчэ бальшавікі ўхвалялі бесперапыннае знішчэнне сапраўдных і ўяўных ворагаў савецкай улады і камуністычнай партыі — і сяброў апазіцыйных партый, і шляхты, і святароў, і прадпрымальнікаў, і гандляроў, і інтэлігенцыю, і тых рабочых, якія не згаджаліся з таталітарным ладам, і мужыкоў, хто быў спраўнейшы, і старых бальшавікоў. Словам, ухвалялася вайна супраць свайго ж народа.

У перыяды дэстабілізацыі, грамадскіх узбурэнняў актывізуюцца архаічныя інстынкты ды архаічныя перакручаныя паняцці, у дадзеным выпадку — вобраз «ворага», чужынца, злавеснага прыбыльца. Іншая справа, што гэты вобраз узмоцнена насаджвалі ў савецкі перыяд. Таму ён ляжыць на паверхні масавай свядомасці. Але ягоная моц — гэта сіла архетыпу, гэта значыць «калектыўнага пазасвядомага». Вобраз ворага — гэта цяжкая хвароба дэмаралізаваных, азвярэлых масаў

[1] Pasek J. Pamiętniki. — Warszawa: PIW, 1989. — (Wyd. 13). — S. 273-276.

М. Бярдзяеў пісаў, што ніштo так не руйнуе душы, як маніякальная ідэя. Абстракцыі, ідэалагічныя схемы, псеўданавуковыя законы грамадска-гістарычнага развіцця пакалечылі шмат каго з нас. Нашая збяднелая краіна — гэта толькі адлюстраванне цяжка хворых людскіх душаў, што страцілі галоўнае — Бога вернікаў і маральны закон атэістаў.

Зараз зноў ажывае стэрэатып вобраза «ворага». Варта запытацца: каму гэта карысна? Знаходзіцца сама верны адказ: «Сілам ліха, д'яблу». Гэта ён — найдаўнейшы вораг людскога роду і найпершы экстрэміст[1].

Здаецца, сёння пара пазбавіць гістарычную сведамасць і гістарычную адукацыю, ад догмы прыпісваць рэвалюцыі рысы неабходнасці, гэта значыць надаваць ёй яўна метафізічны сэнс.

[1] Падрабязней пра гэта гл.: Хомицька Х. У пошуках справжного обличчя // Дзвін. — 1991. — № 9. — С. 155.

# МЕСІЯНІЗМ РАСЕІ

*Судьбою павшей Византии*
*мы научиться не хотим,*
*И всё твердят льстецы России:*
*Ты — третий Рим, ты — третий Рим.*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*Смирится в трепете и страхе,*
*Кто мог завет любви забыть...*
*Третий Рим лежит во прахе,*
*А уж четвертому не быть.*

Вл.Соловьёв

Асноўны міф, пра неабходнасць класавай барацьбы, добра дапаўняўся другім стрыжнявым міфам пра выключна месіянскую, гэта значыць выратавальную ў дачыненні да ўсіх іншых этнасаў, ролю расейскага этнасу і дзяржавы. Гэтым можна растлумачыць усе папярэднія прыгаданыя міфы.

Расейская месіяністычная дактрына «Масква — трэці Рым» з часам развілася ў прэтэнзіі разглядаць расейскі этнас як на выключны. Можа, гэта была кампенсацыя за пачуццё прыгнёту, пад якім людзі знаходзіліся ў Маскоўскім гаспадарстве стагоддзямі, за адчуванне лепшага роўню жыцця, які расейскія дваране і жаўнеры бачылі ў Заходняй Эўропе пад час ваяжаў першых і паходаў другіх?

З часам ідэя «трэцяга Рыма» пераўтварылася ў ідэю Трэцяга Інтэрнацыяналу, Крамля як маяка ўсяго чалавецтва. Праўда, гэтая ідэя канчаткова збанкрутавалася з распадам СССР. Але і на час так званай перабудовы прыпаў новы месіяністычны ўсплеск Гарбачова тыпу «новага мыслення», што нібыта йдзе з Масквы. Ці спроба, што йдзе адтуль жа, пабудаваць «агульны эўрапейскі дом».

Расейскі пісьменнік Андрэй Сіняўскі лічыў, што перадпасылкі вялікадзяржаўнага шавінізму і ксенафобіі (нелюбові да «чужых»), якія цесна пераплеценыя з расейскай месіяністычнай ідэяй і вярнуліся ў СССР на змену інтэрнацыяналізму, карэняцца ў закрытым характары савецкай дзяржавы. Яна стала закрытай яшчэ пад сцягам Інтэрнацыяналу.

Савецкая дзяржава баялася адкрыць мяжу. Расейскі народ гатаваўся ў сваім соку і вылучаў нацыяналізм як адзіны сэнс свайго існавання. Пра замежжа ў яго складаліся надта скажоныя ўяўленні. Апроч прапаганды тут значную ролю іграе сам фактар адчужанасці ад усяго астатняга, несавецкага, свету.

Адбывалася прыкладна тое ўяўленне, што ў багамолкі Фяклушы з «Навальніцы» А.Астроўскага:

«У нас закон праведный, а у них, милая, неправедный, что по нашему закону так выходит, а по ихнему все напротив».

У выніку такой закрытасці і трывалай варожасці да ўсіх іншых, «не такіх», у каго ўсё наадварот, узніклі розныя страхі і фобіі. Узнікла пачуццё неверагоднай перавагі, што часам грунтуецца на неасэнсаваным пачуцці сваёй непаўнавартасці. Такая з'ява добра вядомая псіхіятрам і шмат разоў апісвалася ў літаратуры дастасоўна індывіда. Але такое ж магчыма і ў жыцці асобных нацыяў, што мы і назіраем у савецкай гісторыі.

А.Сіняўскі піша: «Праявы ксенафобіі ў расейцаў часцей за ўсё звязаны з пачуццём і ўсведамленнем сваёй беднасці, галечы, непаўнавартасці. Гэта значыць, узнікае тыповая супярэчнасць: мы, расейцы, лепшыя за ўсіх таму, што нам горш за ўсіх. Гэтае пачуццё асабліва стымулявалі рэвалюцыя і савецкая ўлада, раздзымухваючы агонь класавай барацьбы. Класавая барацьба час ад часу праяўляецца і ў выглядзе міжнацыянальнай розні. Гэта выбух нянавісці да багатых краінаў менавіта за тое, што яны багатыя, калі мы бедныя.

Гэта класавая зайздрасць, перакладзеная на нацыянальную мову»[1].

Расейскі месіянізм заўсёды прэтэндаваў на ўніверсальнасць, але заставаўся этнацэнтрычным, нават ізаляцыяністкім. Ён меў сваю логіку, што праходзіла амаль праз усе кірункі расейскай грамадскай думкі. Ці ж не Пушкін чакаў, калі «славянские ручьи сольются в русском море»?

Ці не П.Чаадаеў пісаў, што «про нас можно сказать, что мы составляем как бы исключение среди народов. Мы принадлежим к тем из них, которые как бы не входят составной частью в человечество, а существуют лишь для того, чтобы преподать великий урок миру»[2].

Ці ж не В.Бялінскі пісаў, што ні беларусы, ні ўкраінцы не маюць сваіх уласных моваў, што ўкраінская мова — гэта толькі «областное малороссийское наречие, как и белорусское, сибирское и другие похожие на них областные наречия»?

М.Лермантаў пытаўся:

---

[1] Синявский А. В тупиках свободы // Литературная газета. — 1 апреля 1992. — № 14. — С. 3.

[2] Чаадаев П.Я. Избранные сочинения и письма. — М.: Правда, 1991. — С. 28.

«Какие степи, горы и моря
Оружию славян сопротивлялись?
И где веленью русского царя
Измена и вражда не покорялись?
Смирись, черкес! И Запад и Восток,
Быть может, скоро твой разделят рок!»

І.Тургенеў працягваў гэтыя думкі: «Мы народ не только европейский, мы недаром поставлены посредниками между Востоком и Западом, недаром наши границы касаются древней Европы, Китая и Северной Америки, трех самых различных выражений общества».

Для расейскага творчага генію ўласцівая ўніверсальная ўсебаковасць. У ім аб'яднаўся, паводле меркавання А.Блока, «и тонкий галльский смысл, и сумрачный германский гений».

Нават М.Бярдзяеў пісаў, што «славянская раса (...) ПРИЗВАНА СКАЗАТЬ МИРУ СВОЕ ПОСЛЕДНЕЕ СЛОВО».[1]

І ўрэшце, «духовный интернационализм был всегда мудрым свойством русской интеллигенции. Я верю, что русская интеллигенция сыграет еще свою роль в примирении национальной вражды как в нашей стране, так и за ее пределами. Это одно из ее исторических предназначений». А гэта ўжо акадэмік Д.Ліхачоў. Ён працягвае далей: «Самая большая ошибка после 1917 года — это установление границ в нашей стране. Ведь раньше не было национальных границ»[2]. Раней — гэта тады, калі ўсё знаходзілася ў складзе імперыі Раманавых, у якой, паводле словаў Т.Шаўчэнкі «од молдаванина до фіна на всех язиках все мовчить».

А я ж прывёў цытаты толькі з ліберальных, некансерватыўных аўтараў. А можна было б прыгадаць Ф.Цютчава з ягоным:

Умом Россию не понять,
Аршином общим не измерить.
У ней — особенная стать:
В Россию можно только верить.

І Ф.Дастаеўскага, які пісаў, што «мы веруем, что русская нация необыкновенное явление в истории человечества», што ў гэтай нацыі «по преимуществу выступает способность, высокосинтетическая способность всепримиримости, всечеловечности»[3], што асаблівая доля Расеі — гэта «всемирность России, ее отзывчивость и действительно

---

[1] Бердяев Н. Смысл творчества. — М., 1916. — С. 317.
[2] Собеседник. — 1991. — № 1. — С. 3.
[3] Достоевский Ф.М. Статьи за 1845-1878 годы. — М.-Л., 1930. — С. 45-46.

бесспорное и глубочайшее родство ее гения с гениями всех времен и народов мира»[1].

Дарэчы, вядомы польскі палітык і публіцыст, гісторык Станіслаў Кэт-Мацкевіч[2] за сваю манаграфію пра Дастаеўскага атрымаў ступень доктара honoris causa ў адным з польскіх універсітэтаў у галіне русістыкі. У гэтай кнізе С.Кэт-Мацкевіч, на мой погляд, даволі слушна давёў, што Дастаеўскі да аднайменнай пінскай шляхты дачынення не меў, бо паходзіў з духавенства Брацлаўскага ваяводства, і таму надта хацеў даказаць сваё шляхоцтва, не маючы для таго падставаў.

Працягваючы тэму, я ўжо не прыгадваю бацькоў панславізму М.Данілеўскага і К.Лявонцьева, не кажучы ўжо пра іхных сучасных эпігонаў Ю.Несцерава, В.Распуціна, І.Глазунова ды іншых, якія новага слова не сказалі.

Расейскі месіянізм усіх часоў нястрымна апалагетызуе гістарычную веліч Расеі, яе выключную ролю ва ўсіх галінах людской дзейнасці. Гэты месіянізм лічыць, што ўсё, чаго дасягнулі вялікаросы, усё расейскае найлепшае і ўзорнае, а таксама, што выключнасць Расеі ў тым, што да яе не стасуюцца нейкія там усеагульныя крытэры. Ён сцвярджае, што Расея мае містычную ўніверсальнасць, сусветна гістарычнае прызначэнне, што ад яе залежыць будучыня ўсяго чалавецтва.

Гэта практычна-аб'яднаўчы аспект, у святле якога Расея мусіць быць стрыжнем крышталізацыі новага чалавецтва, каталізатарам працэсаў «паступовага збліжэння» і «зліцця» нацыяў. Па сутнасці гэта працэс ІНКАРПАРАЦЫІ іншых, меншых этнасаў магутнаю звышдзяржаваю і паступовая экспансія, закамуфляваная дактрынаю панславізму ці «інтэрнацыянальнага абавязку». Нездарма Ф.Цютчаў сказаў, што ўсе славянскія народы — «дроби, а Россия — знаменатель, и только подведением под этот знаменатель может осуществиться сложение этих дробей».

Гэты месіянізм сурова крытыкавалі такія дзеячы расейскай грамадскай думкі, як Яўген Трубяцкой[3] і айцец Павел Фларэнскі, які ў сваёй «Записке о православии» пісаў:

---

[1] Цыт. па арт.: Р. Кісь. Чи прийдзе з Москви Месія? // Дзвін. — 1991. — № 9. — С. 117.

[2] У К.Крапівы ён называецца «Цат», бо той, мусіць, не ведаў, што публіцыст узяў у якасці псеўданіма ангельскае слова «Кэт», якое ў лацінскай транскрыпцыі выглядае як «Цат». Мацкевіч падкрэсліваў, што ён падобны Кіплінгаваму персанажу, — кату, які гуляў сам па сабе.

[3] Трубецкой Е.Н. О христианском отношении к современным событиям // Новый мир. — 1990. — № 7. — С. 195-229.

«Люди всегда склонны сотворить себе кумира, чтобы избавить себя от подвига служения вечному и пассивно предаться простой данности. Этот кумир может быть весьма различным. Для русских православных людей таким кумиром чаще всего служит сам русский народ и естественные его свойства, которые ставят они пред собою на пьедестал и начинают поклоняться, как Богу. Вера в быт превыше требований духовной жизни, обрядоверие, славянофильство, народничество силятся стать на первое место, а вселенскую церковность поставить на второе или вовсе отставить.

В основе всех этих течений лежит тайная или явная вера, что русский народ сам собою, помимо духовного подвига, в силу своих этнических свойств есть прирожденно христианский народ, особенно близкий к Христу и фамильярный с Ним, так что Христос, как будто несмотря ни на что, и не может быть далеким от этого народа. И как всегда фамильярность с высоким, эта фамильярность влечет за собою высокомерие и презрение к другим народам — не за те или иные качества, а за само существо их. Смысл этого высокомерия может быть выражен тем, что мы — природные христиане, с нас, собственно, ничего не требуется и все нам простительно, тогда как другие народы, в сущности, не христиане, а самые их достоинства вызывают у нас чувство пренебрежения...

Может быть, соблазн такого самообожествления есть у каждого народа, но у русских он исключительно велик...»[1]

З расейскім месіянізмам беспасярэдне мяжуюць уяўленні пра славянскае братэрства і праваслаўную агульнасць, якія дасталіся ў спадчыну ад славянафілаў ды іхных нашчадкаў панславістаў. Гэтыя братэрства і агульнасць лічацца прыярытэтнай асноваю для знаходжання Расеяй гістарычных хаўруснікаў.

Але забываюцца на тое, што гэтыя канцэпцыі ад пачатку былі ў многім ілюзорнымі. Варта толькі прыгадаць войны 1794, 1830-1831, паўстанне 1863-1864 гадоў супраць царызму, супраціў беларусаў і украінцаў савецкай уладзе, якая ішла з Масквы, крывавыя сутыкненні паміж паўднёвымі славянамі даўней і цяпер, войны між Балгарыяй і Расеяй у XX ст. Сёння гэтыя ўяўленні — архаічныя і практычна непрыдатныя.

У былой Паўднёваславіі менавіта славяне, якія размаўляюць нярэдка адной моваю, займаліся самазнішчэннем. У былой Чэхаславаччыне народы з падобнымі мовамі і адною вераю разышліся на нашых вачах. Пасля абвешчання незалежнасці Ўкраіны і правядзення ёю

---

[1] Флоренский П. Записка о православии // Символ (Париж). — 1989. — Т. 21. — С. 97.

палітыкі актыўнага дыстанцыявання ад Расеі размовы аб славянскім братэрстве набываюць іррэальны характар. У Балгарыі, дзе, здавалася, славянафільскія настроі мелі найглыбейшыя карані, характар святкаванняў апошніх дзён славянскай пісьменнасці і культуры ў Расеі выклікаў, паводле звестак балгарскага друку, насцярожанае стаўленне афіцыйных колаў, якія справядліва асцерагаюцца адраджэння неаславізму.

Не менш супярэчлівы пры ўважлівейшым разглядзе і выбар праваслаўнай агульнасці як арыентыра для замежнай палітыкі Расеі. Калі сімпатыі да адзінаверных сербаў павінны дыктаваць безумоўную падтрымку Сербіі, то які выбар трэба зрабіць у супрацьстаянні праваслаўных македонцаў і праваслаўных грэкаў? Куды знікае пачуццё рэлігійнай агульнасці, калі справа заходзіць аб праваслаўных румынах, малдаванах, грузінах?[1]

Вяртаючыся да прыгаданых вышэй цытат з расейскіх класікаў, прашу чытача паверыць мне, што яны не выдраныя з кантэксту.

Іх могуць узяць на ўзбраенне і сябры Ўсебеларускага (хутчэй «Расейскага») Славянскага Сабора, і прадстаўнік Расейскага нацыянальнага аб'яднання ў Беларусі П.Сяргееў, які падпісаўся пад заявай Каардынацыйнага савета нацыянальных аб'яднанняў Рэспублікі Беларусь (што надрукавана ў «Народнай газеце» за 4 красавіка 1992 г.).

Ён падпісаўся пад скаргаю на тое, што «в Республике Беларусь по-прежнему продолжает действовать система национального неравенства, унаследованного от прежних, тоталитарных коммунистических режимов». (Цікава, дарэчы, што гэтых рэжымаў у Беларусі было больш за адзін; хоць і аднаго, здаецца, болей чым дастаткова.) Далей сказана, што «национальные меньшинства лишены доступа к средствам массовой информации, они не могут слушать передачи по радио и смотреть телевидение на родном языке».

Вось гэтае месца ў заяве мне спадабалася больш за ўсё. П.Сяргееў піша такое пра Беларусь, дзе АМАЛЬ УСЕ сродкі масавай інфармацыі на расейскай мове. І выходзіць, што не беларусы, а расейская нацыянальная меншыня пазбаўлена доступу да гэтых сродкаў, не можа слухаць перадачы па радыё і глядзець тэлеперадачы на роднай мове?

Так, нездарма А.Керэнскі пісаў пра Леніна ды іншых бальшавікоў, што «ёсць найвышэйшая форма хлусні, якая ўжо адной сваёй

---

[1] Падрабязней пра гэта гл.: Кандель П. Что нам Балканы? Ссора с Европой за Югославию как способ свалить правительство России // Новое время. — 1992. — № 25. — С. 32.

празмернасцю імпануе людзям незалежна ад іхнага інтэлектуальнага роўню. Ёсць нейкі псіхалагічны закон, згодна з якім чым больш жудасная хлусня, тым ахвотней ёй верацы»[1].

Гісторык А.Галкін, які вывучаў феномен нацысцкай прапаганды, сведчыць, што тая мела такую асаблівасць, як хлуслівасць, узведзеную ў сістэму: «Гебельс не раз казаў сваім падначаленым, што выдумка заўсёды па-прапагандысцку карыснейшая, бо яе значна лягчэй прыстасаваць да патрэбаў дня, што яе частае паўтарэнне надае ёй большую верагоднасць, што чым маштабнейшая хлусня, тым больш шанцаў на тое, што ёй паверацы. Ён лічыў таксама, што шкода ад выкрыцця прапагандысцкай хлусні не такая ўжо й вялікая, бо ёй заўсёды можна знайсці верагоднае тлумачэнне, і ва ўсялякім разе меншая, чым карысць, якую яна можа прынесці»[2].

Да чаго ж у нас легкаверны народ! Да чаго ж даверлівы! Семдзесят гадоў яго падманвалі. Абяцалі ў 1918 годзе, што тыя, каму тады было 10-15 гадоў, будуць жыць пры камунізме. Паверылі. Абяцалі ў 1960-х гадах пабудаваць за дваццаць гадоў камунізм. Паверылі. Абяцалі да 2000 года забяспечыць усіх асобнымі кватэрамі. Паверылі. Абяцалі выканаць Харчовую праграму. Паверылі. Верылі ў светлую будучыню, у «ззяючыя вяршыні», у тое, што мы сама разумныя і перадавыя, што мы авангард усяго міралюбнага чалавецтва... Здаецца, ці не пара стаць недаверлівымі? Але не: я ўпэўнены, што і сам П.Сяргееў паверыў у тое, пад чым падпісаўся. І знойдуцца чытачы, якія паверацы. Бо ў «Народнай» жа газеце надрукавана!

І гэта бессаромна сцвярджаецца ў той час, калі ўсе, хто мае вочы і вушы, ведаюць, што менавіта расейская меншыня ў Беларусі разам з іншымі мяншынямі і з беларускай бальшынёю чытае газеты, слухае радыё, глядзіць тэлебачанне пераважна на расейскай, а не на якай іншай мове. Калі хто пры гэтым зазнае дыскрымінацыю, дык гэта перадусім беларуская бальшыня, добра адлучаная ад роднай мовы ў сродках інфармацыі.

Урэшце, нездарма кажуць, што паслужлівы мядзведзь (у Крылова сказана ямчэй) небяспечнейшы за ворага. Сапраўды, найгоршы вораг свайго народа — ультрапатрыёты, падобныя да асобы, што ад імя расейскай меншыні падпісала заяву. Бо гэткая мядзведжая паслуга, якую яна робіць расейцам у Беларусі, — правакацыйная. Яна можа залішні раз звярнуць увагу грамадскасці на перакуленыя дагары

[1] Керенский А.Ф. Россия на историческом повороте // Вопросы истории. — 1991. — № 7-8. — С. 154-155.
[2] Галкин А.А. Германский фашизм. — 2-е изд. — М.: Наука, 1989. — С. 342.

нагамі стасункі — сапраўдныя, а не ўяўныя — моваў у сродках інфармацыі і падштурхнуць улады (у тым выпадку, калі яны будуць па-сапраўднаму клапаціцца аб справядлівым развязанні пытання) хутчэй выправіць дэфармаваныя стасункі моваў у СМІ на карысць беларушчыны.

Шкада толькі, што пад зваротам, у якім падаецца бессаромнае перакручванне ісціны, паставілі свае подпісы прадстаўнікі іншых нацыянальных аб'яднанняў, апроч расейскага, што іх, хочацца верыць, знарок уцягнулі ў гэтую брудную справу.

Трэба было б пры гэтым падумаць, чаму Беларусь сёння застаецца бастыёнам стабільнасці, тым часам як карычневыя хвалі бунту захліставаюць Расею, калі на плошчы Пецярбурга і Масквы рынуліся натоўпы ў кумачах і партрэтах, люмпэн-патрыёты патрабуюць распяць дэмакратыю.

Здаецца, не ў Рэспубліцы Беларусь выходзіць ажно семдзесят антысеміцкіх газет і часопісаў, не ў ёй шавіністы штурмуюць ці пікетуюць тэлецэнтры з юдажэрнымі плакатамі ў руках, не ў сталіцы Беларусі паляць чучала прэзідэнта суседняй краіны Краўчука, як гэта рабілі неанацысты на Дварцовай плошчы ў Пецярбурзе, не ў Менску збіраюцца «Русская партия», «Русское объединенное движение», якія патрабуюць чыста расейскага ўрада, установаў і г.д., не ў гэтай сталіцы, а на Неўскім праспекце ля Гасцінага Двара — наўскасяк ад Нацыянальнай бібліятэкі ўжо каторы год спакойна стаіць плот з антысеміцкімі лозунгамі і газетамі, ля якога свабодна прадаюцца «Майн Камп» і «Пратаколы сіёнскіх мудрацоў», якія служылі абгрунтаваннем Халакосту ў Эўропе.

Дык дзе адбываецца шальмаванне нацыянальных мяншыняў, якое не перасьледуецца па законе: у Беларусі ці ў Расеі?

Вяртаючыся да тэмы расейскага месіянізму, можна адзначыць, што нават у рознабаковай філасофскай думцы пачатку нашага стагоддзя выразна прасочваецца агульны вектар, у якім сыходзіліся розныя кірункі месіяністычнай думкі. Маю на ўвазе непарушныя вялікадзяржаўныя імперскія пастулаты, непарушную веру ў планетарнае пакліканне Расеі. Гэта датычыцца нават паслядоўнікаў выбітнага філосафа другой паловы XIX стагоддзя У.Салаўёва (айцец С.Булгакаў), і пачынальнікаў хрысціянскага экзістэнцыялізму (М.Бярдзяеў, Л.Шэстаў), і пісьменнікаў, што закраналі багаслоўскія тэмы (Д.Мерыжкоўскі, А.Белы), і «эўразійцаў» (М.Трубяцкой, Л.Карсавін).

Мне здаецца, што тым у Беларусі (асабліва гэта датычыць моладзі), хто цікавіцца мінулым, сучасным і будучым беларусаў і каму расейскія выдавецтвы паслужліва прапануюць новыя выданні пера-

лічаных вышэй філосафаў і пісьменнікаў, варта было б мець на ўвазе адно. Ва ўсіх працах гэтых цікавых аўтараў немагчыма знайсці нешта пра асобны беларускі шлях, асобную беларускую долю. Беларусы для гэтых аўтараў проста не існуюць (падкрэслена мною. — В.Г.).

Зусім невыпадкова частка так званых «сменавехаўцаў» вярнулася з эміграцыі ў 20-х гадах XX стагоддзя дамоў у глыбокім перакананні, што бальшавікі аднаўляюць старую Вялікую, адзіную і непарушную Расею. Гэтыя «вяртанцы» былі, паводле словаў інтэрнацыяналіста Леніна, «буйныя кадэцкія дзеячы, некаторыя міністры былога калчакаўскага ўрада — людзі, якія прыйшлі да перакананя, што Савецкая ўлада будуе РАСЕЙСКУЮ ДЗЯРЖАВУ і таму трэба ісці за ёю»[1].

Лепей не скажаш.

[1] Ленин В.И. Полн. собр. соч. — Т. 45. — С. 93.

# ЯК МЕСІЯНІСЦКІ МІФ НАСАДЖАЎСЯ Ў БЕЛАРУСІ

*Адзначаючы, што беларуская народнасць ёсць неадлучнаю часткай расейскай нацыі і што па-за хаўрусам з іншымі расейскімі плямёнамі ня можа мець самастойнай будучыні — гістарычнай і палітычнай, адзіным для яе шляхам з'яўляецца злучэнне з іншымі расейскімі плямёнамі для супольнай працы над атрыманнем грамадзянскай вольнасці.*

З рэзалюцыі «Белорусского общества». 1911 г.

*Міф нічога не хавае і нічога не афішуе, ён толькі дэфармуе; міф ня ёсць ні хлуснёю, ні шчырым прызнаннем, ён толькі скажэнне.*

Р.Барт

Палітолаг Ф.Гаек трапна адзначыў, што пакуль сацыялізм застаецца тэорыяй, ён інтэрнацыяналістычны. Але калі толькі яго пачынаюць ажыццяўляць на практыцы, ці то ў Расеі, ці то ў Нямеччыне, ён становіцца ашалела нацыяналістычным[1].

З Ф. Гаекам не ва ўсім можна пагадзіцца. У Нямеччыне нацыянал-сацыялізм быў адразу нацыяналістычным. Сацыял-дэмакратычныя ўрады ў гэтай краіне паперад нацызму сацыялізму не будавалі і не абвяшчалі ягоную пабудову сваёй мэтай.

Бальшавіцкі месіянізм стаў толькі новай экстрапаляцыяй расейскай месіяністычнай ідэі. Гэта праявілася не адразу. У гістарычнай навуцы і адукацыі Савецкага Саюза гэта выявілася з напісаных улетку 1934 года, а надрукаваных у «Правде» ў студзені 1936 года «Замечаний тов. Сталина, Жданова и Кирова по поводу конспектов учебника «Истории СССР» и учебника «Новой истории». А да таго?

Да таго існавала класічная схема Маркса, Энгельса і Леніна па нацыянальна-каланіяльным пытанні. Згодна з гэтаю схемай, расейскія цары сваімі захопніцкімі войнамі ператваралі сваю краіну ў «турму народаў». Гэтая схема была развітая ў шэрагу артыкулаў «марксіста, але гісторыка» (паводле трапнай характарыстыкі М.Гелера) М.Пакроўскага, напісаных у 1907-1910 гадах і выдадзеных

---

1 Хайек Ф. Дорога к рабству // Новый мир. — 1991. — № 8. — С. 191.

асобнай кнігай у 1923 годзе пад назовам «Дипломатия и войны царской России в XIX столетии» (перавыдадзена ў 1991 годзе)[1].

Выказванняў Маркса, Энгельса, Леніна наконт захопаў тэрыторый Рэчы Паспалітай, гэта значыць і беларускіх земляў, наконт задушэння нацыянальна-вызвольных рухаў 1794, 1830-1831, 1863 гадоў, наконт нацыянальна-вызвольнага характару ўдзелу часткі беларускага жыхарства на баку Напалеона ў 1812 годзе дастаткова. Але гэтых выказванняў як чорт крыжа баяліся беларускія марксісцка-ленінскія гісторыкі 1940-1980-х гадоў. Яны ніколі не прыводзілі гэтыя выказванні, бо тыя ўшчэнт разбуралі іхную схему ўзаемадачыненняў між царскай Расеяй і Беларусяй «в свете указаний» расейскіх манархісцка-клерыкальных і савецкіх уладаў і залежных ад іх гісторыкаў.

Сталін, ліквідаваўшы сваіх ворагаў, сапраўдных і ўяўных, выкарыстаўшы хаўруснікаў, а потым адкінуўшы іх, узяўшы іхныя ж «трацкісцкія» і «бухарынскія» ідэі, пачаў выкарыстоўваць гісторыю для ідэалагічнага выхавання ў сваім кірунку. Вялікі правадыр лічыў, што шырокія колы народа можна выхаваць не на адцягненых догмах і паняццях, а на канкрэтных гістарычных фактах, на дзейнасці канкрэтных гістарычных асобаў. Толькі такія гістарычныя веды можна было зрабіць жывымі. Такая ідэалогія, для якой скарыстаны выбраныя, працэджаныя, дэфармаваныя гістарычныя факты, становіцца зразумелай, дасягальнай. Яна запамінаецца і ўваходзіць у гістарычную памяць народа.

Сталін адмовіўся ад ранейшай ленінска-трацкісцкай ідэі сусветнай рэвалюцыі пад лозунгамі інтэрнацыяналізму, калі пабачыў, што ў СССР не хопіць фінансаў, каб яе падтрымліваць і развязаць пад выглядам яе падтрымкі новую сусветную вайну[2]. Былы асабісты сакратар Сталіна і адначасова сакратар ЦК ВКП(б) Б.Бажанаў, які ўцёк за мяжу, сведчыў у 1928 годзе ў сваім аглядзе «Большевики и грядущая война», што ў 1927 годзе Палітбюро ЦК ВКП(б) было вымушанае прыняць да ведама аналітычны даклад фінансавых экспертаў, паводле якога Савецкую краіну на трэцім месяцы такой вайны напаткала б фінансавая катастрофа. Гэтай фінансавай няздольнасцю савецкага рэжыму можна растлумачыць тую ваенную стрыманасць, якую Сталін прадэманстраваў (разам з ідэалагічнай агрэсіўнасцю) у наступныя некалькі гадоў.

---

[1] Покровский М.Н. Дипломатия и войны царской России в XIX столетии: Сб. ст. Предисл. М. Геллера. — London: Overseas Publications Interchange Ltd., 1991. — 302 p.

[2] Падрабязней пра гэта гл.: Кись Р. Чи прийдзе з Москви Месія? // Дзвін. — 1991. — № 9. — С. 113-120.

Менавіта тады Сталін заклікаў да рыўка наперад у эканоміцы і прыводзіў гістарычныя прыклады таму, як Расею білі ворагі за адсталасць. Пры гэтым Сталін ганіў царскі імперыялізм не за заваявальныя войны з суседзямі, а за ягоную ваенную слабасць:

«История старой России состояла, между прочим, в том, что ее непрерывно били за отсталость. Били монгольские ханы. Били турецкие беки. Били шведские феодалы. Били польско-литовские паны. Били англо-французские капиталисты. Били японские бароны. Били все за отсталость. За отсталость военную, за отсталость культурную, за отсталость государственную, за отсталость промышленную, за отсталость сельскохозяйственную... Вот почему нельзя больше отставать»[1].

Пазней Сталін ніколі не прыгадваў, што Расею білі калісьці і хтосьці, бо гэта не адпавядала ягонай новай палітычнай лініі. Ён падхапіў у Бухарына ідэю немагчымасці адначасова правесці тую рэвалюцыю паўсюдна і неабходнасці будаваць сацыялізм пакуль што толькі ў адзінай краіне. Дзеля гэтага спатрэбілася выцягнуць на свет Божы датуль прыхаваную старую імперскую ідэю «Масква — трэці Рым», якую бальшавікі зрэдчас выкарыстоўвалі, скажам, у часе вайны 1920 года з Польшчай.

Тут перад Сталіным паўстала няпростая праблема, як выкасаваць з ужытку вобраз Расеі як «турмы народаў», а паняволенне іншых народаў паказаць як вынік супадзення іх нацыянальных інтарэсаў з дзяржаўнымі інтарэсамі Расеі. Хітрыя ідэолагі, якія спрытна эксплуатавалі марксісцка-ленінскую дыялектыку, дастасоўваючы яе да ўсялякіх патрэбаў, тут безнадзейна спасавалі. Яны прызвычаіліся жыць на цытатах заснавальнікаў марксізму-ленінізму. А тут ня знойдзеш такіх цытатаў ані ў заснавальнікаў (бо тыя сцвярджалі зусім адваротнае), ані нават у самога Сталіна.

Аднак сумленне марксісцкіх дыялектыкаў таксама дыялектычнае. І, каб даказаць правамернасць царскай каланіяльнай палітыкі, яны знайшлі выйсце: замест марксіста Пакроўскага перавыдаць манархіста Ключэўскага. Гісторыкаў скораных этнасаў прымушалі пісаць гісторыю сваіх нацый, даказваючы прагрэсіўнасць заваёвы іхных народаў расейскімі царамі. Так была перапісана гісторыя ўсіх нярускіх народаў, у аснову антыгістарычнай канцэпцыі якой былі пакладзены наступныя моманты:

1. Усе нерасейскія народы (у тым ліку беларускі) далучаліся да Расейскай імперыі нібыта самі, добраахвотна.

---

[1] Сталин И. Вопросы ленинизма. Изд. 11-е. — М.:Госполитиздат, 1953. — С. 338.

2. Усе нацыянальна-вызвольныя рухі, якія гэтаму супрацьдзейнічалі, былі ці рэакцыйныя, ці, як у выпадку з Беларусяй, выключна шляхоцкія (гэта значыць «ненародныя»).

3. Улучэнне гэтых этнасаў у склад Расейскай імперыі было для іх гістарычна прагрэсіўнае.

Атрымлівалася, нібыта ўсе братнія народы СССР увайшлі ў свой час у склад Расеі добраахвотна, без супраціву, без ахвяраў і стратаў, выключна па сардэчнай згодзе.

Такая саладжавая карціна, якую савецкія гісторыкі малявалі паслужлівым пэндзлем, хутчэй прыпадабняліся да шчадрынскай «Истории города Глупова», чым да рэальнага мінулага.

І гэта трэба было б памятаць тым беларусам, перадусім настаўнікам і выкладчыкам гісторыі, якія сталіся нявольнікамі расейскацэнтрычнай ідэі, страціўшы адчуванне рэальнасці. Менавіта яны прапануюць вучыцца на прыкладзе «Истории государства Российского» Карамзіна і нават увесці яе ў школьныя праграмы. Да гэтага заклікаў, напрыклад, настаўнік Глыбоцкай школы І.Храпавіцкі ў «Настаўніцкай газеце»[1].

Другі прыклад. У газеце «Вечерний Минск» за 7 красавіка 1992 года дацэнт Э.Ліпецкі прапанаваў разглядаць гісторыю Беларусі паstarому, з гледзішча гісторыі Расеі, як яе неадлучнай часткі[2]. Адсюль у яго і Сувораў — «наш» гістарычны персанаж, і ягоныя перамогі — «нашыя» (хоць, як вядома, Сувораў душыў у Беларусі паўстанне 1794 года пад кіраўніцтвам Т.Касцюшкі, за што яму з царскай ласкі былі перададзеныя ў прыгон беларускія сяляне не Кобрыншчыне). Адсюль у Э.Ліпецкага і цытаванне газетнай палемікі Карамзіна і С.Салаўёва, іншых расейскіх гісторыкаў аб «нашай краіне» (Расеі) як «нашых гісторыкаў».

Такія настаўнікі і выкладчыкі, выгадаваныя на імперскай гістарыяграфіі, адвучваюць вучняў і студэнтаў ад беларускай гісторыі і прымушаюць іх запамінаць нават другасныя імёны і падзеі з чужой гісторыі, накшталт імёнаў маскоўскіх князёў, удзельнікаў палацавых пераваротаў, дробязяў ваенных паходаў, сялянскіх і казацкіх паўстанняў у Расеі. Пры гэтым вучням і студэнтам адмаўляюць у аналагічных ведах свайго роднага мінулага. Той, хто канчае сярэднюю школу ці ВНУ Беларусі, як правіла, не ведае імёнаў сваіх вялікіх князёў, абставін барацьбы прэтэндэнтаў на вялікакняскі пасад у Вялікім Княстве

---

[1] Храпавіцкі І. І без Сакрата ведаў палата // Настаўніцкая газета. — 13 кастрычніка 1990 г.

[2] Липецкий Э. Беречь «наставницу жизни» // Вечерний Минск. — 1992. — 7 апреля.

Літоўскім, імёнаў сваіх палкаводцаў — Давыда Гарадзенскага, Канстанціна Астрожскага, Лева Сапегі, Рыгора Хадкевіча ды іншых.

Калі б навучэнцы ведалі і адных, і другіх персанажаў — і расейскай, і беларускай гісторыі, не было б бяды. Але калі іх пакідаюць у поўным няведанні сваёй гісторыі — гэта не проста недагляд. Гэта свядомая палітыка прымусовай духоўнай асіміляцыі.

Мала таго, варта толькі выступіць супраць такога ненармальнага становішча рэчаў, дык знаходзяцца ягоныя абаронцы. Вось прыклад. Гісторык Анатоль Грыцкевіч выступіў з прапановай падтрымкі канцэпцыі нацыянальнай гісторыі Беларусі[1]. І адразу ў газеце друкуецца адказ на гэта зусім натуральнае патрабаванне пад здзеклівым загалоўкам «История — не гетерочка для политиков» за подпісам кандыдата гістарычных навук В.Сураева, сябра думы Славянскага Сабора «Белая Русь»[2].

У загалоўку артыкула аўтар выступае СУПРАЦЬ выкарыстання гісторыі ў мэтах палітыкі, а ў тэксце артыкула надта агрэсіўна выступае за абавязковы разгляд гісторыі Беларусі ў старым, наскрозь палітызаваным на карысць расейскацэнтрычнаму імперскаму мысленню рэчышчы. У рэчышчы, як ён выказваецца, «гісторыі Айчыны» (прычым гэтай назвай называе не гісторыю Беларусі, у якой працуе, а гісторыю Расеі).

Сам аўтар артыкула з какецтвам піша, што «некоторые сомнения все же точат мою заскорузлую от консерватизма душу» ў той час, калі ён чытаў артыкул А.Грыцкевіча. В.Сураеў, мусіць спадзяецца, што яго кінуцца пераконваць у адваротным. Можа, хто і знойдзецца такі. Але гэта будзе чалавек з ліку тых, хто не здолее ўбачыць на самой справе закарэлых кансерватыўных думак В.Сураева накшталт сцверджання аб існаванні міфічнага «маларускага» народа, чыя гісторыя, як і гісторыя іншых «народаў-братоў» — беларускага і вялікарускага, паводле меркавання В.Сураева, «настолько переплелась, что делить ее на свою и чужую (...) значит, резать по живому». Зразумела, калі ведаць гісторыю ўкраінцаў і беларусаў па наскрозь дагматызаваных савецкіх ці царскіх падручніках, дык не ўбачыш у ёй нічога асобнага ад расейскай гісторыі, бо першая пададзена суцэльна з гледзішча другой.

Даволі дзіўна гучыць вышэйпрыведзенае сцверджанне гісторыка, які піша ў аўтарэфераце сваёй дысертацыі, што яе «теоретической и

---

[1] Грицкевич А. Независимому государству — независимую историю // Вечерний Минск. — 1992. — 11 июня.

[2] Суряев В. История — не гетерочка для политиков // Вечерний Минск. — 1992. — 9 июля.

методологической основой являлись труды классиков марксизма-ленинизма»[1]. Чаму? Ды таму, што тыя ж класікі, на якіх ён спасылаецца ў дысертацыі, выказваліся, як і іншыя правадыры бальшавізму і складальнікі дакументаў ВКП(б) па пытанні аб Украіне, а не Маларосіі, што яе засяляюць не «маларосы», а ўкраінцы.

В.Сураеў прыпісвае свайму апаненту, нібыта той лічыць, што «факты надо подобрать по-новому, а использованные прежде не употреблять». На самой справе той казаў, што «выкладчыкі гісторыі не адышлі ад вядомай ідэалогіі і, яшчэ больш, ад трактоўкі і старога падбору фактаў для лекцый і семінарскіх заняткаў». Бачыце, як вытанчана перакруціў думку А.Грыцкевіча В.Сураеў. Тое-сёе пераставіў — і папрок апаненту гатовы.

В.Сураеву зусім недаспадобы патрабаванне апанента «оторвать изучение истории Беларуси от истории государства, частью которого она являлась». Гэта В.Сураеў лічыць «класічным прыкладам антыгістарызму».

Дзіўна, вельмі дзіўна. Адрывам вывучэння гісторыі краіны ад гісторыі імперыі, часткаю якой тая была, В.Сураеў лічыць толькі адмаўленне ад вывучэння гісторыі Беларусі разам з гісторыяй Расеі. Чаму ж ён сам і ягоныя шматлікія калегі вывучаюць гісторыю сваёй айчыны, якую і толькі якую ён называе «историей Отечества» (Беларусь для яго, зразумела, не айчына) у адрыве ад гісторыі Мангольскай імперыі і Залатой Арды? Ці ж яму не вядома, што тэрыторыя сучаснай Расеі знаходзілася пад мангола-татарскім ігам у складзе імперыі заваёўнікаў 240 гадоў. Гэта крыху больш тэрмін, чым знаходжанне Беларусі пад ігам Расейскай (пазней Савецкай) імперыі. Але тое, што В.Сураеў патрабуе ад іншых, згодна з ягонай бальшавіцкай маральнасцю, да сябе ён не прымяркоўвае.

У святле згаданага вышэй ужо не здзіўляе неўспрыняцце законнага патрабавання ягонага апанента А.Грыцкевіча стварыць нацыянальную канцэпцыю гісторыі Беларусі, такую, якая, напрыклад, стагоддзямі існуе ў Расеі. Сам В.Сураеў, робячы выгляд, што гэткай у Расеі няма, актыўна адстойвае яе, хоць для недасведчаных сцвярджае, нібыта «концепция не может быть белорусской, турецкой, русской и китайской, но только научной либо ненаучной». Вельмі цікава! Сваю канцэпцыю бальшавіцкі гісторык, вядома, лічыць сама навуковай, хоць яна — тыповая вялікадзяржаўная расейская.

[1] Суряев В. Рэволюционное движение солдатских масс на Западном фронте (...). (июль 1914 — март 1917 гг.). — Минск, 1991. — С. 10.

Зразумела, панящце «Отечество» выкладчык вайскова-палітычнай навучальні ў Менску В.Сураеў лічыць «понятием святым и вечным». Даволі метафізічнае меркаванне для шчырага паслядоўніка Маркса і Леніна. Згодна з марксісцкай і ленінскай тэорыяй, у пралетарыя няма айчыны, вечных і святых паняццяў не існуе, бо яны маюць свой абмежаваны сэнс. Каму ж гэта не вядома? Ці не той жа Ленін дыялектычна спачатку выступаў супраць манархічна-клерыкальнай трактоўкі паняцця сваёй айчыны ў часы Першай сусветнай вайны, але потым выступаў за іншае, сацыялістычнае яе панящце. В.Сураеў не можа не ведаць гэтага, бо ягоная дысертацыя якраз прысвечана доказу вялікага ўплыву бальшавіцкай ідэалогіі на салдатаў Заходняга фронту ў гэты час. Дзіўна чуць такое ад гісторыка Першай сусветнай вайны. Асабліва калі В.Сураеў лічыць, што «считать, что до 1991 года (стыль аўтара захоўваю. — В.Г.) было одно Отечество — плохое, а после провозглашения суверенитета появилось другое — хорошее, кощунство».

Па-першае, менавіта гэта сцвярджалі (толькі беручы не 1991, а 1917 год, як пункт адліку) тыя класікі марксізму-ленінізму, у духу якіх В.Сураеў абараняў сваю дысертацыю.

Па-другое, пра якое «Отечество» В.Сураеў гаворыць? Калі пра Расею — то гэта ягоная асабістая справа. Калі ж пра Беларусь, у якой ён жыве і працуе, то пры чым тут «появление другого (Отечества) — хорошего»? Хутчэй за ўсё аўтар проста не разумее, што Беларусь не «появлялась ані ў 1991 годзе, ані ў 1919 годзе (як сцвярджалі семдзесят гадоў ягоныя калегі — гісторыкі партыі), а існавала як дзяржава стагоддзямі да таго, пакуль яе існаванне не было перапыненае агрэсіяй чужой дзяржавы, якое ягоны аўтарытэт Ул. Ленін характарызаваў так:

«Курляндыю і Польшчу (маецца на ўвазе Рэч Паспалітая. — В.Г.) яны разам дзялілі, гэтыя тры каранаваныя разбойнікі (расейскі, прускі і аўстрыйскі манархі. — В.Г.). Яны дзялілі сто гадоў, яны рэзалі па жывым. І расейскі разбойнік урваў болей таму, што быў тады мацнейшы»[1].

І далей у В.Сураева не абышлося без перакручванняў тэксту свайго апанента. А.Грыцкевіч прывёў прыклад імперскага мыслення аднаго беларускага чытача, у якога камуністычная прапаганда і сістэма адукацыі сфармавалі комплекс падданага імперыі. Гэты чытач надта абураўся з нагоды таго, што «наш» (!?) урад збіраецца аддаць Японіі паўднёвыя Курыльскія выспы. «Наш» — гэта значыцца

---

[1] Ленин В.И. Полное собрание сочинений. — Т. 32. — С. 89-90.

расейскі ўрад Ельцына-Гайдара. А В.Сураеў падносіць гэтыя словы, нібыта, маўляў, беларускі чытач перажывае не за «ўрад», а за «братский русский народ».

Для прыхільніка «единонеделимой» імперыі магчымасць страціць чужыя, захопленыя паўстагоддзя таму выспы ўяўляецца гістарычнай катастрофаю. Тыя ж, хто гэтага не прызнаюць, здаюцца яму хворымі на «историческое беспамятство». Сапраўды, лекар, вылечыся сам! Вылечыся ад сапраўднага гістарычнага беспамяцтва, а дакладней кажучы, ад гістарычнай няведы. Ды не абвінавачвай іншых у тым, на што хварэеш сам.

У гістарычную памяць такіх, як В.Сураеў, уваходзіць усё, што добра для імперскай дактрыны. Атрымліваецца якраз так, як у персанажа з аповесці Г.Сянкевіча «У пустыні і пушчы» цемнаскурага Калі:

«Той, хто з'есць карову Калі, робіць дрэнна; калі ж Калі з'есць чужую карову, гэта добра, надта добра»!

Чакаць жа ад гісторыкаў КПСС можна ўсяго, бо яны «колеблются вместе с генеральной линией партии», нават калі яна і распалася. Па традыцыі. Інакш не могуць.

Разгляданая нататка, даволі грубая і нетактоўная ў дачыненні да апанента, агрэсіўнасць яе аўтара толькі пацвярджаюць думку неартадаксальных беларускіх гісторыкаў аб збянтэжанасці пэўнай часткі выкладчыкаў гісторыі ў Беларусі (язык не варочаецца называць такіх, як В.Сураеў, беларускімі гісторыкамі), аб прыхаваным і час ад часу адкрытым супраціве новаму, аб суме па старых часах, аб імкненні захаваць былую фантомную, сфальшаваную, расейскацэнтрычную мадэль гістарычнай навукі і адукацыі Беларусі, аб боязі магчымай атэстацыі і верыфікацыі навукоўцаў, выкладчыкаў і настаўнікаў гісторыі.

У апошняй фразе свайго артыкула В.Сураеў выказвае меркаванне, што выйсце з крызісу гістарычнай навукі Беларусі «не лежит на пути замены сталинско-брежневских схем истории на другие, не менее догматичные». Па ягоным артыкуле не бачна, каб за год пасля абароны сваёй дысертацыі, напісанай паводле той сама сталінскабрэжнеўскай схемы гісторыі, якую ён нібыта адпрэчвае, ён здрадзіў гэтай схеме. З такімі людзьмі на гістарычныя тэмы няма сэнсу спрачацца. Яны ведаюць толькі тое, што ведаюць. У гэтым не віна іхная, а бяда.

Варта падаць яшчэ прыклад арыгінальнага падыходу да праблемаў выкладання гісторыі. Менскі настаўнік М.Сянькевіч выказвае прэтэнзіі да «Канцэпцыі гістарычнай адукацыі ў сярэдняй

школе Беларусі», якую склала група гісторыкаў на чале з доктарам гістарычных навук М.Бічом[1]. За што? А за тое, што ў канцэпцыі «няма месца для гістарычнай адукацыі ў нацыянальнай школе рускім і ўкраінцам, палякам і яўрэям, літоўцам і латышам, татарам і ўсім тым..., каго беларуская дзяржава... павінна бараніць ад дэнацыяналізацыі, максімальна набліжаючыся да таго, як гэта робяць, напрыклад, у Швецыі. Тут вельмі клапоцяцца аб тым, каб кожнае дзіця вучылася родная мове (падкрэслена мною. — В.Г.), каб у яго было пачуццё сваёй нацыі і сваёй сям'і. Калі ў школу трапіў хлопчык, які размаўляе на якой-небудзь зусім экзатычнай мове: яму будуць шукаць настаўніка і вучыць яго аднаго»[2].

Я не зразумеў, якое дачыненне мае пададзены М.Сянькевічам прыклад Швецыі да тэмы. Згодна з ім, там навучаюць дзяцей не гісторыі этнасу, да якога яны належаць, а іхнай мове. А гэта далёка не адно і тое ж.

Намер М.Сянькевіча добры. Але ці магчымае яго ажыццяўленне ў Беларусі (дзе якраз найбольш занядбаная свая гісторыя), калі нават у болей развітых і матэрыяльна, і, не баюся сказаць, духоўна Швецыі і Нямеччыне ён не ажыццяўляецца.

Я не з'яўляюся поўным прыхільнікам канцэпцыі М.Біча. Ёсць за што яе крытыкаваць. Але аднаго ў канцэпцыі не адбярэш — жадання для занядбанай гісторыі Беларусі і яе этнасаў таго месца ў адукацыі, якое ёй належыць па праве.

М.Сянькевіч жа пад вонкава дэмакратычнымі заклікамі, па сутнасці, адмаўляе гэтую станоўчую тэндэнцыю канцэпцыі М.Біча. Ён прапануе стварыць падручнікі, дзе вывучэнне пэўнага перыяду гісторыі ажыццяўлялася б у рамках аднаго падручніка. Скажам, для беларускай школы — гісторыя Беларусі, гісторыя народаў Беларусі і ўсеагульная гісторыя, для расейскай школы — гісторыя Расеі (падкрэслена мною. — В.Г.), гісторыя Беларусі і ўсеагульная гісторыя, для польскай школы — гісторыя Польшчы (падкрэслена мною. — В.Г.), гісторыя Беларусі і ўсеагульная гісторыя. І гэта так па класах.

М.Сянькевіч лічыць, што гэткім чынам у падручніку гісторыі кожнага класа будзе гісторыя адпаведнага этнасу, гісторыя Беларусі і ўсеагульная гісторыя.

---

[1] Канцэпцыя гістарычнай адукацыі ў сярэдняй школе Беларусі // Настаўніцкая газета. — 1991. — 30 лістапада.

[2] Сянькевіч М. Спявай, крошка, з намі // Тамсама. — 1992. — 11 студзеня (таксама ў газеце «Наша слова». — 1992. — 31 сакавіка).

Але каму ж невядома, што між гісторыяй дзяржавы і гісторыяй этнасу існуе розніца. Яна даволі значная. Падручнікі гісторыі Расеі (у нас на іхнай вокладцы надрукавана «История СССР», але гэта нічога не мяняе) і гісторыі Польшчы — гэта падручнікі не па гісторыі этнасаў, а па гісторыі іхных дзяржаваў, як правіла, з выразнымі вялікадзяржаўніцкімі тэндэнцыямі.

Зазірніце нават не ў падручнік, а ў выданне «Nasza Ojczyzna. Szkolny atlas historyczny» (4-е выданне, Варшава, 1988). Вы ўбачыце там, напрыклад, карту XVII стагоддзя з надпісам «Rzeczpospolita Polska» на абсягах беларускіх тэрыторый, а таксама характэрную карту «Змены межаў Польшчы на працягу гісторыі». Там нашыя землі, насуперак фактам, уведзеныя ў межы Польшчы. Пра падручнікі і карты па гісторыі СССР я ўжо і не кажу.

Што з гэтага вынікае? А тое, што, згодна з прапановай М.Сянькевіча, у расейскіх школах, якіх у Беларусі пераважная бальшыня, зноў будуць вывучаць не гісторыю расейскага этнасу, тым больш не гісторыю ягонай часткі ў Беларусі, а гісторыю вялікай Расейскай дзяржавы, адзінай і непадзельнай.

У польскай жа школе выкладаецца не гісторыя польскага этнасу — тым больш не гісторыя палякаў у Беларусі (якая б выкрыла ілюзорнасць уяўлення пра нібыта масавую міграцыю палякаў у Беларусь), а гісторыя Польскай дзяржавы, якая толькі ў 1920-1939 гадах валодала часткаю Беларусі і да астатняй часткі нашай краіны мела ўскоснае дачыненне.

Асобы, выхаваныя на гісторыі суседніх дзяржаваў, што выкладалася апошнія дзесяцігоддзі ў Польшчы, а ў Расеі — ужо стагоддзі, хутчэй за ўсё і будуць складаць новыя падручнікі для расейскіх і польскіх школаў. А дзе ўзяць іншых? Нават калі б яны і зыходзілі з найлепшых намераў, мімаволі б апынуліся ў палоне вышэйзгаданых тэндэнцый.

Надта цікава прасачыць, як М.Сянькевіч пакрысе вызваляецца ад ідэі забяспечыць прадстаўнікоў іншых, чым расейцы і палякі, этнасаў падручнікамі па іх гісторыі. І гэтым ён хоча «бараніць нацыянальныя інтарэсы прадстаўнікоў іншых нацый у Рэспубліцы Беларусь»?

Як тут не прыгадаць дэкларацыю Ўсебеларускага Славянскага Сабора, у якой гаворыцца аб імкненні Сабора «противодействовать любым попыткам дискредитировать славянскую духовную, этническую, государственную (падкрэслена мною. — В.Г.) общность, вызвать вражду между славянскими народами, вовлечь их в

политические блоки, чуждые коренным интересам славянского сообщества»[1].

Пры гэтым нехта бярэ на сябе права прадстаўляць у якасці «коренных интересов славянского сообщества» інтарэсы не «сообўества», а ўладаў таго этнасу, якія ўвесь час дыскрымінавалі беларускі этнас. Атрымліваецца, згодна з прапановай М.Сянькевіча, што крый Божа сумнявацца ў такой славянскай агульнасці, выкладаючы гісторыю Беларусі, хай лепей будзе прапагандавацца тэзіс з казкі Оруэла: «Усе жывёлы роўныя, але некаторыя жывёлы болей роўныя за ўсіх».

Зусім не прымаю прапановы скарачаць у адукацыі выкладанне ўсеагульнай гісторыі, каб нібыта даць болей часу іншым раздзелам гісторыі. Незразумела, пры чым тут памянёныя М.Сянькевічам «не матэматычныя разлікі, а пазіцыі агульначалавечых каштоўнасцяў і здаровага сэнсу». Бо менавіта агульначалавечыя каштоўнасці і здаровы сэнс падказваюць ні ў якім разе не адмаўляцца ад адпаведнага ў адукацыі месца агульнай гісторыі. Менавіта таму славутыя папярэднікі сучасных адраджэнцаў В.Ластоўскі, браты Луцкевічы, Б.Тарашкевіч, А.Смоліч, А.Уласаў дасягнулі шмат чаго, што яны былі выхаваныя з добрымі ведамі ўсеагульнай гісторыі і іншых сапраўдных, а не ўяўных агульначалавечых каштоўнасцяў. За семдзесят апошніх гадоў мы так скарацілі выкладанне ўсеагульнай гісторыі, што страцілі ў адукацыі менавіта агульначалавечыя каштоўнасці міжземнаморскага і ў тым ліку антычнага свету, свету Блізкага і Далёкага Ўсходу, каштоўнасці заходняй цывілізацыі з яе прынцыпамі свабоды асобы. Гісторыя ў адукацыыі зведзеная да русацэнтрычнай яе мадэлі. У гэтай мадэлі сёння, напрыклад, сцвярджаецца, што Расея (з Беларусяй, як яе дадаткам) была б сама шчаслівай, магутнай і цывілізаванай, калі б не татара-мангольскае іга, Іван Жахлівы, Пётр Вялікі, нямецкае засілле, прыгнёт самаўладства, змовы масонаў і жыдоў, пераварот бальшавікоў, а зараз перабудова і дэмакратыя (патрэбнае падкрэсліваецца ў залежнасці ад сімпатый). Словам, павінныя ва ўсіх бедах хтосьці іншыя.

І гэта ў той час, калі ў іншых народаў ёсць процілеглыя меркаванні аб сваім лёсе. Напрыклад, у японцаў існуе добрае правіла: «Прычынай няшчасця лічы самога сябе».

Розніца між царскай і савецкай Расеяй палягае ў тым, што цары і іхныя міністры (Уваравы, Пабеданосцавы ды іншыя) у сваёй замежнай і нутраной палітыцы былі шчырымі і адкрытымі. Яны назы-

---

[1] Всебелорусский Славянский Собор // Вечерний Минск. — 1992. — 2 апреля.

валі рэчы сваімі імёнамі. А бальшавіцкія лідэры (Сталін і сталіністы, іхныя спадкаемцы пры Хрушчове, Брэжневе, Гарбачове) былі вымушаны маскіраваць сваю імперыялістычную сутнасць інтэрнацыяналістычнай фразеалогіяй. Класічны прыклад. Паводле Крамля, Савецкая армія вяла ў Афганістане не каланіяльную вайну, а выконвала інтэрнацыянальны абавязак. Або яшчэ цынічней: аказвала афганцам «брацкую дапамогу» (практыкуючы там варварскае знішчэнне мірнага насельніцтва)[1].

Дзеля русіфікацыі каланізатары сваіх герояў у беларускага народа адбіралі, а чужых накідвалі. Словам, тое, што дазволена і нават прызначана «старэйшаму брату» (апяваць князёў Ігара, Аляксандра Неўскага, Дзмітрыя Данскога, палкаводцаў Суворава, Кутузава, флатаводцаў Ушакова, Нахімава), не дазволена «малодшаму брату» (успамінаць Альгерда, Вітаўта Вялікага, Канстанціна Астрожскага, Яна Хадкевіча, С.Булак-Балаховіча ды іншых). Затое Чапаеву ў Горадні помнік ставіць можна, хоць ён да гэтага горада аніякага дачынення не меў. Дзякуй Богу, што хоць Мяснікову, ворагу адраджэння беларускай дзяржаўнасці, не паспелі паставіць помнік. А месца, дарэчы, у Менску ўжо падрыхтавалі.

Сёння пасля падзення камуністычнага рэжыму ідэя трэцяга Рыма, на жаль, стала яшчэ архаічным рэліктам. Шмат чаго з гэтай ідэі застаецца ва ўжытку. Так, напрыклад, пра што маглі і могуць прачытаць беларусы ў русіфікатарскіх падручніках і акадэмічных шматтомніках і аднатомніку «История БССР»? З аднаго боку, у гэтых выданнях апяваецца класавая барацьба як галоўны матор шляху чалавецтва ад горшых умоваў жыцця да лепшых. З другога боку, прапагандуецца расейскацэнтрычны месіянізм. У святле апошняга Беларусь — і як найбліжэйшы сусед, і як славянскі сусед, і як сусед з падобным да Расеі імем — стала выпрабавальным палігонам, эксперыментальнай лабараторыяй для ажыццяўлення ідэі расейскага месіянства.

А гісторыя Беларусі ў такіх кніжках заўсёды трактавалася толькі з аднаго гледзішча — з гледзішча гісторыі Расеі, параўноўваецца толькі з гісторыяй Расеі, а не з гісторыяй краін, што праходзілі падобны Беларусі шлях гістарычнага развіцця.

Міф надта спрошчана падае мінулае. У ім дзеля спрашчэння прысутнічае мадэрнізацыя гістарычных падзеяў, амаль абавязковае штучнае атаесамленне падзеяў даўніны з сучаснасцю: напрыклад,

---

[1] Падрабязней пра гэта гл.: Авторханов А. Империя Кремля // Дружба народов. — 1991. — № 1. — С. 207-208; № 4. — С. 231.

Івана Жахлівага і ягонага апрычнага тэрору са Сталіным і 37-м годам, Пятра I з ягонымі рэформамі — з Леніным з ягонай рэвалюцыяй, Айчынай вайны 1812 года з Айчыннай вайной 1941-1945 гадоў, планамернага адыходу расейскай арміі за Маскву ў 1812 годзе і незапланаванага адступлення Чырвонай Арміі да Масквы ў 1941 годзе, руху партызанаў з ліку войска ў 1812 годзе і зусім іншага партызанскага руху ў 1941-1944 гадах, паўстанняў сялян у Нямеччыне ў 1525 годзе і сялянскіх войнаў у Расеі ў XVII-XVIII стагоддзях, рэвалюцый 1789-1794 гадах і 1917 года ў розных краінах, Парыжскай Камуны 1871 года і стварэння саветаў у Расеі ў 1905 і 1917 гадах і г.д.

Усё простае і даходлівае заўсёды знаходзіць прыхільнікаў. Але часам, як гаворыць прыказка, «прастата — тая ж дурата». Добрая тая прастата, якая вынікае з разнастайнасці фактаў, але не з наўмыснага спрашчэння.

Чаму ж такі жывучы міф? Паспрабуем звярнуцца да Ф.Гаека, які пісаў: «Лёгка зразумець (і гэта неаднойчы пацвярджалася на вопыце), што ў дысцыплінах, якія непасрэдна займаюцца чалавечым грамадствам, а таму наўпрост закранаюць палітычныя погляды, — напрыклад, у галіне гісторыі, эканомікі ці права, — таталітарны лад не можа дапусціць бескарыслівага імкнення да ісціны, і адзінай задачай гуманітарных навук становіцца пацверджанне афіцыйных поглядаў. Сапраўды, гэтыя дысцыпліны ва ўсіх таталітарных краінах ператварыліся ў фабрыкі афіцыйных міфаў (падкрэслена мною. — В.Г.), з дапамогай якіх уладары кіруюць розумамі ды імкненнямі сваіх падданых. Нічога дзіўнага ў тым, што ў гэтых галінах ніхто не робіць выгляду, што шукае ісціну, а ўжо што публікаваць і якія дактрыны выкладаць — вызначаюць непасрэдна ўлады»[1].

Вось чаму такі жывучы гістарычны міф.

Яго перадавалі ў надта спрошчаным выглядзе — у падручніках, папулярных кніжках і артыкулах, мастацкіх творах, па радыё, у тэлеперадачах. Гэтым замацоўвалі ў чалавечай памяці.

«Нацыяналістычныя і імперыялістычныя прыхільнікі сустракаюцца значна часцей, чым здаецца», — пісаў Ф.Гаек у сваім «Шляху да рабства». Ён спасылаецца на гісторыка Э.Галеві, які сведчыў, што сацыяліст Бэрнард Шоў заяўляў пад час імперыялістычнай вайны ангельцаў супраць бураў: «...Светам натуральна валодаюць вялікія і моцныя дзяржавы, малым жа лепей не вылазіць са сваіх межаў, інакш іх расціснуць...»[2]

---

[1] Хайек Ф. Дорога к рабству // Новый мир. — 1991. — № 8. — С. 199.
[2] Тамсама. — С. 191-192.

Паводле меркавання французскага культуролага Р.Барта, сярод некалькіх рытарычных фігур міфа існуе «пазбаўленне гісторыі». Гэта значыць, што міф пазбаўляе прадмет, пра які ён апавядае, усялякай гістарычнасці: «Гісторыя ў міфе выпарваецца... Зразумела, ад чаго дапамагае пазбавіцца гэтая ўдалая рытарычная фігура: ад дэтэрмінізму і ад свабоды. Нішто не вытвараецца, нішто не абіраецца. Застаецца толькі валодаць гэтымі новенькімі рэчамі, у якіх няма ні найменшага следа іхнага паходжання ці адбору. Гэтае цудоўнае выпарэнне ёсць адна з формаў канцэпту... «безадказнасці чалавека».[1]

Р.Барт піша: «Таму яшчэ жывучы міф, што ён знішчае складанасць чалавечых учынкаў, надае ім прастату сутнасцяў і элімінуе ўсялякую дыялектыку, перапыняе ўсялякія спробы пранікнуць на той бок непасрэднага назіранага, ён стварае свет без супярэчнасцяў, бо ў ім няма глыбіні, і размяшчае яго перад нашым зрокам ва ўсёй ягонай відавочнасці, ціхамірнай яснасці, здаецца, што рэчы азначаюць нешта самі па сабе».

Навуковец падкрэслівае, што міф аддае перавагу карыстанню беднымі, няпоўнымі вобразамі.

Адсюль робіцца выснова: «Міф ёсць найбольш выніковым сродкам утрымання існага парадку, найбольш пэўным сродкам дысцыплінавання масаў»[2].

Так, сапраўды. Калі беларускае насельніцтва праз сродкі масавай інфармацыі прывучылі да ідэі непарушнай сувязі беларусаў з Расеяй і абавязковасці класавай барацьбы за гэтую непарушнасць, імі можна кіраваць у былым напрамку і працягваць паспяхова адвучваць ад сваёй мовы, сваёй гісторыі, сваёй культуры і ўвогуле ад усяго свайго.

Мы бачым, як старыя міфы ў гісторыі былі паспяхова рэанімаваныя бальшавіцкімі ідэолагамі.

А што такое ідэалогія ўвогуле? На гэтым пытанні варта запыніцца, бо нам увесь час дзяўблі, што гэта «сукупнасць ідэяў і поглядаў, якія адлюстроўваюць у тэарэтычнай сістэматызаванай форме стаўленне людзей да навакольнай рэчаіснасці і адзін да аднаго і якія служаць замацаванню і развіццю гэтага стаўлення»[3].

Але існуе і іншае, супрацьлеглае гэтаму меркаванне, што ідэалогія — гэта фальшывая, ілюзорная, перакручаная свядомасць, якая адарвана ад аб'ектыўных заканамернасцяў і на справе абслугоўвае

---

[1] Барт Р. Избранные работы. Семиотика. Поэтика. — М.: Прогресс, 1989. — С.121.
[2] Тамсам. — С. 93, 95.
[3] Медведев Р. Идеология и политика в советском обществе // Коммунист. — 1990. — № 7. — С. 23.

эгаістычныя інтарэсы асобных сацыяльных групаў, што, як правіла, адыгрываюць рэакцыйную ролю ў грамадска-палітычным працэсе[1].

Паводле меркавання філосафаў А.Пахмёлкіна і Д.Пахмёлкіна, ідэалагізацыя навукі — сведчанне яе стагнацыі, лакейскага перараджэння, яскравая праява антыдэмакратычнай арганізацыі палітычнай улады. Навука і ідэалогія — даволі самастойныя, прынцыпова не зведзеныя адзін да аднаго роўні грамадскай свядомасці.

Для навукоўца найвышэйшая каштоўнасць — ісціна, для ідэолага — карпаратыўныя інтарэсы, якія той адстойвае. Сапраўдная навука ўсё бярэ пад сумнеў, паслядоўная ідэалогія бярэ пад сумнеў тое, што супярэчыць яе зыходным пастулатам. Галоўная для навукі супярэчнасць — між праўдзівым і фальшывым — у ідэалагічным плане трансфармуецца ў супярэчнасць між «карысным» і «шкодным», «сваім» і «чужым». Навука пераконвае фактамі і довадамі, звернутымі да розуму. Ідэалогія ж уздзейнічае на свядомасць людзей, апелюючы да аўтарытэту («партыя ўказала»), карпаратыўнай маралі, урэшце, да сілы і страху («хто не з намі, той супраць нас», «калі вораг не здаецца, яго знішчаюць»).

Вось чаму А.Пахмёлкін і Д.Пахмёлкін лічаць бессэнсоўным гаварыць пра навуковасць якой-небудзь ідэалогіі і ненавуковасць іншай. Кожная ідэалогія абапіраецца на навуку, але толькі ў той ступені, у якой навуковыя веды не супярэчаць яе асноўным ідэалагічным каштоўнасцям.

Кожная ідэалогія дзеля сваёй прыроды мае «прыроджаныя заганы». Да іх ліку належаць аднабаковасць і абмежаванасць, «комплексы непаўнавартасці» і «экспансіянізм», схільнасць да дагматызацыі і перараджэння.

А. і Д.Пахмёлкіны лічаць, што ў ідэалагізаванай свядомасці ўзнікаюць ненатуральныя паняцці: «пралетарскі гуманізм», «рэвалюцыйная законнасць», «сацыялістычны рэалізм», «планава-рынкавая эканоміка». У гэтых словазлучэннях асноўная сэнсавая нагрузка — на прыметнікі, якія фіксуюць непаўніню, урэзанасць азначаных з іх дапамогай назоўнікаў, а то і пераход апошніх у сваю процілегласць, ідэалагічны падыход утылізуе, «выпроствае» працэс спазнання, вырывае і абсалютызуе асобныя бакі грамадскіх супярэчнасцяў.

Ідэалогія ня можа прымірыцца са сваёй натуральнай абмежаванасцю і імкнецца закамуфляваць яе. Для гэтага яна апранаецца ў

[1] Похмёлкин А., Похмёлкин Д. Блеск и нищета идеологии // Нева. — 1991. — № 10. — С. 137-155.

тогу навукі. Канкрэтная ідэалогія абвяшчаецца адзіна навуковай. Аднačасова адбываецца масіраваная ідэалагізацыя навукова-даследніцкай дзейнасці. Імкненне пераадолець практычную абмежаванасць вядзе да экспансіі ідэалогіі ў чужародныя ёй сферы грамадскага жыцця, да спробы ўсталяваць сваю ўладу над усімі формамі дзейнасці людзей.

Схільнасць ідэалогіі да дагматызацыі і перараджэння наўпрост звязана з яе абмежаванасцю і празмернымі прэтэнзіямі, ідэалогіі ўвесь час не стае карэктных аргументаў, таму яна шукае апору ў веры. А менавіта вера, некрытычнае ўспрыняцце ідэяў стварае фундамент дагматызму. Яна прадукуе бюракратычныя інстытуцыі і ўстановы, прызначаныя для яе культывавання і распаўсюджвання. Але, сфармаваўшыся, гэтыя ўтварэнні набываюць уласныя інтарэсы, часам супрацьлеглыя, якія не супадаюць з інтарэсамі тых сацыяльных групаў і пластоў, чыю ідэалогію яны павінны вызначаць.

Вось так ідэя беларусізацыі ў нашай краіне пад уплывам таталітарных бюрактарычных уладаў перайшла ў русіфікацыю, а прыязнае стаўленне да габраяў — у дзяржаўны нібыта неафіцыйны антысемітызм пад вонкавым выглядам антысіянізму і антыізраэлізму.

У выніку ідэалогія пераўтвараецца, выраджаецца, адрываецца ад сваіх сацыяльна-класавых каранёў і поўнасцю падпарадкуецца інтарэсам бюракратыі.

«Экспансіяніcцкія схільнасці», якія нікім не стрымліваюцца,ператвараюць ідэалогію ў адзін з сама грубых палітычных інструментаў.

Камуністычная ж ідэалогія, а па сутнасці «квазіідэалогія» — гэта набор псеўдамарксісцкіх догмаў, якія асвячалі асновы таталітарнага рэжыму.

## ПАСЛЯМОВА

Ад часу напісання гэтае кнігі да падрыхтоўкі яе ў друк прайшло некалькі гадоў. Некалі аўтар спадзяваўся, што згубны для гістарычнай адукацыі беларусаў, ненатуральны імперскі, расейскацэнтрычны кірунак у выкладанні гісторыі зменіцца на іншы, карысны свайму народу.

Так не сталася.

Пачалася новая хваля русіфікацыі гістарычнае асветы ў Беларусі.

Хацелася б напомніць, што толькі гісторыя, якую выкладаюць з пазіцый сваёй, а не чужой нацыі, — адзін з галоўных гарантаў існавання народаў. Абарона гісторыі, тлумачанай з нацыянальнага гледзішча — бадай, найбольш просты спосаб нацыянальнага самасцверджання.

Майму і маладзейшым пакаленням гісторыкаў выпала складанае і адказнае заданне — адраджэнне сапраўдных гістарычных ведаў пра Беларусь і беларусаў. За нас ніхто гэтага не зробіць. Гэта наш абавязак і апраўданне нашага існавання на гэтым свеце. Не варта перакладаць гэты цяжар на плечы нашчадкаў. Можа быць позна.

Дык будзем жа ўпарта і самаадданна працаваць у імя свайго народа, у імя найвышэйшых ідэалаў чалавецтва — свабоды і справядлівасці.

# ПАКАЗАЛЬНІК ІМЁНАЎ

Мацкявічус Антанас а. (1828-1863), дзяяч літ. вызвольнага руху
Машэраў Пётр Міронавіч (1918-1980), сав. парт. кам. дзярж. дзяяч бел. паходжання
Мелецінскі Елеазар, рас. культуролаг
Мераажкоўскі Дзмітрый Сяргеевіч (1866-1941), рас. пісьменнік
Мілюкоў Павел Мікалаевіч (1859-1943), рас. паліт. дзяяч, культуролаг
Мітковіч Стахор, месціч Магілёва
Міхаіл Керуларый а. (1013-1058), віз. царк. дзяяч
Міхаіл VIII Палеалог (1224-1282), нікейскі імп-р (з 1258), віз. імп-р (з 1261)
Міхнюк Уладзімір Мікалаевіч, сав. кам. гісторык бел. паходжання
Мішле Жуль (1798-1874), франц. гісторык
Мсціслаўскі (Маслоўскі) Сяргей Дзмітрыевіч (1876-1943), рас. рэвалюцыянер, літ-р
Мурашка Дзяніс, бел. ваяр
Мусаліні Бэніта (1883-1945), іт. фаш. парт. і дзярж. дзяяч
Мюнцэр Томас а. (1490-1525), ням. кіраўнік сялянскай вайны
Мяснікоў (Мяснікян) Аляксандр Фёдаравіч (1886-1925), сав. кам. парт. дзяяч
Надзь Імрэ (1896-1958), вуг. кам. парт. і дзярж. дзяяч
Наздроў (Ноздрев), літар. Персанаж з твора М.Гогаля
Найдзюк Язэп (1909-1984), бел. гісторык
Налівайка Севярын (п. 1597), укр. кіраўнік паўстання
Налівайко С. гл. Налівайка С.
Напалеон III (Банапарт Луі напалеон) (1808-1873), франц. Імп-р (1852-1870)
Нахімаў Павел Сцяпанавіч (1802-1855), рас. флатаводзец
Некрыч Аляксандр Майсеевіч (1920-1993), рас. гісторык
Несцераў Юрый, сав. публіцыст
Ніцшэ Фрыдрых (1844-1900), ням. філосаф
Ноздрев, гл. Наздроў
Олеша Ю. Гл. Алеша Ю.
Олпарт Г., сацыёлаг
Пабеданосцаў Канстанцін Пятровіч (1827-1907), рас. дзярж. дзяяч, багаслоў, юрыст
Павел, апостал (I ст. да н. э. — I ст. н. э.)
Пазьняк Зянон (н. 1944), кіраўнік бел. нац. руху, мастацтвазнавец, археолаг
Пакроўскі Міхаіл Мікалаевіч (1968-1932), сав. кам. гісторык, дзярж. дзяяч
Палякова Людзьміла (1972-1994), рас. студэнтка
Панцырны Міхаіл (п. 1709), бел. летапісец
Памеранц Рыгор Саламонавіч (н. 1918), рас. філосаф, публіцыст
Паскаль Блез (1623-1662), франц. філосаф, літ-р, фізік
Паслаўскі І., укр. гісторык
Пасэк Ян Хрызастом (1636-1701), польскі ваяр
Пахмёлкін А., рас. публіцыст
Пахмёлкін Д., рас. публіцыст
Пацей Адам (Іпацій а.) (1541-1613), бел. царк. дзяяч
Пётр I Раманаў (1672-1725), рас. цар (з 1672), імп-р (з 1721)
Петрыкаў Пётр Ціханавіч (н. 1927), сав. кам. гісторык бел. паходжання
Пілсудскі Юзаф (1867-1935), польскі дзярж. дзяяч, ваяр
Пічэта Уладзімір Іванавіч (1878-1947), рас. сав. гісторык
Посахаў С., бел. чыноўнік
Пушкін Аляксандр Сяргеевіч (1799-1837), заснавальнік новай рас. літаратуры і літар. рас. мовы
П'ецух Вячаслаў Аляксеевіч (н. 1946), рас. пісьменнік
Рабле Франсўа (1494-1553), франц. гуманіст, пісьменнік, лекар
Рад Н. Фон, ням. сацыёлаг
Разін Сцяпан Цімафеевіч (1630-1671), кіраўнік рас. сялянскай вайны
Ранбэрн а., ням. царк. дзеяч
Рамбо Альфрэд (1842-1905), франц. гісторык
Раскольнікаў Радзівон, літар. персанаж з твора Ф.Дастаеўскага
Распуцін Валянцін Рыгоравіч (н. 1937), сав. пісьменнік

# СПІС СКАРОТАЎ

а. — айцец
ам. — амерыканскі
анг. — ангельскі
аўстр. — аўстрыйскі
бел. — беларускі
браз. — бразільскі
віз. — візантыйскі
вял. — вялікі
вуг. — вугорскі
габр. — габрейскі
грамад. — грамадскі
гр. — грэцкі
дзярж. — дзяржаўны
імп-р — імператар
імп-ца — імператрыца
іт. — італійскі
кам. — камуністычны
кар. — кароль
кн. — князь
куб. — кубінскі
лет. — летувіскі
літ. — літоўскі
літар. — літаратурны
літ-знавец — літаратуразнавец
літ-р — літаратар
маск. — маскоўскі
н. — нарадзіўся
нав-ц — навуковец
нац. — нацыянальны
ноўг. — ноўгарадскі
ням. — нямецкі
п. — памёр
паліт. — палітычны
парт. — партыйны
псеўд. — псеўданім
рас. — расейскі
рум. — румынскі
рэв. — рэвалюцыйны
сав. — савецкі
св. — святы
укр. — украінскі
уладз. — уладзімірскі
усходнесл. — усходнеславянскі
фаш. — фашысцкі
франц. — французскі
шатл. — шатляндскі
швайц. — швайцарскі

# ЗМЕСТ